ББК 81.2 Бел-4
Д91

В словаре отражено разнообразие юго-западных говоров Белоруссии, их взаимодействие с украинскими говорами, учтены многочисленные варианты слов, проведено разделение многозначности слов и омонимии. Показывается лексическая и грамматическая сочетаемость слов. В словаре богатый иллюстрационный материал.

Рассчитан на языковедов, преподавателей и студентов филологических факультетов вузов, работников печати, радио.

Складальнікі:

М. М. Аляхновіч, У. У. Барысюк, В. М. Емельяновіч,
Т. М. Кананенка, Г. М. Малажай, М. І. Новік,
А. Я. Петручук, І. А. Шумская

Рэдактары:

Г. М. Малажай, Ф. Д. Клімчук

Рэцэнзенты:
В. Б. Хацкевіч, І. Я. Лепешаў, В. І. Несцяровіч

**Дыялектны** слоўнік Брэстчыны/Склад. Аляхновіч М. М. і інш.— Мн.: Навука і тэхніка, 1989.—294 с.

ISBN 5-343-00293-5.

Диалектный словарь Брестчины.

У слоўніку адлюстравана разнастайнасць паўднёва-заходніх гаворак Беларусі, іх узаемадзеянне з украінскімі гаворкамі, улічаны шматлікія варыянты слоў, праведзена раздзяленне шматзначнасці слоў і аманіміі. Паказваецца лексічная і граматычная спалучальнасць слоў. У слоўніку багаты ілюстрацыйны матэрыял.

Разлічан на мовазнаўцаў, выкладчыкаў і студэнтаў філалагічных факультэтаў, работнікаў друку, радыё.

**Д $\frac{4602020000-006}{М316(03)-89}$ 110-88**

**ББК 81.2 Бел-4**

ISBN 5-343-00293-5

# ПРАДМОВА

Матэрыялы «Дыялектнага слоўніка Брэстчыны» збіраліся выкладчыкамі беларускай мовы і студэнтамі філалагічнага факультэта Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна на працягу дзесяці гадоў. Збіральнікі працавалі па інструкцыях, складзеных да абласных слоўнікаў і для «Лексічнага атласа беларускай мовы». Наладжваліся дыялекталагічныя экспедыцыі ў розныя раёны вобласці. Выкладчыкі рабілі запісы пры непасрэдных моўных кантактах з носьбітамі традыцыйных гаворак. Студэнты, асабліва завочнікі, выконвалі спецыяльныя лексікаграфічныя заданні.

У слоўнік у першую чаргу ўключаліся лексемы, якіх няма ў нарматыўных лексікаграфічных працах беларускай мовы або якія там падаюцца з паметай *абласное, устарэлае, прастамоўнае*. Найчасцей гэта назвы прадметаў паўсядзённага вясковага побыту жыхароў Брэсцкай вобласці, назвы разнастайных дзеянняў, звязаных з вытворчымі працэсамі сялян, ацэначныя назвы асоб. Адлюстроўвае слоўнік запазычанні з польскай мовы (*ровэр* — веласіпед, *файны* — прыгожы, *есёнка* — дэмісезоннае паліто). У слоўніку нямала эмацыянальна-экспрэсіўных слоў, сэнс якіх у літаратурнай мове звычайна перадаецца апісальна (*аліганчык* — спешчаны бацькамі хлопец, *доляты* — бедаваць, наракаючы на долю).

У гаворках сустракаюцца словы, якія на пэўнай тэрыторыі маюць больш шырокі ці больш вузкі семантычны аб'ём, чым у літаратурнай мове, або адрозніваюцца ад літаратурных адпаведнікаў словаўтваральным складам (*адмыкатка* — адмычка, *вацянка, ватывэць* — ватоўка, *рошча* — рост), іншай граматычнай характарыстыкай (*вешніца* — весніцы, *торпа* — торф), нерэгулярнымі фанетычнымі асаблівасцямі (*абезмен* — бязмен, *лапно* — вапна), стылістычнай афарбоўкай (*морда* — твар, *дівка* — дзяўчына).

Слоўнікавыя артыкулы прыводзяцца ў алфавітным парадку. Загалоўныя словы і ілюстрацыі да іх падаюцца ў спрошчаным фанетычным запісе графічнымі сродкамі беларускага літаратурнага пісьма. Гаворкі Брэсцкай вобласці неаднародныя ў фанетычных адносінах[1], таму ўзніклі значныя цяжкасці пры складанні слоўніка. У паўночнай частцы вобласці пашыраны гродзенска-баранавіцкія або панямонскія гаворкі, блізкія да літаратурнай беларускай мовы. Да гэтага ж тыпу адносіцца гаворка вёскі Калоднае Столінскага раёна, дзе жывуць патомкі перасяленцаў з Навагрудчыны. Далей на поўдзень (раён Шарашова, Целяхан, Лунінца і інш.) знаходзяцца так званыя паўночнабрэсцкія гаворкі. Ім уласцівы такія, напрыклад, рысы, як оканне, акрамя часткі шарашоўскіх гаворак (*голова, молоко, дорога,* але: *трава*), мяккасць пярэднеязычных перад *е,* пярэднеязычных і губных зычных перад *і (небо, дзень, косіці, міска),* цвёрдасць губных зычных перад *е (вэчор, мэд),* дзеканне і цеканне *(дзеці, ходзіці, цепэр)*, наяўнасць форм тыпу *вадро* 'вядро', *машок* 'мяшок', *пасок* 'пясок'. На крайнім паўднёвым усходзе вобласці (раён Давыд-Гарадка) бытуюць гаворкі ўсходнепалескага тыпу. Паўднёвую частку вобласці займаюць заходнепалескія (або загародскія) гаворкі. Выдзяляюцца чатыры асноўныя тыпы брэсцка-пінскіх гаворак: сярэднезагародскія, паўднёвазагародскія, паўночна-ўсходнія загародскія і тараканскія. На месцы націскнога *о* ў новых закрытых складах у гаворках сярэднезагародскіх, паўднёвазагародскіх і тараканскіх вымаўляецца *і*, радзей *ы (віз, більш, стыл, стіл)*. У гаворках паўночна-ўсходніх загародскіх — *у (вуз, бульш, стул)*. У гаворках тараканскіх і паўднёвазагародскіх на месцы націскнога *а* пасля мяккіх зычных вымаўляецца *е (зеть, седу, шепка)*, у сярэднезагародскіх і паўночна-ўсходніх загародскіх гаворках *а* ў гэтай пазіцыі захоўваецца *(зять, сяду, шяпка, шапка)*. У тараканскіх гаворках на месцы націскнога *е* пасля цвёрдых зычных вымаўляецца *а (дань* 'дзень', *сташка* 'сцежка', *вачур* 'вечар', *мад* 'мёд', у астатніх брэсцка-пінскіх гаворках *е* ў данай пазіцыі захоўваецца *(дэнь, стэшка, вэчор, мэд)*. Канфігурацыя размяшчэння названых тыпаў у арэальным плане даволі складаная: напрыклад, астравы паўночна-ўсходніх гаворак ёсць на

---

[1] Клімчук Ф. Д. Гаворкі Заходняга Палесся: Фанетычны нарыс. Мн., 1983. С. 7—41.

крайнім паўднёвым захадзе вобласці, астравы гаворак паўднёвазагародскіх сустракаюцца на поўначы і паўночным захадзе брэсцка-пінскага дыялектнага арэала і г. д. Акрамя таго, на тэрыторыі вобласці многа пераходных гаворак, якія адлюстроўваюць асаблівасці вымаўлення некалькіх дыялектных груп.

У дыялектным слоўніку Брэсцкай вобласці зафіксаваны ў першую чаргу лексічныя з'явы народнай мовы, аднак, калі слова мае розныя фанетычныя варыянты, яны таксама паказваюцца ў слоўнікавым артыкуле. Апрацоўваючы матэрыял, давялося правесці некаторую уніфікацыю фанетычнага боку запісаў: адмовіцца ад перадачы вузкіх (закрытых) галосных, асіміляцыі па мяккасці. Фанетычныя варыянты слоў, калі яны не закранаюць алфавітнага парадку, падаюцца ў адным артыкуле. Таксама адлюстроўваюцца марфалагічныя варыянты (*жалязка́* ж., *жалязко* н.; *ліжок* м., *лішко* н.).

Тлумачэнне слоў найчасцей даецца праз сінанімічны літаратурны адпаведнік або апісальна. У асобных выпадках значэнне слова раскрываецца шляхам апісання характэрных асаблівасцей прадмета, дзеяння або ўказваецца сфера бытавання слова.

Загалоўныя словы маюць граматычныя паказчыкі і стылістычныя паметы. Формаўтварэнне адлюстроўваецца ў асноўных слоўнікавых артыкулах, словаўтварэнне — у розных артыкулах на тую самую літару (словаўтваральны сродак — суфікс) і ў артыкулах на розныя літары (словаўтваральны сродак — прыстаўка).

Слоўнікавыя артыкулы падрыхтавалі: на літары А — Б, Г — І — Г. М. Малажай, В — І. А. Шумская, К — Т. М. Кананенка і А. Я. Петручук, Л — Н — У. У. Барысюк і І. А. Шумская, П — Р — В. М. Емельяновіч, С — М. І. Новік і Г. М. Малажай, Т — Я — М. М. Аляхновіч. У зборы дыялектнага матэрыялу і частковай яго апрацоўцы ўдзельнічалі таксама былыя выкладчыкі кафедры беларускай мовы М. В. Дабрыян, Т. І. Звяровіч, Р. І. Карлаў, А. К. Шыкаловіч. Значэнні некаторых слоў ілюструюцца прыкладамі з картатэкі Ф. Д. Клімчука і В. Л. Вярэніча. Звязныя тэксты да друку падрыхтавала В. М. Емельяновіч. Дадатак «З фразеалогіі Брэстчыны» склалі В. М. Емельяновіч і І. У. Сацута.

# НАЗВЫ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ

## Баранавіцкі раён

Гарадзішча, Дамашэвічы, Дзераўная, Крошын, Малахоўцы, Навасады, Навасёлкі, Нецеч, Паланэчка, Пачапава, Палонка, Рудашы, Слабажаны, Тартакі, Чэрніхава.

## Брэсцкі раён

Аркадзія, Архова, Астрамечава, Вялікія Шчытнікі, Гершоны, Гута, Дружба, Дубіца, Заполле, Знаменка, Кавярдзякі, Казловічы, Камароўка, Клейнікі, Кустын, Лышчыцы, Ляплёўка, Матыкалы, Малая Курніца, Малыя Шчытнікі, Плоска, Прыбарава, Прылукі, Пугачова, Рагозна, Скокі, Смолін, Страдзеч, Тэльмы, Хабы, Харсы, Цюхінічы, Чарнаўчыцы, Шумакі, Шэбрын.

## Бярозаўскі раён

Агароднікі, Альшэва, Белаазёрск, Боркі, Вінін, Восаўцы, Высокае, Горск, Жычын, Здзітава I (Здзітаўскі с/с), Здзітава II (Углянскі с/с), Кабакі, Малеч, Мастыкі, Міжлессе, Нарутавічы, Осаўцы, Падкраічы, Панасавічы, Першамайская, Пескі, Плехаўшчына, Пясчанка, Сялец, Сігневічы, Спорава, Стаўкі, Стрыгінь, Судзілавічы, Угляны, Хойнікі, Хрыса, Шылін, Шылінок.

## Ганцавіцкі раён

Агарэвічы, Будча, Востраў, Гута, Дзяніскавічы, Задуб'е, Крышылавічы, Кукава-Бор, Кукава, Лактышы, Люсіна, Макава, Новыя Агарэвічы, Раздзялавічы, Хатынічы, Чудзін.

## Драгічанскі раён

Агдэмер, Акропна, Аляксеевічы, Бездзеж, Белін, Белінок, Брашэвічы, Бурмакі, Вавулічы, Валавель, Вулька Сіманаўская, Вялікі Лес, Галоўчыцы, Гаравіца, Гошава,

Гутава, Дзеткавічы, Дубраўкі, Заверша, Завялёўе, Залессе, Зарэчка, Закляценне, Закозель, Застаўе, Імянін, Какорыца, Крамно, Купаўцы, Корсунь, Ласінцы, Леснікі, Літоўск, Людвінова, Ляхавічы, Марцінова, Маркавічы, Нямержа, Новая Папіна, Орлавічы, Осаўцы, Папіна, Равіны, Радастава, Саха, Сварынь, Свеклічы, Сіманавічы, Старомлыны, Субаты, Сулічава, Сукачы, Хідры, Хомск, Ялач, Ямнік.

## Жабінкаўскі раён

Азяты, Арэпічы, Буснi, Вулька, Вялікія Якаўчыцы, Мацiевічы, Падлессе, Пруска, Рагозна, Ракітніца, Рыкавічы, Старое Сяло, Хмелева.

## Іванаўскі раён

Агова, Адрыжын, Ападышча, Асаўніца, Беразляны, Варацэвічы, Вулька Дастоеўская, Гарбаха, Гнеўчыцы, Дастоева, Дружылавічы, Журавок, Залядынне, Застружжа, Карсынь, Красіеўка, Крытышын, Кулякі, Лядавічы, Махро, Моладава, Моталь, Падышча, Пяшкова, Радаўня, Рагадашч, Рылавічы, Смольнікі, Снітава, Стрэльна, Сычэва, Трудавая (Працоўная), Трылiскі, Туляцічы, Тышкавічы, Уласаўцы, Юхнавічы, Яечкавічы, Якша.

## Івацэвіцкі раён

Амяльная, Бабровічы, Выганашчы, Вялікая Гаць, Глінная, Глінішча, Горталь, Гошчава, Доўгае, Квасевічы, Коланск, Коратчын, Косава, Краі, Любішчыцы, Магіліцы, Панкі, Плехава, Рудня (Рэчкаўскі с/с), Рэчкі, Сасновы Бор, Святая Воля, Турная.

## Камянецкі раён

Агароднікі, Алешкавічы, Бабічы, Бардзёўка, Бучамля, Бушмічы, Бярозаўка, Ваўкаставец, Воўчын, Вулька, Высокае, Вярховічы, Дварцы, Дзмітравічы, Доўбнева, Зенькі, Індычы, Кавалікі, Камянец, Камянюкі, Кусцічы, Ліпна, Лумна, Ляхаўцы, Мартынюкі, Мікалаева, Мінкавічы, Навасёлкі, Падбела, Падомша, Пелішча, Ражкоўка, Сарава, Ставы, Унучкі, Хадасы, Хлевішча, Чвіркі, Шышова.

### Кобрынскі раён

Агароднікі, Астраўляны, Бухавічы, Воса, Дзівін, Залессе, Імянін, Каменка, Камень, Клятышча, Козішча, Корчыцы, Кустовічы, Лелікава, Ліпава, Лука, Ляскова, Мінянка, Навасёлкі, Павіцце, Патрыкі, Перкі, Пескі, Сялец, Тэўлі, Хабовічы.

### Лунінецкі раён

Азярніца, Багданаўка, Баравікі, Бастынь, Велута, Еічын, Вулька I, Вулька II, Вялікія Чучавічы, Гоцк, Дварэц, Дзятлавічы, Дрэбск, Запроссе, Кажан-Гарадок, Купаўцы, Лахаўка, Лоўча, Лунін, Любань, Мікашэвічы, Перунова, Пузічы, Ракавічы, Сінкевічы, Сітніца, Чарабасава, Цна.

### Ляхавіцкі раён

Альхоўцы, Ванькі, Востраў, Гарадзішча, Гута, Заліпенне, Заполле, Зубелевічы, Ліпск, Мазуркі, Мінічы, Мыслабаж, Навасёлкі, Падлаззе.

### Маларыцкі раён

Арэхава, Дарапеевічы, Забалоцце, Замшаны, Ланская, Ласкі, Лукава, Ляхаўцы, Макраны, Маларыта, Мельнікі, Новае Раматова, Олтуш, Пажэжын, Перавысь, Радзеж, Сушытніца, Чарняны, Хаціслаў, Хмелішча, Яміца.

### Пінскі раён

Азарычы, Ахова, Барычэвічы, Боркі, Ботава, Бярозавічы, Валішча, Востраў, Вулька, Выжлавічы, Вылазы, Жоўкіна, Калавуравічы, Камень, Канатоп, Каўбы, Каўняцін, Клятная, Кнубава, Кончыцы, Лагішын, Ладараж, Ласіцк, Лапацін, Ліпнікі, Лісяцічы, Лышча, Маладзельчыцы, Марозавічы, Малая Вулька, Малая Плотніца, Мерчыцы, Парахонск, Парэчча, Паўтаранавічы, Пінкавічы, Пучыны, Сакалоўка, Сасновічы, Семяховічы, Ставок, Хваросна, Хрысцібалавічы, Цвярдоўка, Церабень, Чухава, Чэнчыцы.

## Пружанскі раён

Андрыянаўка, Арабнікі, Бакуны, Блізная, Бортнавічы, Брады, Бузуны, Варанілавічы, Галоўчыцы, Гарадзечна, Глушэц, Дабучын, Казлы, Калазубы, Клепачы, Купічы, Ласасіна, Лінова, Лыскава, Манцы, Мікалаевічы, Мокрае, Навасёлкі, Парасляны, Роўбіцк, Скорцы, Смалялніца, Сухопаль, Таўцвілы, Харава, Чапялі, Чахец, Шарашова, Шэйпічы, Юндзілы.

## Столінскі раён

Адвержычы, Альгомель, Альманы, Альшаны, Альпень, Аўсямірава, Белавуша, Беражное, Бор-Дубенец, Бухлічы, Відзібар, Велле, Велямічы, Вялікае Малешава, Гальцы, Гарадная, Гарадзец, Гарынь, Глінка, Давыд-Гарадок, Дубай, Дзераўная, Какорыца, Калоднае, Кароцічы, Лядзец, Мачуль, Малыя Арлы, Першамайск, Плотніца, Радчыцк, Рамель, Рубель, Рухча, Рыбнікі, Сіціцк, Столін, Струга, Сямігосцічы, Талмачова, Узляжжа, Фядоры, Харомск, Хорск, Хотамель, Цераблічы, Церабяжоў, Юнішчы.

# ЭКСПЕДЫЦЫІ І СПЕЦЫЯЛЬНЫЯ ВЫЕЗДЫ НА БРЭСТЧЫНУ[1]

1968 — Драгічынскі раён (Брашэвічы, Аляксеевічы), Івацэвіцкі раён (Бабровічы, Гошчава); 1969 — Кобрынскі раён (Дзівін, Лелікава, Павіцце), Жабінкаўскі раён (Хмелева); 1970 — Камянецкі раён (Дзмітравічы, Камянюкі, Мікалаева, Мартынюкі); 1971 — Брэсцкі раён (Гершоны, Знаменка, Прылукі, Шэбрын); 1972 — Кобрынскі раён (Корчыцы, Пескі); 1973 — Івацэвіцкі раён (Краі, Рудня, Рэчкі); 1974 — Пінскі раён (Валішча, Хваросна); 1975 — Брэсцкі раён (Астрамечава, Кустын, Лышчыцы); 1976 — Жабінкаўскі раён (Маціевічы, Падлессе); 1977 — Маларыцкі раён (Ляхаўцы, Макраны, Пажэжын, Олтуш, Хаціслаў); 1978 — Бярозаўскі раён (Спорава, Стаўкі, Судзілавічы); 1979 — Камянецкі раён (Дзмітравічы, Унучкі, Хадасы, Чвіркі), Ганцавіцкі раён (Агарэвічы); 1980 — Брэсцкі раён (Камароўка, Прыбарава, Рагозна, Харсы); 1981 — Брэсцкі раён (Дружба, Дубіца, Ляплёўка, Страдзеч); 1982 — Драгічынскі раён (Бездзеж, Заверша, Закляценне, Застаўе, Какорыца, Крамно, Сулічава), Столінскі раён (Струга); 1983 — Жабінкаўскі раён (Азяты, Арэпічы, Хмелева), Лунінецкі раён (Азярніца, Сінкевічы, Сітніца); 1984 — Бярозаўскі раён (Пясчанка, Сігневічы, Шылін, Шылінок); 1985 — Драгічынскі раён (Залессе, Зарэчка, Папіна).

---

[1] З 1972 г. экспедыцыі па збору матэрыялу для слоўніка сумяшчаліся з дыялекталагічнай практыкай студэнтаў.

## УДЗЕЛЬНІКІ ЭКСПЕДЫЦЫЙ І ВЫЕЗДАЎ

М. М. Аляхновіч (1971, 1974, 1977, 1982—1984), У. У. Барысюк (1978, 1983, 1984), Н. І. Васілюк (1983, 1984), М. В. Дабрыян (1968, 1972), В. М. Емельяновіч (1968—1972, 1975—1985), Т. І. Звяровіч (1972), Т. М. Кананенка (1980—1986), Р. І. Карлаў (1968—1971), Г. М. Малажай (1968—1972), М. І. Новік (1983, 1984), А. Я. Петручук (1968—1972), Н. М. Чалюк (1977, 1986), І. А. Шумская (1968, 1972), А. К. Шыкаловіч (1969, 1970). Акрамя выкладчыкаў кафедры, з 1972 г. картатэку «Дыялектнага слоўніка Брэстчыны» папаўнялі і студэнты філалагічнага факультэта.

# ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

## РАЁНЫ

**Бар.— Баранавіцкі**
**Брэсц.— Брэсцкі**
**Бяроз.— Бярозаўскі**
**Ганц.— Ганцавіцкі**
**Драг.— Драгічынскі**
**Жабін.— Жабінкаўскі**
**Іван.— Іванаўскі**
**Івац.— Івацэвіцкі**
**Кам.— Камянецкі**
**Кобр.— Кобрынскі**
**Лун.— Лунінецкі**
**Лях.— Ляхавіцкі**
**Малар.— Маларыцкі**
**Пін.— Пінскі**
**Пруж.— Пружанскі**
**Стол.— Столінскі**

## ІНШЫЯ СКАРАЧЭННІ

абрад.— абрадавае
абразл.— абразлівае
анат.— анатамічнае
асудж.— асуджальнае
безас.— безасабовая форма
выкл.— выклічнік
груб.— грубае
дзеепрым.— дзеепрыметнік
дзіц.— дзіцячае
ж.— жаночы род
жарт.— жартаўлівае
займ.— займеннік
зак.— закончанае трыванне
зб.— зборны назоўнік
злучн.— злучнік
зневаж.— зневажальнае
зніж.— зніжальнае
іран.— іранічнае
ласк.— ласкальная форма
м.— мужчынскі род
мад.— мадальнае
мн.— множны лік
н.— ніякі род
неадабр.— неадабральнае
незак.— незакончанае трыванне
пабочн.— пабочнае
павеліч.— павелічальнае
пагард.— пагардлівае
перан.— пераноснае значэнне
прым.— прыметнік
прыназ.— прыназоўнік
прысл.— прыслоўе
устар.— устарэлае
часц.— часціца
экспр.— экспрэсіўнае

# А

АБАСЛА́ЦЬ *зак.* Надзяліць, абдарыць. *Гасціна маладой велькая, шчасцем-долейкай добра абашлюць.* Палонка Бар.

АБДЗЁЦЬ *зак.* Апрануць. *Абдзень цёплы бікеш.* Гута Лях.

АБІЯ́К *м.* Абутак на драўлянай падэшве. *Левы абіяк мокры, то ажымала плаццё.* Малахоўцы Бар. *Дайней у абіяках хадзілі, яны з дзерава і скуры.* Нецеч Бар.

АБЛАТАШЫЦЬ *зак. экспр.* Абабраць садавіну, гародніну, спустошыць. *Мне гадоў пяць було, ек аблаташылі ў дохтара агарод.* Крошын Бар.

АБРЫНДАНІЦА *м.* і *ж. экспр.* Неахайны чалавек. *Абрынданіца ходзіць нячыста, замазаны.* Паланэчка Бар. *Абрынданіца ты, усю спадніцу заляпала граззю.* Дамашэвічы Бар.

АБЦЭНГІ, АПЦЭНКІ *мн.* Абцугі. *Гэты цвік і абцэнгамі не вырвіш.* Любішчыцы Івац. *Апцэнкі на полцы ляжаць, хіба не бачыш.* Навасёлкі Лях.

АБШЫВА́НКА *ж.* Воз без драбін, абшыты тонкімі дошкамі. *У абшыванцы вазілі бульбу.* Слабажаны Бар.

АБЫЯКЫ́Й *прым.* Абыякавы, часта неахайны. *С того дятька смыялыся, бо він абыякый.* Радзеж Малар.

АБЯЗМЕ́Н *м.* Бязмен. *Няма свайго абязмена, то па людзях хадзі.* Чэрніхава Бар.

АВЕ́НЬДЗЯКА *часц.* Вунь дзе. *Авеньдзяка Грышка купіў машыну дроў.* Зубелевічы Лях.

АВО́ЗЬДЗЯКА *часц.* Вось дзе. *Авозьдзяка паглядзі, колькі грыбоў прынясла мая бабуля.* Зубелевічы Лях.

АГЛОБНЯ́ *ж.* Аглобля. *Зрабіў бы новую аглобню.* Кукава Ганц.

АГРА́ЎКА *ж.* Аграфка. *Дай мне аграўку шаліка зашчэпнуць.* Тартакі Бар.

АДВЕ́ЙКІ *мн.* Адыходы пры веянні. *Заграбі адвейкі або лепей венікам падмяці, но землю не бяры.* Рудня Івац.

АДЗЁР *м.* Памост на дрэве пад вулей. *Адзёр рабілі, каб не залез на дзерэво мядзведзь.* Дзяніскавічы Ганц.

АДМЫ́КАТКА *ж.* Адмычка. *Такі лайчак, можа пад любы замок зрабіць адмыкатку.* Слабажаны Бар.

АДРУЖЫ́ЦЦА *зак.* Ажаніцца. *Пара й табе адружыцца.* Малахоўцы Бар.

АЙЁ *часц.* Няўжо. *Айё гэто прайда?* Роўбіцк Пруж.

АКА́НСІЯ *ж.* Праца, сталы занятак. *У майго сына добрая акансія.* Бакуны Пруж.

АЛІГА́НЧЫК *м.* 1. Выпеставанае дзіця. *Вон у еі аліганчык, так добрэ догледжоны.* Запроссе Лун. 2. Прыгожа апрануты чалавек. *Аліганчык у мэне старшы сынок.* Запроссе Лун.

АЛТО́БУС, АНТО́БУС *м.* Аўтобус. *У кепску пагоду да нас алтобус не ходзіць.* Паланэчка Бар. *До хаты з базара йіхала антобусом.* Міжлессе Бяроз. *Вывьюха такая, шо антобус ны пушов.* Хаціслаў Малар.

АМЫРЫКА́НКА I *ж.* Ранні сорт бульбы. *Вжэ мы звэлы амырыканку, топіро то тэмп, то кандідат, а булы ш такыі смачныі картоплі.* Кустын Брэсц.

АМЫРЫКА́НКА II *ж.* Садовы рамонак. *Прынысы у букет шчэ пару амырыканок.* Хомск Драг.

АНАДО́С *прысл.* Пазаўчора. *Анадос було хорошэ кіно.* Рубель Стол.

АНБУЗОВА́ЦІ *незак.* Перабіраць у ежы, капрызіць. *Усё не есць, анбузуе нешчасце тое.* Бастынь Лун.

АНДАЛЯ́ЦА, АНДУЛЯ́ЦЫЯ, АНДЫЛЯ́ЦЫЯ *ж.* Завіўка. *Ніна зрабіла хімічну андаляцу.* Гарадзішча Лях. *Андуляцыю зробылы хорошэ.* Залессе Кобр. *Малая похвалылася, шо зробыть андыляцыю.* Хомск. Драг.

АНДА́ЦЬ *зак.* Аддаць. *Андала дачку замуж.* Гута Лях.

АНДЁ *прысл.* Там. *Анде він пуставыв субі хату.* Гаравіца Драг.

АНДО́ВЕ *прысл.* Напярэдадні, нядаўна. *Андове быў у тым сяле, рабілі з зяцем.* Дзяніскавічы Ганц.

АНДЫ́К *м.* Індык. *Стуяв надутый андык, аш страшно було проходыты.* Астрамечава Брэсц. *По дворі ходять андыкі, роспустылы пір'е.* Дружба Брэсц.

АНДЫ́ЧКА *ж.* Індычка. *Андычка сыдыть на яйцюх.* Чарнаўчыцы Брэсц.

АНЁВАЖ *часц.* Няўжо. *Аневаж з арміі прыйшов Коля?* Туляцічы Іван.

АНЁГДЫ *прысл.* 1. Вельмі даўно. *Анегды гэта было, ці ж усё спомніш.* Слабажаны Бар. 2. Аднойчы. *Анегды*

*прыходзіць да нас кума і просіць паслухаць яе.* Востраў Ганц.

АНІГА́ДКІ *прысл.* Хоць бы што. *Отвезла маці дзіця і анігадкі собе.* Цераблічы Стол.

АНТАЛЯЖЫ́ *мн.* Карункі. *Гальку обшыла анталяжамы, хурошэ.* Перавысь Малар.

АНТАСЁЦ *м.* Ілгун, хвалько. *Учора росказвалі, як Сцяпан казаў: у лесе воўка бачыў. От антасец, налжэ і ні засмяецца.* Востраў Ганц.

АНЫВЖЭНЬ *у знач. пабочн.* Безумоўна. *Заходь, кума, ду нас.— Анывжэнь, кулы будэ свубодна мінюта, забыгу.* Страдзеч Брэсц.

АПА́ЛУШКІ *мн.* Апалушкі. *Дай мне твае апалушкі, трэба просо адвеяць.* Чапялі Пруж. *Добрые апалушкі зрабіў дзед.* Дзяніскавічы Ганц.

АПАНІВА́ *ж.* Патэльня. *Вазьмі апаніву ды спячы саланіны.* Слабажаны Бар.

АПАНО́ВКА, АПАНО́ЎКА *ж.* Тое ж. *Апановка була гаряча.* Алешкавічы Кам. *На апаноўцы у печы жарылося мясо.* Калоднае Стол.

АПІВО́Ш *м. зневаж.* П'яніца. *Маня, апівош яшчэ не вярнуўся? То і у хаці ціхо.* Востраў Ганц.

АПІВО́ША *м.* і *ж. зневаж.* Тое ж. *Што мне з тым апівошам рабіць? Як дзяцей пагадаваць?* Паланэчка Бар. *Апівоша пошла.* Дзяніскавічы Ганц.

АПІ́НІЯ *ж.* Гонар. *І чого вона свою апінію показуе? Сыділа б спокійно. Думае, всі хлопцы будуть еі. С такою апініею і в дівках сыдітымэ.* Хмелева Жабін.

АПЛІ́К *м.* Гаплік. *Дзесяток аплікоў купіла, буду шыці.* Мазуркі Лях.

АПО́НЯ *ж.* Шырокая, непрыгнаная да стану вопратка. *Скінь ты гэту апоню. На дзьвёх такіх можно надзець.* Слабажаны Бар.

АПРА́ТАЦЬ *зак.* Накрыць коўдрай. *Вечарам маці апратала дачку, каб добрэ сагрэлася.* Калоднае Стол.

АПРЫ́Ш *прысл.* Побач. *Маці з сынам і нівесткаю жыве апрыш.* В. Чучавічы Лун.

АПЫЛЫ́НКА *ж.* Лёгкая хустачка. *Маты наложыла дівчыны апылынку.* Боркі Пін.

АРГІ́НЯ *ж.* Вяргіня. *Ужо і аргіню пара садзіць.* Мазуркі Лях. *Хороша в тэбэ аргіня под окном.* Лышчыцы Брэсц.

АРЦЫ́, АРЦЭ́ *часц.* Абы. *Ты говорыш арцы-шчо.* Туляцічы Іван. *Арцэ рускызаты пру тое.* Радастава Драг.

АРЫШТА́НЕЦ *м. экспр.* Неслух, свавольнік. *Ні дзеўка — арыштанец, то б'ецца, то назневажае хоць каго.* Слабажаны Бар.

АРЭ́ПТАМ *прысл.* Раптоўна. *Шалёны кот арэптам кідаецца на чалавека.* Слабажаны Бар.

АСКАЛЁБАК *м.* Кавалак дрэва, абломак чаго-н. *Гэта ш аскалёбак так ударыў.* Слабажаны Бар.

АСМЫ́ЧАНЫ, АСМЫ́ЧЫНЫ *мн.* Ачоскі. *Спрала ўжэ асмычаны, можэ як вытчу радно.* Дзяніскавічы Ганц. *Мяхе ткалі з асмычын.* Малахоўцы Бар.

АСТРАВО́К *м.* Купіна на балоце. *Нідзе і астраўка ні відаць, каб ступіць можна было.* Малахоўцы Бар.

АСТРО́Ў *м.* Яліна з коратка абсечанымі сукамі. *Прыстаўляе астрова і лезе падглядаваць пчолы.* Дзяніскавічы Ганц.

АСЯНЧУ́К *м.* Свойская жывёліна, якая нарадзілася ўвосень. *Два пацьвінкі гадую. Нешто росьлі на іх нема, ведамо асянчукі.* Слабажаны Бар.

АТДЗЁЛ *м. устар.* Клас. *У нашай школе дзесяць атдзелаў.* Паланэчка Бар.

АТКАДЗЁ *прысл.* Толькі што. *Аткадзе пособляла брату.* Баравікі Лун.

АТКІ́ЛЬ *прысл.* Адкуль. *Аткіль холодом цягне?* Лінова Пруж.

АТСІ́ЛЬ *прысл.* Адсюль. *Атсіль недалёко рэчка.* Раздзялавічы Ганц.

АФЁРМА *м.* і *ж. абразл.* Неахайны, нязграбны чалавек. *Ух, аферма, унь сало на бородзе блішчыць, а ты так і ходзіш.* В. Малешава Стол.

АХА́ЛА *м.* і *ж.* Завідушчы, ненаедны чалавек. *Ахала яго маці, усё ёй мало, увесь свет сцягнула б.* Паланэчка Бар.

АХВІРА́НКА *ж.* Фіранка. *На вокнах віселі новыя ахвіранкі.* Квасевічы Івац. *Шырокая ахвіранка хавала святло.* Гута Ганц.

АШЧЭ́ *прысл.* Яшчэ. *Ашчэ малы, а ўжэ ўсё хочэ ведаці, усё знаці.* Св. Воля Івац.

# Б

БА́БА *ж.* Калодзец з драўляным жураўлём. *Каля бабы сабраліса людзі з вёдрамі.* Шэйпічы Пруж.

БА́БІЧ *м. экспр.* Бабнік. *Ну і бабіч гэты Іван.* Слабажаны Бар.

БА́БКА *ж.* 1. Запечаная цёртая бульба. *Сегоні зноў застановіла бапку ў печ.* Люсіна Ганц. 2. Дранік. *Ранком мама напыкла бабок.* Кулякі Іван. 3. Здобны піраг. *Спыкла бапку на свято.* Кустын Брэсц. 4. Падбярозавік. *Бабку тешко заметітэ сырыд лэстув.* Завялёўе Драг. *Под бырэзыныю ростуть бабкы.* Дзеткавічы Драг. *Жараныі бапкы вэльмы смачные.* Кустын Брэсц. 5. Сталёвае кавадлачка для кляпання касы. *Косу клэплють на бапцы.* Ляхаўцы Малар. 6. Страказа. *Бабка сіла на квіточку.* Камянюкі Кам. 7. Завязка, якой прымацоўваюць біч да цапільна. *Біча прыв'язалі бапкою, можно молотіті.* Азарычы Пін. 8. Калодачка ў падсядзельніку. *Бабка зломалася у кульбацы, ехаті не могу.* Бярозавічы Пін.

БА́БНЫК *м.* Трыпутнік. *Малых гусэй мама кормыла бабныком.* Кулякі Іван.

БА́БОЧКА *ж.* Тое ж. *Трэба бабочку прыложыці до раны.* Шылін Бяроз.

БАБУЛЬКЫ́ *мн.* Пупышкі на дрэвах. *Вжэ на вэрбі бабулькы вылыкі.* Гершоны Брэсц.

БАБУ́Х *м.* Стары грыб, звычайна баравік. *Трэба бабухы пасушыці.* Чахец Пруж.

БА́БЫТЫ *незак.* Прымаць дзяцей у час родаў. *Вона колысь багато дытэй бабыла.* Хмелева Жабін.

БА́БЫЧ *м.* Хлопчык, якога прымала бабка-павітуха. *То всі моі бабычы, повыросталы вжэ.* Хмелева Жабін.

БА́БЫЧКА *ж.* Дзяўчынка, якую прымала бабка-павітуха. *Мніго було в мынэ і бабычув і бабычок.* Хмелева Жабін.

БАВЕ́Т, БАВЫ́Т *м.* Манішка, гестка. *Пошыю сукню з баветом.* Ботава Пін. *Платте хорошэ, з бавытом.* Адрыжын Іван.

БА́ВІЦІСА, БА́ВЫТЫСЯ *незак.* Затрымлівацца дзе-н., марудзіць. *Чого ў школі довго бавіўса?* Св. Воля Івац. *Чы так можно бавытыся, колы роботы повна хата?* Гершоны Брэсц.

БАВЭ́Л *м.* Мяккая шарсцяная пража, ссучаная ў некалькі нітак. *Бавэл такій суконный, добрэ ім ткаты.* Здзітава І Бяроз.

БАГНО́ *н.* 1. Дрыгва. *Тут булэ такэі багна, шо ны пройтэ, ны пройіхатэ.* Сварынь Драг. 2. Багун. *Мы нарвалы багна ад молю.* Орлавічы Драг. *Постойце, пойду багна троха нарву.* Сінкевічы Лун.

БАГНЮ́К *м.* Грыб махавік. *Багнюк — такый жов-*

*тэнькый грыбочок, твэрдійшы за рышытняка.* Гершоны Брэсц.

БАГРА́К I *м.* Бадзяк. *Коло хаты в ёго ростуть одны багракы. Гэтыі багракы вэльмы колючыі.* Хабы Брэсц.

БАГРА́К II *м.* Няроўнасць, шурпатасць на дрэве, нітках. *Ныткы з багракамы, в'язаты тяшко, швэдра будэ ныхорошая.* Радастава Драг.

БАГУ́К *м.* 1. Страўнік. *Всё пхаюць у багук.* Альшаны Стол. 2. Сальцісон. *Кендзюх вычышчаюць, варацъ пэчэні, лёхкое, холонэ всэ, напіхаюць цісно у кендзюх, пуд камэнь, то багук.* Здзітава II Бяроз. *Памянш.* б а г у ч о к. *У тэлюка маленькій багучок.* Бярозавічы Пін.

БАГУ́РОК *м.* Пагорак. *На рівному полю був тілько одэн багурок.* Арэхава Малар.

БА́ДРЭК, БЭ́ДРЫК *м.* Божая кароўка. *Бадрэку, бадрэчку! Скажэ мэні правдочку, чэ пэнь, чэ колода, чэ будэ завтра погода.* Арэхава Малар. *Повзэ по руце бэдрык.* Панасавічы Бяроз.

БАДЗЮРКІ́, БАДУЛЬКІ́, БОДУЛЬКІ́ *мн.* Ігліца. *Зымою коровы ідять і бадзюркы.* Забалацце Малар. *Некі дядько бадулькі нашы забраў.* Валішча Пін. *Вжэ нападало мнэго бодулёк.* Бярозавічы Пін.

БАДЗЫГО́Н *м.* 1. Страва з цёртай бульбы, запечаная ў чыгунку. *Тоды такый бадзыгон смачный був з молодэі картоплі!* Адрыжын Іван. 2. *перан.* Вялікі нясkладны чалавек. *Ну і бадзыгон вырос, а ныц ны хочэ робыты.* Рагадашч Іван.

БАДЗЬЯ́ *ж.* Балея. *У бадзьі купалі дзяцей.* Бакуны Пруж.

БА́ДЗЯ *м.* і *ж.* Бадзяга, валацуга. *Такі бадзя, такі волоцуга, абы не робіці.* Шылін Бяроз. *Аж ранком тая бадзя прысунулася.* Акропна Драг.

БАЙ *м.* Балбатун. *Прышов бай, наговорыв абы-шчо.* В. Лес Драг.

БА́ЙБУС *м.* Здаровы і гультаяваты чалавек. *Нічого не робіць да гойсае по селу, ек байбус.* Цераблічы Стол.

БАЙДУ́МА *м.* і *ж. пагард.* Нясталы чалавек. *У байдумы ужэ трэтяя жінка, а кількы дытэй по світу. І шчо собі думае?* Моладава Іван.

БАЙСТРУ́К *м.* 1. Кароткае бервяно, што кладзецца паміж вокнамі. *Подточы шчэ байструка, коб ліг помыж окнамы добрэ.* Здзітава I Бяроз. 2. Кусок бервяна, якім падоўжваюць бярвенні ў сценах. *Трэба наточыты дыля, одрізуйте байструка, но рувнэнько.* Здзітава I Бяроз.

БАЙСТРУКІ́, БЭЙСТРУКІ́ *мн.* Кураняты, якія вывеліся самасадам. *Стылько байструків вывыла курыця, мусыть в картоплях.* Бусні Жабін. *Наша кура вывэла ў крапіве бэйструкі.* Бастынь Лун.

БА́ЙТУС *м.* Пляткар. *Каб тое, што кажа байтус, хоць напалавіну было праўдаю, свет перавярнуўся бы.* Падлаззе Лях.

БАЛАБА́ЙКА *ж.* Матыль. *Літом над болотом, над полэм, капустою лэтають балабайкы.* Какорыца Драг.

БАЛАБУ́ШКА *ж.* Невялікі хлябок, булачка з пшанічнай або жытняй мукі. *Балабушка із рошчыны прымешаноі бывае.* Харомск Стол. *Іш балабушкэ і нэ робы смішкэ.* Арэхава Малар.

БА́ЛЕЧКА *ж.* Папярочная планка ў граблях, у якую набіваюць зубы. *На граблісько набілі балечку.* Шылін Бяроз. *Замэні зубы у той балечцы.* Осаўцы Бяроз.

БАЛЁК *м.* Балька. *Вжэ і пэршы балёк положэлы. Добра будэ хата, добры балькэ.* Макраны Малар.

БАЛЁН *м.* Шкляная трохлітровая банка. *Не разбі гэты балён, цяпер гэдакаго не купіш.* Альхоўка Лях.

БАЛІ́ЦІСА *незак.* Мыць бялізну. *Маці будзе сягоні баліціса.* Сухопаль Пруж. *Мы з Насцей пойдзем на рэчку баліціса.* Роўбіцк Пруж.

БА́ЛО *прысл.* 1. Бывала. *А бало нашыі батькі аж в Пінск возамы іздылы.* Бярозавічы Пін. *Бало як збяруцца хлопцы ля Піваварчыкавага дуба, такую бойню устрояць, што нядзелю паліцыянт разбіраецца.* Гошчава Івац. 2. Даўно. *Бало я тэбэ люб'ю.* Шылін Бяроз.

БА́ЛОЧКА *ж.* Папярочная планка ў кроснах. *Думала поставыты кросна, ныма балочкы.* Ляхаўцы Малар.

БАЛЬХВА́, БОЛХВА́ *ж.* 1. Баваўняныя фабрычныя ніткі, што ідуць на ўток пры тканні. *Бальхва куплёна всяка, жовты, чырвоны шпулі.* Ляхавічы Драг. *Ковдра выткана бальхвою, хорошэ так.* Бярозавічы Пін. 2. Мулінэ. *Пыйду куплю собі болхвы і росшыю хвартуха.* Ляхаўцы Малар.

БАЛЯ́СКА *ж.* Жардзіна ў плоце. *Трэба прыбыты новы балякы, а то гэты вжэ поодрывалыся.* Закозель Драг. *На балясцы вісыло мокрое платте.* Карсынь Іван.

БАЛЯ́СКЫ, БАЛЯ́СКЕ, БАЛЯ́СКЭ *мн.* Агароджа, плот. *Нашы балякы покрасяны ў сыну краску.* Бярозавічы Пін. *Пырыт Пэршым маём усі былэлэ баляске.* Закозель Драг. *Які баляскэ высокі, нэ можна пэрэлісты.* Моталь Іван.

БА́ЛЯШНІ *прым.* Стары, колішні. *Одзень баляшню сподніцу з галёнамі і будзе хорошэ.* Велута Лун.

БАМБО́ША *ж.*, БАМБО́ШЫ *мн.* Лапаць, падшыты скураю. *Бамбошы вжэ помнять вэльмы старыі люды.* Олтуш Малар.

БАНДУ́РА *ж. перан.* Вялікая рэч. *От бандура, нэ знаеш, куды й поставіці.* Шылін Бяроз. *Поставыв бандуру коло хаты, світ затымняе.* Кустын Брэсц.

БАНДУ́РЫСКО *м. зневаж.* Вялізны, але някемлівы чалавек. *От ґэтого бандурыска толку ны доб'ешся.* Бусні Жабін.

БАНДУ́ШКА *ж.* Гл. балабушка. *Бандушка свежая, таму і смачная.* Хатынічы Ганц.

БА́НЕ́ЧКА *ж.* Бурбалка. *Багато банёчок на калюзы — будэ дошч доўго йты.* Аўсямірава Стол.

БА́НЬКА *ж.* Гліняны збанок з носікам. *Налі ў баньку молока.* Лахаўка Лун. *З баńькы добрэ лыты, но чысто вымый, бо молоко шчавіе.* Макраны Малар.

БАНЯ́К *м.* Бідон саракалітровы. *Тэпэр одного люцького молока тры банякы було.* Гальцы Стол.

БАРАБО́ЛЯ, БАРБО́ЛЯ *ж.* Бульба. *Маці часто варыла бараболю.* Гута Лях. *По нышшых месносцях садыты можна барболю.* Олтуш Малар.

БАРА́Н *м.* Прыстасаванне для перамотвання пражы. *Возьмы барана, намотай на ёго, потым сушы ныткі.* Лукава Малар.

БАРА́НІЦА, БАРА́НЫЦЯ *ж.* 1. Аўчына. *Назбырала бараныць, трэба кожуха пошыты.* Ямнік Драг. *Бараныці оддалы красыты.* Гутава Драг. 2. Ірха. *Загуску бараныцю ты зробыв, тяжко будэ сшываты.* Закозель Драг.

БА́РВА *ж.* Ламачча, галлё. *На грэблю возэлэ пэсок і барву.* Арэхава Малар.

БА́РКА *ж.* Лодка. *Нашу барку понэсла вода.* Церабяжоў Стол.

БА́РКА́Н *м.* Паркан. *Хата обнесена барканом.* Цна Лун. *Оробушок сыдів на баркані.* Боркі Бяроз.

БАРСУ́Н *м. устар.* Лапаць. *Калісьці дайно барсуны абувалі.* Слабажаны Бар.

БАРУ́ХА *ж.* Бручка. *Летась баруха была саладзейшая, а сёліто нешто ні так.* Любішчыцы Івац.

БАРХА́НКА *ж.* Безрукаўка, што апранаецца на кашулю пад сукенку або кофту. *Пошыла маты собі барханку.* Гершоны Брэсц.

БАРЫ́ЛО, БОРЫ́ЛО *н.* Невялікая двухдонная бочач-

ка з дзіркай збоку для напіткаў, вады. *Поўнэе барыло налыв квасу.* Глушэц Пруж. *Старая Ганка завжды налывала своім унукам барыло яблочного соку.* Семяховічы Пін. *Ек йіхалы у сваты, трэба було браты барыло бражкы.* Кулякі Іван. *Памянш.* б а р ы л к о, б а р э л ц э. *Пад веселле зрабілі поўнае барылко квасу.* Калоднае Стол. *В барэлцэ соку мало.* Бастынь Лун. 2. *перан.* Непаваротлівы чалавек. *Такэ борыло, покі зробыть, то й дэнь пройдэ.* Кустын Брэсц.

БАР'ЯК *м.* 1. Сасна. *Бар'як часом ростэ і в багні.* Забалацце Малар. 2. Сасновае бервяно. *Прывіз хорошых бар'яків на хату.* Забалацце Малар.

БАТЎГ, БАТЫ́Г *м.* Бізун, пуга. *Як свыснэш коня батугом, то быжыть.* Гальцы Стол. *У пастуха довгый батыг.* Сулічава Драг.

БАХІ́ЛА *ж.* 1. Мужчынскі бот. *Подай тую бахілу, хтось затягнув.* Ляхаўка Малар. *Вжэ холодно, натягай бахілы.* Макраны Малар. 2. Саваробны глыбокі галёш. *Дядько купыў валінкы разом з бахіламы.* Кулякі Іван. *Трэба на валенкі бахілы, бо мокро стало.* Каўняцін Пін.

БАХЎР *м. жарт.* або *груб.* Дзіця. *Бахур до бахура. Так аж думаеш, дэ Петя, дэ Коля.* Лышчыцы Брэсц. *Бахурі под окнамы лазять.* Кустын Брэсц. *У суседа поўна хата бахуроў.* Шылін Бяроз.

БАЦ *м.* Пацук. *А у баца які хвост велькі і страшны, ні гэтакі, як у мышы.* Пачапава Бар. *Многа у нас у хлеві бацоў.* Чэрніхава Бар.

БА́ЦЦА *незак.* Здавацца. *Мэне бацца, шчо не гэтак трэба шыці.* Перунова Лун.

БАЮ́РЫНА *ж.* Выбоіна на дарозе. *Мы об'іхалы вэлыкую баюрыну.* Трудавая Іван.

БА́ЯТЫ, БА́ЯЦЬ *незак.* Размаўляць. *Довго будытэ шчэ баяты?* Хаціслаў Малар. *Можэш ты баяць по-польску?* Рубель Стол.

БЕ́ГАЧ *прысл.* Многа. *У клубі було бегач людзей.* Вулька І Лун.

БЕКЕ́Ш, БІКЕ́Ш *м.* 1. *устар.* Мужчынскае паліто старадаўняга крою са зборкамі ў таліі. *Бекеш вжэ ны найдэтэ.* Павіцце Кобр. 2. Кароткае паліто. *Ужэ бікешы выходять із моды.*Залессе Кобр. 3. Куртка. *Адзявай цёплы бікеш.* Гута Лях.

БЕ́РАСЦЕНЬ *м.* Гаршчок ці збан, аплецены бяростай. *Узялі берасцень і пайшлі пд ягады.* Юндзілы Пруж.

БЗЫКОВА́ТЫ *незак.* Гізаваць. *Замучылы мынэ гэты*

*коровы за дэнь, як почалы бзыковаты, то ныяк ны могла рады даты.* Судзілавічы Бяроз.

БЗЫНІ́ТЫ *незак.* Гусці (пра насякомых). *Пчола бзыныть.* Рухча Стол. *Комар под вухом бзынів цілу ніч.* Кустын Брэсц.

БЗЭ́МЭЦЬ *м.* Выступ у коміне. *Положэв мэло на бзэмэць, а хтось узев.* Павіцце Кобр.

БІБ, БОБ *м.* Фасоль. *Пушов обрываты біб, хоч він і зэлёный, алэ суп будэ смачный.* Моталь Іван. *Маты посадыла загін бобу, то трэба ставыты тычкі.* Астрамечава Брэсц.

БІБУ́ЛА *ж.* Прамакатка. *Чарніла прамакаюць бібулаю.* Навасёлкі Бар.

БІ́ГМА I *выкл.* Далібог. *Бігма ны казала стого.* Радастава Драг.

БІ́ГМА II *прысл.* Подбегам. *Ішов додому бігма.* Белін Драг.

БІЁ́НКА, БІЯ́НКА, БЫЯ́НКА *ж.* Пасудзіна, у якой б'юць масла. *Збэвшэ масло, господыня вэмыла біенку.* Арэхава Малар. *Подай мні біянку, буду быты масло.* Кустын Брэсц. *Быянка россохлася.* Лышчыцы Брэсц.

БІЗЬБІ́Н, БІЗЬМІ́Н, БЫЗЬМІ́Н *м.* Бязмен. *Бізьбін був ныисправный.* Высокае Бяроз. *Зважытэ гэтэ бізьміна ны хватыть.* Ласінцы Драг. *Сусід позычыв быэьміна.* Вавулічы Драг.

БІ́ЙКА, БО́ЙКА, БУ́ЙКА, БЫ́ЙКА *ж.* Гл. біенка. *Бійку трэба зробыты нову і більшу.* Ляхавічы Драг. *От россохлася бойка, нельга й масло збіці.* Купаўцы Лун. *Повна буйка смэтаны.* Ботава Пін. *Маты збыла масло і просушыла быйку.* Вулька Дастоеўская Іван.

БІ́КУСЫ *мн.* Расольнік. *Господыня подала шчэ тэплые бікусы.* Столін.

БІ́ЛО, БЫ́ЛО *н.* 1. Спінка ложка. *Повесь ручнік на біло.* Коланск Івац. *Нэ лезь на было, бо впадэш.* Рудня Івац. 2. Драбіны ў возе. *Біло трэба заложыці вышшэ.* Осаўцы Бяроз.

БІЛЗІ́Н *м.* Бензін. *Бумага горыць, а там глядзі білзін.* Мікашэвічы Лун.

БІНДЗЮГА́ЙЛА *м. экспр.* Гультай, абібок. *Біндзюгайлу ні да чаго ні разу німа дзела.* Манцы Пруж.

БІРНА́ *ж.* Бярозавы сок. *Васною наробілі бірны, о, як любімо піці.* Манцы Пруж.

БІРУ́ЛЬКА, БЫРУ́ЛЬКА *ж.* Палачка, ушытая замест гузіка. *Як малы быў, дык гузікаў не ведаў, бірульку прычэпіш і добрэ.* Любішчыцы Івац.

БІТКА *ж.* 1. Кіёчак з цвіком на канцы, якім падштурхоўваліся пры катанні на самаробных каньках, саначках. *Дай мні твою бітку, бо моя зломалася, а саночкі ось якы добры.* Кустын Брэсц. 2. Валачобнае яйка, якім біліся на вялікдзень. *Выграв вжэ пять біток.* Кустын Брэсц.

БІЧАЛНО *н.*, БІЧЭЛНА *ж.* Цапільна. *Дойге бічално у цэповы.* Здзітава І Бяроз. *Зломалася бічэлна, трэба зробыты новую.* Гершоны Брэсц.

БІЯК *м.* Біч. *Добрый біяк, то добрэ молотэтэ.* Дзмітравічы Кам.

БЛАГОВІШЧЭЭ *н.* Хрысціянскае свята, якое адзначаецца 25 сакавіка ст. ст. *Благовішчээ бувае у марті, то наш святок.* Хмелева Жабін.

БЛЁНТАТЫ *незак.* 1. Блытаць. *Чого ты блёнтаеш ныткі?* Кустын Брэсц. 2. Блытацца, бадзяцца. *Довго блёнтаты будэш по сылі? Колы почнэш робыты?* Гершоны Брэсц.

БЛІШЧАК *м. устар.* Вузкая атласная стужачка. *Зара ны кажуть бліщчак, а кажуть лента.* Здзітава І Бяроз.

БЛОЧКЫ *мн.* Драўляныя блокі ў кроснах. *Штыры поножі, блочків вісім аж.* Ляхавічы Драг.

БЛОШНЫК *м.* Палын. *Положы под сынnык блошныку.* Матыкалы Брэсц.

БЛОШЧЫЦ *м.*, БЛОШЧЫЦА *ж.* Клоп. *Зара німа блошчыцаў.* Давыд-Гарадок Стол. *Блошчыца шкодна, як укусыть, то спаты ны будэш.* Аўсямірава Стол. *Блошчыца така зараза, вночі спасу од іх нэма.* Каўбы Пін.

БЛУСКА, БЛЮСКА *ж.* 1. Клоп. *Як ныма світу, блуска вылазыть і кусае.* Камянюкі Кам. *Раный в хатах булы блюскы, зара з огнём ны найдыш.* Хмелева Жабін. 2. Лясны клоп. *Блускы сыдять на ягодах, то кузакы, шчо воняють.* Дзмітравічы Кам.

БЛУТАТЫСЯ *незак.* Блытацца. *Пасмо на мотовылы пэрэв'язваемо ныткою, коб ны блуталося.* Макраны Малар.

БЛЫЗНА, БЛЭЗНА *ж.* Памылка пры тканні. *У вашум полотні тылько мныго блызні.* Макраны Малар. *Подывыся, ты зробыла блэзну.* Камароўка Брэсц.

БЛЫЗНЕТА, БЛЫЗНЮКЫ *мн.* Спарыш. *У городы на грецци гурків лыжать блызнета.* Бурмакі Драг. *Коло дорогы два клёна-блызнюкы.* Ляхавічы Драг.

БЛЭМАЦІ *незак.* Лыпаць вачыма. *Наставіла зенькі і блэмаеш, стыдно такі.* Шылін Бяроз. *Трэба было раней крышку думаці, а то блэмаеш гочыма.* Пясчанка Бяроз.

БЛЫНДАЦЬ, БЛЭНТАЦЬ *незак.* Хадзіць без працы.

*Всі пойшлі на роботу, тількі він удён блындав пугуліці.* Бардзёўка Кам. *І чого гэто вун тут блэнтае?* Боркі Пін.

БЛЭНДА *м.* і *ж. экспр.* Валацуга. *Шчо за блэнда ростать у мына. Ны вспію одвырнутыся, ек він ужа побіг абэ-кудэ і цілы дань ны покажыцца.* Брашэвічы Драг.

БЛЭ́НКА *ж.* Паласа абалоні, з якой плятуць кашы. *З блэнок плэтэмо кошэле на ягоды.* Азарычы Пін.

БЛЮДЭК *м.* Сподак. *Маты пулужыла масло на блюдэк.* Агова Іван.

БЛЮ́МА *м.* і *ж. асудж.* Плакса. *Ростэ такая в хаті блюма, шо жыты тяшко.* Кустын Брэсц. *Як тобі ні стыдно енчыты, блюма ты.* Пескі Кобр. *Блюма нека, а нэ дзіця.* Шылін Бяроз.

БЛЮ́СКА *ж.* Кофта. *Як пошыць тобе блюску? На рэзінку чы коб рошпільваласа?* Дзятлавічы Лун.

БО́БІК *м.* Свіны страўнік. *Наложыла бобік сала, повесіла на жэрдку.* Бастынь Лун.

БОБОВІ́ЦА *ж.* Мука з бобу. *Намололі з бобу бобовіцы.* Дзятлавічы Лун.

БОБОНІ́ТЫ, БУБОНЕ́ЦІ *незак.* Бубнець, сварыцца. *Шо вітэ там бобонітэ, говорітэ складній.* Кустын Брэсц. *Хваціт ужэ бубонеці, ніц ужэ не зменіш.* Пясчанка Бяроз.

БОВГОНІТЫ *незак.* Невыразна віднецца. *Прыдывляюса, шчо там бовгоніе.* Каўбы Пін.

БО́ВДУР *м. экспр.* Дурань. *Посыды, бовдуру, трохы спокійно.* Карсынь Іван.

БОВКУ́Н *м.* 1. Вол. *В нас мало горалы бовкунамы.* Пескі Кобр. 2. Ярмо на аднаго вала. *То бовкун на одного вола.* Велута Лун.

БО́ВЛІК *м.* Балотная лілея. *Дзеці нарвалі багато бовлікоў.* В. Чучавічы Лун.

БОВМА́З *м. экспр.* Брудны чалавек. *Як тобе нэ стыдно іты у школу такому бовмазові.* Кабакі Бяроз.

БОВТ *м.* Шост, якім заганяюць рыбу ў сетку. *Бэз боўта і на настаўку мало зловіш.* Шылін Бяроз.

БОГАТЫ́Р *м.* Багацей. *Его і бацько быў богатыр, чому ж і ёму нэ быці богатым.* Шылін Бяроз. *Макар — самы богатыр у сылі.* Саха Драг.

БОДЗЮЛІ́ *мн.* Гл. бадзюркі. *Нагрэбі ў лесе бодзюлей.* Любань Лун.

БОЗУГА́ЎНО *прысл.* Бесперапынна. *Бозугаўно ідэ дошч.* Рыбнікі Стол.

БОЛО́НЬЕ *н.* Забалочанае месца. *Довгое сено на болоны.* Альшаны Стол.

БОЛО́ТО, БУЛО́ТО *н.* 1. Гл. болонье. *Коровы в болото ны пускай.* Кустын Брэсц. 2. Сенажаць на балоце. *Болото нашэ тяшко косіці, купок вэльмі много.* Шылін Бяроз. 3. Сена, скошанае на балоце. *Але ж не ўсе коровы болото хочут есці, оношо сечку можна робіці.* Пясчанка Бяроз. 4. Бруднае месца. *Посэрэдзіне хата чыста, а под ложком болото.* Шылін Бяроз. *Шо ты вліз по коліно в булото?* Гершоны Брэсц. 5. Бруд. *Болото на ногах, а ты лізэш в хату.* Кустын Брэсц.

БО́ЛЬБА *м.* і *ж.* Балбатун, балбатуха. *Надоів мні гэтой больба.* Вавулічы Драг.

БО́МБЭЛЬ *м.* Бурбалка. *Ходы побач, якії бомблі з дошчу.* Малеч Бяроз. *Як оно бомбэлі скачуць, то знай, шо нэ хутко дошч пройдэ.* Шылін Бяроз.

БО́НДА I *ж.* Скавароднік з хлебнага цеста. *Вуна тыпэр напыкла смачных бонд.* Клятышча Кобр. *Памянш.* б о н д а ч к а. *Цеста засталося трохі, то трэба бондачку спячы.* Нецеч Бар.

БО́НДА II *ж.* Пасаг. *Ля мэі дочкі ужэ бонда готова.* Міжлессе Бяроз. *Сто рублёв — уся моя бонда.* Баравікі Лун.

БОРОДА́ *ж.* 1. Выступ у крокве, якім яна прымацоўваецца да верхняга вянца зруба. *Кроква поддэржуецця бородою, а борода сядае в мурлату.* Макраны Малар. 2. Ніжняя частка кудзелі. *То борода, шо нытку тягнэш.* Справа Бяроз.

БОРОДЗЕ́Й *м.* Барадач. *Намучылася вона з тым бородзеем. Казалі ёй, шо жызні нэ будэ. Оношо борода хороша. Так і вышло.* Шылін Бяроз.

БОРУ́ВКА *ж.* Лясная пчала. *Борувкі лэдь ны замоклы.* Радзеж Малар.

БОРУ́ШКАТЫСЬ *незак.* Дужацца, валтузіцца. *Борушкався батько з сыном ды стомывся.* Кустын Брэсц.

БО́ЎТКА *ж.* Бурбалка. *Гледы, якіе вэлікіе боўткі на лужах.* Шылін Бяроз. *Першая боўтка упала.* Пясчанка Бяроз.

БО́ЯЗКО *прысл.* Страшна. *Уночэ поголоска знекуль донэсласа, стало боязко.* Стрыгінь Бяроз.

БОЯ́КА *м.* і *ж.* Палахлівец. *Такого бояку маты за руку водыть.* Валішча Пін.

БРАВА́РКА, БРАВЭ́РКА *ж.* Цёплая вопратка, крыху карацейшая за паліто. *Браварка цёплая, але холад даймаў.* Дзяніскавічы Ганц. *Мой бацько купіў бравэрку.* Пузічы Лун.

БРАҚІВА *ж.* Қрапіва. *Под плотом росце браківа.* В. Малешава Стол.

БРА́НҚА *ж.* Самаробная вязаная кофтачка. *Ох, і цёплая бранка.* Велямічы Стол. *Вывязала шэрсцяную бранку.* Альгомель Стол.

БРАТА́НІЧ, БРАТА́НЭЦЬ *м.* Пляменнік. *Вон муй братаніч.* Альшаны Стол. *То батьков братанэць.* Пескі Қобр.

БРАТА́НҚА *ж.* Пляменніца. *То дочка, а то братанка.* Альшаны Стол.

БРАТЕ́ННІҚ *м.* Дваюрадны брат. *Братеннікі у скрысенне былі на кірмашы.* Высокае Қам.

БРАТЕ́ННІЦА *ж.* Дваюрадная сястра. *До нас прышла вэчором братенніца з мужом.* Высокае Қам.

БРА́ТЫ *незак.* Вязаць. *Олеся як почнэ браты, як почнэ, дак гледыш, ото й выбрала швэдра хлопцу.* Валішча Пін. *Чы догадаесса, якого свэдра брала я вчора?* Қаўбы Пін.

БРА́ТЫСЯ *незак.* Жаніцца. *Учора высілле було, довго збыралыса братыса Іван з Оксаною.* Маладзельчыцы Пін.

БРАТЫ́ХА, БРАТЭ́ХА *ж.* Браціха. *Була в мэнэ вчора братыха.* Дарапеевічы Малар. *Моя братэха вэльмэ хороша.* Шэбрын Брэсц.

БРЕ́ЖЫҚ, БРЫ́ЖЫҚ *м.* Қарункавая аборка. *Брежык прышеты ду шапочкы.* Бучамля Қам. *Брыжык хорошэнькый.* Гершоны Брэсц.

БРО́ДНІҚ *м.* Браднік. *У іх вэльмі густы броднік.* Рубель Стол. *Пошлы вэчором з бродныком на рыбу.* Пінкавічы Пін.

БРО́ДЫВҚА *ж.* Месца, дзе раней быў брод. *У бродывцы тэпэр добрый выпас.* Ляхаўцы Малар.

БРО́ІЦІ *незак.* Нішчыць. *Броіла тухлі по калові, чому чоботы нэ обуці? Я тобе больш купляцім, дождэсся.* Шылін Бяроз.

БРО́ХАТЭ, БРО́ХАЦІ *незак.* 1. Разліваць. *Вызла воду, тая брохае.* Брашэвічы Драг. *Хваціт брохаці воду, набраці нэ вэльмі хочэтэ.* Шылін Бяроз. 2. Гучна шлёпаць па вадзе. *Да нэ брохай так, всю рыбу порозгоныш.* Қаўбы Пін.

БРО́ХНУТЫ *зак.* Гучна булькнуць. *Нэ оглэдывса і брохнув у ополонку.* Қаўбы Пін.

БРОХОТНЯ́ *ж.* Стукатня, грукат. *Выдно, шо шэ нывдалая ткалля, бо наробыла набылыцамы брохотні на всю хату.* Моталь Іван.

БРО́ШЧЫНА *ж.* Плесня. *Зными брошчыну і застылы чысту онучку.* Гершоны Брэсц.

БРУ́КАЛО *н.* Палена, прывязанае да шыі каровы. *Походюшчоі коровы на шыю брукало прывязвають, так вона ны можэ втычы далэко.* Пескі Кобр.

БРУКОВЫ́ННЕ *н.* Лісце бручкі. *Бруковынне кінь свынюм.* Гершоны Брэсц.

БРУСЛІ́НА *ж.* Варэнне з брусніц. *Бруслiна добра з грушмі.* Адрыжын Іван.

БРУЧКОЎНІ́СКО *н.* Гл. бруковынне. *Бручку вырвалі, бручкоўніско вывэзлі.* Бастынь Лун.

БРЫДЗЭ́НЬКНУТЭ *зак.* Разбіцца, нечакана ўпасці. *Ек брыдзэнькнула со злосці аб зэмлю гэтэ мыскэ.* Сулічава Драг.

БРЫЗІЛЕ́Т *м.* Бранзалет. *Він на руці мае брызілет, во як блышчыть.* Макраны Малар.

БРЫ́НДА *м.* і *ж. зневаж.* 1. Валацуга. *Пошов той брында знов до клуба.* Кустын Брэсц. *Брында усігда без работы.* Слабажаны Бар. 2. Неахайная жанчына. *Гэта брында езыком трэпаці масцер, у сэбэ ў хаці калу нэ бачыт.* Шылін Бяроз.

БРЫ́НДЗА *ж.* Пасолены сыр, тварог. *Бывало озьмём творогу, замесемо, посолімо, у дзежачку складземо, і стоіць, то брындза. Як трэба есці, подогрэем да емо.* Харомск Стол.

БРЫ́НДЫ *мн.* Брыжы. *Прышый брынды до галькі.* Андрыянаўка Пруж.

БРЫНІ́ТЫ *незак.* Бруіцца. *Грэблю прорвало, вода так і брыныть, так і пэрэлываецца по каміньчыках, по бугорках, выдно всэ до самісінького дна.* Барычэвічы Пін.

БРЭ́НЬКАЦЬ *незак. перан.* Пасвіцца на дрэннай пашы. *Загнала коровы на пустую пожню, коб брэнькалі ўвэсь дэнь?* Шылін Бяроз.

БУБНА́ТЫЙ *прым.* З тоўстымі круглымі бакамі (пра жывёлу). *Такая вжэ бубната корова, хутко будэ тэлытыся.* Гершоны Брэсц.

БУБНА́Ч *м. экспр.* Бурклівы, сярдзіты чалавек. *Хоч вон і бубнач, але ўжэ сам любую роботу робіт добрэ.* Шылін Бяроз.

БУБО́ТКА *ж.* Бутон. *Буботка ружы росцвітае.* Гершоны Брэсц.

БУДА́Й *часц.* Бадай. *Будай ны вуна робыла.* Радастава Драг.

БУЗУ́Н *м.* Забіяка. *Усюды ўбачыш гэтуго бузуна.* Ражкоўка Кам.

БУЙКІ́ *мн.* Буякі. *Набрала поўнае вэдро буйкоў.* Мікашэвічы Лун. *Ну й ек насыпалось на зымлю буйків, вжэ пэрэспілы.* Гершоны Брэсц.

БУ́ЙМЭ *выкл.* Гл. бігма І. *Буймэ правда!* Пугачова Брэсц. *Буймэ ны пужыну с тубою курувы.* Радзеж Малар.

БУ́НЬКА *ж.* 1. Шкляная пасудзіна, слоік. *Бунька з квасом стояла на столі.* Азяты Жабін. *Вылый молоко в буньку.* Ляхавічы Драг. 2. Бурбалка. *Дошч пэрэходный, гля, вжэ мэньшы бунькы в калюжыны.* Гершоны Брэсц. 3. Мыльны шарык. *Возьмэ соломынку, розвэдэ мыло в воді і пускае бунькы.* Барычэвічы Пін.

БУНОВА́ТЫ *незак.* Доўгі час халасцякаваць. *Во бунуе, скількі літ, а шчэ ны жэныцця.* Сулічава Драг.

БУ́РКА І *ж.* Дзіцячая цацка — гузік на дзвюх нітках. *Зробі дзіцяці бурку, нехай іграе.* Цераблічы Стол.

БУ́РКА ІІ *ж.* Ватоўка, даўжэйшая за звычайную. *Бурка — вэльмы нэповоротная одэжа, алэ позыч з'іздыты по сіно.* Ботава Пін.

БУ́РКАЛА *мн.* Частка ткацкага станка — драўляныя блочкі, прымацаваныя да верхняй перакладзіны, якія рэгулююць становішча нітоў. *Ну й добры буркала выйдуть з клёна, алэ ёго трэба напэрш просушыты.* Моталь Іван.

БУ́РСА *ж.* Вялікая луста. *Одрэзаў бурсу хлеба.* Белавуша Стол.

БУРУ́ШЧЫ *прым.* Бадлівы. *Корова в сусіда бурушчая, одыйды, дітятко, далій.* Гершоны Брэсц.

БУ́РЦЫЯ *ж.* Сварка. *Ек довідаўся, то такую бурцыю поднеў.* Акропна Драг.

БУСЁК, БУСЬКО́ *м.* Бусел. *А бусёк высоко до нэба лытыть.* Карсынь Іван. *На блавішчынння бусько прылытів.* Вулька Сіманаўская Драг.

БУ́СЫНЬ, БУ́СЭНЬ *м.* Тое ж. *На нашым дэрыві бусэнь зробыв гнэздо.* Дружба Брэсц. *Гніздо бусыня.* Чарнаўчыцы Брэсц.

БУ́ХМАРОК *м.* Невялікая хмара. *Було сонцэ, а тэпэр бухмарок наплывае.* Сулічава Драг.

БУ́ХТА *ж.* Яма, напоўненая вадою; гразкае месца. *Гляды, бо в бухту влізэш.* Кустын Брэсц. *Туды ны кіруй, бо ны пройдэш, там настояшча бухта.* Павіцце Кобр.

БУ́ХТАВЫЦЯ, БУ́ХТОВЫЦЯ *ж.* Тое ж. *В такую бухтовыцю влізла.* Вулька Сіманаўская Драг. *С хаты ны выходь, дошч і дошч, бухтовыця настояшча.* Пескі Кобр.

БУ́ШЧЫХА *ж.* Бусліха. *Бушчыха довго сэдіт на гнэздi.* Азарычы Пін.

БУЯ́Н *м.* Бугай. *В нашый брыгадэ е трэ буянэ.* Сулічава Драг.

БЫЗДЭ́ННЫЦЯ, БЫЗО́ДНЫЦЯ *ж.* Бездань, прорва. *На нашому болоті е быздэнныця, гляды, пупадэш, ныхто ны выратуе.* Пескі Кобр. *Там заболочанэ місцэ, е і бызодныці. Влытыть курова, ны достаныш.* Гершоны Брэсц.

БЫ́РО *прыназ.* Каля. *Він шов быро хаты.* Сварынь Драг. *Быро школы був сад.* Ляхавічы Драг.

БЫРЫЗНЯ́К *м.* Падбярозавік. *В гэтой год в лісы мныго грыбів було, алэ найбільш бырызняків, то мы трохы й насушылы.* Мінянка Кобр.

БЫЧКІ́ *мн.* Вузкія палоскі, якімі завязваецца фартух. *Прышый новы бычкі до хвартуха, а то порвалыся старыі.* Гершоны Брэсц.

БЫЧОВНЫ́К *м.* Бераг ракі. *Діты сыдять на бычовныку і ловлять рыбу.* Агароднікі Кобр.

БЭЗУГА́ВУ, БЭЗУГА́ЛУ *прысл.* Гл. бозугаўно. *Шчо ты бэзугаву воду п'еш.* Рамель Стол. *Дытя крычыть бэзугалу.* Вулька Кам.

БЭЗУРО́КУ *прысл.* Няўрокам кажучы. *Росцвэла дівка, безуроку, як макаў цвіт.* Каўбы Пін.

БЭ́ЙБАС, БЭ́ЙБУС *м. зневаж.* Гультай, абібок. *Бэйбас гэты повжыття однымэ.* Кустын Брэсц. *Бэйбус, а нэ дзіця, у кого вон такій удаўса, ні учыціс, ні робіці, коб оно дэ нашкодзіці.* Шылін Бяроз.

БЭ́ЙЛА *м.* і *ж. абразл.* 1. Някемлівы чалавек. *Бэйла якая, такэі роботы ны понімае — косы набыты.* Карсынь Іван. 2. П'яніца. *Напэўся бэйла до сорому.* Гута Лях.

БЭ́ЛІЦЬ, БЭ́ЛЫЦЬ *м.* Драўляны посуд, у якім таўкуць свіням бульбу. *Насычы бэліць картоплюв.* Ваўкаставец Кам. *На базары купыла бэльця.* Леснікі Драг.

БЭ́ЛЫЦЯ *ж.* Вавёрка. *Бэлыця грызэ оріхы.* Ляхаўцы Малар.

БЭ́ЛЬКА *ж.* Кубелец. *Вэльмы гладкій був выпрук, наклалы цілу бэльку сала.* Дубраўкі Драг.

БЭ́РВА *ж.* 1. Кладка. *Хіба колісьці не было на селе бэрвы проз рэчку?* Люсіна Ганц. *Чырыз рів положана бэрва.* Замшаны Малар. 2. Бервяно ў насціле. *Бэрвы погнылы. Куды люды дывляцца?* Каўбы Пін.

БЭ́РДО *н.* Бёрда. *Бэрдом прыбываюць полотно, то воно плотній ложыцца.* Ладараж Пін. *Гэтэ бэрдо вэль-*

*мы густэ.* Камароўка Брэсц. *Бэрдо зроб'яно з тонэнькіх палочок.* Пясчанка Бяроз.

БЭРЛІ́НА, БЭРЛЫ́НА *ж.* Баржа. *Цяглі бэрліну.* Харомск Стол. *Чоловік трыццаць ідэ на одну бэрлыну.* Лапацін Пін.

БЭ́РЭЦЕНЬ *м.* Частка ворнага поля даўжынёй каля дзесяці метраў. *Цілы бэрэцень наорав.* Здзітава I Бяроз.

БЭ́ТКІ *мн.* 1. Усе добрыя грыбы, акрамя белых. *Назбырав цілый кошык бэток.* Ваўкаставец Кам. 2. Розныя грыбы. *Набрала повну коробку бэток.* Белін Драг.

БЭ́ЧА *ж.* Бурт для захавання зімой бульбы. *Бэча поўная бульбы.* Квасевічы Івац.

БЯ́ЗВАНКА *ж.* Вялікая хустка. *Як моцны мароз, мы завязваем бязванку.* Баравікі Лун.

# В

ВА́БНЫК *м.* Калодачны вулей, пастаўлены ў лесе, каб уляцеў рой. *Вабнык в лісы стоіть вжэ довго.* Радзеж Малар.

ВА́ВЖ *прысл.* Рана. *Вавж прышов сюгодня з роботы.* Агароднікі Бяроз.

ВАГА́Н *м.* Карыта, жолаб. *Ты налі в ваган воды, бо зара коровы будуть йты.* Тэўлі Кобр.

ВАГ *м.* Вага. *Возьмы вага, будэ лёкш подняты.* Вулька Сіманаўская Драг.

ВА́ДА *ж.* Недахоп, загана. *Дзіця мае ваду, часта міргае.* Дзяніскавічы Ганц.

ВА́ДРЫК *м.* Божая кароўка. *Усі думають, шо вадрык прыдсказуе погоду.* Завялёўе Драг.

ВАДРЫ́НА, ВОДРЫ́НА *ж.* 1. Пуня. *Вадрыну ачысціў, можна сена весці.* Падлаззе Лях. 2. Хлеў. *Далёка ны йды, хутко коровы прыжынуть, то зажынеш у водрыну.* Осаўцы Драг.

ВА́ЖКІ *прым.* Цяжкі. *Які важкі мяшок.* Азярніца Лун. *Вельмо важкі стос.* Адвержыцы Стол.

ВА́ЖКО *прысл.* Цяжка. *Набрала много бульбы за плечы, то важко йсці.* Купаўцы Лун.

ВАЛІ́СКА *ж.* Чамадан. *Пуд вэчур хтось з двума валіскамі шов чырыз сыло.* Ланская Малар. *Валіска стояла в кутовы.* Рагозна Брэсц. *Валіска в його була тяжка, бо кніжкамы набыта.* Корчыцы Кобр.

ВАЛКОВА́ТЫ *незак. экспр.* Есці на поўны рот. *Глянь, як валкуе, бо ны йів довго.* Вулька Сіманаўская Драг. *Кілько ты можыш валковаты, чы ты голодны?* Плоска Брэсц.

ВАЛО́КА, ВОЛО́КА *ж.* 1. Абора ў лапцях. *Каб валокі былі мацнейшые, іх вілі з мочанаго ільну.* Роўбіцк Пруж. *Розвязаласа волока.* Коланск Івац. 2. Вяроўка. *І дзе вон достаў такую волоку?* М. Арлы Стол.

ВАЛО́М *прысл.* Многа. *Тыпэр у Пінску було валом ковбасы.* Бярозавічы Пін.

ВАЛО́ТКА *ж.* Пладовая частка проса. *На жыцечкі колос, а на просі — валотка для зерняток.* Альманы Стол.

ВА́ЛЬНЯ *ж.* Вялікае драўлянае карыта. *Дзеці поўную вальню налілі воды.* Пясчанка Бяроз.

ВАЛЬЦО́ВКА, ВАЛЬЦО́ЎКА *ж.* 1. Пшанічная мука першага гатунку. *Намолов вальцовкы, а я напыкла пырога.* Саха Драг. 2. Жытняя мука першага гатунку. *Гэтой хліб у вас з вальцовкы?* Карсынь Іван. *Вальцовка — мнекка мука, мэляна в вальцах.* Адрыжын Іван.

ВАЛЮ́ТА *ж.* Грошы. *Няма ў мяне столькі валюты, каб купіць гэтую сукенку.* Міцкевічы Бар.

ВА́ЛЮША *ж.* Валюшня. *Валюша — хвабрыка такая, в валюшах валёнкі валять.* Сварынь Драг.

ВАЛЮ́ШЫЦЬ *незак.* Абсыпаць, укачваць у муку. *Пасыпалі мукі на стол, каб цеста валюшыть.* Лагішын Пін.

ВА́ЛЯНКА I *ж.* Вялікая шарсцяная хустка. *Вазьмі валянку, бо можэ будзе халадно.* Андрыянаўка Пруж.

ВА́ЛЯНКА II *ж.* Скрынка авальнай формы. *У валянцы ляжыць сала.* Юндзілы Пруж.

ВА́НТУХ *м.* 1. Чэрава ў жывёлы. *Корова наіла добрый вантух, кажуть шчэ чэрво.* Хацíслаў Малар. 2. *перан.* Гультай. *От вантух, учэтыся ны заставыш.* Хадасы Кам.

ВАПРУ́К *м.* Вяпрук. *За зіму вапрук вырос, якраз колоць добрэ.* Дзятлавічы Лун. *Так рые вапрук.* Вулька I Лун.

ВА́РА *ж.* Варыва. *Вара получылася вельмі смачная.* Юндзілы Пруж. *Хіба ж мая вара не смачнейшая за тваю?* Востраў Ганц. *Хоч вары якой подала б.* Коланск Івац.

ВАРА́ВАЦЦА *незак.* Саромецца. *Галя варуецца свайго дзядзька.* Баравікі Лун.

ВАРАПЕ́НІЦЦА *незак.* Не згаджацца з кім-н. або чым-н. *І чаго ты вельмі варапенішся? Ты ж знаеш, што так рабіць нельга.* Гарадзішча Бар.

ВАРБУ́Х *м.* Верабей. *Бачыў варбуха, як палецеў?* Калазубы Пруж.

ВАРНА́ЧЫТЫ *незак.* Марудзіць. *Варначышся ты довго.* Макраны Малар.

ВАРО́НКІ *мн.* Бульбяны суп. *Маці наварыла варонкі, поем у обед.* Дрэбск Лун.

ВАРСАНУ́ТЫ *зак.* Штурхнуць. *Хлопец розузлівся і так варсанув его, шчо мужык чуть пудневся на ногі потом.* Лумна Кам.

ВАРСТА́ЦЬ, ВЫРСТА́Т *м.* Стан для красён. *Зарэ будом уносіць варстаць да навіваць кросна.* Дзятлавічы Лун. *Ны в кажного був свій вырстат, за его ж тілько трэба було заплатыты.* Стрэльна Іван.

ВА́РТЯГА, ВЭ́РТЕХА, ВЭ́РТЯГА *ж.* Гліняная міска. *Коло розбэтыі вартягэ сыдів кіт і лызав молоко.* Туляцічы Іван. *Повна вэртеха варэныкув.* Кустын Брэсц. *Чоловік фурою возыть вэртягы.* Олтуш Малар.

ВАРУНІЦА *ж.* Шафа для прадуктаў, посуду. *Варона, сарока на прыпечку сядзелі, дзецям кашку варылі, па ложачцы дзялілі. А ты малы, круп не драў, хлеба не мясіў, кашку не варыў, табе кашка на паліцы, а ложачка ў варуніцы.* Слабажаны Бар.

ВАРУНЯ́, ВАРЫМНЯ́ *ж.* Варыўня. *У варуні было многа бульбы.* Гута Ганц. *Бульбу на зіму сыпаць будзем у варуню.* Дзяніскавічы Ганц. *Іды в варымню, набыры картоплі.* Бярозавічы Пін.

ВАРЫ́ЛНЫК *м.* Гаршчок. *Маты супу наварыла в варылныку.* Агова Іван.

ВАРЭ́НЬКА, ВЫРЭ́НЬКА *ж.* 1. Сплецены з бяросты кошык з накрыўкай. *Повну вырэньку ягод набрала.* Карсынь Іван. *От набраў грыбоў поўную варэньку.* Цераблічы Стол. 2. Лазовы кош. *Хлопэц прынёс варэньку картоплі.* Рудня Івац. 3. Торбачка. *Маты наладовала пастуховы вырэньку.* Кустын Брэсц.

ВАСЫРВА́ГА *ж.* Ватэрпас. *Пушлы ставыты хату, а васырвагу забулысь взяты.* Харсы Брэсц.

ВАТЫ́ВЭЦЬ *м.* Ватоўка. *Ватывця пошылы в артэлі.* Агароднікі Кобр.

ВАЎЧО́К *м.* Замок. *Хата закрыта на вайчок.* Юндзілы Пруж.

ВА́ФЫЛЬНЫЦЯ *ж.* Машына для прыгатавання вашчыны. *У колхозного пчоловода е вафыльныця.* Макраны Малар.

ВБО́РА *ж.* Абора. *У вбору зайіхала машэна.* Сварынь Драг.

ВБЫ́ТЫСЬ *зак.* Запомніцца, застацца ў памяці. *Той дэнь вбывся мыні в памыть.* Осаўцы Драг. *Вбылося шось в голову, шо там так говорылы.* Кустын Брэсц.

ВБА́РДЫТЫСЬ, ВБЭ́РДЫТЫСЬ *зак.* Вытрымаць, выседзець. *Але ж ны вбардылысь дывчета в нас, пушлэ до Оганэ.* Субаты Драг. *Ны вбэрдыцьця, ны посыдыть вдома.* Вулька Сіманаўская Драг.

ВВЫ́РЭДЫТЫСЬ, ВВЭ́РЫДЫТЫСЬ *зак.* Вельмі стаміцца. *Зробыш, ныц с тобою ны зробыцца, од гэтого ны ввырэдысся.* Сухачы Драг. *Вжэ так вэн там ввэрыдывся.* Радастава Драг.

ВВЫШКЫ́ *прысл.* Увышыню. *Ны ростэ ввышкы хата.* Гершоны Брэсц.

ВГА́МЫТЫ *зак.* 1. Спыніць нешта, утаймаваць. *Ны вгамыты діты, як розыйдуцця.* Кустын Брэсц. 2. *перан.* Зразумець. *Ну, вгамыв вжэ шо до чого?* Кустын Брэсц.

ВГО́НЬ *м.* Агонь. *Я рускладаю вгонь.* Макраны Малар.

ВДО́БА *ж.* Фізічныя асаблівасці, фізічны тып. *Якая в хлопця вдоба, на кого вын удався?* Вулька Сіманаўская Драг.

ВДОВШКЫ́ *прысл.* Уздоўж. *П'ять мэтрув вдовшкы зробылы хату.* Гершоны Брэсц.

В'Е́ЗЫ, ВЯ́ЗЫ *мн.* Шыя і плечы. *Так наробылася, шо аж в'езы болеть.* Імянін Драг. *Учора мышків наносывся, шо зарэ в'езы болеть.* Осаўцы Драг. *Гляды, коб вязы ны зломав.* Кустын Брэсц. *У мане вязы сільно заболелі.* Рубель Стол.

ВЕ́КО, ВІ́КО *н.* Накрыўка дзяжы, скрыні. *Накрый дзяжу веком.* Падлаззе Лях. *Здыймэ віко і побач, ек там хліб.* Павіцце Кобр. *Трэбо, коб віко зробыв, бо гэтэ старое.* Ляхавічы Драг.

ВЕ́ЛЬКІ *прым.* Вялікі. *А на бяду і снег пасыпаў велькі.* Малахоўцы Бар.

ВЕ́НО *н.* Пасаг. *Вона пушла замуж з добрым веном.* Рубель Стол.

ВЕ́ТРАНІК, ВІ́ТРАНЫК *м.* 1. Крытыя зверху акенцы на даху. *Якіе хорошые ветранікі ў вас!* Белавуша Стол. 2. Планка, якая звязвае кроквы ў канцы скрыжавання. *Батько прыбэв вітраныка.* Павіцце Кобр.

ВЕ́ШНІЦА, ВІ́ШНЫЦА *ж.* Весніцы. *Отчыняй вешніцу.* В. Малешава Стол. *Ужэ сіно вызуть, отчыняй вішныцю.* Ляплёўка Брэсц. *Дядько зробыв вішныцу.* Ботава Пін.

ВЗЛА́МЫВАТЫ *незак.* Скарадзіць. *На зіму вспахва-*

*ют, а высною взламывают под картоплі.* Адрыжын Іван.

ВІД, ВЫД *м.* 1. Твар. *Від у Колі був увесь у гразі.* Альшаны Стол. *Об куст абадраў выд. Вун зморшчыў выд.* Церабень Пін. 2. Выгляд. *На від хорошы коровы.* Літоўск Драг.

ВІДЗЁЛКО *н.* Люстра. *Дзед крычаў на ўнучку за тое, шчо вона розбіла відзёлко.* Вулька II Лун. *Паглядзіся в відзёлко.* В. Чучавічы Лун.

ВІДО́К *м.* Карціна. *На сцяне вісіць прыгожы відок.* Тартакі Бар. *На відку нарысованы дрэвы.* Шэйпічы Пруж.

ВІ́ЖОЛ, ВЫ́ЖОЛ *м.* 1. Хітрун. *Віжол всё вынюхае.* Угляны Бяроз. 2. Непаседлівы чалавек. *Сядь, выжол, ны крутыся.* Міжлессе Бяроз.

ВІ́КО *н.* Павека. *Чого-то віко болыть.* Ляхаўцы Малар.

ВІЛАШНІК *м.* Дзяржанне вілаў, вілак. *Трэба зрабіць новы вілашнік.* Міцкевічы Бар.

ВІ́ЛІЦЫ, ВЫ́ЛЫЦЫ *мн.* Чаўнок, пры дапамозе якога плятуць рыбацкія сеці, ткуць дарожкі. *Віліцамі ходнікі звязала.* Казлы Пруж. *Вылыцамы то нэвода, ныта вэжуть.* Спорава Бяроз.

ВІР *м.* Паркан. *Хлопчык з-за віра выглядав. Всёго города обгородыв віром.* Чарнаўчыцы Брэсц.

ВІРО́К *м.* Юрок. *Цётка Ганна так хутко клубка вірком віла.* Хатынічы Ганц. *З вірком ві, а то порэжэш пальцы.* Бабровічы Івац.

ВІСТЭ́РКО *н.* Люстэрка. *Нычаяно брат розбіў вістэрко. На стэне весіт вістэрко.* Клетная Пін.

ВІСЯЛЮ́НЬКА *ж.* Вясёлка. *Вісялюнька на небі.* Плехава Івац.

ВІТКІЛЯ́ *прысл.* Адкуль. *Віткіля вітэ йдэтэ?* Жычын Бяроз.

ВІТРО́ВКЫ *мн.* Басаножкі. *Мні купэлі новы вітровкы.* Кустын Брэсц.

ВІ́ТРЫТЫ *незак.* Ветрыць. *Маты довго вітрыла просо.* Лышчыцы Брэсц.

ВІХУ́Р *м.* Моцны вецер, віхор. *Ну і віхур поднявся.* Ляхаўцы Малар.

ВІШ, ВЫШІ́Й, ВЫШЭ́Й *м.* Трава, якая асталася на зіму не скошанай. *Выкосіў троха на подсцёл вішу.* Сінкевічы Лун. *Вышій прывэзлы под хлів.* Хацíслаў Малар. *Бацька пайшоў у балота касіць вышэй.* Калоднае Стол.

ВІША́К *м.* 1. Вешалка. *Пувісь пальто на вішак.* Шума-

кі Брэсц. 2. Пятля, за якую вешаюць адзенне. *Вішак в пальтовы одорвався.* Кустын Брэсц.

ВІШКІ, ВЫШКІ, ВЭШКЭ *мн.* 1. Гара ў сенях, хляве. *Сено на вішках.* Харомск Стол. *Усе вышкі сенам залажылі.* Гарадзечна Пруж. *Трэба шчэ навозэтэ хлуддя і наложэтэ вэшкэ.* Арэхава Малар. 2. Падстаўка пад вулей. *Прыстройваюцца вішкі і ставіцца вулей.* Харомск Стол.

ВІЯ *ж.* Вейка. *Вія влэтіла в око.* Сулічава Драг. *Хорошый той, в кого довгы і чорны віі.* Сасновічы Пін. *Віі булы густы й хорошы.* Ляхавічы Драг.

ВЛІЙНЫЦЯ *ж.* Алейніца. *Влійныця була пустая.* Макраны Малар.

ВЛІТУСЬ, ВЛІТЮСЬ *прысл.* Летась. *Він окончыв школу ны влітусь, а позалітусь.* Журавок Іван. *То було шчэ влітюсь, колы батько дома жыв.* Кустын Брэсц.

ВЛУСКНУТЫ *зак.* Увагнуцца, асесці, трэснуць. *Дошка влускнула.* Радастава Драг. *Пічка влускнуты вжэ можэ.* Гаравіца Драг.

ВМОСТЮХАТЫСЬ *зак. экспр.* Зручна і надзейна прымасціцца. *Вмостюхався коло мэнэ.* Вулька Сіманаўская Драг.

ВНЫРЫТЫСЬ *зак. экспр.* Утаропіцца. *Внырывся в тую кныжку, нычого ны бачыт.* Кустын Брэсц.

ВОБУЙ *м.* Абутак. *Вобую гэтаго много, а яна ходзіць боса.* Нецеч Бар.

ВОВЮРКА *ж.* Ваверка. *Глянь, вовюрка поскакала.* Мерчыцы Пін.

ВОДЖОГ, ВОЖОГ *м.* Вожаг. *Поправлю воджогом дрова.* Церабень Пін. *Зусім вожог абгарэў у вілах.* Сасновы Бор Івац.

ВОДЗІЦЬ *незак.* Вышываць. *Водзі хустку гэту.* Кароцічы Стол. *Дзеўкі седзелі і водзілі.* Цераблічы Стол. *Я водзіла ручніка.* Там жа.

ВОДКІДОК, ВЫТКІДОК *м.*, ВОДКІДКА, ВЫДКІДКА *ж.* Тварог. *Водкідок смачный з цукром.* Бярозаўка Кам. *У нас говорать то творог, то выткідок. Молодыі вжэ мало так говорать.* Страдзеч Брэсц. *Покі водкідка свіжа, вона смачна, потом стане кісла.* Хабы Брэсц. *На столі стояв полумысок з выдкідкою.* Высокае Бяроз.

ВОЕВАЦЦА *незак.* Сварыцца. *Чаго ты вэсь дэнь воюеш?* Осаўцы Драг.

ВОЖКІ *мн.* Лейцы. *Добрэ трымайся за вожкі, ны тягны правую, бо кобыла завэрнэцца.* Стрыгінь Бяроз.

ВО́ЖОГЫ *мн.* Месца каля печы, дзе ставяць качаргу. *І вожогы вымэты, попэлу насыпалоса.* Гальцы Стол.

ВО́ЙЛАКІ, ВО́ЙЛАКЫ *мн.* Тып бурак. *Войлакі мяккія і цёплыя.* Нецеч Бар. *Пойдыш в город, то подывыся мыні войлакы.* Осаўцы Драг.

ВО́ЛЕЧКА *ж.* Ланцужок або вяровачка ад ашыйніка. *Нехто ведзе на волечцы собаку.* Вулька І Лун.

ВО́ЛКІ *прым.* Вільготны. *Склалі стожок волкого сена, то корова зімою не хоцела есці.* Альшаны Стол.

ВОЛО́ГА *ж.* Страва з таўчонага канаплянага семя, разведзенага вадой. *Розомнуць семя з водою і робляць вологу.* Альшаны Стол. *С конопель волога. Як вологу робляць, коноплі мнуць, у сыру воду опускаюць, коноплі на дне, а зверху бы молоко робіцца.* Там жа.

ВОЛО́СЦЕ *мн.* Валасы. *Дівчына сыділа на стульці пуд хатою і росчэсувала волосце.* Ланская Малар.

ВОЛОХА́ТЫТЬСЯ *незак.* Рабіцца касматым. *Нытка слызька і мнекка робыця, вжэ ны волохатыться.* Олтуш Малар.

ВО́НДЗЕКА, ВО́НДЭ, ВО́НДЭЧКА *часц.* Вунь. *Вондзека пасуцца коровы.* Бабровічы Івац. *Вондэ рустэ муя еблынка.* Гаравіца Драг. *Вондэчка ростуть ягоды.* Аўсямірава Стол.

ВО́НПІТЫ *незак.* Баяцца, адчуваць адказнасць. *Шчоб вон одразу прыказаў, то вона б крохі вонпіла б.* Валішча Пін.

ВОРОНЯ́К *м.* Варона. *На кажноі хвоі по пяць гнёзд вороняков.* Раздзялавічы Ганц. *На хліві сідзіць вороняк.* Лунін Лун.

ВОРОТЫ́ЛО *н.* 1. Навой. *На воротыло трэба разложыты прежу.* Папіна Драг. 2. Драўляны вал у колах. *Воротыло в пырэднім колысовышэ добрэ.* Ляхавічы Драг. 3. Драўляны вал з ручкаю, пры дапамозе якога дастаюць ваду з калодзежа. *Закруты добрэ цэпа на воротыловы.* Кустын Брэсц. 4. Ручка ў жорнах. *Воротыло прыкрыпылы ду жорнув.* Гершоны Брэсц. 5. *перан.* Непаваротлівы чалавек. *Такэ вжэ воротыло, нычого сам ны зробыть.* Кустын Брэсц. *Памянш.* в о р о т ы л ц э. *На воротылцэ закруты полотно.* Папіна Драг. *Трэба вжэ з воротыльца полотно зняты.* Гальцы Стол. *Воротыло, на которое пража крутыцца, а на которое полотно ішло, звалы воротыльцэ.* Здзітава І Бяроз.

ВОРОТЫ́ННЫК *м.* Вал, на які намотваецца натканае палатно. *Я з братом учора бачыла воротынныка коло*

*подрубы старой хаты. На воротыннык намоталосо богато полотна.* Дзераўная Стол.

ВО́РОЧОК *м.* Мяшочак. *Сыр лежыць у ворочку.* Запроссе Лун.

ВО́РСА *ж.* Адходы воўны пры яе часанні. *Под чэсальну машыну падае ворса.* Спорава Бяроз.

ВОРЫ́НА *ж.* Плот. *Корова поломала ворыну коло хаты.* Камянюкі Кам.

ВОРЫ́ТЯЧКА *н.* Весніцы. *Закрый ворытячка, коб куры ны заходылы.* Шэбрын Брэсц.

ВО́СІМКА *ж.* 1. Бёрда ў восем пасмаў асновы. *Восімка — то колы бэрдо в восім пасмэй.* Стрэльна Іван. 2. Шарсцяная квяцістая хустка. *У недзелю мама завязала новую восімку.* Калоднае Стол.

ВОСЭЛЭ́НЭЦ *м.* Селядзец. *Сходы в магазін, купы восэлэнцув.* Кончыцы Пін.

ВО́ТО *прысл.* Цяпер. *Вото ні будзе ад яго спакою.* Любішчыцы Івац.

ВСВЫЛЭ́ПЫТЫ *зак.* Убіць у галаву нешта. *Всвылэпыв шось дурное і всёй час кажэ.* Перавысь Малар.

ВСМЫ́КАТЫ *зак.* Уцягнуць. *Всмыкай но нытку в голку, бо вжэ ны бачу.* Кустын Брэсц.

ВСПУ́ХА *ж.* Шчолак. *Вжэ вспуха готова, можна класты полотно.* Лукава Малар.

ВСТЫДА́ТЫСЬ *незак.* Саромецца. *Хлопэць можэ встыдатысь пудыйты ду дівчыны.* Клейнікі Брэсц.

ВТОЛОВА́ТЫСЬ *зак.* Замучыцца. *Вчора я вэльмы втоловалась.* Гершоны Брэсц.

ВУДА́Р *м.* Рыбак. *Ныкого ныма тут, тылько одын вудар вудыть рыбу.* Ляхавічы Драг.

ВУЖО́ВІЦА *ж.* Хітрая жанчына. *Грае гэта вужовіца на нэрвах, як на гармоні.* Плехава Івац.

ВУЛЬШЫ́НА *ж.* 1. Вольха. *Усю вульшыну порізалы.* Гершоны Брэсц. 2. Алешнік. *Раньшы тут була вульшына.* Хабы Брэсц.

ВУНЁВО *часц.* Вось там. *Вунёво ідуць маладзіцы.* Баравікі Лун.

ВУ́РЛЕП *м.* Водпуск. *Надоўго далі тобе вурлёп?* Любань Лун.

ВУРУПЛА́Н *м.* Самалёт. *Вуруплан пуднявся высоко.* Мінкавічы Кам.

ВУРЧА́ТЫ *незак.* Брахаць, гаўкаць. *Кожну ніч субака вурчыть на місяця.* Гершоны Брэсц.

ВУСЦЯ́К *м.* Асцюк. *Вусцяк застрег, ек пражмо йілы.*

Сулічава Драг. *З ячмэню мныго вусцяків.* Ляхаўцы Малар.

ВЎСЫК *м.* Адростак. *Вусыкы в трускавках булы вельмі довгы.* Ляхавічы Драг.

ВЎСЯЛКА *ж.* Шнурок для падвязвання кошыка, калыскі. *Вусялка в кулэсцэ вельмэ слабэі.* Радастава Драг.

ВЎТВА *ж.* Качка. *Плівэ по рэцэ вутва.* Давыд-Гарадок Стол.

ВУТЮГ *м.* Прас. *Вутюгом погладыла кохту шэ вчора.* Ляхаўцы Малар.

ВУТЮ́К *м.* Качаня. *Вутюк слабы. Вутюкы од вутвы нэдэ нэ отходять.* Гальцы Стол.

ВУЦЕ́ЧКА *ж.* Экскурсія. *Мая дачка паехала на вуцечку у Кіеў.* Гута Ллх.

ВУЧЫТЭ́ЛЬКА, ВУЧЫЦЕ́ЛЬКА *ж.* Настаўніца. *У школу прыехала новая вучытэлька.* Рудня Івац. *Любяць дзеці гэту вучыцельку.* Любань Лун.

ВУШЧА́РОК *м.* Манюка. *Ну і вушчарок жэ ты, я аж паверыці хацеў.* Пузічы Лун.

ВХІ́ТЧЫНА *ж.* Святкаванне перасялення ў новую хату. *Добрая була вхітчына, шчэ помытаю.* Хмелева Жабін.

ВЦІРА́ЛЬНІК *м.* Ручнік. *Мама купіла вціральніка.* Дварэц Лун.

ВШЭ́СТЕ *н.* Свята праз шэсць тыдняў пасля вялікадня. *На вшэсте ны робять в полі.* Шэбрын Брэсц.

ВЫБІРА́НКА *ж.* Саматканая посцілка з узорамі. *Мо ўжо выткала выбіранку?* Кукава Ганц.

ВЫБЫРА́ЛЬНЫК *м.* Той, хто выбірае бульбу. *Ты собі шчэ позвала выбыральныка?* Арэпічы Жабін. *Выбыральныкы выбырають картоплі.* Хмелева Жабін.

ВЫ́ВОЛОЧ *м. экспр.* Валацуга. *В сылі його інакш ны звалы, як выволоч. Потягався по світу.* Чвіркі Кам.

ВЫВЫЮХА *ж.* Пясчанае поле, дзе нічога не расце. *Чы то полэ, чы вывыюха?* Хаціслаў Малар.

ВЫГО́ДА *ж.* Аўтобус. *Додому мы іхалы выгодою.* Знаменка Брэсц.

ВЫДМІ́ДЬ *м.* Мядзведзь. *Выдмідь спрытно влазыть на дэрэво.* Кавалікі Кам.

ВЫДМЭ́ДЫНЫ *мн.* Ажыны. *Выдмэдыны добрэ тут порослы, але ж колюцця.* Шэбрын Брэсц.

ВЫ́ДЮЖЫТЫ *зак.* Прамачыць да ніткі. *Выдюжыв нас дошч.* Гершоны Брэсц.

ВЫ́ЖАРЫШЧЭ *н.* Выжарышча. *Вжэ і на выжарышчы появылася поросля.* Хацíслаў Малар.

ВЫ́ЖЛА *ж. экспр.* Вельмі хітры чалавек. *Выжла гэтая проклятая штось знов вынюхвае.* Коланск Іваң.

ВЫ́ЖЛУКТЫТЫ *зак. экспр.* Выпіць. *Коб хоч каплю оставылы молока. Всё до дна выжлуктылы.* Судзілавічы Бяроз.

ВЫЗ *прыназ.* Паўз. *Чулі, як учора Максім у контору ішоў. Хоцеў выз плота пройсці, а там яма, так вон з головою туды.* Люсіна Ганц.

ВЫ́ЗЫРКА *ж.* Маяк. *За сылом стоіть вызырка.* Дзеткавічы Драг.

ВЫ́ЙМА *ж.* Рэшткі асновы ў шырыню пры накідванні ў ніт і бёрда. *Як пэрэснуеш, то останэцца выйма, в бэрдо нэ влізла.* Здзітава І Бяроз.

ВЫ́ЙМАНКА *ж.* Прарэх. *Выйманку трэба шэ обкыдаты.* Тышкавічы Іван.

ВЫ́КАПАНЫЙ *прым.* Падобны. *Сын був выкапаный батько.* Боркі Бяроз.

ВЫ́КІДАЦЦА *зак.* Набрацца сіл, акрыяць. *Парася памалу й выкідалася, дзякуй богу.* Агарэвічы Ганц.

ВЫКЛАДА́НКА *ж.* Гл. выбіранка. *Бачыла лоўкую выкладанку. Унясём вярстах у хату, хочу выкладанку выткаць.* Купаўцы Лун.

ВЫ́КЛАДЫ *мн.* Асаблівы спосаб ткання ўзорамі. *У выклады выкладаюць, клубочкы маленькы быруть і выкладають.* Ляхавічы Драг.

ВЫ́КУБЛЫТЫ, ВЫ́КУБЛІЦЬ *зак. экспр.* Выседзець, памяць ложак. *Чого ты всёго ліжка выкублыла?* Радчыцк Стол. *Вжэ постэлю выкублыла в дівках.* Кустын Брэсц. *Выкублылі увесь ложок.* Белавуша Стол.

ВЫ́КЫЦЯТЫ *зак.* Вымазаць. *Выкыцяв вчора рубашку.* Гершоны Брэсц.

ВЫ́ЛІВОК, ВУ́ЛІВОК *м.* Вылівак. *Я зноў знайшла вылівок.* Лунін Лун. *Вуліўкі лле як гладка кура.* В. Лес Драг.

ВЫЛІКДУ́РА *ж. зневаж.* Вялікая дзяўчына, якая паводзіць сябе, як малая. *Якая вылікдура, а з малэмы шчэ бавыцця.* Хадасы Кам.

ВЫЛКОВЫ́СКО *н.* Гл. вілашнік. *Залізны вылкы набывають на вылковыско.* Ляхаўцы Малар.

ВЫ́ЛЫВКА *ж.* Прылада, якой выліваюць ваду з лодкі. *Зробыв вырбову вылывку.* Маладзельчыцы Пін.

ВЫ́ЛЮДНЯТЫ *зак.* Выраўняцца, набрацца сілы.

*Порося вжэ здыхало, а потым неяк вылюдняло.* Кустын Брэсц. *Було зразу бідно, алэ някось покрохы вылюднялы.* Вулька Сіманаўская Драг.

ВЫНО́К *м.* Пляцёнка. *Вынок цыбулі шэ вісыть на пычі.* Ляхавічы Драг.

ВЫ́НОРЫЦІ *зак.* Знайсці, адшукаць. *Вынорыла кулёк мукі в сцёпцы.* Амяльная Івац.

ВЫПРЫ́НЫ *мн.* Парэчкі. *У лісы поспілы выпрыны.* Жоўкіна Пін.

ВЫ́ПРЯД *м.* Пража. *Лучшый выпряд на основу трэ́ба.* Олтуш Малар.

ВЫ́ПУСТОК *м.* Аднагадовае цяля. *Одных выпусткув дэсэть.* Саха Драг.

ВЫРГІ́ *мн.* Скручанае васьмёркаю лыка. *Выргі — гэто ек складяно восьмёркою лыко.* Тышкавічы Іван.

ВЫ́РОСТОК *м.* Падлетак. *Вжэ добры выросток, поможэ.* Амяльная Івац.

ВЫ́САДКІ, ВЫ́САДКЫ *мн.* Высадкі. *Трэба пасадзіці высадкі, шчоб булі семена.* Лунін Лун. *Позычыла в сусідкы высадок.* Навасёлкі Кобр. *На літо свойго насіння будэ, усякых высадкув насадыла.* Гальцы Стол.

ВЫСЕКАТІ *зак.* Высмаркаць. *Высекай носа свайму дітяті.* Барычэвічы Пін.

ВЫ́СКОРОЖЭНЬ, ВЫ́СКОРОТЭНЬ *м.* Загнуты канец полаза. *Выскорожня збіў, дорога кепска.* Харомск Стол. *За выскоротня взяв подняць.* Велута Лун.

ВЫ́СМАГТЫ *зак.* 1. Вельмі захацець піць. *В лісы так всі высмаглы, шо лэдьво до колодяза дотягнулыся.* Кустын Брэсц. 2. Загінуць без вільгаці. *Пугляды на той ліс, бач, як він быз воды высмаг.* Пажэжын Малар.

ВЫ́СПЫТОК *м.* Штуршок нагой. *Ны чыпай, бо дам выспытка.* Хацíслаў Малар.

ВЫ́СТУПКЫ *мн.* Кароткія халявы. *Шый чоботы з выступкамы.* Тышкавічы Іван.

ВЫ́СТЯЖЫЦЦА *зак.* Накіравацца, выправіцца ў дарогу. *Хай бы хоть трохы подождав. Так не — ужэ выстяжывса сам.* Дубай Стол.

ВЫСЫЛУ́ХА *ж.* Вясёлка. *Дывыса — высылуха над лісом.* Дастоева Іван.

ВЫТЛЫ́НА *ж.* Вярба. *Коло хаты в іх ростэ вытлына.* Парахонск Пін.

ВЫ́ТНУЦЬ *зак.* Выцяць. *З усёй сілы вытнуў ногою по мячу.* Альшаны Стол.

ВЫ́ТРУМКЫ *мн.* Зношаны абутак. *Вдома шчэ можно ходыты в гэтых вытрумках.* Корчыцы Кобр.

ВЫТУ́ШКА, ВЬЮШКА *ж.* Матавіла. *На вытушку звывае маты ныткы.* Стрэльна Іван. *Вьюшка е мотаты пражу?* Ляхавічы Драг.

ВЫХВАТ *м.* Чапяла. *Мой чалавек у кузні зрабіў новы выхват.* Гута Лях.

ВЫ́ХВАЦЕНЬ, ВЫ́ХОПЕНЬ *м.* Блін з хлебнага цеста. *Дзеці уплятаді гарачыя выхватні.* Баравікі Лун. *Выхваценъ таўшчэйшы за млінця. С хліба пыкуць выхватня до сажання.* Рубель Стол. *Смачны горячы выхопень!* М. Курніца Брэсц.

ВЫ́ХОРОШЛЯТЫ *зак.* Скастрыраваць. *Трэба вжэ поросяток выхорошляты.* Хаціслаў Малар.

ВЫЧАЎПЛЯЦЬ *незак.* Бегаць, весяліцца. *Хлопцы былі рады, што ужо зіма, і вычаўплялі на дварэ.* Агарэвічы Ганц.

ВЫЧОРЫ́НЫ *мн.* Вячоркі. *Завтра будуть вычорыны.* Шэбрын Брэсц.

ВЫЧЫНЯ́ТЫ *незак.* Аддзяляць пасля малацьбы дробную салому, каласы ад зерня. *Трэба добрэ вычыняты, коб жыто було чыстэ.* Гершоны Брэсц.

ВЫ́ШМО́ЛЬГАНЫЙ *прым.* Вельмі брудны. *Пінжак в його такый вышмольганый.* Кустын Брэсц.

ВЭ́ДМА *ж.* Выдма. *На сітым місці нэць ны ростэ, одна вэдма.* Арэхава Малар.

ВЭ́ДРАНО *безас. у знач. вык.* Зорна. *На нэбы тыпер вэдрано.* Лумна Кам.

ВЭ́ЗВЫРЫТЫСЬ *зак. экспр.* Моцна накрычаць. *Вызвырывся на мынэ, а я зусем ны выноватая.* Брашэвічы Драг.

ВЭ́КТУХ *м.* Гаршчок. *Тітка купыла нового вэктуха.* Боркі Пін.

ВЭЛЁН *м.* Вэлюм. *На юй був вэльмы хвайный вэлён.* Чэнчыцы Пін. *Хорошы вэлён у гэтой княгіні.* Любань Лун.

ВЭ́ЛКЭ *мн.* Скрыжаванне дарог. *Дойшов до вэлок, та нэ знав, по якуй дорозе дальша ітэ.* Арэхава Малар.

ВЭЛЬКОЛЮ́Н *м.* Лён даўгунец. *Простый лён пэршый, а вэльколюн у войну мыколаівську появывся.* Олтуш Малар.

ВЭНГО́Р *м.* Канавал. *Вэнгор выхорошлёвав у сусіда кабанчыка.* Хаціслаў Малар.

ВЭ́НКЫЛЬ *м.* Навугольнік. *Коло плітэ у кутковэ був новый вэнкыль.* Харсы Брэсц.

ВЭ́ПРЫЧКЫ *мн.* Ягады шыпшыны. *Як закынэш вэпрычків за пазуху, то цілый дэнь будэш чухатысь.* Воса Кобр.

ВЭ́РОД *м.* Высыпка на целе. *Вэрод в дытыны.* Вулька Сіманаўская Драг.

ВЭРХ *м.* Смятана. *Збэры вэрха у збанковы, трэба борщ забылыты.* Лышчыцы Брэсц. *Памянш.* в ы р ш о к. *Знымы вырщка з молока, бо вжэ одстоялося.* Макраны Малар.

ВЭ́РХНІК *м.* Пярына. *У нас цёплы вэрхнік.* Давыд-Гарадок Стол.

ВЭРХО́В'Е *н.* Сена на самым версе стажка. *Тэпэр самого вэрхов'я прывэзлы.* Гальцы Стол.

ВЭРХОЛЁДЫЦА *ж.* Абліваха. *Була вэрхолёдыца, поломала голле.* Дастоева Іван.

ВЭСНЫ́НА *ж.* Глеба, апрацаваная вясною. *Вэснына вжэ добрэ подсохла.* Адрыжын Іван.

ВЭ́СОЧ *ж.* Вышыня. *То ж хату зробэв, такая вэсоч!* Брашэвічы Драг.

ВЭ́ЧКА *ж.* Авечка. *То наша вэчка, шо одбылася од чэрэды?* Хатынічы Ганц.

ВЯ́ЖЫЧ *м.* Фартух. *Вяжыч зробывся маратый.* Пучыны Пін.

В'Я́ЗАНКА *ж.* Вялікая вязаная хустка. *Зав'яжы в'язанку, бо вжэ холодно.* Сварынь Драг.

ВЯРА́НКА *ж.* Гліняная міска. *Вяранка з тварагом стаіць у стопцы на дзяжы.* Падлаззе Лях.

ВЯРХАЛЁТКА *ж.* Верхаводка. *У воді у сонічны день много вярхалёткі було выдно.* Ляхавічы Драг.

ВЯСЁНКА *ж.* Дэмісезоннае паліто. *Мне купілі новую вясёнку.* Мыслабаж Лях.

ВЯТА́РА *ж.* Атава. *За лазам у кустах вятара засталася, пайдзі пакасі.* Падлаззе Лях.

# Г

ГАБЛЫ́К *м.* Аплік. *Одорвався габлык от пальта.* Рыкавічы Жабін.

ГАБЛІ́ *мн.* 1. Вілы. *Габлямі гэту салому падбяры.* Малахоўцы Бар. 2. Вілы з тупымі зубамі. *Бяры габлі і кідай картоплю ў скрыньку.* Падлаззе Лях. *Засыпай габлямы у мышкы, так хучій, чым рукамы возытыся.* Мінянка Кобр.

ГАВЭ́НДЫ *мн.* Пустая размова. *Надоіло вашы гавэнды слухаты, роскасала б людям вартое шо.* Кустын Брэсц.

ГА́ДКА *ж.* Думка. *Гадка в його добра була, а зробыв нычого.* Корчыцы Кобр.

ГАЕ́Т *м. устар.* Сшытак. *Скілько школьнікы гает портять.* Макраны Малар.

ГАЗІ́ВКА, ГАЗУ́ВКА, ГАЗЫ́ВКА I *ж. устар.* Маленькая лямпа без шкла. *Колыся свытылы газівкамы.* Залессе Кобр. *Постав осторожно газувку на піч.* Шэбрын Брэсц. *Батько запалыв газывку і пошов у лёх.* Моталь Іван.

ГАЗІ́ВКА, ГАЗУ́ВКА, ГАЗЫ́ВКА II *ж.* Лёгкая газавая хустачка. *Якая твоя газівка хороша.* Гершоны Брэсц. *Вітэр трэплэ газувку, гляды, коб ны згубыла.* Кустын Брэсц. *Газывку зав'яжы на шыю.* Прылукі Брэсц.

ГАЗНЫ́К, ГЭЗНЫ́К *м.* Гл. газівка I. *Я запалыла газныка і пысала хлопцёвы пысьмо.* Заверша Драг. *Гэзнык горів тьмяно.* Хаціслаў Малар.

ГАЙДА́Й, ГАЙДА́Р *м. устар.* Табуншчык. *У гайдае наймаліса молодыі.* Сямігосцічы Стол. *Він добрый гайдар, усё на волах.* Макраны Малар. *Булы такыі гайдары, шо гонялы чужыі коны.* Хаціслаў Малар.

ГАЙДАМА́КА, ГАЙДАМА́ХА *м.* і *ж. экспр.* Высокі чалавек. *Дывэ, якэй гайдамака вэрос.* Субаты Драг. *Во якая гайдамаха пушла, всі дывытыся почалы.* Клятышча Кобр.

ГА́К *м.*, ГА́КА *ж.* 1. Спецыяльны крук для гною. *Гакі — то которы ірвуть гнуй у хліві.* Макраны Малар. *Коваль зробіў мне гаку для гною.* Угляны Бяроз. 2. Матыка. *Узяла гака і пайшла ў гарод да капусты.* Квасевічы Івац. *Баба з гакою пошла на дялку буракiв.* Моталь Іван.

ГА́КОВКА, ГА́КАЎКА *ж.* Матыка. *У нашом сэле все людзі копают бульбу гаковкамі.* Лінова Пруж. *Гакоўка наша затупілася.* Шылін Бяроз.

ГАЛАГУ́Т *м.* Певень з густым пер'ем на нагах. *Завыла мама того галагута, а він б'еццця.* Кустын Брэсц. 2. *перан. іран.* Фанабэрысты мужчына. *Гля, галагут пушов, зымлі ны чуе пуд ногамы.* Кустын Брэсц.

ГАЛА́ТКА *ж.* Аладка. *На стол паставілі галатке.* Навасёлкі Бар.

ГАЛГІТА́ЦЬ *незак.* Казытаць. *Вельмі баіцца, калі пачнеш галгітаць его.* Лыскава Пруж.

ГАЛДА *ж.* Крык, гамана. *Наробылы галды на всэ сыло.* Знаменка Брэсц.

ГАЛДЭ́БА *м.* і *ж. экспр.* Высокі і худы чалавек. *То пушла цыла, настояшча галдэба. Тяжко будэ хлопця найты такого ж.* Арэхава Малар.

ГАЛЕ́ШЫНА, ГОЛЬШЫ́НА *ж.* Вольха. *Па берагах рэчкі расла галешына.* Навасёлкі Бар. *Зрубыв гольшыну.* Карсынь Іван. *Пташка звыла собі гныздо на гольшыны.* Дубіца Брэсц.

ГАЛЁНА *ж.* 1. Булачка. *Баба выняла з пэчы галёну і положыла.* Белаазёрск Бяроз. *Напачы галён.* Радастава Драг. 2. Коржык. *Напэчы, мамо, солодкіх галёноў.* Кабакі Бяроз.

ГАЛЁНЫ *мн.* 1. Карункі. *Трэба наложыць спонніцу з галёнамі.* Велута Лун. 2. Вышытая безрукаўка. *Мы выступалы в галёнах і фартухах.* Моталь Іван.

ГАЛУБКІ́ *мн.* Незабудкі. *Назбіралі ў букет галубкоў.* Гарадзішча Лях.

ГАЛУ́ЗА *м.* і *ж.* Неахайны чалавек. *Ну й галуза, завшэ мурзатый.* Міжлессе Бяроз.

ГАЛУ́ШКА *ж.* Булка. *Матэ спыкла смачну галушку.* Гаравіца Драг.

ГАЛЬ *ж.* Гала; адкрытая, бязлесная прастора. *Там почынаеца галь, лісу совсім нэма.* Хацíслаў Малар.

ГА́ЛЬБА, ГА́ЛЬВА *ж.* 1. Пятля на ярме, у якую ўстаўляецца дышаль. *На паворніцы посэрэдіне — гальба, скручвалася з дуба і накладаваласа на дышэль.* Велута Лун. 2. Скручаныя дубцы, якімі звязвалі бярвенні. *Гальвы скручвають рублі.* Дружылавічы Іван.

ГА́ЛЬВІНА *ж.* Гл. галь. *Тую гальвіну воком ны обхватыш.* Ладараж Пін.

ГА́ЛЬКА *ж.* 1. Жаночая сарочка з карункамі. *У мэі бабы колыся була галька.* Какорыца Драг. *Хорошые мохры ты к гальцы прышыла.* Дзятлавічы Лун. 2. Ніжняя спадніца з карункамі. *Бабы одягають під спід галькы, сподныця тоды добрэ выглядае.* Кустын Брэсц. *Пододіла гальку під спудныцю.* Маларыта. *Гальку в нашым сылі носыть тылько вжэ одна тітка, шо з Росеі прыйіхала.* Закозель Драг. 3. Камбінацыя. *Моя суседка купыла нову гальку, хорошу, капронову.* Рыкавічы Жабін.

ГАЛЯ́ТЫ *незак.* Не рабіць нічога карыснага. *Цілый дэнь дэсь галяв, нычого ны зробыв, шчо просыла.* Хрысцібалавічы Пін.

ГА́НАВЫЦІ, ГАНАВЫ́ЦЫ, ГАНАВЭ́ЦЭ *мн.* Нагаві-

цы. *Маты купыла батьковы новы ганавыці.* Рагадашч Іван. *Ганавыцы сохлы на гуры.* Клейнікі Брэсц. *Розодрав ганавэцэ.* Саха Драг.

ГАНДАРА́К *м.* Андарак. *В бабы шэ будэ в скрыні гандарак.* Закозель Драг. *Кулысь худылы в гандароках.* Ялач Драг.

ГА́ПЛЯ *ж.* 1. Пятля, на якую вешаюць адзенне. *Гаплю трэба зразу зробыты і прышыты, бо як вішаты будэ?* Валішча Пін. *Маты зробыла гаплю завылыку, вылазыть, торчыть.* Кустын Брэсц. 2. Аплік. *Чы е у вас белые гаплі?* Жычын Бяроз. *Памянш.* гапелька, гапэлька. *Прышыла гапэльку до швэдра.* Кустын Брэсц.

ГА́РА *ж.* Воз для перавозкі бульбы. *Гара повна картоплюв.* Літоўск Драг.

ГАРАБЕ́ДА *ж.* Невялікая колькасць. *З болота трэба хоч гарабеду сена прывесты.* Міжлессе Бяроз.

ГАРАБЕ́Й *м.* Верабей. *Мы злавілі гараб'я.* Гарадзішча Лях. *Под стрыхою у нашое хаты гарабей звіў гнездо.* Заліпенне Лях.

ГАРАБІ́НА, ГАРАБЫ́НА *ж.* Рабіна. *Літошня гарабіна добрэ цвіла.* Плехава Іваң. *Гарабына ужэ цвітэ.* Ляхаўцы Малар.

ГАРАБО́К, ГАРАБУ́К *м.* Гл. гарабей. *Селі гарабкі на кучу соломы.* Заполле Лях. *Гарабукы коло хаты крутяцця.* Хацíслаў Малар. *Памянш.* гарабушок, гарабэшок. *На вышні сыдів гарабушок.* Опаль Іван. *Гарабэшкы зімою у стрэхі хаваюцца.* Валішча Пін.

ГАРАМА́ХА *ж.* Крывая галіна. *Одріж тую гарамаху.* Кустын Брэсц.

ГАРАМА́ЧЧЭ *н. зборн.* Ламачча. *У лісэ було много гарамачча.* Клятышча Кобр.

ГАРА́ПА *ж.* Бізун. *Быты коня гарапою можэ і дурэнь.* Хацíслаў Малар.

ГАРА́ПНЫК *м.* Тое ж. *Гарапныка ны згубы по дорозі.* Дастоева Іван.

ГАРАХОВА́ТЫЙ, ГОРОХОВА́ТЫЙ *прым.* Кучаравы. *У сыло до нас прыіхав гараховатый огроном.* Карсынь Іван. *Еі хлопыць такый гороховатый, як дівчына з парыкмахерскыі.* Хацíслаў Малар.

ГА́РАХЫ *мн.* Валасы. *У його гарахы уюцца самы.* Крамно Драг.

ГАРА́ЦЬ, ГОРА́ТЫ *незак.* Араць. *Гараць і касіць мне прыйшлося, бо рана памёр мой чалавек.* Гута Лях. *Гораты тяжко.* Кустын Брэсц.

ГАРА́ЧКА *ж.* Тэмпература. *Гарачка ў яе була аж ля сарака.* Паланэчка Бар.

ГАРБУ́ЗІК *м.*, ГАРБУ́ЗІКІ *мн.* Насенне гарбузоў. *Насушыла рукаў гарбузікоў.* Лахаўка Лун. *Падымі гарбузік, параскідаў па хаце.* Лыскава Пруж.

ГАРГІ́НЯ *ж.* Вяргіня. *Гаргіня ростэ в городы.* Шэбрын Брэсц.

ГАРЕ́ЛІКІ *мн.* Прыгаркі. *Гарелікі скіну, а картоплі зарэка патаўку.* Магіліцы Івац.

ГА́РКАЦЦА *незак. экспр.* Сварыцца. *Эх, займецца божы дзень, то Кацерыну ўжэ чутно, почынае з усімі гаркацца.* Люсіна Ганц.

ГАРМУ́ЗЫТЫ *незак.* Цягнуць на ваніты. *Його гармузыло.* Перавысь Малар.

ГАРНА́Ч *м.* Збанок. *Сестра наліла молока у гарнач.* Мікашэвічы Лун.

ГА́РНЕЦ, ГА́РНЭЦЬ *м.* 1. Драўляная (з клёпак або выдзеўбаная), часам сплеценая з саломы пасудзіна, якой вымяралі сыпкія рэчывы. *Він взяв добрый гарнец жыта.* Скокі Брэсц. 2. Шкляны посуд ёмкасцю каля трох з паловай літраў. *У гарнэць п'ять бляшок уходыло.* Забалацце Малар.

ГАРНІ́З *м.* Карніз. *Купыла в новую хату новый гарніз.* Ляхаўцы Малар.

ГАРНУ́ШАК *м.* Маленькі чыгунок. *Прыгожы гарнушак ты сабе купіла.* Востраў Лях. *Гуляй, гуляй, пане дружку, кыпыть каша у гарнушку.* Олтуш Малар.

ГАРО́НКІ *мн.* Карункі. *У нашым сяле дзеўкі ўмеюць вельмі хвайные гаронкі браць.* Хатынічы Ганц.

ГАРСЕ́Т, ГОРСЭТ *м.* 1. Ватоўка без рукавоў. *Гарсет быў у яе цёплы.* Нецеч Бар. 2. Камізэлька. *Горсэт такы хорошы, з брыжамы.* Павіцце Кобр.

ГАРУ́НКА *ж.* Карункавая кайма. *Якую хорошу гарунку сама звязала.* Навасёлкі Кобр.

ГАРЦ *м.* Кубак. *Побылы гарца нового.* Юнішчы Стол.

ГАРЦОВА́ТЬ *незак. экспр.* Гуляць. *Шчоб другі раз нэ гарцоваў до поўночы.* Узляжжа Стол.

ГАРЭ́Я *ж.* Разбэшчаная кампанія. *Зноў пайшла у тую гарэю, пропадзе молодзіца.* Бакуны Пруж.

ГАРЧЯ́ТЫ *незак.* Злосна вурчаць. *Гарчяв нічну собака, хтось ходыв по дворі.* Корчыцы Кобр.

ГАРШЧЭ́ЧНІК *м.* Вілкі. *Усе гаршчэчнікі стаялі ў кутку каля печы.* Калоднае Стол.

ГАСТРЫНЯ́ *ж.* Лязо. *Гастрыня вылупілася.* Клепачы Пруж.

ГАТО́К *м.* Запруда. *Ужэ болото гаткамы пэрэгородылы.* Гальцы Стол.

ГАХ *м.* 1. Ганарлівец. *До чого з сыбэ такого гаха гнуты.* Сіманавічы Драг. 2. Каханак. *Вжэ пошов до іїі тышком гах, думае, што ныхто ны бачыть.* Скокі Брэсц.

ГАЧО́К *м.* Матыка. *Быз гачка полоты буракы вэльмы гытько.* Дзеткавічы Драг.

ГБА, ГУБА́, ГЫБА́ *ж.* Губка палатна або асновы. *Я насновала одну гбу.* Ляхаўцы Малар. *Кылько губ выткала?* Дзмітравічы Кам. *Дзьві гыбі выткаты цяжко.* Сварынь Драг.

ГЕЗУ́Н *м.* Авадзень. *На тэлушку напалэ гезунэ.* Арэхава Малар.

ГЕ́ЛЬНЯ *ж.* Сплецены з лазы кузаў воза, санак. *Коб ны гельня, то пыску ны навозыв бы.* Какорыца Драг.

ГЕ́НДЭ, ГІ́НЬДЭ, ГО́НДЭ *прысл.* Там. *Гендэ коровы ходять.* Павіцце Кобр. *Гіньдэ шось чырніе, мусыть, хтось ідэ.* Какорыца Драг. *Гондэ лыжыть кніга.* Высокае Бяроз. *Гондэ напысав ныправільно.* Лука Кобр.

ГЕ́НЦАР, ГЕ́НЦЁР, ГЕ́НЦЮР *м.* Вялікі буталь, звычайна аплецены. *На стулі стоіть генцар.* Пелішча Кам. *Змэны воду у генцёры.* Сігневічы Бяроз. *То вжэ як генцюр, то відомо, шо оплэтяный.* Забалацце Малар.

ГЕ́ТКО, ГІ́ЦЬКО *прысл.* Дрэнна, гадка. *Зусім гетко юму порадыв.* Гаравіца Драг. *Гіцько напісаў у сшытку.* Бор-Дубенец Стол.

ГЕТЬ, ГЭТЬ *прысл.* 1. Там, вунь там. *Геть пошов чоловік.* Высокае Бяроз. 2. Зусім. *Геть подобная на батька.* Знаменка Брэсц. *Хлопэць вжэ гэть здоровый.* Мацііевічы Жабін.

ГЕ́ЧКА, ГІ́ЧКА *ж.* Бацвінне. *Гечку обломалэ і склалэ в кучку.* Перавысь Малар. *Тягны за гічку, тягны, коб ны одорвалася.* Скокі Брэсц.

ГІЗУ́НТЫ, ГЫЗУ́НТЫ *мн.* Вантробы. *Гізунты, гушкі я не ем.* Запроссе Лун. *Вытягнэ вжэ всі гызунты на той роботі.* Кустын Брэсц.

ГІЛЯ́РА *ж.* Дашчатая лодка з вострым носам. *Мэ возэлыса на гілярэ.* Востраў Пін. *Дай мні свою гіляру пойіхаты на рыбу.* Гальцы Стол.

ГІ́МЭЛЬ *м.* Карак. *Дам у гімэль, то бульш ны захочэ.* Хомск Драг.

ГІ́НЧЫ *займ.* Іншы. *Гінчы раз бывае вэльмі нудно.* Навасёлкі Пруж.

ГІРА *ж.* Валасы. *У хлопця кучарява гіра.* Казішча Кобр.

ГІРДЗЁЛКА ж. Горла. *Нешто у гірдзёлку папала, аж папярхнулася.* Гошчава Івац.

ГІЦАЛЬ, ГЫЦЭЛЬ *м. абразл.* Нягоднік. *Той гіцаль ніц ні зробіць, не бойся.* Плехава Івац. *Во гэты гыцэль у чужэй сад лазыв.* Сулічава Драг.

ГІЧАННЕ *н.* Гл. гечка. *Буракі то малыя, а гічанне унь якое.* Востраў Ганц. *Ідзі прынесі гічанне.* Купаўцы Лун.

ГІЧАННІК *м.* Тое ж. *За сённяшнюю ноч гічаннік увесь зваляўся.* Кукава Ганц.

ГЛАБЫНА, ГРАБЫНА *ж.* Драбіна. *Глабыну постав добрэ, а то солома ростэрушыцца.* Спорава Бяроз.

ГЛЕЁВЫНА *ж.* Глеістая зямля. *Глеёвына на ярыну хороша.* Макраны Малар.

ГЛУШОК *м.* Канец асновы. *Глушок — той конэць, шчо кончають сноватэ. Дэ пасма лічать — там чыны, а другі конэць — глушок.* Сварынь Драг.

ГЛУШМАН *м. абразл.* Глухі чалавек. *Хоць як скажы, то той глушман не чуе.* Цераблічы Стол.

ГЛЫВКІ *прым.* 1. Дрэнна выпечаны. *Глывкі хліб в тэбэ.* Страдзеч Брэсц. 2. Слаба скручаны. *Глывка нытка ідэ на рушныкы.* Радзеж Малар.

ГЛЫНКА *ж.* Мел. *Пэрэд святамы білять хату глынкою.* Цюхінічы Брэсц.

ГЛЭЗОВАТЫ *прым.* Дрэнна выпечаны. *Якэйся вдався хліб глэзоваты.* Павіцце Кобр.

ГЛЭШЫК *м.* Маленькая чарачка. *Шчо ж з сего глэшыка пыты. Сюды умышчаецца стуко, скуко кут наплачэ.* Радзеж Малар.

ГМІНА *ж.* Камісія. *У колхос «Победа» прыехала гміна.* Бакуны Пруж.

ГНОЁВЫЛА, ГНОЁВЭЛЭ, ГНУЮВЫЛА *мн.* Вілы, якімі выкідаюць гной. *Гноёвыламы накыдають гный.* Вавулічы Драг. *Матэ пошла позычэтэ до сусіда гноёвэлэ.* Туляцічы Іван. *Гнуювыламы у нас называють вылкы, якымы гный кыдають.* Крытышын Іван.

ГНЫДНЫК *м.* Свінакроп. *Нарвала гныдныку для свынэй.* Бусні Жабін.

ГНЫЛЬ *ж.* Хвароба дрэва. *Чы то гныль, чы то рак схватыв грушу.* Хмелева Жабін.

ГНЫЛЕЦЬ *м.* Хвароба пчол. *Одного року на пчол напав гнылець.* Макраны Малар.

ГНЭНУТЫ, ГНЭНУТЭ *зак.* Стукнуць, ударыць. *Конюх гнэнув коня дубынкыю.* Трудавая Іван. *Ідэ з гочэй, бо зарэ гнэну тыба.* Брашэвічы Драг.

ГОВАС *м.* Авёс. *У колхозэ вродэв добрэ говас.* Парэчча Пін.

ГОВОД *м.* Авадзень. *Ну й говодыв много, зусім закусалы скотыну.* Ляхавічы Драг.

ГОВСЯНЫЙ *прым.* Аўсяны. *На полы осталася говсяна солома.* Гершоны Брэсц.

ГОГУТ *м.* Гл. галагут. *Ранэнько-ранэнько заспывав гогут.* Маларыта.

ГОДЭЖА *ж.* Адзенне. *На ёму була чыста годэжа.* Карсынь Іван.

ГОЙДАЛКА *ж.* Гушкалка, арэлі. *Поміж ліпамі была наша гойдалка.* Лінова Пруж. *Ужэ дід своім унукам і гойдалку зробыв.* Гальцы Стол.

ГОЙДАШКА *ж.* Тое ж. *Ду самого вэчура гойдалысь діты на гойдашцы.* Клейнікі Брэсц.

ГОЙМАН *м.* Чалавек вялікага росту. *Ходыть той гойман, над головамы бачыть.* Карсынь Іван.

ГОЙНЯ *ж.* Зграя. *Войчу гойню бачылі у тым колгозі.* В. Малешава Стол.

ГОКНО *н.* Акно. *Гокна в гэтуй хаты вэльмы высокы.* Пугачова Брэсц.

ГОКО *н.* 1. Вока. *Гоко болыть.* Гершоны Брэсц. 2. Адтуліна ў жорнавым камені. *Ны сып повнэ гоко, будэ чырыз вэрх сыпатыся.* Ляхавічы Драг.

ГОКУНЬ *м.* Акунь. *Мо зловэмо гокуня.* Востраў Пін.

ГОЛГІТКІ *мн.* Казытанне. *Вельмі ж баюса голгіткаў.* Лыскава Пруж.

ГОЛЕГА *м.* Сябар. *До войны воны булы голегамы.* Моталь Іван.

ГОЛЕКА *ж.* Галіна. *Дід з хлопчыком нысе голекы.* Кавярдзякі Брэсц.

ГОЛЕЧЧЭ *н. зборн.* Галлё. *Сухое голеччэ валялося под ногамы.* Шэбрын Брэсц.

ГОЛІЙ *м.*, ГОЛЫВА *ж.* Алей. *Голій прывызлы в магазін, трэба і собі купыты.* Ляхавічы Драг. *Голыва вжэ трохы горэныть.* Гершоны Брэсц.

ГОЛІЙНЫЦЯ *ж.* Посуд, у якім трымаюць алей. *Іды додому, прыносы голійныцю і набэрэмо голію.* Ляхавічы Драг.

ГОЛОБЛІ *мн.* Аглоблі. *Коло воза лыжать новы голоблі.* Ляхаўцы Малар.

ГОЛОВІ́ЦА, ГОЛОВЫ́ЦА *ж.* Адборнае зерне. *Головіца — самэ крупнейшэ зерно.* Харомск Стол. *Головыца — то добрэ жыто.* Лапацін Пін.

ГОЛОВКІ́ *мн.* Канец засеянага ці ўзаранага поля. *Зыйшла корова на головкі.* Макраны Малар.

ГОЛОДНЭ́ЦЯ *ж.* Галалёд. *Зэмою нэ було голоднэці.* Арэхава Малар.

ГОЛО́ДНЯ *ж.* Голад. *Такая вжэ голодня була у войну.* Сулічава Драг. *Голодня була в тыі часы.* Прылукі Брэсц.

ГОЛОТЭ́ЧА *ж.* Галеча. *Голотэча в хаті була, діток богато, а йісты ныма чого.* Матыкалы Брэсц.

ГОЛОШЧО́К *м.* Галалёд. *В вэлікі голошчок, ныхто ны можэ пройты сэлом.* Дастоева Іван.

ГОЛУБЦЫ́ *мн.* Звараная ачышчаная бульба. *Налася ў смак голубцоў з малаком.* Лахаўка Лун.

ГО́ЛЫ *прым.* Аднародны, без прымесі. *Гэто нэ суп, а гола вода.* Сулічава Драг. *Пэкла з голой мукі.* Горталь Івац.

ГОЛЬЁС *м.* Балота, парослае хмызам. *За сэлом почынаецца гольёс.* Парахонск Пін.

ГОЛЯ́, ГУЛЕ́ *часц.* Але, так. *Голя, ён выцяў мяне.* Навасёлкі Бар. *Гуле, прыбыжу потом.* Лінова Пруж.

ГОМО́ЛЯТЫ *незак. экспр.* Марудна есці. *Довго ты там будэш гомоляты?* Кустын Брэсц.

ГО́МОНІ́ТЫ, ГОМОНІ́ЦЬ *незак.* 1. Гаварыць. *Годзі, ты гомоніш без толку.* Перунова Лун. *Почуў, шо гомоняць у хаці.* М. Малешава Стол. 2. Шумець. *Довго гомонілы на дворі, колы стыхлы, ны чула, бо стомляна хутко заснула.* Лышчыцы Брэсц.

ГОМОНКІ́ *прым.* Гаваркі. *Вона гомонкая баба, умее гомоніць.* Альшаны Стол.

ГОНЁНДЭ *прысл.* Вунь там. *Гонёндэ будуть робыты клуба.* Радаўня Іван.

ГО́НДЫЧКА *прысл.* Вось тут. *Гондычка воны сыділы.* Псычава Іван. *Вашэ тыле гондычка ходыло, я бачыла.* Цвярдоўка Пін.

ГОНОЗА́ *ж.* Заедзь. *Гоноза напала на статок.* Парэчча Пін.

ГО́НЧКА *ж.* Плот са сплаўнога лесу. *Мы як плавім, звяжэм чотырі колоды, то гончка.* Велута Лун. *Стоіш на гунці і попіраешся ляскою.* Здзітава І Бяроз.

ГОПА́ЛКЫ *мн.* Апалушкі. *У коморы стоять гопалкы.* Радаўня Іван. *Позыч свойі гопалкы, хочу пэрэсіяты кру́пы.* Лышчыцы Брэсц.

ГО́РАНЬ, ГО́РЫНЬ, ГО́РЭН *м.* 1. Мулінэ. *Зара горань лежыць у магазіне.* Палонка Бар. *Як пойідэш у Дорогычэнь, то купы мні зылёного горыню, бо ныма чым вышываты вжэ.* Закляценне Драг. *Шчэ і зарэ в многых сёлах горынём нашывають разные букеты.* Какорыца Драг. *Цяпер у анучніка вельмі многа горэну.* Калоднае Стол. 2. Баваўняныя ніткі, што ішлі на ўток пры тканні. *Рушыкі наткaнэ горэнем.* Адрыжын Іван.

ГОРЕ́ХВА *ж.* 1. Абруч. *На колодіці на концох горехвы.* Гарадная Стол. 2. Абшыўка воза — кольцы рознай шырыні. *Горехва накладаецца, шоб вуз нэ роскідавса.* Гарадная Стол.

ГОРО́ХВЫННЕ, ГОРО́ХВЭННЕ *н.* Гарохавінне. *Горохвынне трэба спалыты чы кынуты пуд хлів.* Гершоны Брэсц. *Горохвэннем накрэлэ картоплі.* Брашэвічы Драг.

ГО́РПА *ж.* Свірэпа. *Ну і горпы на полі! Поле заросло горпою.* В. Малешава Стол. *Памянш.* г о р у п к а. *Нарвы горупкы свынюм.* Хацíслаў Малар.

ГОРЧА́К, ГУРЧЕ́К *м.* Драсён. *Свыны нэ хочуть істы горчаку, бо вун гуркый.* Спорава Бяроз. *Дросён або гурчек, то тое самэ.* Хацíслаў Малар.

ГОСЛІ́Н, ГОСЛЫ́Н, ГУСЛО́Н *м.* Услон. *Коло стола стоіть гослін.* Радаўня Іван. *На хаты стояв шэ зробляный дідом Мыхалком гослын.* Вулька Дастоеўская Іван. *На гуслоны сыдять госты.* Крытышын Іван.

ГОСЫ́НА *ж.* Асіна. *На госыны спав лыст.* Карсынь Іван. *Гонде ростэ госына.* Ляхаўцы Малар.

ГО́СЫПКА *ж.* Матыка, якой асыпаюць бульбу. *Госыпкыю там осыпала картоплі.* Заверша Драг.

ГО́Т'Я *прысл.* Вунь там. *Гот'я побіг заец.* Радаўня Іван.

ГРА́БЛЫСКО *н.*, ГРА́БЛЫШЧЭ *н.* 1. Грабільна. *Зробы граблыско, бо хутко трэба грабаты сіно.* Гершоны Брэсц. *Граблышчэ трэба коб було лёгкое.* Кустын Брэсц. 2. Папярочная планка ў граблях, у якую набіваюць зубы. *О, якыі роботныкы! Всі граблышча за літо повытрушчувалы.* Судзілавічы Бяроз.

ГРА́ДКА, ГРЯ́ТКА *ж.* Палічка для посуду. *Пастаў на градку чыстыя шклянкі.* Тартакі Бар. *Грятка завішана хвіранкою.* Прылукі Брэсц.

ГРАДКЭ́ *мн.* Штыкецiны. *Усадьбу огородэв новымэ градкамэ.* Завялёўе Драг.

ГРА́ДУГА *ж.* Вясёлка. *Ека градуга на нэбовы.* Павіцце Кобр.

4. Зак. 3716

ГРА́ДУС *м.* Радок, баразна. *Хай разорай конь ідзе, а не градусам.* Востраў Ганц. *І я ўжэ посадзіў бульбу ў градусы.* Люсіна Ганц. *Я восем градусаў картоплі прапалола.* Падлаззе Лях.

ГРА́НКА *ж.* Баразна. *У нас на полі дванаццаць гранок бульбы.* Цераблічы Стол.

ГРА́НЯ *ж.* Мяжа. *Ны пырыходь граню, вкосыты в сусіда лёгко, а в очы дывытысь як будэ.* Прылукі Брэсц.

ГРА́ПКІ, ГРЭ́ПКЫ *мн.* Граблі, якія прымацоўваюцца да касы. *Грапкі на кіссе ставлять.* Адрыжын Іван. *Вылочкы откыдають траву, грапкы — жыто.* Ляхавічы Драг.

ГРА́СІВКА, ГРА́СУВКА *м.* Матыка. *Нішо наша грасівка зусім тупая стала.* Парэчча Пін. *Возьмы свою грасувку.* Бярозавічы Пін.

ГРАСУВА́ТЫ, ГРАЦУВА́ТЫ *незак.* Акучваць, абсыпаць бульбу, гародніну. *Буракы грасовалы грасувкамы.* Бярозавічы Пін. *Картоплі пырыростають, трэба грацуваты.* Хмелева Жабін.

ГРА́ФКА *ж.* Шпілька. *Сачка зашпіліла графкою.* Шэйпічы Пруж. *Гузік вырваўса, сарочка росхрэсталаса. Вазьмі маю графку і зашпілі.* Бакуны Пруж.

ГРАЦ *м.*, ГРА́ЦА *ж.* Гл. грасівка. *Картоплі осыпаемо грацом.* Хмелева Жабін. *Дід пушов у гурод з грацом.* Пелішча Кам. *Гэта граца стала зовсім тупая.* Лелікава Кобр.

ГРА́ЦКА *ж.* Тое ж. *Картоплі выбыраімо грацкою.* Дружба Брэсц. *У сінюх стоіть грацка.* Гершоны Брэсц. *Батько наустрыв старую грацку.* Клейнікі Брэсц.

ГРАЦКЕ́ *мн.* Падстаўка ў выглядзе дошчачкі з жалезнымі зубамі, на якой чэшуць воўну. *Грацке — то, на чому вовну чэшуть самы.* Ляхаўцы Малар.

ГРАШО́ЎКА *ж. устар.* Вялікая іголка. *Грашоўка лежыць у куфры.* Запроссе Лун.

ГРОМА́ДА *ж.* Куча. *Сып бульбу ў громаду.* Жычын Бяроз. *Добра громада намолочана, поповіем.* Макраны Малар. *Памянш.* г р о м а д к а. *Наклады громаткы гною, потом ростырушымо.* Ляхаўцы Малар.

ГРУ́БА *ж.* 1. Невялікая пакаёвая печ. *Мы почалы топыты в грубы.* Моталь Іван. *Наша груба добрэ гріе.* Гаравіца Драг. 2. Вялікая печ з ляжанкаю. *Полезу я на грубу.* Навасёлкі Лях. *Нам свою грубу трэба роскідаты, тоды місця будэ більш.* Радзеж Малар. *Памянш.* г р у б к а. *Гурыв угонь у грубцы.* Клейнікі Брэсц. *Осталося зробыты грубку.* Белін Драг.

ГРУД *м.* 1. Узгорак, высокае месца. *На груду косылы.* Вулька Сіманаўская Драг. *Груд заріс вжэ совсім.* Шэбрын Брэсц. 2. Сена з высокага месца. *Прывызлы цілы віз груду коровам.* Кустын Брэсц.

ГРУДО́ВЫЙ *прым.* З высокага месца. *Грудовэ сіно пахнэ.* Прылукі Брэсц.

ГРУДО́ВЫНА *ж.* Сена з высокага месца. *Грудовыну добрэ ідять коны.* В. Шчытнікі Брэсц.

ГРУДЫ́НА, ГРУДЭ́НА *ж.* 1. Грудзі. *Нэшчо болыть грудэна.* Матыкалы Брэсц. 2. Мяса з грудной часткі тушы. *Грудына пошла в ковбасы.* Здзітава I Бяроз.

ГРУМНЫ́ЦІ *мн.* Грамніцы. *Колы на грумныці нап'еццял півэнь водыці, то на Юр'я наісця віл травыці.* Хмелева Жабін.

ГРУНТ I *м. устар.* Цяглавы надзел селяніна. *На сімню в нас грунт був, було пувгрунта.* Радзеж Малар.

ГРУНТ II *прысл.* Абавязкова. *Коб грунт прыіхав на свято.* Субаты Драг. *Тут грунт коб він на суду правду сказав.* Сулічава Драг. *Грунт хату поставяць.* В. Малешава Стол.

ГРУ́ЦА *ж.* Каша з ячных круп. *Груца была густая, смачная.* Запроссе Лун. *Была куцця, то на стол паставілі груцу.* Ліпск Лях.

ГРУШО́ВКА *ж.* Кампот з груш. *Дай напытыся грушовкы.* Хмелева Жабін.

ГРЫБЫ́НКА *ж.* Грабянец. *Вона стала пэрэд люстром і почала грыбынкою росчысватыся.* Боркі Пін.

ГРЫ́НЗА *ж. экспр.* Сварлівая жанчына. *Ну й грынза ж вона, бабы.* Бакуны Пруж.

ГРЫЦЬ *м.* Кулік. *Грыць высною прылытае.* Равіны Драг.

ГРЭБІ́НКА *ж.* Бралка. *Шла в ліс по ягодэ, нэ взяла грэбінку, Влэта свою дала.* Перавысь Малар.

ГРЭ́БЫНЬ *м.* Верх страхі. *Мыколай заліз на хату, на самый грэбынь.* Заверша Драг.

ГРЭ́ЙМА *прысл.* Хутка, рашуча. *Шчо за на іх, так і лецяць грэйма.* Цераблічы Стол.

ГРЭЧУ́ХА *ж.* 1. Грэчка. *Хороша ростэ грэчуха.* Лышчыцы Брэсц. 2. Блінец з грэцкай мукі. *Рошчыняють грэчаную муку рыдко, пічуть грэчуху.* Спорава Бяроз.

ГУБА́ *ж.* Чага. *На дзераве росце козяк, бы губа.* Чахец Пруж. *На нашый бырэзыны выросла губа.* Ляхавічы Драг. *На стволі чорнілы губы.* Астрамечава Брэсц.

ГУ́ГЕЛЬ *м.* Густы крупнік. *Смачного гугелю зварыла баба.* Запроссе Лун.

ГУЖ *м.* Вуж. *Мій сусід можэ взяты гуже в рукы.* Ляхавічы Драг. *Мніго гужів водэцця у нашому лісовэ.* Арэхава Малар.

ГУЖВА́ *ж.* Ліна. *Гужва ў тры лозіны круціцца.* Сінкевічы Лун.

ГУЖЕ́ЧЫЙ *прым.* Неядомы (грыб). *Гужечы грыб істы ны можно.* Хацілаў Малар.

ГУЖЫ́ШЧЭ *н.* Тоўстая вяроўка. *Шоб сіно ны роскыдалос, прыныслы гужышчэ і пырывязалы ім сіно.* Крытышын Іван.

ГУЗ, ГУЗЬ *м.* Гузік. *Одяг зашчыпають гузем.* Ляхаўцы Малар. *До каптана трэба прышыты гуза.* Дружба Брэсц. *Прышый другого гузя.* Саха Драг.

ГУЗДЫ́Р, ГУЗЫ́Р *м.* 1. Камель. *Добрую машыну дров прывіз, одны гуздырі.* Гальцы Стол. 2. Ніжняя частка снапа. *Шапка стоіць уверх гузыром.* Велута Лун.

ГУЛІ́ГА *ж.* Нарасць. *Во якая гуліга на бэрозі.* Сварынь Драг.

ГУКА́ЦЬ *незак.* Клікаць, зваць. *Гукаю, а вон не чуе.* В. Малешава Стол. *Гукаеш у грыбы?* Агарэвічы Ганц.

ГУЛІ́ШКА *ж.* Голень. *Змэрзла в мынэ гулішка.* Макраны Малар.

ГУ́ЛІЦЯ, ГУ́ЛЫЦА *ж.* Вуліца. *Нэ ходы на гуліцу.* Жычын Бяроз. *Наша гулыца вэльмы красіва.* Крытышын Іван.

ГУЛЬВІ́СНЫК *м. экспр.* Гарэзнік. *Був він такый вжэ гульвісник, шо світ ны бачыв.* Маларыта.

ГУЛЬТАІ́ *мн.* Бульба, звараная з лупінамі. *Гультаі трэба істы з сыллю.* Ляхавічы Драг.

ГУЛЬТЯ́Й *м.* 1. Гультай. *Гультяй такі ростэ.* Рыбнікі Стол. 2. *перан.* Труцень. *Гультяів в уллі много.* Спорава Бяроз.

ГУ́ЛЯ *ж.* Гузак. *Вын набыв собі вэлыкую гулю.* Моталь Іван.

ГУЛЯ́НКА *ж.* Пчаліны аблёт. *Выходять на гулянку пчолы.* В. Лес Драг.

ГУМО́ВЭЦЬ *м.* Самаробны галёш. *Пробыв новы гумовэць. На валёнкы найліпш гумовці, а ны купляны галёшы.* Хацілаў Малар.

ГУ́НЬКА *ж.* Фартух, зроблены з посцілкі. *На пырылазы вісыла гунька, маты рано копала бульбу.* Кулякі Іван.

ГУРКОВЫ́ННЕ *н.* Націна, лісце агуркоў. *Гурковынне вжэ посохло.* Гершоны Брэсц.

ГУРЧА́К *м.* Грузд. *Гурчакы трэба довго мочыты. В нас мало хто іх бырэ.* Хацiслаў Малар.

ГУ́СКА *ж.* Вадзяная лілія. *Гускі хорошы, хай ростуть.* Судзілавічы Бяроз.

ГУСТА́ВКА *ж.* Прошва. *На рукавах якые хвайные густавкы.* Вавулічы Драг.

ГУ́СЬЦЕ *н.* Вусце. *У нашай печы вэльмы нычогэ гусце.* Панкі Івац.

ГУ́ТКА *ж.* Вуда. *Він пойшов з гуткою на канал.* Ляхавічы Драг.

ГУ́ТОШКА *ж.* Гл. гойдалка. *Гутошку зробылы дітям, коб забавлетыся.* Тышкавічы Іван.

ГУ́ТА *ж.* Гл. губа. *На дэрывы було много гутув.* Макраны Малар.

ГУША́К *м.* Вушак. *Пытро стукнувса лобом об гушак.* Вулька Дастоеўская Іван.

ГЫЛЭ́НДЫТЫ *незак.* Пішчаць, нечага патрабаваць. *Чого тыбэ лыхо гылэндыть — вспійіш на той автобус.* Сіманавічы Драг.

ГЫ́МНЕ *н.* Вымя. *Пэрш, чым подоіты корову, вона завжды подмывала гымне.* Рагадашч Іван.

ГЭ́БЫ *часц.* Быццам. *Гэбы высна стала, потыпліло.* Ботава Пін.

ГЭ́БЭЛЬ *м.* Гэбель. *Лыжялы дошкі, струганые гэблём.* Макраны Малар. *Гэблём трэба поровняты.* Кустын Брэсц. *Памянш.* г э б л ы к. *Батько майстровав гэблыком.* Чарнаўчыцы Брэсц. *Гэблыка дэсь положыв, ны бачыла дэ?* Кустын Брэсц.

ГЭ́НЫЙ *м.* Іней. *Всё покрылося гэныём.* Саха Драг.

ГЭ́ПНУТЫ *зак. экспр.* Упасці з размаху, з грукатам. *Вчора так гэпнула на дорозі, поковзнулася.* Субаты Драг. *Гэпнуло шось в сенюх.* Кустын Брэсц.

ГЭРЛІ́НА, ГЭРЛЫ́НА *ж.* Спецыяльна звязаныя кулькі саломы на страху. *Гэрлінамы крыють хату.* Гершоны Брэсц. *З того куля робыцця шысть гэрлын.* Радзеж Малар.

ГЭ́СТКА *ж.* Гестка. *Гэстку уставыла, красіво получэлося.* Закозель Драг.

ГЭТАЛІ́ТО *прысл.* Летась. *Гэталіто була жара.* Арэхава Малар.

ГЭТОРІ́ЧНЫЙ *прым.* Сёлетні. *На стэні гэторічные карточкі.* Прылукі Брэсц. *Гэторічнэ сало товстое.* Шэбрын Брэсц.

ГЭ́ЦАТЫ *незак.* Скакаць. *І чого вона гэцае, дівка такая.* Дубай Стол.

# Д

ДАВНІШНІЙ *прым.* Даўні. *Слід выдно давнішній, бо вжэ травою заростае.* Ляхавічы Драг.

ДАГЛЕ́ДОК, ДО́ГЛЯДОК *м.* Догляд. *Старому трэба добры дагледок.* Стрыгінь Бяроз. *Чы ж то такі доглядок трэба маломy?* Шылін Бяроз.

ДАЙМЫНА́ТО *мад. слова.* Напрыклад. *Паша, даймынато, не любіць хадзіць у кіно.* Навасёлкі Бар.

ДАКО́ПКІ, ДОКО́ПКІ *мн.* Канец капання бульбы і святкаванне з гэтага выпадку. *Бабы, давайце кончым капаць на гэтым тыдні да справім дакопкі.* Востраў Ганц. *Докопалы картоплі, справымо докопкы.* Матыкалы Брэсц.

ДАЛЕ́ТА, ДОЛЕ́ТА *прысл.* На ляту. *Стрыляты тяжко долёта.* Ляхаўцы Малар.

ДАЛІКА́ТНЫ *прым.* Хваравіты. *Да ўрача трэба з'ездзіць, бо нейкі ты вельмі далікатны.* Малахоўцы Бар.

ДА́РМО *прысл.* Дарма. *Дармо ходыв навдогін.* Хаціслаў Малар.

ДАФІЛЯ́ДА *ж.* 1. Гулянне з танцамі. *Хадзілі вечарам на дафіляду.* Тартакі Бар. 2. Дэманстрацыя. *Школа пошла на дафіляду.* Клейнікі Брэсц.

ДАХНА́, ДОХНА́ *ж.* Дачка. *Мая дахна вучыцца ў Мінску.* Задуб'е Ганц. *Ой, дохна, як тяшко на світы жыты старому.* Міжлессе Бяроз. *Маты послала дохну в магазін.* Трудавая Іван.

ДАХТУ́РКА, ДОХТО́РКА, ДУХТО́РКА *ж.* Доктар жанчына. *Дужэ добрая наша дахтурка.* Мікашэвічы Лун. *Наша дохторка робіла проверку у школы.* Клятная Пін. *Дохторка ужэ п'ять літ у нас.* Міжлессе Бяроз. *Духторка чэрэз грезкэ булото добыралась до слабого.* Павіцце Кобр.

ДАЧЫ́НКА *ж.* Пляменніца. *Пайшлі, кума, да мае дачынкі.* Бакуны Пруж.

ДАШО́К *м.* Павець. *Літом мы спымо под дашком.* Макраны Малар.

ДБА́ЙЛЫВЫЙ *прым.* Гаспадарлівы. *Дбайлывый еі мужык, добрэ так жыты.* Хаціслаў Малар.

ДВУЯНЫ́ *мн.* Спарыш. *На грацы знайшла двуяны, нашчо вуны мні.* Камянюкі Кам.

ДЕ́ДЫНА, ДЗЯ́ДНА, ДЗЯ́ННА, ДЯ́ДЫНА *ж.* Дзядзькава жонка. *Дедына была у мэне добра.* Макраны Малар. *У тэбэ хороша дедына, так помогае.* Белін

Драг. *Дзядзьку, зрастуйце! А дзе дзянна?* Азярніца Лун. *Дядына жывэ поруч з намы.* Бусні Жабін.

ДЖА́ГА *ж.* Нажоўка. *Прынэсы мні маленьку джагу.* Харсы Брэсц. *Джага — то пілка з одною ручкою.* Гершоны Брэсц.

ДЖО́ГА *ж.* Высокая здаровая жанчына. *Джога і ззаду усэ бачыть і понысэ, як мужык.* Моладава Іван.

ДЖЫГАНУ́ЦЬ *зак.* Пабегчы вельмі хутка. *Яна як джыганула, толькі яе і бачылі.* Гарадзішча Бар.

ДЖЫРЫКОТІ́ТЫ *незак.* Стракатаць, трашчаць. *Сорока так джырыкотыть.* Хацíслаў Малар.

ДЗЕ́НЕКА *прысл.* Дзесьці. *Дзенека поклав торбу, не знайду ніяк.* Св. Воля Івац.

ДЗЕНЬ *прысл.* Тое ж. *Схавай граблі дзень пад корчом, покуль додому ісці.* Св. Воля Івац.

ДЗЁБАКЫ *мн.* Зубы матыкі. *Затупылыся шось дзёбакы.* Макраны Малар.

ДЗІЧО́ВІНА *ж.* Неапрацаваная зямля. *Дзічовіна — дзіке поле, нічоге поле, мало што на ім росце.* Харомск Стол.

ДЗУКО́ВІНА *ж.* Пярсцёнак. *Дзуковіну носяць на правой руцэ жонатые, а на левой холосьцякі.* Раздзялавічы Ганц.

ДЗЫГА́РОЦ *м.* Гадзіннік, звычайна ручны. *Купыв новы дзыгароц.* Камянюкі Кам.

ДЗЫ́ГАЦІ, ДЗЫ́ГАТЫ *незак.* 1. Скакаць. *Од радосці вон почаў дзыгаці.* Угляны Бяроз. *Дзыгнув братыхы хлопэць з воза, як прыйіхалы, то до вэчора дэсь тягався.* Корчыцы Кобр. 2. Пераскокваць праз што-н. *Дзыгнуў церас плот.* Магіліцы Івац.

ДЗЫГА́ТЫ *прым.* Высокі і тонкі. *Прыходзів сюды той дзыгаты хлопец.* Калоднае Стол.

ДЗЫГА́Ч *м. іран.* Цыбаты, даўганогі чалавек. *Ну і дзыгач Іваноў Валё. І ў каго юн такі ўрадзіўса.* М. Плотніца Пін.

ДЗЫГОНІ́ТЫ *незак.* Струменіць. *Вода з цэбра дзыгоныть, дэсь россохся.* Сіманавічы Драг.

ДЗЭ́НДАЛЬ *м.* Нясталы чалавек. *Дзэндаль на адном месці ні ўжывецца, дай яму пагуляць пабольш.* Востраў Ганц.

ДЗЮ́БОЧКА *ж.* Парастак. *Пророшчуваты трэба насінне. Садыты, колы вжэ е дзюбочкы.* Гершоны Брэсц.

ДЗЮГНА́ТЫ, ДЗЮГНА́СТЫ *прым.* Паласаты. *Дам*

*ему дзюгнатого пояса запяразаці.* Баброві́чы Івац. *Дзюгнаста посцілка.* Горталь Івац.

ДЗЯРУ́ГА *ж.* 1. Коўдра з грубага сукна. *Абдзявайся дзяругай, бо ў печы я не паліла.* Гута Лях. 2. Грубая саматканая посцілка. *Дзяругаю засланы ложак.* Навасёлкі Бар.

ДІ́ВКА *ж.* Немаладая незамужняя дзяўчына. *Гэндэ пушлы хорошы дівкы, хлопці чомусь мынають іх.* Павіцце Кобр.

ДІ́ВЛЯ *ж. пагард.* Дзяўчына. *Такая вжэ дівля, а глядыть, коб маты йісты дала.* Кустын Брэсц.

ДІ́ВЫР *м.* Мужаў брат. *Муй дівір тыпэр на охоту пушов ранынько, чуть світ.* Шэбрын Брэсц.

ДІ́НЬКАТЫ *незак. экспр.* Выдумляць. *Шчо мала діньКаты, то лучче помовчы.* Радчыцк Стол.

ДІСЕТУ́ХА, ДЫСЯТУ́ХА *ж.* Рэлігійнае свята пасля вялікадня. *Шчэ ныма ягуд чорных, бо шчэ ныма дісетухы.* Ляхаўцы Малар. *Свято у дысятую пятныцю пусля вэлыкодня зувеця дысятуха.* Макраны Малар.

ДОБІ́РКІ *мн.* Гл. дакопкі. *Колі бульбу добралі свою, то робяць добіркі.* Харомск Стол.

ДОБРО́ *н.* 1. Дабро. *Добро робыты людюм трэба.* Кустын Брэсц. 2. Маёмасць. *В хаті мніго добра.* Гершоны Брэсц. 3. Гародніна. *От хаты до хлыва гузынька стэжычка, а з одного і з другого боку добро.* Вулька Сіманаўская Драг. 4. Агульная назва збожжа. *Свое добро домолотыв, братовы помогчы трэба.* Сварынь Драг.

ДОВГА́СТЫЙ *прым.* Прадаўгаваты. *Довгастый хліб положы на полыцю, а круглый — в шафу.* Кустын Брэсц.

ДОВГОБРА́ЗЫЙ *прым.* Даўгатвары. *Такі дядько довгобразый, борода клыном торчыть.* Скокі Брэсц.

ДОВГОВЫ́ДЫЙ *прым.* Тое ж. *Вын круглый, чы довговыдый?* Вулька Сіманаўская Драг.

ДОВЖЭ́ЗНЫЙ, ДОВЗІ́ЗНЫЙ *прым.* Вельмі доўгі. *Довжэзного кыя прыніс, коб выдро достаты.* Лышчыцы Брэсц. *Вырос довзізный, а дытына дытыною.* Гутава Драг.

ДОГО́ДЛЫВЫЙ *прым.* Спагадлівы, уважлівы. *Догодлывого чоловіка одразу познаіш.* Хаціслаў Малар.

ДОЛЕГА́ЦЬ *безас. незак.* Нездаровіцца. *Коб не долегало, не лежаў бы так.* Цераблічы Стол.

ДОЛІ́ВКА, ДОЛО́ЎКА *ж.* Падлога. *Трэба нам долівку пырыстылаты.* Корчыцы Кобр. *Не садзі на долоўку дзіця, а то холодно.* Цераблічы Стол.

ДО́ЛЬКАТЫ *незак.* Бедаваць, наракаць на долю. *Шо ты, бабо, долькаеш, чы ж так тобі ныдобрэ жыты?* Гершоны Брэсц.

ДОМОЛО́ТКЫ *мн.* Канец малацьбы. *Вжэ хутко і домолоткы будуть.* Хмелева Жабін. *Домолоткы трэба отсвяткоaваты.* Макраны Малар.

ДОМОТКА́Н *м.* Спадніца з саматканага шарсцянога палатна. *У тэбэ хорошый домоткан.* Ботава Пін. *Зіна йшла до цэрквы у новум домоткані.* Бярозавічы Пін.

ДОПА́СЦІ *зак.* Дабіцца чаго-н. *Коб вэн да не мог допасці до лёгкой службы!* Св. Воля Івац.

ДОПІ́РУ, ДОПЭ́РО *прысл.* Цяпер. *Прыходыла до мэнэ сусідка і сказала, шчо допіру брыгадір заказав на роботу.* Выжлавічы Пін. *Допіру от вун пойшов дохаты.* Радчыцк Стол. *Допэро прыйду, чого ты так роскрычаўса?* Кабакі Бяроз.

ДОРЭ́ЧНЫЙ *прым.* Прыгожы. *Гэта дівчына такая дорэчна завжды.* Астраўляны Кобр.

ДО́СІВКЫ *мн.* Заканчэнне асенняй сяўбы. *Колысь досівкы проводылы часто.* Ляхаўцы Малар.

ДОСТІГА́ТЫ *незак.* Даспяваць (пра збажыну). *Жыто вжэ достігае.* Макраны Малар.

ДОТУ́РКАТЫСЬ *зак. экспр.* 1. Дасягнуць, дабіцца. *Аж до сэльсовета дотуркався.* Кустын Брэсц. 2. Дабудзіцца. *Ныяк его ны дотуркаюсь, так заснув.* Лышчыцы Брэсц.

ДОЎБЭ́НЬКА *ж.* Вялікі таўкач. *Доўбэнькою тоўкуць свінням бульбу.* Раздзялавічы Ганц.

ДОШЧІ́ВКА, ДОШЧУ́ВКА *ж.* Дажджавая вада. *Дошчівкою добрэ голову мыты.* Кустын Брэсц. *Дошчувкі корыто стоіть, швэдра трэба вымыты.* Шэбрын Брэсц.

ДРА́БА *ж.*, ДРА́БЫ *мн.* Лесвіца. *Купылы новую драбу на гору.* Ботава Пін. *Зробылы драбы, будэ добрэ лазыты.* Чухава Пін.

ДРАГЛІ́, ДРЫГЛІ́ *мн.* Халадзец. *Вчора маты наварыла смачных драглів.* Пажэжын Малар. *У каморы на полцы застывалі ў місках дрыглі.* Калоднае Стол.

ДРА́НКА I *ж.* Бульбяная бабка. *Якую смачную дранку прыгатавала сёння маці.* Калоднае Стол.

ДРА́НКА II *ж.* Лучына. *На прыпечку дагарала дранка.* Варанілавічы Пруж.

ДРА́НКА III *ж.* Посцілка. *Ты выткала вжэ нову дранку?* Ботава Пін. *Дранка твоя хорошая.* Трудавая Іван.

ДРАПА́К, ДРАПКА́Ч, ДРАПА́Ч *м.* 1. Змецены венік. *Возьмы драпака і потры пудлогу.* Шэбрын Брэсц. *На кота полецеў драпкач, маці кінула.* Калоднае Стол. *Дзеўчына драпкачом подмэтала двора.* Лядзец Стол. *Такым драпачом і ны пробуй замытаты.* Хлевішча Кам. *Там коло вугла драпач стоіть, пудмэты двора.* Ляхаўцы Малар. 2. Драўляная барана. *На досцы п'яць пальцоў, зуб'еў — такі драпач.* Харомск Стол. *Коб поволочэтэ картоплі за одэн дань, ны хватало два драпакэ.* Туляцічы Іван. *На колхознум полі стояв трактор з драпкачом.* Церабяжоў Стол. 3. Матыка з доўгімі зубамі. *Драпачэм мотычать картоплі.* Вавулічы Драг. *Пуломався зуб в драпаковы.* Макраны Малар.

ДРАПАКІ́ *мн.* Вілы для гною. *То драпакі, шчо рвалы гнуй.* Радзеж Малар.

ДРАПА́ЧЫТЫ *незак.* Рыхліць зямлю. *Перэд севом драпачылі землю.* Харомск Стол.

ДРА́ПКІ, ДРА́ПКЫ *мн.* Кутасы. *Трэба зробыты драпкы до настылныка.* Агдэмер Драг. *Простые драпкы в'яжэмо рукамы.* Спорава Бяроз.

ДРАПЛЯ́НКА *ж.* Скараспелая бульба. *Трэба драплянкі купіць і завесці ў нас дома.* Паланэчка Бар.

ДРАПУ́ЗЬ *м.* Пазногаць. *Одрыж свої драпузі, а то бы в кута.* Глінка Стол.

ДРА́СКА *ж.* Трэска. *Коло хлева лежалі драскі.* Навасёлкі Пруж.

ДРАЦІ́НА, ДРОТЫ́НА *ж.* 1. Дрот. *Драціну прыбяры з дорогі.* Палонка Бар. *На дротыны вісыть вэдро.* Сакалоўка Пін. 2. Качарга з дроту. *Погортай драціною вуголле.* Парасляны Пруж.

ДРАЧ *м.* Гэблік. *Подрачуй драчом доскы, шчоб шчыльно прылягалы.* Хмелева Жабін.

ДРА́ЧА *ж.* Блізарукасць. *В его драча, окуляры з маленькосці носыть.* Сварынь Драг.

ДРАЧО́ВАТЫЙ *прым.* Блізарукі. *Чоловік драчоватый, ны бачыть здаля.* Сварынь Драг.

ДРОБОЗА́ *ж.* Дробязь. *Гуркы марны, дробоза одна, солыты ныма ек.* Сварынь Драг.

ДРОБЫ́НКА *ж.* Невялікая колькасць. *Вона взяла дробынку хліба.* Высокае Бяроз.

ДРОВІ́ТКА, ДРОВІ́ТНЯ, ДРУВІ́ТНЯ *ж.* Дрывотня. *Дровыма ты завалыв всю дровітку.* Харсы Брэсц. *Сокіру з дровітні забэры.* Гальцы Стол. *Быжэ на друвітню, назбырай трысок.* Харсы Брэсц.

ДРОГО́МІЖ *м.* Дарожны майстар. *Дрогоміж строіць дорогі.* Цна Лун.

ДРО́ПКА *ж.* Дробны торф. *Няма чым паліць у мяне. Адна дропка засталася.* Навасёлкі Пруж.

ДРУ́ЖКА *ж.* Сяброўка маладой на вяселлі. *В хаты осталася пэрша дружка.* Гершоны Брэсц. *На высіллі було много дружок.* Яечкавічы Іван.

ДРУ́ЧЭ, ДРУ́ЧЧЭ *н. зб.* Сучча. *Батько прывіз driччэ обгородыты города.* Пажэжын Малар. *Послалы по друччa обгородытыся.* Замшаны Малар.

ДРЫБОТІ́ТЫ *незак.* Дрыжаць. *Дрыботів под двырыма, покы хату одчынылы.* Кустын Брэсц.

ДРЫГОЛІ́ТЫ *незак.* Тое ж. *Дві годыны дрыгулів, покы тыбэ диждався.* Бусні Жабін.

ДРЫГУ́ХА *ж.* Халадзец. *Дрыгуха была вельмі смачная.* Альгомель Стол.

ДРЫ́ЖКА *ж.* Тое ж. *Подалі смачну дрыжку, варылі з голёнок.* Рубель Стол. *Дрыжка захолодала у талерцы.* Давыд-Гарадок Стол.

ДРЫЛЁВА́ТЫ *незак.* Цягнуць волакам лес. *На будівлю ліс дрылюім.* Шэбрын Брэсц.

ДРЫН *м.* Кій, палка. *Нэма на тэбэ доброго дрына.* Хойнікі Бяроз. *Ідзі одсюль, коб і вочы не бачылі, бо як возьму гэтого дрына, да як выежджу, то век будзеш помніць.* Люсіна Ганц.

ДРЫСЕ́ЛІК *м.* Аладка на дражджах. *Не пячы тоўстых дрыселікаў.* Навасады Бар.

ДРЭБЫ *мн.* Басаножкі. *У прылаўцы стаіць многа дрэбаў, накуплялі мае хварсухі.* Заліпенне Лях.

ДРЭ́КАТЫ *незак.* 1. Невыразна гаварыць, чытаць. *Хоть хлопчык і дрэкав, но мы ёго добрэ понімалі, про шчо він росказвав.* Хрысцібалавічы Пін. 2. Картавіць. *Так дівчына дрэкае, аж шкода.* Кустын Брэсц.

ДРЭ́НІНА, ДРЭ́НЫНА *ж.* Цаліна ці аблога. *Поoралі грутка, дрэніну выробів на полэ.* Лукава Малар. *Там була дрэ́нына, тыпэр просо посіялы.* Субаты Драг.

ДРЭ́НЧЫТЫ *незак.* Мучыць. *Другый дэнь кашэль дрэнчыть.* Маціевічы Жабін. *Покынь дрэньчыты кота.* Кустын Брэсц.

ДУБ *м.* Вялікая дашчатая лодка. *Дуб по оззры плывэ.* Велямічы Стол. *Дуб робяць с кокорамі.* Харомск Стол.

ДУБЕ́ЛЬТЫ *мн.* Падвойныя аконныя рамы. *Трэба паставіць дубельты, холад пачынаецца.* Гарадзішча Лях.

ДУБНА́ТЫ, ДУБНЯ́ТЫ *прым.* Дуплаваты. *Мныго дубнатоі рэдіскы.* Падлессе Жабін. *Стары дуб, але не дубняты.* Гошчава Івац.

ДУБКЫ́, ДЫБКЫ́ *прысл.* 1. Дыбам. *Валоссе поднялося дубкы.* Кустын Брэсц. 2. Дыбка. *Хоть стань дыбкы, нычого нэ будэ.* Корчыцы Кобр.

ДУБЦІ́ *мн.* Галлё, ламачча. *Тыі дубці трэба порубаты.* Кустын Брэсц.

ДУБЭЛЬТЫ́ВКА *ж.* Вялікая шарсцяная хустка. *Вона була в каптані, хорошый дубэльтывці.* Кустын Брэсц.

ДУДА́Н *м.* Сцябло. *В цыбулі дуданы тырчать.* Корчыцы Кобр. *Скажы, коб батько шчавух скосыв, бо дуданы вэлыкыі.* Матыкалы Брэсц.

ДУ́ДЫ *мн.* Макароны. *Наварыла дудаў з малаком.* Ласасіна Пруж.

ДУ́ЖЭ *прысл.* Вельмі. *Нешчо дужэ голова розболелася.* Св. Воля Івац.

ДУЛІ́НА *ж.* Палонка. *На лёт не ідзі, бо ў дуліну ўвалісся.* Любань Лун.

ДУ́НДЗІЦЬ *незак. экспр.* Ссаць. *Ніц есці ні хоча, а ўсё дундзіць цыцку.* Сасновы Бор Івац.

ДУПЛЯ́К *м.* Стары тып вулля, калода. *Вжэ зара рамочныі вуллі, а то булэ дуплякэ.* Сварынь Драг.

ДУ́ПЭЛЬ *м. экспр.* Чалавек малога росту. *Ну й дупэль, чого вун тут усе крутыцца, шов бы напэрод.* Радчыцк Стол.

ДУХ *м.* 1. Паветра. *З колыса дух вышов.* Арэхава Малар. 2. Задышка. *Став едушлывый, духу много, ныек ны вэдыхатэ.* Сварынь Драг. 3. Цяпло, цёплае паветра. *Много духу в хаты, оччыны окно.* Кустын Брэсц.

ДУ́ЧА *ж.* Лунка. *Вылыку дучу трэба зробыты на помыдоры.* Ляхаўцы Малар.

ДУШНЫ́К *м.* Адтуліна для паветра. *Чырыз душнык у баню проходыть свіжый воздух.* Ляхавічы Драг. *В склепові трэба одкрыты душныка.* Гершоны Брэсц.

ДЫВІ́ТЫСА, ДЫВЫ́ТЫСА, ДЭВЫ́ТЫСЬ *незак.* Глядзець. *Люблю дывітыса, як ты ідэш по воду.* Рудня Івац. *Чого ты на мынэ так дывыса?* Сасновічы Пін. *На кого тэ почав дэвытысь?* Закозель Драг.

ДЫВОЧУ́Р *м.* Хлопец, які часта бывае з дзяўчатамі. *Дывочур, дывочур, ты з дывкамы ны ночуй, тэбэ дывкы продадуть, тобі грошы ны дадуть.* Хмелева Жабін.

ДЫЖА́ *ж.* Бочка на сала. *Опорожны дыжу, будыш у ій сало класты.* Ляхавічы Драг.

ДЫ́ЙКА *ж.* Сасок каровы. *Дыйка лопнула, трэба вазеліною змазаты.* Кустын Брэсц.

ДЫ́КТА, ДЫ́ХТА *ж.* Фанера. *Дыхтыю пудбылы полапа.* Камянюкі Кам. *Купылы дыхты обыты хату.* Рыкавічы Жабін.

ДЫЛЬ *м.* 1. Тоўстая дошка. *У кожную сцяну дома укладвають па адзінацать дылёў.* Варанілавічы Пруж. *Мы думалы хату строіты, ужэ порізалы дэрыво на дылі.* Навасёлкі Кобр. 2. Плот. *Повісь блуску на дыль, там сонцэ.* Парахонск Пін.

ДЫМА́Р *м.* Комін. *Полізь зобач, чым там галкы наш дымар забылы.* Корчыцы Кобр.

ДЫРЖА́К, ДЭРЖА́К *м.* 1. Дзяржанне. *Зрубыв дыржака до жылізныка.* Гершоны Брэсц. 2. Чапяла. *Трэба було дэржаком браты, а то вона хучій добігла до онучкі.* Радзеж Малар.

ДЫРУ́Н *м.* Дранік. *Тыпэр напыклы дырунів.* Пажэжын Малар.

ДЫТЫ́НА *ж.* Дзіця. *Ой, як плачэ дытына.* Макраны Малар. *Дытына сыділа куло дорогы, аж злякався.* Вулька Жабін.

ДЫТЮ́К *м.* Падлетак. *Він шчэ дытюк, а вжэ до дівчат подскокває.* Павіцце Кобр.

ДЫ́ХЛА *н.* Месца пад рэбрамі, сонечнае спляценне. *В дыхло шось стало колоты.* Макраны Малар.

ДЫХТІ́ТЫ *незак.* Дыхаць. *Собака тежко дыхтів.* Ляхаўцы Малар.

ДЫ́ШЛА *н.* Дышаль. *Вязла перад сабою тачку з доўгім дышлам.* Мінічы Лях.

ДЫ́ХНЯВКА *ж.* Гл. дыхла. *Дыхнявку занело.* Хацілаў Малар.

ДЭ́БАЦЬ *незак. экспр.* Хадзіць. *От такі з яго хадок, дэбае крышачку каля дому.* Паланэчка Бар.

ДЭ́НЧЫШЧЭ *н.* Частка прасніцы, на якой сядзіць папрадуха. *На дэнчышчы вона сыдыть, на ёму і потюся ставыть, прадэ вэрэтёном.* Олтуш Малар.

ДЭ́РВО *н.* Дрэва. *Дэрво було высокэ.* Вулька Жабін. *Выросло хорошэ дэрво пуд вокнамы.* Гершоны Брэсц.

ДЭ́РГАВКА, ДЭ́РГАНКА *ж.* Грэбень, на якім апрацоўваюць лён пасля трапання. *Луччэ предыво з дэргавкы.* Олтуш Малар. *Прынысы дэргавку, будэмо лён чэсаты.* Хацілаў Малар. *У мэі сусідкі добра дэрганка.* Арэхава Малар.

ДЭРНЯ́К *м.* Цаліна. *На дэрняку бульба уродэла.* Сварынь Драг.

ДЭРУ́Н, ДЯРУ́Н *м.* Боб, які ўецца. *Дэрун аж пэрэростае палкы.* Кустын Брэсц. *Коло хаты трэба посадіть дярун.* Церабяжоў Стол.

ДЭРЭВІ́НА *ж.* Бервяно. *Дэсяць чоловек нэ моглі подняці тую дэрэвіну і положыці на машыну.* Першамайская Бяроз.

ДЭРЭВЛЯ́ШКЫ, ДЭРЭВЯ́ШКЫ *мн.* Абутак на драўлянай падэшве. *Колысь ходылы у дэрэвляшках.* Каменка Кобр. *Дэрэвяшкы добры булы в хлів до коровы.* Олтуш Малар.

ДЭ́ШЧО *займ.* Што-небудзь, штосьці. *Мы просымо, шоб дід дэшчо росказав.* Высокае Бяроз. *Трэба дэшчо купыты на свято.* Лука Кобр.

ДЯ́ЛКА *ж.* Частка поля, норма апрацоўкі. *Брыгадір дав нам дялку бураків.* Маладзельчыцы Пін.

# Е

Е *незак.* Ёсць. *В ёго е сэстры і браты.* Кустын Брэсц.

Е́БЛЫКО *н.* Яблык. *У садку було много еблык.* Карсынь Іван.

Е́ДУХА *ж.* Задышка, дыхавіца. *Колы хворы, у ёго често жывэ едуха.* Крытышын Іван.

ЕЁДРО́М *м.* Аэрадром. *З еёдрома полэтів ейроплан.* Сакалоўка Пін.

ЕЖ *м.*, ЕЖЫ́ *мн.* Грыб саркадон чарапічны. *Спод грыба сівы і ў мяккіх іголочках, шляпка натрэснутая. Ежы ростуть до самых морозоў.* Чахец Пруж.

ЕЗДОВІ́К *м. устар.* Паганяты валоў. *Ездовікі булі, кажэн, хто маў волы.* Велле Стол.

ЕЙРОПЛА́Н, ЕРОПЛА́Н *м.* Самалёт. *На ейроплане ехаць вэльмі страшно старым.* Дрэбск Лун. *Ероплан полытів над полэм.* Юхнавічы Іван. *Ероплан нызько лытів над хатыю.* Міжлессе Бяроз.

ЕЛАВЕ́Ц *м.* Ядловец. *Елавец расце высоко.* Востраў Лях. *Вэнкы з еловцю булы, бырозы. Хорошэ ховалы.* Гершоны Брэсц.

Е́ЛКІ *прым.* Ёлкі. *Елкое сало вжэ стало, як жарыш, то гурчыть.* Лышчыцы Брэсц. *Сало пожоўклое, кажуць елкое.* Харомск Стол.

Е́МКА *ж.* Патэльня. *Ціла емка яечні.* Цна Лун.

ЕНДО́В'Е *прысл.* Зараз жа, неадкладна. *Ендов'е зробі ето, прошу.* Пузічы Лун.

Е́НЧЫТЫ *незак.* Стагнаць, скардзіцца на боль. *Енчыв цілу ноч, так боліло.* Кустын Брэсц.

ЕПРУ́К *м.* Вяпрук. *Забілі епрука, сала, мяса дзежку наклалі, дэтэй выклікають з города.* Смаляніца Пруж.

ЕРГЕ́НЯ *ж.* Вяргіня. *Ергеня хороша, вэлыка, лапчаста.* Хацíслаў Малар.

Е́РЫЦЯ *ж.* Ярына. *Ужа на дворі потыпліло, можна сыятэ ерыцю.* Арэхава Малар.

ЕСЁНКА *ж.* Дэмісезоннае паліто. *Есёнка була суконна.* Ваўкаставец Кам.

# Ё

ЁЖ *м.* Вожык. *Ёж хутко біг по дорозі.* Вулька Жабін.

ЁМКА *ж.* Чапяла. *Ёмкою вымають з печы чыгуны.* Рыбнікі Стол.

ЁМКІ *прым.* Зручны. *Ёмкі нож, добры, гостры.* Смаляніца Пруж.

ЁМКО *прысл.* 1. Хутка. *А пошов вэльмі ёмко.* Ботава Пін. 2. Моцна. *Ёмко пальця порізав.* Субаты Драг.

ЁРА́ГА *ж.* Маслёнка. *Молоко у його коровы рыдкэ, вэльмы много отходыть ёрагы.* Дубраўкі Драг.

ЁСЬ *незак.* Ёсць. *Ёсь ягоды, назбіраць можна.* Смаляніца Пруж.

ЁСЦЕКА, ЁСЦЯКА *незак.* Тое ж. *Ёсцека дома і грушы, і яблыкі.* Азярніца Лун. *Цяпер ёсцяка всё, жыці тольки няма калі.* Востраў Ганц.

# Ж

ЖА́БА *ж.* Памылка пры тканні, недабой ніткі. *Неумелая ткаля можэ жабу наткаці.* Бузуны Пруж.

ЖА́БКА *ж.* Чапяла. *Жабкою дэржать патэльню.* Макраны Малар.

ЖАБКІ́ *мн.* Бульба, звараная з лупінамі. *Усе сядзяць за сталом і ядуць жабкі з маслом.* Кукава Ганц.

ЖАБУРНЫ́К *м.* Раска. *Жабурныку назбырай свынюм.* Хацíслаў Малар.

ЖАБУРЫ́ННЕ, ЖАБУРЭ́ННЕ *н.* 1. Ікра жаб. *Вэсною в гозэрэ мніго жабурыння.* Арэхава Малар. 2. Раска. *Жабурэнне ідять свынне.* Ляхаўцы Малар.

ЖАК *м.* Нерат з двума крыламі. *Поставіў на рэцэ п'яць жакоў.* Альшаны Стол. *Сегодні ставімо жакі на речцы.* Церабяжоў Стол.

ЖАЛЕ́ТКА, ЖЫЛЕ́ТКА *ж.* Камізэлька, безрукаўка. *Ек одягныш жалетку, то зразу становыцця тыплій.* Ляхавічы Драг. *Жылетка була хурошэ вышыта пацёркамы.* Макраны Малар.

ЖАЛО́, ЖВА́ЛА, ЖЫЛО́, ЖЭРЛО́ *н.* Джала. *Вытягны жало, бо твар спухнэ.* Кустын Брэсц. *Пчола мае спецыяльнэ жвала.* Гершоны Брэсц. *Вкусыла оса і оставыла жыло.* Хаціслаў Малар. *У целі остаецца жэрло пчолы.* Харомск Стол.

ЖАЛЯ́ЗКА, ЖАЛЯ́СКА *ж.*, ЖАЛЯ́ЗКО, ЖАЛЯ́СКО *н,* Прас. *Куплю новую жалязку.* Мікашэвічы Лун. *Жаляской файно выпрасовала вопратку.* Ласасіна Пруж. *Маці просовала гарачым жалязком.* Шэйпічы Пруж. *Патрэбно было пагладзіць, і я папрасіла жаляско.* Ліпск Лях.

ЖАЛЯЗНЯ́К, ЖЫЛІЗНЫ́К, ЖЭЛЕЗНЯ́К, ЖЭЛЫЗНЫ́К *н.* Рыдлёўка. *Возьмі жалязняка, выкапай рова да посадзі гэту гарабіну.* Раздзялавічы Ганц. *Быры жылізныка і копай, а ны дывыся на батьку.* Прыбарава Брэсц. *Позыч на часік жэлезняка.* Цераблічы Стол. *Жэлызныком тяжко копаты города.* Агароднікі Кобр.

ЖАРО́ВНЯ, ЖАРО́ЎНЯ, ЖАРЭ́ВНЯ *ж.* Патэльня. *Маті купіла новую жаровню.* Глінішча Івац. *На снеданне пойную жароўню яек напяку, і яшчэ ім мала.* Слабажаны Бар. *Вазьмі выхвата і выймі жароўню.* Гута Лях. *Жарэвня стоіть под столом.* Саха Драг.

ЖАРО́НІКІ, ЖАРО́НЦЫ *мн.* Жараная бульба. *Нажарыла жаронікаў, ещце.* Квасевічы Івац. *На стыл булы поставляны жаронцы.* Боркі Пін.

ЖАРО́ЎНІК *м.* Неэлектрычны прас. *Жароўнік ахалодаў і прасаваць було нельга.* Баравікі Лун.

ЖА́РЫЙ *прым.* Карычневы. *Подруга моя купыла жарэ платте.* Радаўня Іван.

ЖА́СКО *прысл.* 1. Страшна. *Ны гувуры ты мні пру гэтые, бо жаско слухаты, як малых забылы.* Бусні Жабін. 2. Гадка. *Ны могу в рукы взяты жабу, бо мні жаско робыцця.* Маціевічы Жабін.

ЖАЎТА́ЧКА, ЖОЎТА́ЧКА *ж.* Жаўтуха. *Ад жаўтачкі*

*ці ж паміраюць?* Агарэвічы Ганц. *Вона нейка жоўта, у еі можэ жоўтачка.* Дварэц Стол.

ЖБУРЛЯ́ЦЬ *незак. эксп.* Кідаць. *Діты жбурлялы у воду камінне.* Застружжа Іван.

ЖВЫРЫ́ТЬ *незак.* Гудзець. *Нідэ шчэ далёко жвырыть пароход.* Гальцы Стол.

ЖЕ́БСЬКЫЙ *прым.* Ядавіты (пра грыб). *Жебськый грыб ны быры, выкінь одразу з кошыка.* Ляхавічы Драг.

ЖІ́ЖКА, ЖЫ́ЖКА *ж. дзіц.* Агонь. *Нэ чэпай, а то жіжка спэчэ.* Радчыцк Стол. *Гляды, як горыть жыжка в пэчы.* Матыкалы Брэсц.

ЖІ́ЖКІЙ, ЖЫ́ЖКЫЙ, ЖЭ́ЖКЫЙ *прым.* Гарачы. *Жіжкій боршч, ны клыч шэ батька.* Бусні Жабін. *Картоплі жыжкі, хай охолонуть.* Кустын Брэсц. *Ой, якыі жэжкы палюхы.* Астрамечава Брэсц.

ЖЛУ́КТО *н.* Пасудзіна для запарвання бялізны, звычайна выдзеўбаная з драўлянай калоды. *Цэлы вечор у жлукці полотно золіла.* Раздзялавічы Ганц. *Застылаеш на жлукто радюшку, на радюшку попэл і кыпяток на попэл.* Ляхавічы Драг. *Ужэ замест жлукта у каждого стоіть стіральная машына.* Семяховічы Пін.

ЖМАЦЬ *незак.* Мыць бялізну. *Пойду на сажолку жмаць, а ты вары есці.* Люсіна Ганц. *Учора жмала цэлы дзень.* Агарэвічы Ганц.

ЖМІ́НДА, ЖМЫ́НДА *м.* і *ж.* 1. Скупы чалавек. *Няма як жыць з гэтай жміндай.* Слабажаны Бар. *Ну й жмында, ныколы ныц ны дасы людюм.* Міжлессе Бяроз. 2. Пляткар. *Жмынды гэтый ныможна верыты.* Марцінова Драг.

ЖМЫ́НДЫТЫ, ЖМЭ́НДЫТЫ *незак.* Шкадаваць што-н. *Старая почала шось жмындыты, собі істы шкодує.* Кустын Брэсц. *Нашо жмэндыты, возьмэ да купэ.* Брашэвічы Драг.

ЖНЕ́ЙКА *ж.* 1. Жняя. *Наша тітка була справна жнейка.* Кустын Брэсц. 2. Жняярка. *Жнейка вэльмы добрэ жнэ, а вчора шось там поломалося.* Ляхаўцы Малар.

ЖНЫВА́РКА *ж.* Гл. жнейка 2. *В жныварку впрагають пару конэй.* Шэбрын Брэсц. *У поле выйшлы жныварκі.* Тэўлі Кобр.

ЖНЫВА́ЧКА *ж.* Гл. жнейка 1. *Жнывачка хутко робыла пэрэвясло і ставыла снопы в ляшкы.* Шэбрын Брэсц.

ЖО́ВГАЛО *м. асудж.* Нудны чалавек. *Алэ і жовгало ты, мусыть, ныгдэ такого ныма, нудыш і нудыш.* Бухавічы Кобр.

ЖОЖО́Н *м.* Ражэнчык. *Вэчором дзеті насоберающца коло огню і пекуць сало на жожоні.* Альшаны Стол.

ЖОЛО́ПАТЫ *незак. экспр.* Есці, жаваць. *Можэ хопыть жолопаты? Плямкаеш над ухом.* Кустын Брэсц.

ЖОНО́ЧЫНА *ж.* Жанчына. *Учытелька наша — добрая жоночына.* Астрамечава Брэсц. *У хату прышла нызнакома жоночына.* Лісяцічы Пін.

ЖО́РНОВЭЦЬ *м.* Пясок на дне ракі, возера. *Добрэ купатыся там, дэ жорновэць выдно.* Корчыцы Кобр.

ЖУ́ЖВЫЛЫЦЯ *ж.* 1. Жужаль. *Жужвылыці напалы на корову.* Гершоны Брэсц. 2. Гуз пад скурай у жывёлы. *Гля, якыі жужвылыці в коровы, то жукы наробылы.* Гершоны Брэсц.

ЖУ́ЖЫЛ *м.* Шлак. *Сосідска хата була з жужылу.* Пугачова Брэсц.

ЖУ́ЙКА *ж.* Жвачка. *Корова завшэ жуйку жуе.* Кустын Брэсц.

ЖУКО́ВІНА, ЖУКО́ВЫНА *ж.* Пярсцёнак. *Нашым маладым надзелі жуковіны.* Востраў Ганц. *Мне подарылі жуковіну.* Купічы Пруж. *Жуковіна была з чыстого золота.* Навасёлкі Пруж. *На пальцовы блышчала золотая жуковына.* Тэўлі Кобр.

ЖУР *м.* Аўсяны кісель. *Сходы, прынысы журу, вжэ захолов.* Жычын Бяроз. *Навары, мамо, на абед журу.* Чапялі Пруж.

ЖУРАВЕ́Й *м.* Журавель. *Чаго шыю выцягнуў, як журавей?* Паланэчка Бар.

ЖУРАВЛІ́НЫ, ЖУРАХВЫ́НЫ, ЖУРАХЛЫ́НЫ, ЖУРАФЫ́НЫ *мн.* Журавіны. *Кіслы вэльмы журавліны.* Дзмітравічы Кам. *Маты пошла збыраты журахвыны.* Лісяцічы Пін. *На болоты поспілы вжэ журахлыны.* Юхнавічы Іван. *Літом часто ходыла у ліс по ягоды, восэнню — по журафыны.* Парэчча Пін.

ЖУРАВЕ́ЛЬ *м. перан.* Пасудзіна з доўгай шыйкай для напіткаў. *Батько купыв на косовыцю журавля.* Адрыжын Іван.

ЖУ́РКА *ж.* Куртка, фуфайка. *Опраны журку, бо холодно.* Кнубава Пін.

ЖУ́ХАТЫ *незак.* Мыць на дошцы. *Вэльмы ны жухай, бо подырэш сорочку, вона вжэ старэнькая.* Кустын Брэсц.

ЖУ́ШМО *н.* Некалькі жменек лёну. *Набэрэш пару жмэнь лёну, кажуть — жушмо, п'ять, шысть жмэнь — жушмо.* Спорава Бяроз.

ЖЫВЭ́Ц *м.* Верабей. *Жывэц сэдзеў на бэрозі, вэсёло чырыкаў.* Угляны Бяроз.

ЖЫЖУ́НКА *ж.* Пякучая крапіва з дробнымі лісточкамі. *Жыжунка росце по городах, вона міцно пычэцця.* Шэбрын Брэсц.

ЖЫЛЕ́ТКА *ж.* Брытвачка. *Бацько купіў пачок жылеткаў голіціса.* Шэйпічы Пруж.

ЖЫМЧУ́ЖЫНА *ж.* Пярсцёнак з прыгожым каменем. *От гэту жымчужыну подарыв мні батько, як шчэ мні восімнацэть літ було, то я і до гэтых пір ховаю.* Мінянка Кобр.

ЖЫНЬ *ж.* Вяроўка, пры дапамозе якой бортнік лазіў на дрэва. *Колысь булы жэні, булы колоды з пчоламы.* Хаціслаў Малар.

ЖЫСЦЬ *ж.* Жыццё. *Цяпер жысць зусім другая, як раньш.* Кукава-Бор Ганц.

ЖЫТКІ́ *мн.* Васількі. *У тэбэ стоять давні жыткі. Нарвы шчэ коло дорогы.* Хомск Драг.

ЖЫ́ТНІСКО, ЖЫ́ТНЫШЧЭ *н.* Іржышча. *Пасуць ужэ каровы на жытніску.* Дварэц Лун. *На жытнішчы добрэ пасты, только в ногы кололося.* Ляхаўцы Малар.

ЖЫ́ТНЫЦЬКА *мн. зборн.* Жыта, пшаніца. *Жытныцька сіють на вышшых місцях, коб ны вымокло.* Олтуш Малар.

ЖЫ́ТНЫЦЯ *ж.* Жытняк. *Жытныця часом ростэ у жыты.* Шэбрын Брэсц.

ЖЫ́ТЫ *незак.* Знаходзіцца, затрымліваццa. *Нэ жывы у іх довго, прыходь додому, хутко будэмо вычэраты.* Рагозна Жабін.

ЖЫ́ЧКА *ж.* 1. *устар.* Чырвоная шарсцяная нітка. *Жычку в косэ доставалэ, то нэтка чырвона.* Сварынь Драг. 2. Чырвоная стужачка. *Бачыла, якую жычку богату бацько з зароботкоў прывёз Мані?* Люсіна Ганц.

ЖЭ́ВГА *ж.* 1. Частка крэсіва (камень). *Дай мні жэвгу, трут е.* Хаціслаў Малар. 2. Падпаліна. *Жэвга була колысь на сподныці, а тыпэр сошла.* Арэхава Малар.

ЖЭМЭ́РА *ж.* Жамерыны. *Выдавлюіцця восок, остаецця жэмэра.* Хадасы Камян.

ЖЭРЭБУ́К *м.* Аднагадовае жарабя. *Натурлывый жэрэбук на дыбкі становыцця.* Гершоны Брэсц.

ЖЭРЭБЛЕ́, ЖЭРЭБ'Е́ *н.* Жарабя. *У мэі кобылы малое жэрэбле.* Ляхаўцы Малар. *Жэрэб'е бігае по поплаву.* Прылукі Брэсц. *Памянш.* ж э р э б л я т к о. *Жэрэблятко було чырвоної масті.* Макраны Малар.

5*

ЖЭ́ШКО *прысл.* Горача. *На гулыці вэльмы жэшко.* Тэльмы Брэсц. *Літом бувае і в нас жэшко.* Ваўкаставец Кам.

# З

ЗАБА́ВА *ж.* Танцы. *Дзеўчаты збіраюцца на забаву.* Мікашэвічы Лун.

ЗАБА́ВЫТЫСЬ *зак.* Затрымацца. *Як доўго забавлюся, то дасы коровы сам.* Выжлавічы Пін.

ЗАБАЙДЭ́ШКА *м. экспр.* Дурань. *Гэтой забайдэшка знов прыплівся сюды.* Дубраўкі Драг.

ЗА́БАЛАЦЬ *ж.* Мулінэ. *Матка купіла забалаці.* Гоцк Лун. *Папрасі купіць у Мінску забалаць зелёну і чорну.* Баравікі Лун.

ЗАБО́Р *м.* Пояс. *Достала лаковы забор до плацця.* Пузічы Лун.

ЗАБО́РСАТЫ *зак.* За́борсаць. *Трэба заборсаты постолы.* Ляхаўцы Малар.

ЗАБО́РСКА *ж.* Забарсня. *Розмоталася заборска, можна впасты, зав'яжы добрэ.* Спорава Бяроз.

ЗАБО́РЫ *мн.* Складкі адзення. *Вона заборы хочэ у спониці спероду.* Мачуль Стол.

ЗАБРАКОВА́ТЫ *незак.* Не хапіць. *Забраковало розуму вучытыся, а рукы золотыі, жыты будэ добрэ, ны пропадэ.* Корчыцы Кобр.

ЗАБРО́ЗГНУТЫ *зак.* Набрыняць. *Нога так заброзгнула, шо боты не сцягну.* Аздамічы Стол.

ЗАВОРУШЫ́ТЫ *зак.* Занепакоіць. *Заворушылы пчолы, то лэдьво повтыкалы самы.* Кустын Брэсц.

ЗАВУ́ЦЬХЫЙ *прым.* Пародзісты. *Наш буен завуцьхый.* Ялач Драг.

ЗА́ВШЭ, ЗА́ЎША, ЗА́ЎШЭ *прысл.* Заўсёды. *Я ходзю завшэ на вэчоркі.* Люсіна Ганц. *Заўша хутчэй за ўсіх зробіць.* Заполле Івац. *Заўшэ яна прыезжае са сваім сынам дадому.* Заліпенне Лях.

ЗА́ВЫД *м.* Затока. *У заводовы рослы панычыкі.* Моталь Іван.

ЗАВЫНУ́ТЫ *зак.* Вельмі захацець. *Завынуло юму жэнытыся одразу после арміі.* Страдзеч Брэсц.

ЗАВЭ́РЫНЫ *мн.* Паркан. *Поставылы коло хаты новы завэрыны.* Трудавая Іван.

ЗА́ГА *ж.* Пякотка. *Зага пычэ мынэ.* Хаціслаў Малар.

ЗАГА́РАК *м.* Гадзіннік. *Яна ўжо загарак надзела, такая малая.* Мазуркі Лях.

ЗАГА́ТА *ж.* 1. Зробленая на зіму каля хаты загарадка з дошак і ігліцы. *Хату обложілы загатою.* Парасляны Пруж. *Загату вжэ трэба откынуты, бо стало тэпло.* Кустын Брэсц. 2. Загата. *Коб жэ не прорвало загату, по берэгу вода понесе.* Дварэц Лун.

ЗА́ГВО́ЗДКА *ж.* Затрымка. *Днів тры була загвоздка на полы, ішов дошч.* Семяховічы Пін.

ЗАГІ́ЖВАЦЬ *зак.* Забруджваць. *Нікого малого німа, а хто так загіжвае хату?* Хотамель Стол.

ЗАГІ́Н *м.* Месца, дзе стаяць вясною каровы. *Жонкы вжэ давно в загін поіхалы лодкамы.* Гальцы Стол.

ЗАГНЕ́Т, ЗАГНІ́Т *м.* 1. Смольныя трэскі, лучына. *Дай загнету, дрова ў печы не гораць.* В. Малешава Стол. *Загнетом натпальваюць дрова.* Давыд-Гарадок Стол. 2. Прыпечак. *Трэскы на загніту сохнуть.* Субаты Драг.

ЗА́ГОДЗЬ *прысл.* Загадзя. *Сёні я загодзь устала.* Сасновы Бор Івац.

ЗАГО́Н, ЗАГУ́Н, ЗАГЫ́Н *м.* Нешырокі ўчастак зямлі паміж разорамі. *До трох часов паспела выкопаці загон бульбы.* Св. Воля Івац. *Посіяв загун проса.* Спорава Бяроз. *Загын був короткый, роспругы глыбокы.* Гершоны Брэсц.

ЗАГОРІ́ДДЕ *н.* Месца за гародамі. *На загорідді пасвылася тылушка.* Семяховічы Пін.

ЗА́ГОРОДЬ *м.* Плот. *Трэба поладыты загородь, бо свыны лазять по градках.* Хмелева Жабін.

ЗА́ГРАТКА *ж.* Паліца. *Палажыла кубачкі на загратку.* Навасады Бар.

ЗАГРО́БА *ж.* Запруда. *Цілый пуд рыбы з загробы приніс.* Гальцы Стол.

ЗАГУРТО́ХА *ж.* Качарга. *Загуртохыю выгрыбы попыл.* Ваўкаставец Кам.

ЗАГУ́ШНЫЦЫ *мн.* Завушніцы. *Таня купыла собі хорошы загушныцы.* Радаўня Іван.

ЗАДА́ВА *ж.* Му́ка, цяжкасць. *Задава з такым дурнэм жэтэ.* Сварынь Драг.

ЗАДАВА́ЧЛЫВЫЙ *прым.* Такі, які задаецца. *Задавачлывый став, як з города прыйіхав.* Хаціслаў Малар.

ЗАДА́ВНЫТЫ *зак.* Зацягнуць у часе. *Задавныла вона свою хворобу, можэ буты бэда.* Кустын Брэсц.

ЗАДЗЁРЫНА *ж.* Завусеніца. *Задзёрыны на пальцях болять.* Сварынь Драг.

ЗАДЗЯРГА́ШКА *ж.* Фіранка. *На вокнах новыя задзяргашкі.* Палонка Бар.

ЗА́ДЛІК *м.* Услончык. *Прынясі задлік, буду картоплю скабліць.* Падлаззе Лях.

ЗАДО́ГАТЭ *зак.* Вымазаць. *Коло роботэ задогав рубашку за тэждынь.* Брашэвічы Драг.

ЗАЖМЭ́НЫТЫ *зак.* Натрудзіць руку ў час жніва. *Зажмэныла руку, жмэню набрала вэліку.* Гарадная Стол.

ЗАЖЫ́НОК *м.* Першая жменя зжатага жыта. *Зажынок часто до хаты беруць, то першая жменя жыта.* Харомск Стол.

ЗАЗДРО́НЫЙ, ЗАЗРО́НЫЙ *прым.* 1. Скупы. *Вона такая заздроная, шо в еі ныц ны выпросыш.* Бусні Жабін. 2. Зайздросны. *Ны будь такою зазроною, будэ і в тэбе такая блюска.* Кустын Брэсц.

ЗА́ЙМА *прысл.* Жменяй. *Рві займа, по одной доўго.* Дварэц Лун.

ЗАЙМА́ЦЬ *незак.* Чапаць. *Не займай мене, одстань.* Цераблічы Стол. *Нэ займайтэ ёго, а то вэн як заплачэ.* Рагозна Жабін.

ЗА́ЙМЫСКО *н.* Заняты ўчастак. *Він пырыйшов на своє займыско і почев косыты.* Сулічава Драг.

ЗАКАБА́Й *м.* Няроўнасць, завіліна. *Такі закабаі, шо косыты можно тылько косою.* Сулічава Драг.

ЗАКА́Л *м.* Закалец. *Ны можэ спэчы хліба быз закалу, от господыня в ёго.* Казловічы Брэсц.

ЗАКАРВА́Ш I *м.* Дрыгва, топкае месца на балоце. *За лесам асцерагайся, там закарваш.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗАКАРВА́Ш II *м.* Манжэта. *Закарвашы булы прышыты шовковы.* Спорава Бяроз. *Закарваша зашпылы.* Здзітава I Бяроз.

ЗА́КЛАД *м.* Фэст. *На закладі мнуго людзей.* Вулька I Лун. *Хутко гостына будэ, на заклад прыідуть швагры.* Кустын Брэсц.

ЗАКЛА́ТЧЫНА *ж.* Закладзіны. *Був я в сусіда на заклатчыны.* Хмелева Жабін.

ЗАКОЛОТЫ́ТЫ *зак.* 1. Замясіць негустое цеста. *Заколотыты парыш.* Ляхавічы Драг. 2. Забіць. *Заколотыты окна хаты.* Гершоны Брэсц.

ЗАКО́ТА *ж.* 1. Каўнер у світцы, кажусе. *У кожуховэ вэлыка закота.* Сварынь Драг. 2. Манжэта. *Закота одорвалася, трэба подшыты.* Здзітава I Бяроз.

ЗАКРА́СА *ж.* Заправа, падліва. *Вару, да ныма закрасы: жіру, лысту, пэрця.* Хацідлаў Малар.

ЗАКРО́ПКА *ж.* Закладванне чарвы. *Матка хорошэ робыть закропку.* Радзеж Малар.

ЗАКРУ́ТНЯ *ж.* 1. Прылада, якой зачыняюць дзверы. *Його хата завждэ на закрутню зачэняна.* Субаты Драг. 2. Сукаратка. *Ныткэ покрутылыся в закрутні.* Радастава Драг. 3. Памылка пры накідванні асновы ў бёрда. *Як укінэцца одна і тры ныткі — зробыш закрутню, бо ныправыльно в бэрдо поступалося.* Здзітава І Бяроз. 4. *устар.* Залом. *З самого ранку закрутню побачыв у жыті, але боевся чыпэтэ.* Сулічава Драг.

ЗАКРЫ́ЛЫНА *ж.* Перакладзіна над вушакамі. *Говорать то шапка в двэрах, то закрылына.* Хацiслаў Малар.

ЗАЛАНІ́ЦА, ЗЕЛЕНІ́ЦА *ж.* Грыб зялёнка. *Заланіцы кучамі ростуць.* Заполле Івац. *Зеленіцы добрэ збіраць.* Харава Пруж.

ЗА́ЛЕГА́ЦЦА *незак.* Заходзіцца ад смеху. *Так смеюцця, аж залегаюцца.* В. Малешава Стол.

ЗАЛЕ́ГЛЯ *ж.* Аблога. *Залежэно поле, чы залегля, лежыть два-тры года.* Гарадная Стол.

ЗАЛЕ́ТКОВЫЙ *прым.* Леташні. *Шчэ е залетковуе сало.* В. Малешава Стол.

ЗАЛЁКО́ТІТЫ *зак.* Задрыжаць. *Як зэкнуў на мына, шо я аж залёкотіла.* Брашэвічы Драг.

ЗАЛІ́ЖОК *м.* Гл. залегля. *Загрыбэ сіно на заліжкувы, бо дошч находыть.* Хмелева Жабін.

ЗАЛО́ГА *ж.* Каўнер. *У твоім пальтовы хвайная залога.* Моталь Іван.

ЗАЛУ́БЫЦІ *мн. устар.* Выязныя санкі. *Батько бувало рубыв людям залубыці хорошы.* Дзмітравічы Кам. *Пуд шурыком у нас лыжат старыі залубыці, на іх колысь йіздылы на кірмаш.* Індычы Кам.

ЗАЛЫГАЦЬ *зак.* Залыгаць. *Трэба коня залыгаць, бо поеду по дрова.* Велута Лун. *Бачыш і його залыгав до роботы.* Кустын Брэсц.

ЗАЛЫ́ГАЧ *м.* Вяроўка, якой залыгваюць жывёлу. *Корову возьму залыгачэм поведу.* В. Малешава Стол.

ЗА́ЛЬВА *ж.* Маладое шчаўе. *Зальва густо пазыходзіла, трэба прапалоць.* Падлаззе Лях.

ЗАЛЯ́ДЫТЫ *зак.* Страціць апетыт. *Залядыло малое, йістэ ны хочэ, можэ в магазінэ шо-нэбудзь купэ.* Сварынь Драг.

ЗАЛЯ́ЗКО *н.* Прас. *Цётка гладзіла залязком ручнікі.* Хатынічы Ганц. *Пазыч мне свое залязко.* Навасёлкі Лях.

ЗАМАЛЁВАК *м.* Аловак. *Рысоваць добрэ, цяпер замалёвок хватае усякіх.* Дзятлавічы Лун.

ЗАМАНУЦІСЯ *зак.* Захацецца. *Ёй заманулос купіці шо-небудзь смачнэ.* Здзітава II Бяроз.

ЗАМЕ́ЖАК, ЗАМІ́ЖЭК *м.* Узмежак. *Папасі карову на замежку.* Падлаззе Лях. *Заміжэк як бы нывка, полэ коло головного поля.* Лукава Малар.

ЗАМЁТ *м.* Агароджа з бярвенняў. *Замёт робывся надовго.* Літоўск Драг. *В його ны плоту, ны замёту.* Радастава Драг.

ЗАМІТЬ *ж.* Завея. *Такая заміть, шо ны выходь з хаты.* Корчыцы Кобр.

ЗА́МУСЬКЫ *часц.* Быццам бы, амаль. *Була я замуськы на тым світы, як слабувала.* Макраны Малар.

ЗА́МХІ *мн.* Пушок на саматканым палатне. *От хорошэ полотно, побэрдылось, то совсім нэма замхув.* Спорава Бяроз. *Вона завшэ хорошэ тчэ полотно, ныма в еі замхів.* Макраны Малар.

ЗАНУ́ДЖЭНЫЙ, ЗАНУ́ДЖАНЫЙ *прым.* Заняпалы, недагледжаны. *Зарэ коровы не зануджэны.* Альшаны Стол. *От господар, такі занужданый кінь в його.* Гершоны Брэсц.

ЗАНЫ́З *м.* Ніжняя частка ярма. *Заныз поладыв батько, на волах будэ ораты. Так говорылы, колы булы волы, колы булы ярма, то булы й занызы.* Хаціслаў Малар.

ЗАНЭГО́ДЫТЫСЯ *зак.* Раздажджыцца. *Надовго занэгодылося літось.* Павіцце Кобр.

ЗАНЮХРЫ́ТЭ *зак. экспр.* Вельмі захацець, настроіцца на што-н. *Занюхрыла у город йіхатэ, чы там ій добрэ будэ? Тут бацько, матэ, братэ, а там хто? Кому потрібна?* Сварынь Драг.

ЗАПАДА́ТЫ *незак.* Кволіцца, часта хварэць. *Муй малый западае на лёгкі.* Ставы Кам.

ЗА́ПЕРАД *м.* Фартух. *Надзень заперада, а то сукенку запэцкаеш.* Малахоўцы Бар.

ЗА́ПІК, ЗА́ПЫК *м.* Ляжанка за печчу. *Запік зробляны з дубовых душчок.* Радастава Драг. *Прыбыру кроваты, а ты полыжыш на запыку.* Выжлавічы Пін. *Маты захворіла, на запыку лыжыть.* Карсын Іван. *Памянш.* з а п і- ч о к, з а п ы ч о к. *Посля дорогы на запычку можна погрітыся і оддыхнуты.* Заверша Драг. *На запычку лыжыть кіт.* В. Якаўчыцы Жабін. *Пока ны було ліжкув, то спалы на запычках.* Залессе Кобр. *Батько любыв полыжеты*

*на запычку посля роботы, каля пэчы тэпло.* Кулякі Іван.

ЗА́ПІНКА *ж.* Фартух. *Маці подвязала запінку.* Харомск Стол. *Завяжы хоць запінку, а то сподніцу покаліш.* Рамель Стол. *Прынесла запінку зеля.* Велямічы Стол.

ЗАПЛІ́ШКІ *мн.* Кузаў воза. *Повз ручкі укладіса доскі, то называлоса заплішкі.* Велута Лун.

ЗАПЛО́ДА *ж.* Чарва. *Поставіў у той улей заплоду.* Здзітава II Бяроз.

ЗАПНУ́ТЫ *зак.* Завязаць фартух. *Запну фартуха, і спонaця будэ чыста.* Агароднікі Кам.

ЗАПО́НА, ЗАПО́НКА *ж.* 1. Фіранка. *Пут свято маты повісыла на окна новыі запоны.* Выжлавічы Пін. *Запонкою окно запны, ужэ вэчор.* Гальцы Стол. *На вокна повісылы капроновы запонкы.* Сакалоўка Пін. 2. Заслона. *Вэльмо хорошая запонка коло пэчы.* Гальцы Стол.

ЗАПОРО́ЖЖЭ *н. зборн.* Людзі, якія прыйшлі паглядзець на вяселле. *Трэба почастоваты запорожжэ.* Чухава Пін.

ЗАПРА́ЖЫТЭ *зак.* Засмажыць. *Варэво трэба запражытэ добрэ.* Сварынь Драг.

ЗАПРУ́ТА *ж.* Закрутка. *Запрутою укрэпляють гальву.* Дружылавічы Іван.

ЗАПУЗА́ЦЕЦЬ *зак. экспр.* Растаўсцець. *Наш дзядзько запузацеў, нічого не робячы.* Востраў Ганц.

ЗАПУ́СТ *м.* Аблога. *Такый запуст довго ны горалы.* Ляхавічы Драг.

ЗА́ПУСТЫ *мн. устар.* Апошняя нядзеля перад вялікім постам. *У запусты ілы молочнэ. На запусты можна последній раз танцёваты, бо потом пост будэ.* Ляхаўцы Малар.

ЗАПУШЧА́ТЫ *незак.* Закапваць. *Гэтым лекарством запушчаю вочы.* Запроссе Лун.

ЗАПЫ́КУВАТЫСЬ *незак.* Заікацца. *Пікавый чоловік, бо муцно запыкуваіцьця.* Ставы Кам.

ЗАПЫРНЕ́ *н.* Клін у коле навоя. *Запырне ны дэржыть воротыла.* Папіна Драг. *Памянш.* з а п э р э н ь к а. *Запэрэньку добрэ вложы.* Хацíслаў Малар.

ЗАРА́ННЯ *прысл.* Рана, на досвітку. *Встала зарання, як тылько стало розвіднюваты.* Ляхавічы Драг.

ЗАРВА́ТЫ *зак.* Вывесці з раўнавагі. *Вона мынэ хотіла зарваты.* Радаўня Іван.

ЗАРНА́ТЫЙ *прым.* Загнаны (пра сабаку). *Як собака міцно дыхае, высунувшы языка, то говорать, шо він зарнатый.* Казловічы Брэсц.

ЗАРОДЫ́ТЫ *зак.* Нарадзіць. *Вона зародыла хлопца вжэ давновато.* Валішча Пін.

ЗАРОСЛЯ́ *ж.* Зараснік. *Скрозь страшна заросля.* Дварэц Лун.

ЗА́РЭ *прысл.* Цяпер. *Нашы людзі зажылі зарэ добрым жыццём.* Лінова Пруж. *Зарэ пойдзеш?* В. Малешава Стол. *Памянш.* з а р э ч к і, з а р э ч к а.

ЗА́СІВКІ *мн.* Пачатак сяўбы. *Тыпэр почаліся засівкы.* Ляхаўцы Малар.

ЗА́СЛА́БНУТЫ *зак.* Захварэць. *Дочка, моя шось заслабнула вчора.* Астрамечава Брэсц.

ЗАСЛО́Н *м.* Услон. *Ляндерак чамусьці стаяў на заслоне.* Гута Лях. *На заслоне посадзі малых.* Будча Ганц.

ЗАСЛО́НКА *ж.* Засланка. *Зробы нову заслонку, а то гэтая зусім обгорыла.* Цвярдоўка Пін. *Оччыны крохы заслонку, коб хліб нэ загорів, вэльмы піч напалылы.* Гальцы Стол.

ЗАСМАЧЫ́ТЫ, ЗАСМА́ЧЫЦЬ *незак.* Засмажыць. *Засмачыты капусту лёгко.* Гершоны Брэсц. *Трэба засмачыты той суп, што ў чыгунчыку.* Шэйпічы Пруж.

ЗА́СМЫК *м.* Патаўшчэнне на нітцы. *Ек засмык, то нэтку ны втегныш в голку.* Сварынь Драг.

ЗАСТРА́ГТЫ *зак. перан.* Забавіцца, затрымацца. *Дэ ты так довго застряг?* Бусні Жабін. *Пошов до сусіда, там і застрег. Застрагты можна раз, два, а то взев моду кожный дэнь.* Субаты Драг.

ЗА́СТОВАТЫ *незак.* Засланяць святло. *У хаты й так поночы, а ты шэ мні застуіш.* Тышкавічы Іван.

ЗАСТУ́КАНКІ *мн.* Хованкі. *Воны былі завшэ грають в застуканкі, я подышла до іх — ны бачать.* Рубель Стол.

ЗА́СТУП *м.* Рыдлёўка. *Заступом пэрэкопвають лішкы.* Хрысцібалавічы Пін. *Ідзі заберы нашуго заступа.* Адвержычы Стол. *Чый гэто будэ заступ?* Мерчыцы Пін.

ЗАСТУПА́ТЫ *незак.* Сустракаць і прад'яўляць прэтэнзію. *Як заступлю, то будэ бідная.* Кустын Брэсц. *Заступылы мэнэ хлопцы, лэдьво одбывся од йіх.* Бусні Жабін. *Еі вечно заступають за довгій язык.* Сулічава Драг.

ЗА́СУНКА *ж.* Засаўка. *Ныма в вас ны замка, ны засункэ в хатэ.* Радастава Драг.

ЗАТЛУ́МА *м.* і *ж.* Той, хто тлуміць галаву. *То ж затлума на маю голаву знайшлася, не дае сну, дай ты спокуй.* Слабажаны Бар.

ЗАТЛУ́МЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Недагледжаны, замо-

раны. *Курэнята затлумляные бэз курыцы, мо подохнут.* Ставы Кам.

ЗАТО́Б *прысл.* Зусім. *Затоб комары мынэ з'ілы.* Ботава Пін.

ЗАТО́ЛКА, ЗАТУ́ЛКА *ж.* 1. Засланка. *Тулько вытопыла піч, як баба зачынила затолку.* Чарнаўчыцы Брэсц. *Пудай мні затулку ду пэчы.* Бусні Жабін. 2. Фартух. *Муя матэ пушела хурошу затулку.* Радастава Драг. *Баба була запнёна затулкою.* Сварынь Драг.

ЗАЎЗУ́ЛЯ, ЗОЗУ́ЛЯ, ЗОЎЗУ́ЛЯ *ж.* Зязюля. *У лесе кукавала заўзуля.* Кукава-Бор Ганц. *Зозуля шчэ ны кукуе, рано.* Кустын Брэсц. *Зоўзуля довго куковала, аж стоміліся лічыть.* Чухава Пін.

ЗАЎРО́ЧЫЦЬ *зак.* Сурочыць. *Чого гледзіш так, хочэш заўрочыці?* Заполле Івац.

ЗАХВЫЦЕ́НЕ *м.* Цёмны куток. *Знов ты сыдыш у захвыцені?* Журавок Іван.

ЗАХЛЕ́ВОК *м.* Дарога за пабудовамі, за хлявамі. *По захлеўку беглі деті.* Хойнікі Бяроз.

ЗАХЛЕ́ПАНКА *ж. іран.* Неахайная жанчына. *Еі всі в сэлі звалы захлепанкою.* Семяховічы Пін.

ЗАХОЛО́НУТЫ *зак.* Застыць. *Квашылына ны поспіла захолонуты добрэ.* Кустын Брэсц. *Ой, ек захолонуты можна на морозі!* Страдзеч Брэсц.

ЗАХУ́ТАЦЬ *зак.* Зачыніць. *Захутай хату, ек будзеш кудыісці.* Люсіна Ганц.

ЗАЦЕ́НЛІВЫ *прым.* Зацяты. *От заценлівы, якраз бы конь.* Востраў Ганц.

ЗАЧВЭ́НДЫТЭ *зак.* Закапціць. *Чы ж можна так зачвэндытэ хату, ек тая господэня?* Сварынь Драг.

ЗАША́МАЦЬ *зак. экспр.* Заварушыцца. *Чуць што зашамала, у яго душа ў пятках.* Агарэвічы Ганц.

ЗАША́МКАТЫ *зак.* Забрудзіць. *Нідэ всю куртку зашамкала, трэба чыстыты.* Радчыцк Стол.

ЗАША́РХНУТЭ, ЗАШЭ́РХНУТЫ *зак.* Пакрыцца тонкім лёдам. *Сажолка ны замарзла, то дась оно вчора в ночі коло бырогів була зашархла.* Брашэвічы Драг. *Дорога ніччу зашэрхла.* Гершоны Брэсц.

ЗА́ШМОРГ *м.* Зашмарга. *Шнурок зав'езаны зашморгом.* Сулічава Драг.

ЗА́ШЧЫТ *м.* Франтон. *У хаты е зашчыт, в хліві — прычолок.* Хацíслаў Малар.

ЗБАЕ́ДАТЫ *зак.* Страціць, згубіць, немаведама дзе падзець. *Гето ж стулько грошэй треба було збаедаты.* Радчыцк Стол.

ЗБАНКІ *мн.* Гарлачыкі. *Навэсні на болоты мнуго збанкув.* Спорава Бяроз.

ЗБОБО́ЎЧЫТЫ *зак. экспр.* Ударыць чым-н. цяжкім. *Свінячым мялом збобовчыла, аж закульгав.* Дубай Стол.

ЗБІЖ, ЗБОЖ, ЗБУЖ *м.* Збожжа. *Усыпав свій збіж в скрыню.* Ляхавічы Драг. *Збож — гэто самое зерно.* Харомск Стол. *Збуж вжэ помолотылы.* Лукава Малар.

ЗБО́ЙКЫ *мн.* Перакладзіны, якія замацоўваюць станіны красён. *Збойкамы змоцюй статывкы.* Папіна Драг.

ЗБРО́ДНЯШ *м. асудж.* Гультай. *В нас ныма місьця збродняшам.* Вавулічы Драг.

ЗБУ́ТЛЫТЫ *зак.* Пачарнець ад вільгаці. *Колотка от сырости збутлыла.* Хмелева Жабін.

ЗБЫТКОВА́ТЫ *незак.* Здзекавацца. *Стыпан всё почав збытковаты з свэі Насці.* Семяховічы Пін. *Старшы ны можуть збытковаты над малымы.* Хомск Драг.

ЗВІД *м.* Калодзежны журавель. *Звід був старый і скрыпів.* Воса Кобр. *Вытягаты воду зводом лэгко.* Макраны Малар.

ЗВО́ДЫ *мн.* Плёткі. *Наробіць зводаў, цяжка і разабрацца.* Заполле Івац.

ЗВОЛО́ЧКА *ж.* Баранаванне. *Зволочка картоплів ны пумугла, засохлы.* Ставы Кам.

ЗВОРОТА́ *ж.* Заварот. *Вжэ за тым кустом хутко будэ зворота, тоді і одпочнэм.* Хаціслаў Малар.

ЗВЭ́РГНУТЫ *зак.* Нарадзіць раней часу, скінуць (пра жывёлу). *Звэргнула корова, ны будэ тылятка.* Азяты Жабін.

ЗВЯГА́ЦІ, ЗВЯГА́ТЭ *незак.* Надакучліва прасіць, патрабаваць. *Хай звягае, а ты не слухай.* Заполле Івац. *Як почнэ звягатэ, хоть вуха затыкай.* Радастава Драг.

ЗВЯЗЬ *ж.* Тое, чым звязваюць жэрдкі ў плоце. *Звязь з лозы, з бырэзыны, жэрдкы чы колкы до жэрдок звязують у нас так.* Перкі Кобр.

ЗГА́ДНУТЫ *зак.* 1. Надакучыць. *Згаднуты можэ у хаце седеці цэлы дзень.* Навасёлкі Пруж. 2. Абрыдзець. *Ты мні вжэ згаднув с свэю пляшкою.* Пескі Бяроз.

ЗГІН *м.* Статак. *Згін вэчором дудому ідэ.* Макраны Малар.

ЗГЛУМІ́ЦЬ *зак.* Сапсаваць, знішчыць. *Такую ліпку зглумілі.* Магіліцы Івац.

ЗГО́НЫНЫ *мн.* Амецце. *Збырэ згоныны, а потом дасы*

*поісты конёвы.* Арэхава Малар. *Отмэты добрэ згоныны.* Гершоны Брэсц.

ЗГОРІЛКЫ *мн.* Падгарэлыя часткі варанай бульбы. *Обріж згорілкы, бо батько будэ лаятыся.* Хаціслаў Малар.

ЗГЫЗДЫТЫСЯ *зак.* Згізаваць. *Згыздылыся коровы, ны стрыматы йіх.* Гершоны Брэсц.

ЗДАЛЬГОЦЬ *прысл.* Раней часу. *Здальгоць не хваліса.* Велута Лун.

ЗДАРАВЯКА *м.* Высокі, плячысты чалавек. *Ну й здаравяка пайшоў.* Востраў Ганц.

ЗДАТНЫ *прым.* Прыгожы. *Які здатны хлапец, так і глядзела б.* Варанілавічы Пруж.

ЗДРІК *м.* Гізун. *Як в жарку погоду здрік нападэ, коровы розбыгаюцця.* Хмелева Жабін.

ЗДУБЫЧЛІВОСТЬ *ж.* Здольнасць шукаць здабычу. *Этый субака мае добру здубычлівость.* Казловічы Брэсц.

ЗДУБЯНЕЦЬ *зак.* Вельмі змерзнуць. *На дварэ стаяў мароз, покуль дайшла, то здубянела.* Мыслабаж Лях.

ЗДЫРДЗІЦЦА *зак. груб.* Памерці. *Ек я вытнуўса, так ледзь потым не здырдзіўся.* Рамель Стол.

ЗДЫХЛЯК *м. экспр.* Хударлявы, нездаровы чалавек. *Нычого ны йість здыхляк гэтой.* Першамайск Стол.

ЗЕБРЫ *мн. абразл.* Вочы. *Чаго зебры повернуў, ну?* Люсіна Ганц.

ЗЕМНЕК, ЗЫМНЫК *мн.* Зімовая дарога. *Цілу зэму возэла сіно з болота земныком.* Арэхава Малар. *Зымнык вжэ подмірз, можна йіхаты.* Азяты Жабін.

ЗЕРНЯТА *мн.* Насенне з гарбуза. *Зернята з гарбузоў добре поесці зімою, як нема богато роботы.* В. Малешава Стол. *Дай зернят і сядай.* Азяты Жабін.

ЗІВА *ж.* Прамежак паміж ніткамі асновы, дзе праходзіць чаўнок. *Добрэ ткаты, такая зіва вылыка.* Страдзеч Брэсц.

ЗІКАЦЬ *зак.* Крыкнуць. *Як зікнула на мяне, аж я спалохалася.* Сасновы Бор Івац.

ЗІКРА *мн. абразл.* Вочы. *Якеі зікра!* Перавысь Малар. *Его зікра булы каждый дэнь чырвоныі.* Семяховічы Пін.

ЗІЛЛЕ *н.* Пустазелле. *Зілля в траві було мніго.* Гершоны Брэсц.

ЗЛЕКАЦІСА *зак.* Спалохацца. *Вэльмі я злекаласа, як обачыла його у хаце.* Здзітава II Бяроз.

ЗЛІ́ВА *ж.* Лівень. *Почалася такая зліва, з хаты ны выйты.* Ставы Кам.

ЗЛІ́ВАК, ЗЛЫ́ВОК *м.* 1. Збан. *Надоілы цэлы злівак малака.* Баравікі Лун. 2. Гаршчок. *Поўный злывок квасу наварыла.* Перунова Лун. *Цяпер наварыла оно злівок кашы пшэное.* Дзятлавічы Лун.

ЗЛІ́МІК, ЗЛІ́МОК *м.* Маленькі гаршчок. *Постаў злімік у печ.* Белавуша Стол. *Глядзі, не пэрэвэрні там злімок.* Цна Лун.

ЗЛОГ *м.* Аблога. *Парыніна лыжела у злогу трэ рокэ.* Сварынь Драг.

ЗЛОГАВА́ТЫ *незак.* Ляжаць аблогай. *Злогом лэжыть полэ, злогуе.* Радзеж Малар.

ЗЛЁПАК, ЗЛЁПОК *м. экспр.* Малое тоўстае дзіця. *А хлопчык, дальбог, злёпак.* Востраў Ганц. *Рукы одорвэш з тым злёпком.* Кустын Брэсц.

ЗМЭ́ЗБОЧКЫ *прысл.* Нечакана. *Змэзбочкы показалась хмара.* Астрамечава Брэсц.

ЗМУЦІ́ЦІ *зак.* Схлусіць. *Змуців ужэ шось.* Дабручын Пруж.

ЗМУШЧА́ЦЦА *незак.* Здзекавацца. *Фашысты так змушчаліса над народом.* Галоўчыцы Пруж.

ЗНАТУ́РЫТЫСЬ *незак.* Заўпарціцца. *Знатурывся кінь, ны хочэ ныек ітэ, шо хоч робэ, хоч плач, а йіхатэ трэба.* Сварынь Драг.

ЗНЕ́КУЛЬ *прысл.* Аднекуль. *Знекуль набосонок выбегла дзеўчынка.* Стрыгінь Бяроз.

ЗНЕ́ЦІКУ *прысл.* Знянацку, раптоўна. *Знеціку спалохалася.* Задуб'е Ганц.

ЗНІКЕ́РЫЦІСА *зак.* Вельмі стаміцца. *Так нарабіўса, што аж знікерыўса, зразу заснуў.* Лыскава Пруж.

ЗНІСТО́ЖЫЦЬ *зак.* Знішчыць. *Стольні знiстожылі ўсяго за вайну.* Агарэвічы Ганц.

ЗНІ́ШЧЫТЫСЯ *зак.* 1. Прапасці. *Усі буракы знішчылысь.* Гершоны Брэсц. 2. Зніякавець. *Чого ты знішчывся і мовчыш?* Кустын Брэсц.

ЗНО́СОК *м.* 1. Маленькае яйцо. *Зноскы жывуть міцны.* Літоўск Драг. *Забыры у гнізді зноска.* Орлавічы Драг. 2. Вылівак. *Курыця знысла зноска, шчэ кажуть вылывка.* Кустын Брэсц.

ЗНЫ́ЗАЛЫ *мн.* Дзве верхнія вопраткі, апранутыя адна на адну. *Знызалы одягнув, а на дворі ек на зло тыпло.* Тышкавічы Іван.

ЗНЯЎДО́ЛЕЦЬ *зак.* Занядужаць, захварэць. *Зусім я зняўдолеў пад старасць.* Кукава Ганц.

ЗНЯЧО́ГАЦЬ *зак.* Тое ж. *Сёння, дочанька, я так зням чогала, што аж ногі падкошваюцца.* Слабажаны Бар.

ЗО́БЗЕЛЬ *м.* Сук. *Дэрво було з зобзэлямы.* Каменка Кобр.

ЗОВЫ́ЦА, ЗОВЫ́ЦЯ *ж.* Мужава сястра. *На летніе канікулы до мене прыехалі братаніч, сестрычна зовіца.* Альманы Стол. *Моя зовыця вельмі справна господыня.* Шэбрын Брэсц.

ЗОЛІ́ННЕ *н.* Адбельванне палатна ў шчолаку. *Молодыі вжэ ны знають зоління, колы роблять шчолок і золять полотно.* Страдзеч Брэсц.

ЗОЎЗУ́ЛЬКА *ж.* Божая кароўка. *Зоўзулька повзэ по руцэ.* В. Малешава Стол.

ЗРАДНІ́ТЫ *зак.* Узрадавацца. *Алы мыні пошыховало найты свого мужыка, а моі діты то так зраднілы тогды.* Галоўчыцы Драг.

ЗРА́ЗА *ж.* Прышчэпачны матэрыял. *Шчыпленне проводят зразою.* Хмелева Жабін. *Прывіз добрых зраз, прышчыплю до дычок.* Корчыцы Кобр.

ЗРА́ЗУ *прысл.* Адразу. *Зразу я скончыла вышываць, а потым і мая сястра.* Калоднае Стол.

ЗРА́ЛІНА *ж.* Равок паміж загонамі. *Зраліна ідэ од борозны до борозны, то ямка до купы.* Лукава Малар.

ЗРЭ́ЗАТЫ *зак.* Скроіць. *Зрэж мні платте.* Фядоры Стол. *Зрэзаты зрізала, а пошэтэ ны вспіла.* Сулічава Драг.

ЗРО́ДУ *прысл.* 1. Заўсёды. *Мой брат зроду ажно в сем годзін устае.* Альшаны Стол. 2. Ніколі. *Зроду я ні чула, каб гэтак спявалі.* Дзяніскавічы Ганц.

ЗУБА́ЧЫТЫ *зак.* Пабачыць. *Осынню в лісах можна зубачыты дыкіх кабанув.* Клейнікі Брэсц.

ЗУ́БЫ *мн.* 1. Карункі. *Маня зробіла хорошы зубы, прышыла до кофты.* Мікашэвічы Лун. 2. Матыка. *Трэба узеты зубы, поворушыты гретку.* Крамно Драг.

ЗУБЭ́НЬКА *ж.* Торба з аўсом. *Тато йіхав в ліс і взяв кунёвы повну зубэньку.* Індычы Кам.

ЗУ́МЫСЛЫ *прысл.* Наўмысна. *Зумыслы спозныўся, коб роботу тую розобралы люды.* Корчыцы Кобр.

ЗУСЛО́Н *м.* Услон. *По вечорах некалі маладыя каля Суёнчыхі спявалі і гулялі. Сядзь вось на зуслон гэты, послухай.* Слабажаны Бар.

ЗУ́СНО *прысл.* Наўмысна. *Зусно прыйшоў до вас, коб позычылі.* Высокае Бяроз.

ЗУЦ *выкл.* Псік. *А зуц згэтуль.* Бярозавічы Пін.

КОПНІЦІ, КОПНЭТЭ *незак.* Складаць сена ў копы. *Я нэ ўмею копніці сено, хоч ты плач.* Пясчанка Бяроз. *Я буду копнэтэ сыно.* Дзмітравічы Кам.

КОПСАВКА, КОПСАЎКА *м.* і *ж. зневаж.* Маруда. *Копсавка прадэ, як мокрое горыть.* Кустын Брэсц. *Копсайка прышоў нарэшці, трэба было ішы помалей сунуціс.* Шылін Бяроз.

КОПСАТЫСЬ *незак. экспр.* 1. Павольна ісці. *Копсатымэ баба, копсатымэ, а до нас дойдэ.* Сварынь Драг. 2. Марудзіць. *Шо там копсаешся довго?* Кустын Брэсц.

КОПТУР *м.* 1. Жалезны абруч на коле. *Коваль наложыв коптур на колясо.* Велута Лун. 2. Навес над печчу. *Коптур трэба побылыты.* Кустын Брэсц.

КОПУХА *м.* і *ж.* Гл. копсавка. *От і копуха ты, усе топчешса на одным месці.* Альшаны Стол.

КОПЭЦ *м.* Мурашнік. *Мурашкі нагорнулі копца, на гэтом месці будут значыт ягоды хорошы, бо мурашкі знают, дэ лепш обжываціс.* Шылін Бяроз.

КОРАН *м.* Ануча. *Трэба помыць коран, гразны.* Бастынь Лун.

КОРДУП, КУРДУП *м.* Бульба. *Учора мы откопале кордуп.* Арэхава Малар. *У цітым році вродывся абы-якый курдуп.* Ланская Малар. *У нас ростэ нычогый курдуп.* Яміца Малар. *Выpraslы добры курдупы.* Ланская Малар.

КОРМНІК, КОРМНЫК *м.* Адкормлены вяпрук. *Хорошого кормніка дала маці вам.* Шылін Бяроз. *Вылэз кормнык на двір, а в хлів ныяк ны загнаты.* Гальцы Стол. *Добрый кормнык у вас, нычого ны скажыш, удався ду ідла.* Мікалаева Кам.

КОРНАТКІЙ, КОРНАТКЫЙ, КУРНАТКІЙ *прым.* Кароткі. *Корнаткій хвартух стаў як вымыла ў гарачой водзе.* Шылін Бяроз. *Корнатка одэжа ўжэ, трэба новэ ўсэ купляты.* Сігневічы Бяроз. *Курнаткый пінжак пушэв кравэць, от горэ.* Мікалаева Кам.

КОРОБ *м.* Дошкі, якімі накрываюць грэбень страхі. *Шэ трэба короба зробэтэ і затягнутэ на стріху.* Павіцце Кобр.

КОРОБКА, КУРОБКА *ж.* 1. Драўляная аконная ці дзвярная рама. *У дэрэвяной хаты вушакы на окна вставляюцца, в кірпічной — коробка.* Макраны Малар. *Двэры чыпляюцца до коробкі.* Забалацце Малар. 2. Абруч. *Набы коробку на бочку.* Сварынь Драг. 3. Плецены з саломы посуд, якім разносяць корм жывёле. *У коробцы вотру-*

*бы, возьмы і занысы коровы.* Гальцы Стол. *Куробкую руздавалі сычку курувам.* Мікалаева Кам.

КОРОБЭ́ЦЬ *м.* Сявенька. *Коробэць у вас добрый сеяты.* Радзеж Малар.

КОРОВА́Й, КУРУВА́Й *м.* Круглы вясельны пірог. *Коровай вылікій, круглый, пычуть його як высілле.* Здзітава І Бяроз. *На высіллі в мулудого був вылекій і вэльмэ вбраный курувай.* Мікалаева Кам.

КОРОВА́ННЕ *н.* Ачышчэнне дрэва ад кары. *Корованне дэрэва — лёгкая робота.* Лагішын Пін.

КОРОДА́ЙКА *ж.* Частка калаўротка, на якую наматваюць у час прадзення нітку. *Вжэ повна feкородайка ныток.* Ляхавічы Драг.

КО́РОК *м.* 1. Гл. кірка. *А то ж вышла на роботу, а корок отлецеў.* Чарабасава Лун. 2. Корак. *Закрый пляшку корком, а то розлієш.* Сварынь Драг. *Бутэлку затыкают корком.* Мікалаева Кам. *Корка неколі з бумагі робілі.* Шылін Бяроз.

КОРОЛЫ́ЦЯ, КУРУЛЫ́ЦА *ж.* Трусіха. *Королыця любыть моркву.* Макраны Малар. *Курулыца спала в клітцы.* Мікалаева Кам.

КОРОЛЮ́ШЧА *ж.* Шкарлупіна яйца. *Варымо яйцэ з королюшчою, лупымо да імо.* Здзітава І Бяроз. *Королюшчэю з еец жывота лечылі старые людзі, нєяк тоўклі ее і запарвалі.* *Шылін Бяроз.*

КОРО́НКА *ж.* Вянок. *Зарэ мало хто коронку на вэлёна робіт, молодые нешо ўсэ свое выдумляют.* Пясчанка Бяроз.

КОРОТЫ́Ш *м.* Куртка з саматканага сукна. *Коротыш пошыты по мне.* Велута Лун.

КОРОЦЮ́ПЭНЬКІЙ *прым.* Кароценькі. *Такое ўжэ короцюпэньке плацце одэнула, так нэхорошэ, шо аж дзівіціс нэ хочэцца.* Шылін Бяроз.

КОРПЕ́ЦІ *незак.* Трывожыць, хваляваць. *Корпіт мэнэ нешо, коб чого нэ случылос.* Пясчанка Бяроз.

КОРХ *м. устар.* Вяршок (мера даўжыні). *Колысь постолы плылы, то міралы корхом.* Дастоева Кам.

КОРЧ *м.* 1. Куст маліны, парэчак, лазы. *Под корчом сыділы куры.* Бярозавічы Пін. *Далёко на болоты выднілыса корчі.* Яечкавічы Іван. *Курчі лузэны зупсувалі лонку: кепсько кусэты.* Мікалаева Кам. 2. Куст бульбы, цыбулі, вывернуты з зямлі. *О, якы сылны корч картоплёв.* Гершоны Брэсц. *Вырвы до супу корч цыбулі.* Камянюкі

Кам. 3. Гронка. *Орэхі зайшэ ў корчэ, по одному мало колі бывают на дэрэві.* Пясчанка Бяроз.

КОРЧАКІ *мн.* Хмызняк (на пнях). *Корчакі хутко, бы тут жэ схватваюца на пне, як звалят дэрэво чы бура зваліт. Але воны ўжэ вэлікі нэ ростут.* Шылін Бяроз.

КОРЧІ, КОРЧЭ *мн.* Невялікі гай з перавагай вольхі. *Булы корчі коло лісу, потом вырубалы.* Кустын Брэсц. *У корчэ дзед поехаў, вон за зіму нарубае і вывэзэ машыны дзве дроў.* Пясчанка Бяроз.

КОРЧЫСТЫ *прым.* Кусцісты. *Яблыня корчыста ў городзі ўжэ.* Шылін Бяроз.

КОРЫНКІ *мн.* Сорт валакна, які здзіраецца часаннем з ніжняй часткі сцябла лёну ці канапель. *Обдіркі, як с корынчыков, то корынкі называюцца. Обыраемо на рідкі грэбэнь головкі і корынкі.* Здзітава I Бяроз.

КОРЭЦ *м.* Кубак. *Прынесі корэц воды.* Любань Лун. *Корэц стояў коля самого вэдра.* Дварэц Лун. *Гэты корэц ужэ дыркуваты.* Адвержычы Стол.

КОСА I *ж.* 1. Доўгія заплеценыя валасы. *Ну і вялікая у цябе коса.* Малахоўцы Бар. *У Мані довга і густа коса.* Люсіна Ганц. *Чорны і довгі в Ганны косы.* Мікалаева Кам. 2. *перан.* Від звязкі валакна пасля часання, адзінка вымярэння валакна. *Трыццать жмэнь, як обыруть його на грэбэні, то коса.* Адрыжын Іван. 3. Форма пляцення нітак. *Основу знымалэ з снывныці і плылэ у косу.* Сварынь Драг. 4. Прамень. *Коса од сонца йдэ, нэма як увэрх глянуці.* Шылін Бяроз.

КОСА II *ж.* Селязёнка. *Розбыралы порося, і я там бачыв косу.* Ляхаўцы Малар.

КОСІНА I *ж.* Волас. *Косіна ў гоко попала, зліжы езыком, рэжэ, дзівіціс нэма як.* Угляны Бяроз.

КОСІНА II *ж.* Выраз у аконным вушаку для падвойнай рамы. *Як ставыты другую раму, то трэба у ящчэковы косіна.* Горск Бяроз.

КОСОВЭЦ *м.* Касавокі чалавек. *Як у гочах нэ выдно чоловечка, то казалі косовэц.* Горск Бяроз.

КОСОГОКІЙ *прым.* Касавокі. *То ж некі косогокій ее гэтой кавалер, чы вона нэ бачыт?* Шылін Бяроз.

КОСТРЫЦА *ж.* Цвёрдая частка пяра. *Як дэрут пер'е, то остаеца кострыца.* Угляны Бяроз.

КОСЫ *мн. Карэнне ў цыбулі, часнаку. У молодое цыбулі малые і тонкі косы ў зэмне.* Азарычы Пін.

КОСЯК *м.* Аконны ці дзвярны вушак. *Удэн косяк кры-*

*вовато стуіт, тому і двэры нышчылно закрываюцця.* Ліпна Кам.

КОСЯ́НКА, КО́ШАНКА *ж.* Трава, скошаная на полі. *Вырвалі лён да накосілі косянкі.* Альманы Стол. *Батько прывіз повный выз кошанкі з поля, добрый корм.* Мікалаева Кам.

КОТА́СЯ *ж.* Істужка. *Дівчына заплыла в косы чырвоны котасі.* Равіны Драг.

КОТЕ́ *мн.* Ядавітыя грыбы. *То ж гето коте, нэ збырай.* Унучкі Кам.

КО́ТКА, КОТКО́ *ж. ласк.* Даражэнькая. *Ой, моя ж котка, як ты выросла.* Любань Лун. *Ах, котко моя, ныма у мынэ здоровычка.* Закляценне Драг.

КО́ТЛІСКО *н.* Гняздо курыцы. *Пойдзі забары у котліску яйца.* Раздзялавічы Ганц.

КОТУ́Х *м.* 1. Яслі для сена. *Зробіў котух даваць корові сено, а жонка зганьбовала.* Альшаны Стол. 2. Куратнік. *Прыроблюй до клуні котуха, бо ныма дэ курум сыдіты.* Здзітава І Бяроз.

КО́ЎЗАЛО *н.* Гл. ковзалка. *Дзеці пашлі на коўзало.* Сухопаль Пруж.

КО́ХТА *ж.* Кофта. *Побачно, ці лоўкую я кохту собе сшыла.* Купаўцы Лун.

КОЦ *м.* Байкавая коўдра. *Застылы лужок коцом.* Сасновічы Пін.

КОЦЫНЕ́ *н.* Кацяня. *До нас прыбылось коцыне.* Людвінова Драг.

КОЦЮ́БНІК, КОЦЮ́БНЫК *м.* Кут ля печы. *У нашым коцюбніку стоіть коцюба, вілы, ёмка.* Кабакі Бяроз. *У коцюбныку стоялы вылкы.* Маркавічы Драг.

КО́ШКАТЫСЬ *незак.* Займацца карпатлівай справай. *Довго там будэш кошкатыся.* Кустын Брэсц. *Хватыт кошкатысь тут, ідэмо йісты, маты гнываіцця.* Мікалаева Кам.

КОШЛА́ТЫЙ *прым.* Касматы. *Якій кошлатый чоловік у Мані.* Мікалаева Кам. *Кошлатэ полотно, а як побэрдыцця, то добрэ полотно, гладкэ.* Сварынь Драг. *Як намочыла, то неке полотно кошлатэ стало, нэ знаю, як высохнэ, шо будэ тоды.* Шылін Бяроз.

КОШЛА́ТЫНЫ *мн.* Пушок, які ўтвараецца ў працэсе ткання. *Кошлатын мало бувае, колы ныткы добры.* Ляхавічы Драг.

КОШЛАЦЕ́ННЕ *н.* Валасяное покрыва. *Кошлаценне по ўсём целі ў його, бы ў звера.* Пясчанка Бяроз.

КОШТРО́БА *м.* і *ж. зневаж.* Неахайны чалавек. *Коштроба твой хлопэц, розуму нэ хапае, коб хоч прычэсаціс по-люцкі.* Угляны Бяроз.

КОШУ́ЛЬКА *ж.* Абалонка лічынкі пчалы. *В цёмном воску остаюцца кошулькі.* Альманы Стол.

КО́ШЫК *м.* Від жаночай прычоскі. *Косы ў кошык заплэла, дай хорошэ.* Ляхаўцы Малар. *Колісь-то оно кошыка і знали, заплеталіс, короткіх косэй нэ знали.* Шылін Бяроз.

КОШЫЛЫ́НА, КОШЭЛІ́НА *ж.* Гл. кошыль 1. *Тётка прынысла цілу кошылыну грыбів.* Пажэжын Малар. *В кошэліны було мныго ягід.* Замшаны Малар.

КОШЫЛЫ́ТЫ, КОШЭЛІ́ЦІ *незак.* Гаварыць абы-што. *Шо мав кошылыты оно на сміх людюм, то ліпш возьмы в рот воды.* Дубраўкі Драг. *Кошэліт, шо нэнавідно слухаці.* Шылін Бяроз.

КОШЫ́ЛЬ, КОШЭ́ЛЬ *м.* 1. Кошык. *У кошылі лэжать картоплі.* Парахонск Пін. *Дід сэдів і плів кошэля.* Моталь Іван. *Прынэсы мыні кошэля з бульбою з огорода.* Гальцы Стол. 2. *перан.* Хлус, манюка. *Ну і кошыль жа ты, кошыль.* Дастоева Іван. *Ох і кошэль твой брат, хоч бы слово праўды сказаў.* Пясчанка Бяроз.

КОШЫЦА *ж.* Плеценая з лазы рыбалоўная снасць. *На бэрозі лэжала кошыца.* Аўсямірава Стол.

КО́ШЭНІЦА *ж.* Гл. косянка. *Кошэніца добра на сечку тэляці.* Шылін Бяроз.

КРАВО́К *м.* Ірха. *Ны забудь, што там трэба кравок.* Велле Стол.

КРА́ЖЫСТЫЙ *прым.* Каржакаваты, развесісты. *Кражысты Коля, у бацька ўдаўса, у того былі плечы вэльмі шырокі.* Пясчанка Бяроз. *Кражыста яблыня, мэшае горації города.* Шылін Бяроз.

КРАЙ *прысл.* Вельмі, да зарэзу. *Край тобі трэба? Почыкаты ны можно?* Кустын Брэсц.

КРА́ЙКА *ж.* Саматканы пояс з суконных нітак. *Колысь спудныці подвязувалі крайкамы.* Воса Кобр. *Ноговыцы він подвязав крайкою.* Кустын Брэсц. *Буду ткаты крайку.* Ляхаўцы Малар.

КРАМ *м.*, КРА́МА *ж.* Фабрычная тканіна, палатно. *Цепер зайдзі ў магазін, то очы разбэгаюцца, столькі много розного краму.* Люсіна Ганц. *У склеп прывызлы хорошый крам.* Сулічава Драг. *Купіла краму на сподніцу.* Велута Лун. *У магазіне е хорошый крам.* Камень Пін. *Новы крам був вельмі хорошы.* В. Малешава Стол.

*Купіла крамы на сорочку. Крама в паскы.* Дзмітравічы Кам.

КРА́МІНА *ж.* Гл. крам. *У магазіне хороша краміна е.* Заполле Лях.

КРА́МНІЦА *ж.* Магазін. *У крамніцу поступілі новые товары.* В. Малешава Стол.

КРА́МНЫЙ *прым.* Фабрычны. *Крамнэ полотно ліпшэ за домашне.* Здзітава І Бяроз. *У нас у лавцы мныго крамных ныток.* Ляхаўцы Малар.

КРА́МЭНЬ *м.* Крэмень. *Гэто зарэ крамэня забывают, а раней жэ запалкоў нэ было.* Шылін Бяроз.

КРА́МУШКА *ж.* Тое ж. *Жагву кладут на крамушку і высэкают огонь.* Пясчанка Бяроз.

КРАНТА́К *м.* Свярдзёлак. *Крантаком вывэрчуюьть дыркы в дылях.* Гершоны Брэсц.

КРА́ПЛЯ *ж.* 1. Кружочак, кропка. *Гэтэ полотно хорошчэ, бо мэнчы крапле.* Шылін Брэсц. 2. Малая колькасць чаго-н. *В гладэшцы ўсталось крапля мулука.* Мікалаева Кам.

КРАПЛЫ́СТЫЙ *прым.* Буйны, з вялікімі кроплямі. *Краплыстый дошч пошов.* Рухча Стол. *Краплыстый дошч доўго нэ йдэ.* Сігневічы Бяроз.

КРАПЛЯ́СТЫЙ *прым.* У кружочкі, у кропачку. *Краплястэ полотно на плацця купляют, а на споднісу воно нэ хорошэ.* Угляны Бяроз. *Ужэ гэта крапляста споднíца зарэ до нідочого.* Шылін Бяроз.

КРАПО́ВЕЦ, КРОПЭ́ВЭЦ *м.* Пярсцёнак. *У падружкі краповец лоўкі.* Лунін Лун. *Наложы кропэвца на палец.* Велута Лун.

КРАСІ́ЛО *н.* Крэсіва. *Красіло коб огонь запальваці.* Шылін Бяроз.

КРАСНАГАЛО́ВІК, КРАСНОГАЛО́ВЭЦЬ *м.* Падасінавік. *Многа ў гэтым годзе краснагаловікаў намарынаваць можна.* Чэрніхава Бар. *Мая Алена многа краснагаловікаў прынясла.* Навасёлкі Лях. *По вэросах багато красноголовцув.* Жоўкіна Пін. *Красноголовэць — смачный грыб, ростэ коло госыны.* Кустын Брэсц.

КРАСНЮ́К *м.* Тое ж. *Краснюкі трэба шукаты пуд усынамы.* Клейнікі Брэсц. *Літом в лісы вэльмі мныго краснюків.* Дзеткавічы Драг. *Сёдні мні цілу ніч снылыся краснюкі.* Радзеж Малар. *Любыў муй дід збыраты в бырэзыні краснюкі.* Выжлавічы Пін. *Люблю збіраты краснюкі в лісы.* Мікалаева Кам. *Краснюка, як зварыш, вэльмі*

*чорны, але і юшка гэта, і грыб затое смачны.* Шылін Бяроз.

КРАСО́ХА *ж.* Сойка. *У дуплі сыдыла красоха.* Камянюкі Кам.

КРАСЬКО́ *м. экспр.* Здаровы, прыгожы мужчына. *Такый красько еі господар.* Сварынь Драг.

КРА́ТУНКА *ж.* Андарак. *Вона була в шырокой кратунцы.* Знаменка Брэсц.

КРА́ЯНКА *ж.* Дошчачка, на якой рэжуць сала, цыбулю. *Поріж сало на краянцы.* Камянюкі Кам.

КРА́ЯТЫ, КРА́ЯЦІ *незак.* Адразаць часткі або разразаць на кавалкі. *Краяты хліб.* Кустын Брэсц. *Трэба учыціс хорошэ хлеб краяці.* Шылін Бяроз.

КРОВЭ́ШКА *ж.* Дробны дождж. *Такая кровэшка, так змочыло мэнэ.* Макраны Малар.

КРОП *м.* Кіпень. *Налі ў корец кропу.* Кароцічы Стол.

КРО́ПЭЦЬ *м.* Кроп. *Як соляць гуркы, то кладуць кропэць.* Сварынь Драг.

КРО́САНЫЙ, КРО́СЁНЫЙ *прым.* Які адносіцца да кроснаў. *Всю збрую кросаную называють понорадом.* Арэхава Малар. *Вынэсы кросёный наред.* Олтуш Малар.

КРО́СНА *мн.* 1. Ткацкі станок. *Кроснамі ткуць ходнікі.* Лінова Пруж. *Маты вныслa в хату кросна, будэ дывана ткаты.* Мікалаева Кам. 2. Наведзеная на ткацкі станок аснова. *Трэба навыватэ уснову на вурутыло, ужэ як навьють на став, тогды ужэ звуць кросна.* Сварынь Драг. 3. Вытканае, але яшчэ не знятае палатно. *Як доткала, то вырэзала кросна.* Адрыжын Іван. *Трэ вырызаты кросна, бо ны так: чы бэрдо ныдобрэ, чы ныт ныхорошый.* В. Лес Драг.

КРО́ХІ, КРО́ХЫ *прысл.* Трошкі. *Дай крохі семычок пулускаты, ны шкудуй.* Мікалаева Кам. *Насып крохы зэрнят.* Парахонск Пін.

КРУГЛЁК, КРУГЛЯ́К *м.* 1. Бульба. *На вычэру наварылы круглекіў.* Крамно Драг. 2. Яйцо. *У коробцы лыжеть курыны круглякы.* Вавулічы Драг. 3. Бервяно, ачышчанае ад кары. *Добрый кругляк, рівны і товстый.* Канатоп Пін. *Круглякі пускают на доскі.* Шылін Бяроз.

КРУГЛЯКІ́ *мн.* Настурцыя. *Гэты квіты так называють, бо в іх круглый лыст, то і круглякі.* Моталь Іван.

КРУГО́Л *м.* Блін. *Маты спыкла кругла.* Вулька Пін.

КРУЖКЫ́ *мн.* Від узора. *Шчо іначэй у кружкы тчуть,*

*на ныт ступають штыры або п'еть, а потом назад і выходять кружкы.* В. Лес Драг.

КРУЗ *прыназ.* Праз, цераз. *Мняч пырылытів круз пліт.* Радаўня Іван.

КРУК *м.* Крумкач. *У нашого сусіда крук забыв двое гусынят.* Ляхавічы Драг. *Крук і гусь старую забыты може.* Мікалаева Кам.

КРЎМКАЦЬ *незак.* 1. Квакаць. *Гарох пара сеяць, жабы крумкаюць.* Паланэчка Бар. *Будэ тэпло ўжэ, раз жабы крумкают.* Шылін Бяроз. 2. *перан.* Выпрошваць. *От крумкая і крумкая, каб дала яму грошай.* Паланэчка Бар.

КРУПАНЫ́ЦЯ *ж.* Крывяная кілбаса. *Крупаныця була смачна.* Унучкі Кам.

КРУПЭ́ЛЬЧЫК *м.* Частка ткацкага станка, калёсікі, якія рэгулююць становішча нітоў. *В ставовы крупэльчык, по ёму бігае ныт.* Спорава Бяроз.

КРУПЭ́НЯ *ж.* Крупнік. *Возьмы налій крупэні, йіж.* Шэбрын Брэсц.

КРУТІ́ЛКА *ж.* Рамы, на якія намотваюць ніты. *На крутілку маты сновала прежу.* Олтуш Малар.

КРЎТО *прысл.* 1. Туга. *Круто спрала ныткі, мыцны будут.* Мікалаева Кам. 2. Хутка. *Тая баба круто говорыть, нэ розбэрэш.* Мельнікі Малар.

КРУТЫ́ЛЬ, КРУЦЕ́ЛЬ *м. іран.* Нясталы чалавек, ілгун. *Шчо ты мні, крутыль, доказваеш, як сама тое бачыла.* Радчыцк Стол. *Ну і крутыль ты, і пулувэны правды ныма в тым, шчо нагувурэв.* Мікалаева Кам. *Зноў гэтой круцель прышоў, хоч ты с хаты ўтэкай, як начнэ муціці.* Шылін Бяроз.

КРУТЭ́ЛЬ *м.* Сукаратка. *Сіла прасты нэвмеючы і накрутыла крутэля.* Кустын Брэсц.

КРЎХІ *мн.* Хлебны квас. *Да салёнікаў падалі крухі.* Ласасіна Пруж.

КРЎЧА *ж.* Завіруха. *Захудылася круча на двурі.* Макраны Малар. *Зноў круча ўсе дорогі позаметае.* Шылін Бяроз.

КРУЧАНЭ́НА *ж.* Тое ж. *Якая кручанэна на гуліці, аж страшно з хаты выходыты.* Мікалаева Кам.

КРЎЧВАНКА *ж.* Вялікая хустка. *Я купіла нову кручванку.* Велута Лун.

КРЎЧЫ *мн.* Боты з высокімі галянішчамі. *Кручы — чоботы з довгымы холявамы.* Спорава Бяроз.

КРУШНЫ́ *прым.* Ломкі, крохкі. *Вырбына крушная,*

*ны лізь, бо вырба крушная — впадэш.* Радастава Драг.

КРЫЖАНІЦА *ж.* Палявдвіца. *Одразу вырэзалі крыжаніцу.* Велле Стол.

КРЫЖА́НКА *ж.* Астра. *На столі стояв букет крыжанок.* Астрамечава Брэсц.

КРЫЖУ́ВКА *ж.* Перакрыжаванне. *На крыжувцы трэба буты усторожным.* Макраны Малар.

КРЫКІ́ШКА *ж.* Выступ кораня. *Крыкішкі дуба выглядают с-пуд зымлі.* Воса Кобр.

КРЫКСЫВЫ *прым.* Крыклівы, сварлівы. *Хоч вона і крыксыва, да людём нэ врэдна.* Сігневічы Бяроз.

КРЫ́ЛЛЯ *мн.* Палі капелюша. *Вэлыкі крылля в капэлюшовы.* Олтуш Малар.

КРЫ́ПА, КРЭ́ПА *ж.* Лодка. *Налавіў рыбы поўную крыпу.* Дзяніскавічы Ганц. *Крэпую ны так упасно кататься на рычцы, як човном.* Мікалаева Кам.

КРЫШАНЫ́, КРЫШАНЭ́ *мн.* Бульбяны суп. *Ныма ліпш іды, як крышаны з картоплюв.* Мінянка Кобр. *На вычэру мы крышаны варылі.* Адвержычы Стол. *У крышанах плавало много шкварок.* Туляцічы Іван. *Неколі налеш міску крышаноў, выесі і робіш цяшко. Одны крышанэ елі і здоровы былі.* Шылін Бяроз.

КРЭД *м.* Каляровы аловак. *Дай мні пару крэдув малюваты.* Пруска Жабін.

КРЭ́ДЫС *м.* Шафа для посуду. *У крэдысовы стояло мныго хорошыі посуды, маты іі любыла.* Мінянка Кобр.

КРЭ́ПЭЛЬ *м.* Вадасцёк. *Трэба поставіць вэдро пуд той крэпэль на воду.* Бастынь Лун.

КРЭ́ЦЭК *м.* Маленькае калёсіка калаўрота, якое знаходзіцца каля шпулі і перадае ёй рух вялікага кола. *Бэз крэцэка ны можна прасты.* Арэхава Малар.

КУБА́НЯ *ж.* Выбоіна, запоўненая вадой. *Мыжы болотом е, ек выб'е скутына, то кубаня, там вуда стоіть.* Радзеж Малар.

КУБА́РКА *ж.* Адтуліна ў печы. *Чыгунчык з кашэю стуіть в кубарцэ.* Гаравіца Драг.

КУ́БАЧКА, КУ́БЫРКА *ж.* Ямка ў печы для попелу. *Згорны попыл у кубачку.* Адрыжын Іван. *Я пойду на роботу, а ты выгрыбы попыл з кубыркы.* Ляхавічы Драг.

КУ́БАХ *н.* Гняздо. *Бусён сыдів на кубаховэ.* Архова Брэсц.

КУ́БЕЛ *м.* Вялікая скрынка. *Кубел быў зробляный з дубового дэрэва.* Пясчанка Бяроз.

КУБЕ́ЛЕЦ *м.* Тое ж. *Поўны кубелец сала.* Ліпск Лях.

КУ́БЛІК *м.* Бочка. *Налі ў кублік вады, бо рассохся.* Панкі Івац.

КУБЛО́ *н.* Гл. кубах. *А в нас на хаты бусёк кубло зрабыв.* Гальцы Стол. *Малыі діты нашлы ў кублі пташынятко.* Бярозавічы Пін. *Куры недзе наробяць кубла, што мы і не понаходзім.* Купаўцы Лун. *Хутко мы нашлы кубло ластовкы.* Крытышын Іван.

КУ́БЛЯТЫСА *незак.* Марудзіць. *Чого ты там так довго кубляесса — пора іты.* Барычэвічы Пін.

КУ́БОЛ, КУ́БЭЛ *м.* 1. Драўлянае вядро, падвешанае да калодзежнага жураўля. *Новым кублом добрэ набыраты воду.* Мікалаева Кам. 2. Вялікая скрынка. *Кубэл быў гнілый, попросіла, коб зробіў нового, бо сало ж трэба недэ складаці.* Угляны Бяроз.

КУБЭ́ЛЕЦ *м.* Гл. кубел. *Кубэльца трэба просушыці, пока сонцэ, сала ў ём усёроўно нэма.* Шылін Бяроз.

КУВЭ́ННІК *м.* Качарэжнік. *У кувэнніку стуялі вылкі до чыгуныв.* Макраны Малар.

КУГЭ́ЛЬКА *ж.* Вялікая драўляная лыжка. *Зварануюдэню росколотэлэ кугэлькою.*Перавысь Малар. *Я помышела кугэлькою у горшчыку.* Арэхава Малар.

КУ́ДАСА, КУ́ДОСА *ж.* Завея. *На дварэ была вялікая кудаса.* Мыслабаж Лях. *На вуліцы ўсхадзілася страшная кудаса.* Малахоўцы Бар. *На дворы раптом пуднялась выліка кудоса.* Высокае Бяроз. *Усю ноч була гэтая кудоса.* Бярозавічы Пін.

КУ́ДЛЫ *мн. пагард.* Доўгія валасы. *Ходыт, кудлы руспустэвшы, ны стыдаіцця ныкого.* Мікалаева Кам. *Кудлы вецёр трэпэчэ; а ёй ніц нэ обходзіт гэто.* Шылін Бяроз.

КУДРАВЭ́Ц *м.* Сорт ільну. *Довгунэц тыпэр, а колысь кудравэць; на довгунцёвы на одный стыблыны одна головка, а на кудровцёвы — п'ять, шість, сім головок.* Ляхавічы Драг.

КУДЭ́ЛІШЧЭ, КУДЭ́ЛЫШЧЭ *н.* Вертыкальная частка пралкі, да якой прывязваецца кудзеля. *На потэсі до кудэлішча прыўязваецца кудэля.* Шылін Бяроз. *Кудэлышчэ дэ прясты.* Хідры Драг.

КУДЭ́ЛЯ *ж.* 1. Кудзеля. *Кудэля бувае з лёну, коноплі, з клочча, вовны.* Радзеж Малар. 2. Ачосы. *Грэбэні гэто для обырання льну: на гэтый зрывають кудэлю, што гурша, а в гэтый — вся.* Здзітава I Бяроз.

КУЖІЛКА *ж.* Частка самапралкі. *Кужілка вкладаецця в стулэць.* Олтуш Малар.

КУЖІЛЬНЫ, КУЖЫЛНЫ *прым.* Кужэльны. *Прежа ляная, вовняна, конопляна, кужільна добра.* Ляхавічы Драг. *Маты пушэла всім кужыльны суручкі і нагавэці.* Мікалаева Кам.

КУЖЫЛЬ, КУЖЭЛЬ *м.* 1. Кужаль. *Кужыль — самы главны лён, шчэткою чэшэмо.* Здзітава І Бяроз. 2. Ільняныя ніткі. *Кужыль — самая ліпшая пража, самы мыцны ныткі.* Мікалаева Кам. *Із тонкого кужэлю шылі бабы на свято сорочкі.* Бузуны Пруж. *Лепшы лён пралі на тонкі кужэль і на ровны кужэль.* Там жа.

КУЗЕВКА *ж.* Дробны дождж. *Кузевка маросыть цілый дэнь.* Арэхава Малар.

КУЗЕНЬКА *ж.* 1. Берасцяная каробачка. *Надралы бэрэсты і зробылы кузеньку на ягоды.* Макраны Малар. 2. Невялікі кошык. *Я зайчора набрала кузеньку козлякоў.* Сінкевічы Лун.

КУЗІК *м.* Гузік. *Все гетые кузікі подыходзяць к косцюму.* Люсіна Ганц. *Кузік одорвайса од пальта, трэба прышываці.* Шылін Бяроз.

КУЗЫРОК *м.*, КУЗЭРКА *ж.* Кепка. *Батько купэв мны новый кузырок на літо.* Мікалаева Кам. *У магазыні е новы кузэркі.* Сварынь Драг.

КУЗЯ *ж. дзіц.* Жарабя. *Побач оно, сынок, кузя бэжыт за коніком.* Шылін Бяроз.

КУКЛА *ж.* 1. Самаробная соска. *Як было дзіця крыклівэ, то куклу робілі з цукру і хлеба і давалі ў рот, коб моўчало.* Пясчанка Бяроз. *Дамо куклу сцаці малому, коб нэ крычало.* Азарычы Пін. 2. Звязаныя ўверсе каласы як метка ў жыце. *Куклу діты вырвалы; нэ знаю дэ й жала учора.* Гальцы Стол.

КУКУДАКАТЫ, КУКУДАКАЦІ *незак.* Голасна кудахтаць. *Пруслідэ дэ кукудачэ курыця, там, мусыть, гныздо іі.* Мікалаева Кам. *Кукудакаці курыца зра нэ будэ, нешо е там, сходзі ў хлеўчык.* Шылін Бяроз.

КУЛАЙ *м.* Нож. *На столі лыжев кулай.* Заверша Драг.

КУЛЕШ, КУЛІШ *м.* Прасяны суп. *Маці наварыла кулешу.* Велямічы Стол. *Баба зварэла куліш з мулуком і маслом.* Радастава Драг.

КУЛІТКА *ж.* Буханка. *Позыч кулітку хліба.* Канатоп Пін.

КУЛІК, КУЛЫК *м.* Сноп, вязка (ільну, канапель,

саломы). *Лён сцелют, збіраюць, ставят кучкі, коб сох, звязвают у кулікі.* Бузуны Пруж. *Пузэч пару куліків суломы на сычку.* Мікалаева Кам. *Кулыкы знялы з хлыва, а покрылы шыфером.* Навасёлкі Кобр. *Крэшу крэют кулікамі, а углэ накрываюць устрышкамі.* Мікалаева Кам.

КУЛІСО́К *м.* Сноп, не абмалочаны да канца. *Куліска ны вытрэсюють.* Радастава Драг.

КУЛО́Т *м.* Жардзіна, якой боўтаюць у вадзе, каб загнаць рыбу ў сеці. *Будэш по бэрозы іты і кулотом загоняты рыбу у сетку.* Ляхавічы Драг.

КУЛУТУ́ШКА *ж.* Гл. колотуха. *Мамо, на снеданне кулутушку зварь.* Адвержычы Стол.

КУЛЬБА́КА *ж.* 1. Кій, на які абапіраюцца пры хадзе. *Дэ дзед з кульбакою.* Парасляны Пруж. 2. Ніжняя частка ярма. *У ярмах булі кульбакі.* Альманы Стол. 3. Частка ткацкага станка — ручка, якую накладаюць на зубы вялікага драўлянага кола, якім утрымліваецца ў патрэбным становішчы задні навой. *На вылыкым воротылы — рукоятка: сучка, кульбака, на малым — запырэнька.* В. Лес Драг.

КУЛЬБА́ЧКА *ж.* Падсядзёлак. *Одпусті у коня кульбачку, бо едэм на гору.* Коланск Івац. *З кульбачкую кунёвы лёкшый тягнуты нагружаного воза.* Мікалаева Кам.

КУ́ЛЬША *ж.* Вугал і грань у складзеным на возе сене, снапах, саломе. *Еслі правыльно кульшы ны пуложыш, то в дурозы хура можэ руз'іхатысь.* Мікалаева Кам.

КУЛЭ́ШНЯ *ж.* Хлеўчык для дроў. *Прынысы з кулэшні дров.* Дарапеевічы Малар.

КУ́ЛЯ *ж.* Ручка сахі. *Гнёна у сохы куля.* Ляхавічы Драг.

КУ́МАТЭ, КУ́МКАЦЬ *незак.* Квакаць. *Жаба кумае.* Арэхава Малар. *Жабы моцно кумкают, коб дощчу нэ было.* Пясчанка Бяроз.

КУМПА́НЯ *ж.* Кампанія. *За сталом сядзела вясёла кумпаня.* Навасёлкі Бар. *Кумпаня твоя до дубра нэ довэдэ.* Ланская Малар.

КУ́НВА *ж.* Бідон для малака. *Дояркі выдоілы коровы і вылылы молоко в кунвы.* Выжлавічы Пін.

КУНДЖАРА́ВЫ, КУЧАДРА́ВЫ *прым.* Кучаравы. *У Алы кунджаравы косы.* Сухопаль Пруж. *Кучадравы Міхалінін хлопец.* Заліпенне Лях.

КУ́ПА I *ж.* 1. Купіна. *Купы на болотэ, косэтэ тежко.* Сварынь Драг. *Скакалы з купы на купу, коб ны встрагнуты.* Кустын Брэсц. 2. Куча, група. *У пысковы купаіцця цыла купа дытэй.* Мікалаева Кам.

КУ́ПА II *ж.* Адзінка вымярэння (60 снапоў, кучак ільну, яек). *Купа — гэто шысцьдысят снупыв увса, ячмэню, жэта. Выбрала ут курэй дві купэ іець.* Мікалаева Кам.

КУПЫНА́ *ж.* Гл. купа I. 1. *Такая купына на булоты, ныма як кусою рузмахнутыся.* Мікалаева Кам.

КУРА́ЗА *м. пагард.* Неадчэпны, задзірысты чалавек. *Гэты кураза і тут нос уткнув.* Падлаззе Лях.

КУРА́ПА *ж.* Жаба. *Курапу бачылі на дарозе.* Мікашэвічы Лун.

КУРЛЫНЯ́ТКО *н.* Трусяня. *Курулыця прывыла двух курлыняток.* Макраны Малар.

КУ́РОК *м.* Гл. кірка. *Тухлі на курках харошы, але в іх кепско ходзіці, як курок высокі.* Андрыянаўка Пруж.

КУРО́ЛЬ *м.* Трус. *Куроль сыдів у клітцы, ів моркву.* Макраны Малар.

КУРПЭ́НЧЫК *м.* Драўляны самаробны гузік. *Курпэнчык з дэрэва бы гузь.* Спорава Бяроз.

КУРУ́ГВА *ж.* Качарга. *Куругва стоіть в угловы.* Дарапеевічы Малар.

КУРУ́НКІ *мн.* Цюль. *На окна пувісылы вельмо красівы курункі.* Клейнікі Брэсц.

КУРЫ́ТЭ, КУРЫ́ЦІ, КУРЭ́ТЫ *незак.* 1. Дыміць. *Сыреі дрова почалэ курытэ.* Сварынь Драг. *Зноў пліта начала курыці, трэба просіці Вінцуля, коб подзівіўса.* Шылін Бяроз. 2. Пыліць. *Як поле пырысохнэ, то пры уранні чы бурунуванні страшно курэт.* Мікалаева Кам. 3. Імжэць. *І ўжэ надоўго дошч, абы почаў курэці.* Пясчанка Бяроз.

КУРЯ́ЧКА *ж.* Галавешка. *Курячка дэмэтэ стала.* Дзмітравічы Кам.

КУСЬКЕ́ *мн.* Вілы. *Куське стуеть в хліві.* Павіцце Кобр.

КУСНЭ́К *м.* Пояс. *Де подівся мій куснэк, подпаразатысь трэба.* Закозель Драг.

КУСТРУ́Г *м.* Штабель. *Я наскладав цілый куструг дров.* Ваўкаставец Кам.

КУСТЯ́ *ж.*, КУСЦЕ *н.* Кассё. *Він якось по-новому трымався за кустю.* Цюхінічы Брэсц. *Кусьце робат пу росту чулувіка.* Мікалаева Кам.

КУСЯ́К *м.* Суконная куртка. *Кусяк був вэльмы міцный і тэплый.* Макраны Малар.

КУТАСЁВКА *ж.* Шарсцяная хустка з махрамі. *Батько купыв мні хорошу кутасёвку.* Спорава Бяроз.

КУТА́СЫ, КУТАСЭ *мн.* Махры. *Хустка з кутасамі була выліка і хуроша.* Макраны Малар. *Кутасэ в хустцы буле довгі і густы.* Мікалаева Кам.

КУТА́СЯ *ж.* Істужка. *Мама заплыла в косу Наді нову кутасю.* Лука Кобр.

КУ́ТАТЫ, КУ́ТАЦІ, КУ́ТАЦЬ *незак.* Мыць. *Я буду кохту кутаты.* Літоўск Драг. *Кутаці одэжу трэба ў цёплой водзе, у холодной нэ одмыеш.* Шылін Бяроз. *Маці кутала белізну.* Скорцы Пруж.

КУТА́Х, КУТУ́Х *м.* 1. Яслі ў хляве. *Одгороды кутаха в хлыві.* В. Шчытнікі Брэсц. 2. Хлеўчык для курэй. *Куры нучують в кутуху.* Гаравіца Драг.

КУТО́К *м.* 1. Вугал у хаце. *В кутковы стуялі вінык, куцюба, вілкі, куцюбка.* Мікалаева Кам. *Кутка трэба прыбраці, зашмальцовалі вілкамі.* Шылін Бяроз. 2. Патайное месца. *Залізь в куток і сыды, ны швэндайся пуд нугамі, ны мышай руботу рубэты.* Мікалаева Кам.

КУТО́ЎНЫК *м.* Від рубанка. *Накыд пуд шкло у окне выбырают кутоўныком.* Горск Бяроз.

КУ́ТЭНЬ *м.* Вантрабянка. *Для готовання кутня пошло мныго чясу, алэ зато було смачно.* Мінянка Кобр.

КУТЫЛЬГА́ *м.* і *ж.* Кульгавы чалавек. *Він маленькым упав з кровіт і став кутыльгою.* Хідры Драг. *Вона кутыльга з малэе.* Сігневічы Бяроз.

КУТЯ́, КУЦЯ́ *ж.* 1. Каша з ячных круп. *На коляду густу кутю варать.* Спорава Бяроз. *Вона вэльмі любіла куцю з молоком.* Шылін Бяроз. 2. Ячныя крупы. *Кутю прудають і ў магазіны.* Спорава Бяроз. 3. Памінальная ежа. *Проскурку у сыту покрышымо, тоі кутті кожны попробуе.* Гарадная Стол.

КУФА́ЙКА, КУХА́ЙКА, КУХВА́ЙКА *ж.* Фуфайка. *На гвоздёвы вісыть куфайка.* В. Якаўчыцы Жабін. *Майму малому пашылы кухайку.* Навасёлкі Бар. *В магазіны купылы тэплу кухвайку.* Макраны Малар.

КУ́ХЕЛЬ *м.* Кубак. *Чэсом добрэ выпыты кухель кыслого квасу.* Ланская Малар. *Памянш.* к у́ х л і к. *Маці наліла ў кухлік молока.* Давыд-Гарадок Стол. *Выпіла кухлік чаю солодкого.* Альманы Стол.

КУ́ХЕР, КУ́ХОР *м.* Куфар. *У нас е вэлікі кухер.* Пу-

зічы Лун. *Кухор завжды був на замку.* Вулька Дастоеўская Іван.

КУЦА́ЙЧЫК *м.* Абломак нажа. *Картоплі добрэ обыраты куцайчыком.* М. Шчытнікі Брэсц.

КУ́ЦІ *н.* Парасё. *Я купіла собе беленькое куці.* Альгомель Стол.

КУ́ЧА *ж.* Валасы. *У мое дочкі гэтака хороша куча на голове.* Чарабасава Лун.

КУ́ЧКА *ж.* 1. Падпечак. *Куры ужэ наілыся, зыжыны іх у кучку.* Гальцы Стол. *Гэто шчы у вас куры пуд кучкою сэдять?* Радчыцк Стол. 2. Ямка пад прыпечкам, дзе ставяць гаршкі. *Збанок стоіт в кучцы.* Макраны Малар. 3. Паглыбленне ў печы, дзе кладуць лучыну. *Во, лучыны наколов, набыры і занысы у кучку, хай пудсыхае.* Судзілавічы Бяроз. *Положэтэ курячку в кучку.* Дзмітравічы Кам. 4. Адгароджаны вугал у хляве. *Удгурудэ кучку в хліві увычкам.* Мікалаева Кам.

КЫБКА, КЭБКА *ж.* Гл. кубачка. *Згорны попел у кыбку.* Адрыжын Іван. *Жар в кэбку грэбі.* Азарычы Пін.

КЫСЛЬ *ж.* Кісліна. *Бочка кыслю оддае.* Сварынь Драг.

КЫСЛЁХА *ж.* Кіслае малако. *На стіл поставылы істы кыслёху.* Яміца Малар.

КЫТА́ЙКА *ж.* Істужка. *Маты уплыла у косы дочцы кытайку.* Залессе Кобр.

КЫШ-А-КЫШ! Вокліч, якім адганяюць курэй. *Кыша-кыш одсіля.* Кустын Брэсц.

КЭ́ДЫСЬ, КЭ́ДЮСЬ *прысл.* Калісь. *Тут кэдысь рус вэлыкі дуб.* Боркі Пін. *От кэдюсь було — натягаесса за цілый дэнь, то спыш як убытый, на улыцу нэ потягнэ.* Каўбы Пін.

КЁДЭШНІ *прым.* Колішні. *Кедэшне вэселле было лепшэ, а зарэ прайят абы, і спуваці нэ ўмеют, оно едзят.* Шылін Бяроз.

КЭЙ *прыназ.* Гл. кай. *Кэй хаты зобралоса много людзей.* Св. Воля Івац.

КЭ́СТКА *ж.* Кадык. *В мэнэ пуд горлом вэлыка кэстка.* Азарычы Пін.

КЭ́ЦА *м.* і *ж.* *іран.* Няўмека, маруда. *От кэца, наварэла, шо чоловік ны зможэ істэ, ек поросетам.* Ласінцы Драг. *Кэца, а нэ мужык у хаці, горэ на мою голову.* Пясчанка Бяроз.

КЭ́ЧКА *ж.* Завязка. *Треба прышэтэ кэчку до фартуха.* Закозель Драг.

# Л

ЛАБАНДА́ *ж.* Варэнне з чарніц з дабаўленнем мукі. *Я наварыла лабанды з ягод, это однэ, шчо ягодніца.* Велле Стол.

ЛАБО́К *м.* Франтон. *На лабку было зроблянэ окэнцэ.* Казлы Пруж.

ЛА́ВА I *ж.* Участак зямлі на асушаным балоце. *Усю лаву засеялі буракамі.* Амяльная Івац.

ЛА́ВА II *ж.* Услон. *Сядай на лаву.* Тартакі Бар.

ЛА́ВКА, ЛА́ЎКА, ЛА́ФКА *ж.* Магазін. *В лавку прывэзлы цюкеркув.* Гаравіца Драг. *У лавку трэба сходыты, бо вжэ і сыль скончылася і запалок ныма.* Мінянка Кобр. *От цяпер понавозілі ў лаўку ўсёго ўсякого.* Купаўцы Лун. *Збірайся скорэй, бо ў лаўку прывезлі товары.* Дзятлавічы Лун. *Ходы в лафку.* Спорава Бяроз.

ЛА́ВОЧНІХА *ж.* Загадчыца або прадавец магазіна. *Нова лавочніха прыехала к нам.* Перунова Лун.

ЛА́ГА *ж.* Падваліна, на якую кладзецца падлога. *Лага пэрэгніла, трэба пэрэноўляці, нову класці.* Здзітава II Бяроз.

ЛА́ГВІЦЯ, ЛА́ГВЫЦЯ, ЛА́ГВЭЦЯ, ЛА́ЗВІЦЯ *ж.* Невялікая бочачка з накрыўкай для сала. *Лагвіця зроблянa з дубовых душчок.* Радастава Драг. *Сала насолыв цілу лагвыцю.* Воса Кобр. *У лагвэці лэжыць вжэ мало сала.* Сварынь Драг. *Маты куля кулёдаза мые лазвіцю, бач. Завтра мы будэмо свіню быты.* Гаравіца Драг.

ЛА́ГУВКА, ЛА́ГАЎКА *ж.* Тое ж. *Наклалы цілу лагувку сала.* Казловічы Брэсц. *Прынэсы сала з лагаўкы.* Макраны Малар.

ЛАГУ́Н *м.* Склеп пад падлогай. *Лагун ссыпан картоплем.* Чарняны Малар.

ЛА́ДКА *ж.* Ахапак сухога лёну ці каноплі. *Ладку лёну дома трымаю, жмень чэтвірэ ці тры, штоб не простывай, як цёплы, то скорэй трэцца.* Харомск Стол.

ЛА́ДКІ *мн.* Дранікі. *От я люблю картопляные ладкі.* Талмачова Стол.

ЛАДЫ́ШКА, ЛАДЭ́ШКА *ж.* Збан. *Наліла поўную ладышку малака.* Навасады Бар. *На столі стоіть ладэшка молока.* Ласінцы Драг.

ЛА́ЗУБЭНЬ *м.* Каробка з ліпавай кары для мёду. *А шчэ колысь мэд дэржалы в лазубнэвы.* Забалацце Малар.

ЛА́Й *ж.* Лаўка. *Лай стоіть посерод хаты.* Кажан-Гарадок Лун.

ЛАМА́НКА *ж.* Паляўнічая стрэльба. *Зарады ламанку.* Велута Лун.

ЛАНДА́НАК *м.* Вялікая міска. *Валя наліла ў ландашак вады.* Паланэчка Бар.

ЛА́НКА *ж.* Участак зямлі, вызначаны для апрацоўкі. *Мы тыпэр выбралы ланку буракыв.* Гошава Драг.

ЛА́НТУГ, ЛА́НТУХ *м.* Мяшок. *Ны звызлы мы вчора лантугы, а тыпэр дошч пошов.* Падлессе Жабін. *У лантуху вэзу поросятко.* Мікашэвічы Лун.

ЛА́ПА *ж.* Латка. *Дві лапы прышый і дырок нэ будэ.* Гальцы Стол.

ЛАПА́ТКА *ж.* Маленькі снапок саломы, які кладуць у страсе каласкамі ўверх. *Лапатка — снапок на страху, кладуць уздром уверх.* Навасады Бар.

ЛА́ПІК *м.* Кавалак, абрэзак тканіны. *Одорві мні лапіка.* Адвержычы Стол. *Памянш.* л а п і ч а к. *Яна не знайшла лапічка.* Ласасіна Пруж.

ЛА́ПНО *н.* 1. Вапна. *До школы прывызлы тры машыны лапны.* Мастыкі Бяроз. *Трэба хату побэліты, да нэма лапна.* Каўняцін Пін. 2. Гліна. *Йды прынэсы в хату лапно піч замазаты.* Гарадная Стол.

ЛАПТУ́Х *м.* Матылёк. *Ой, такі здатны лаптух паляцеў.* Лыскава Пруж.

ЛАПУ́Н *м.* Верхняе суцэльнае бервяно ў сцяне. *Той лапун в покутнюю стыну будэ куроткі, трэба наточуваты.* Харсы Брэсц.

ЛАР *м.* Скрыня. *Лар — збіж трыматы, овэс, просо, горох, сімня с конопэль.* Олтуш Малар. *Лар стоіць у сцёпцы.* Давыд-Гарадок Стол.

ЛАСТУВЫ́ННЕ *н.* Вяснушкі, рабацінне. *Высыпалось мніго ластувыння.* Астрамечава Брэсц. *Вісной в еі показалось ластувынне, аж рабая стала од його.* Макраны Малар.

ЛА́СЫЦІ *мн.* Малюнкі ад мароза на шыбах. *На окнах мороз рысуе ласыці.* В. Якаўчыцы Жабін.

ЛА́ТА I *ж.* Жэрдка, дошка, якія кладуцца ўпоперак крокваў. *На всю хату вже прыдбав латэй.* В. Лес Драг. *Латы булы покладены на хату.* Ляхаўцы Малар.

ЛА́ТА II *ж.* Адзенне. *Ганна почала розвішуваты латы.* Высокае Бяроз. *Іногда говорать, шо портніха шые латы, то — одэжу.* Яечкавічы Іван.

ЛАТА́НЯ *ж.* Гліняная міска. *Маці поставіла ў печ таўпеню ў латані.* Белавуша Стол.

ЛАТА́ХКАЛО *м. іран.* Чалавек, які робіць усё хутка, але не якасна. *У брыгадзі некалькі латахкалоў.* Велута Лун.

ЛАТА́ЦЦЕ *н. зборн.* Лотаць. *На лузе цвіло латацце.* Арабнікі Пруж.

ЛАТА́Ч, ЛОТА́К *м.* Тое ж. *Стояв букет з латачу.* В. Якаўчыцы Жабін. *Раз я нарвала лотаку, прывэзла додому, а тэля прышло до лоткы да й увэсь з'іло.* Спорава Бяроз.

ЛАТА́ША *ж.* Тое ж. *Іды, нарсы букет латашы.* Каўняцін Пін.

ЛА́ТНЫК *м.* Коўдра, вытканая з рознакаляровых абрэзкаў. *Маты надрала латей і выткала латныка.* Дастоева Іван.

ЛАТОШЫ́ТЫ *незак. экспр.* Латашыць. *Вона стала латошыты яблыка.* Агова Іван.

ЛАТУ́ХА *ж. устар.* 1. Саматканае суконнае паліто. *Бідный був, я навыть своеі латухы ны мів.* Воса Кобр. 2. Світка, упрыгожаная вышытымі кветкамі. *До латухы прышываають жычковы квыткы.* Ляхаўцы Малар. 3. Доўгі пінжак. *У его латуха сывая.* Макраны Малар.

ЛАХА́НКА *ж.* Міска. *Зупка стаіць у лаханцы.* Навасады Бар. *Налі супу ў лаханку.* Мікашэвічы Лун. *Налілі ў лаханку крышаноў.* Хорск Стол.

ЛАХА́ЧЭ, ЛОХАЧЭ́ *мн.* Буякі. *У гэтым годзе урадзілі добрэ лахачэ.* Амяльная Івац. *Мы отправіліся ў лес по лохачэ.* Арабнікі Пруж.

ЛЕГА́РЧЫК *м.* Дошка падлогі. *Легарчыкі булы добрэ обгыблёваны.* Ляхаўцы Малар.

ЛЕ́ГІКА *ж.* Логава. *Учора хлопцы якраз выйшлы на легіку воўка.* Ляхавічы Драг.

ЛЕЖА́НКА *ж.* Від калаўрота, у якім кола і катушка размешчаны гарызантальна. *Колісь у моеі свекрухі была лежанка, лежаночка, а друга — кузка, кузочка. Лежанка дорожэй была.* Галоўчыцы Драг.

ЛЕЖА́ТЬ *незак.* Быць незасеяным. *Пастбішчэ лежыць, пустуе.* Спорава Бяроз.

ЛЕ́ЖНЯ, ЛЭ́ЖНЯ *м. і ж. пагард.* Гультай, гультайка. *У класе е лежні.* Дварэц Лун. *От то вжэ лэжня, тылько і тэі роботы знае, то поісты, то знов спаты.* Белін Драг.

ЛЕКОТІ́ТЫ, ЛЕКОТЫ́ТЫ *незак.* Трэсціся, калаціцца. *Чаго ты лекотів так?* Кустын Брэсц. *Дытя лекотыт, змэрзло.* Горск Бяроз.

ЛЕ́ҚСТРА *ж.* Ліхтарык. *Лекстра свытыла добрэ.* Қозішча Қобр.

ЛЕ́НТА *ж.* Рулетка. *Ходылы з лентою і міралы полэ.* Дастоева Іван.

ЛЕНЫ́ВО *н.* Шкурка вужакі, скінутая ў час ліняння. *Гуж покынув лениво.* Пажэжын Малар.

ЛЕПЕШНЯ́ *н.* Аер. *На болоці росце лепешня.* В. Малешава Стол.

ЛЕПЯТУ́Н *м.* Балбатун. *Не вер яму, ён жа лепятун, шчо на язык ускочыць, тое і гаворыць.* Махалоўцы Бар.

ЛЕ́СҚІ *мн.* Лесвіца. *Бацько ўзяў лескі і полез на вышкі.* Задуб'е Ганц.

ЛЕСОПОЛО́М *м.* Буралом. *У лесі такі лесополом.* Бастынь Лун.

ЛЕ́СТРЫҚА *ж.* Электрычнасць. *Лестрыка не горыць.* Велута Лун. *Мамо, уключы лестрыку, бо цімно бульбу лупіць.* Дзятлавічы Лун. *У хаты була лестрыка.* Ляхаўцы Малар.

ЛЕ́ТНІҚ *м.* 1. Жаночы жакет без падкладкі. *Адзень, дачка, летнік, бо змэрзнеш.* Қукава Ганц. *Забрала в бабы летніка.* Ляхаўцы Малар. 2. Пінжак. *Він був у новым летніку.* Белін Драг. *Быры, Іване, летніка наклады, бо на дворы холодно.* Адвержычы Стол.

ЛЕ́ТО *злучн.* Але. *Лето погода цяпер хорошая.* Навасёлкі Лях.

ЛЕТОВІ́ШЧЭ *н.* Қольцы на розе, па якіх можна вызначыць, колькі год карове. *У коровы вжэ сем летовішч.* Бастынь Лун.

ЛІ́ТЮСЬ *прысл.* Летась. *Літюсь яблыка вродылы як ныколы.* Пажэжын Малар. *Літюсь було вэсілле.* Қустын Брэсц.

ЛЕХ *м.* Чорт. *У болоті бы сыдів лех.* Ботава Пін.

ЛЕЦЁН *м.* Сені. *Зачыні дзверы ў лецён.* Велута Лун. *У лецёні цёмно.* Вулька І Лун.

ЛЕ́ШҚА *ж.*, ЛЭ́ШОҚ *м.* Бабка. *Бабы жалы жыто і ставылы лешкы.* Ялач Драг. *Пятнаццаць снапов стоять у лэшку, скорэе сохнуть.* Олтуш Малар.

ЛЕШЫ́НА *ж.* Алешнік. *Лешыны поросло повно скрозь тэпэр.* В. Шчытнікі Брэсц.

ЛЁҚОТІ́ТЫ *незак.* Дрыжаць. *Він так лёкотів, шчо ны міг слова сказаты.* Залядынне Іван.

ЛЁ́НДАР *м.* Қаструля. *Назбірала ягод цэлы лёндар.* Любань Лун.

ЛЁНСКІ *прым.* Мінулагодні. *Лёнскай осеню была добрая погода.* Бакуны Пруж.

ЛЁНЫСКО, ЛЬНЫСКО, ЛЬНЫШЧЭ *н.* Поле, на якім вырвалі лён. *Вырвала лён і зосталось лёныско.* Ляхаўцы Малар. *Над льныском лэтае самолёт.* Шэбрын Брэсц. *Як вырвалы лён, то шчэ на льныску зілля мныго нарвала.* Выжлавічы Пін. *На зыму льнышчэ зусталося лыжаты.* Пажэжын Малар.

ЛЁХ *м.* Склеп. *На дворі построілы лёха.* Гутава Драг. *У лёх мы поставылы бочку з гуркамы.* Заверша Драг. *Картоплі лыжеть у лёховы.* Карсынь Іван. *Лёх був пуд пудлогою в хаты.* Моталь Іван. *Памянш.* л ё ш о к. *Рыбу занеслі ў лёшок.* Баравікі Лун.

ЛІБОШЧЫ *мн.* Каханне, звычайна патаемнае. *В Васыля з Ганай лібошчы.* Шэбрын Брэсц.

ЛІВЭЦ *м.* Жаночае адзенне на ваце без рукавоў. *Як лівца одягну, то цілый дэнь холоду нэ чую.* Гальцы Стол.

ЛІЖОК *м.*, ЛІШКО *м.* Ложак. *Ранком я заслала ліжок.* В. Якаўчыцы Жабін. *Ліжок поставылы в спальні.* Сакалоўка Пін. *На лішковы спала маленька дівчынка.* Скокі Брэсц.

ЛІЗЕРФ *м.* Тарфяны кар'ер. *У лізерфу воды много, торф выбралі.* Бастынь Лун.

ЛІЙЦЫ, ЛІЦЫ *мн.* Лейцы. *Купылы новы лійцы.* Гутава Драг. *Тыпэр ты у нас будэш за кучыра, так шо быры ліцы.* Осаўцы Драг.

ЛІКАДЗЁН *м.* Каляндар. *Купіла новы лікадзён.* Навасады Бар.

ЛІМАНЁВЫ *прым.* Алюмініевы. *Ліманёва посуда блішчыць.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛІСАВЫ *прым.* Ласкавы. *Она дзеўка лісавая.* Давыд-Гарадок Стол.

ЛІСАПЕД, ЛІСАПЭТ, ЛІСАФЕТ, ЛІСІПЭТ *м.* Веласіпед. *Вон на гэтым лісапедзі голову звэрне.* Рамель Стол. *Бацько учора купіў лісапэт.* Давыд-Гарадок Стол. *Мне купілі новы лісафет.* Зубелевічы Лях. *Дык сыну новы лісіпэт купіў.* Рудашы Бар.

ЛІСКА *ж.* Кій. *Дід выходыў на двір з ліскою.* Бярозавічы Пін.

ЛІТНІСКО *н.* Аэрадром. *Кажнэ літо в нас на літнісцы стоеть солдаты.* Галоўчыцы Драг.

ЛІТО *н.* Гадавы круг у ствале дрэва. *Зрізалы дэрэвыну, у комлі подшчыталы літа.* Пажэжын Малар.

ЛІТЮШНЫЙ *прым.* Леташні. *То сіно шчэ літюшнэ.* Залядынне Іван.

ЛІЧЫДЛА *н.* Лічыльнікі. *У школі е багато лічыдлоў.* Дварэц Лун.

ЛІШКА *ж.* Градка. *На ліщцы ростуць гуркы.* Парахонск Пін. *Прополі ты лішку з цыбулею.* Ладараж Пін. *Одною капустою тры лішкі засадыла.* Гальцы Стол. *У нас лішкі бульбы кулу хаты.* Адвержычы Стол.

ЛІШПАНКА *ж.* Рыдлёўка. *Дзед узяў лішпанку і пачаў капаць зямлю.* Квасевічы Івац.

ЛНЯНЫЦЯ *ж.* Тонкае льняное палатно. *Я ткала больш лняныцю, такую тонку в дэсыть пасом.* Ляхавічы Драг.

ЛОБАК *м.* Бахіла. *После войны ны було нычого обуты, то робылы з рызіны лобакы.* Бабровічы Івац.

ЛОБОК *м.* Шчупак. *У гетом году добрэ ловіць лобкі.* Альшаны Стол.

ЛОБУДЗЬ *м.* Тоўстае сцябло гароднiны. *Лобудзь і гічка выраслі па городзе высокімі.* Альшаны Стол.

ЛОВАТЫ *незак.* Лавіць. *Вун любыт ловаты рыбу.* Ботава Пін.

ЛОГАЦІ *незак.* Стукаць. *Не логай ты, поседзі ціхо.* Раздзялавічы Ганц.

ЛОГВІСКО *н.* Логава. *Сідзіць дома, як у логвіску.* Бастынь Лун.

ЛОГОВЫЛО *н.* Поле, на якім рассцілаюць лён. *Логовыло одразу в нас за хатою було.* Забалацце Малар.

ЛОГОВЭЛО *н.* Гл. логвіско. *Свынню в хлыві пустэ, хай в логовэловэ лэжыць.* Сварынь Драг.

ЛОЖЭЧНЫК *м.* Дранік. *Я спыкла тобі тры ложэчныка.* Моталь Іван.

ЛОЗКА *ж.* Флёкс. *У цвятніку раслі лозкі.* Арабнікі Пруж.

ЛОКОТЬ, ЛЫКОТЬ *м.* Мера даўжыні (прыблізна 0,5 м). *Як шылы кравцы свыткі, то мірэлы локтем.* Дастоева Іван. *В куску п'ять лыктюв полотна.* Ляхаўцы Малар.

ЛОМАКА *ж.* Галіна. *Прынысэ мыні добру ломаку.* Аляксеевічы Драг.

ЛОНКА *ж.* 1. Касавіца, сенакос. *Хутко почнецца лонка.* Агдэмер Драг. 2. Луг. *На лонцы ходылы коровы.* Пугачова Брэсц. *У гэтым годы добрая трава на лонцы, высокая.* Падбела Кам.

ЛОПОТУ́ХА *ж.* Шчарбіна ў касе. *Сам наклыплю, бо тэ лопотух наробыш.* Аляксеевічы Драг.

ЛОСЫНЯ́ТО *н.* Ласяня. *Малэнькэ лосынято ны отходыло от статку.* Шэбрын Брэсц.

ЛОТО́К *м.* Вялікая бочка на збожжа. *Лотокы на жыто бэрыглы, так мэтров з дэсять увійдэ в той лоток.* Забалацце Малар.

ЛО́ЎКІ *прым.* Прыгожы. *Гэты вэльмі лоўкі чоловек.* Дрэбск Лун. *Ах, якій лоўкій матэрыял купыла моя сусідка.* Камень Пін.

ЛО́ЎКО *прысл.* Прыгожа. *На концэрты ловко спывалы.* Юнішчы Стол.

ЛОХІ́НЫ *мн.* Гл. лахачэ. *В гэтум годовы уродылы добры лохіны.* Астрамечава Брэсц.

ЛОШЧЫ́НА *ж.* Арэшнік. *Мы коло хаты посадылы лошчыну.* Рыкавічы Жабін.

ЛОШЧЭВІ́НА *ж.* Старое рэчышча. *Тут лошчэвіна, рэчка высохла.* Бастынь Лун.

ЛУБІНІ́СКО, ЛУБЯНЫ́СКО *н.* Поле, на якім рос лубін. *По лубініску посею жыто.* Кустын Брэсц. *Осталось ны згораным лубяныско.* Гершоны Брэсц.

ЛУГ, ЛУЗ *м.* Шчолак. *У лугу попарыла ныткы.* Папіна Драг. *Мама наробыла лузу.* Арэхава Малар.

ЛУГОВА́ТЫ *незак.* Выбельваць лугам. *Луг робляць, у цэбрыку лугуюць.* Сварынь Драг.

ЛУ́ГЫН *м.* Лубін. *На полі ростэ лугын.* Дружба Брэсц.

ЛУЖО́К *м.* Сажалка. *Ля хаты у яе лужок.* Плехава Івац. *Кулу старэе хаты у нас був лужок.* Імянін Кобр.

ЛУК *м.* 1. Дубец, які схоплівае з трох бакоў драўляную барану. *Такая сіла, што лук загне на борону.* Рубель Стол. 2. Ручка, якая агібае кассё. *Лук у косе обогнёны добрэ.* Рубель Стол.

ЛУ́КАЦЬ *м.* Локаць. *Я забіла лукаць.* Церабень Пін.

ЛУМА́ЧЧЭ *н.* Ламачча. *Под снопы подкладують лумаччэ.* Гершоны Брэсц.

ЛУПА́ЙКА, ЛУПЭ́ЙКА *ж.* Лупіна. *Высып лупайкі з хвартуха ў кош.* Кажан-Гарадок Лун. *Бульба з лупэйкамі.* Бастынь Лун.

ЛУ́ПКА *ж.* 1. Калыска. *Дытя лыжало ў лупцы і гралося.* Угляны Бяроз. 2. Кош, сплецены з карэння. *Бацько сплюў лупку.* Дзяніскавічы Ганц.

ЛУЧАІ́НА *ж.* Лагчына. *Лучаіны між поля заліло водою.* Бастынь Лун.

ЛУЧА́К *м.* Гл. лук 2. *Лучак у касе новы трэба, той адламаўся.* Падлаззе Лях.

ЛУ́ЧКА *ж.* Каляровая фабрычная шарсцяная пража. *Пояса натыкають ны лучкою, а ныткамы сукатымы.* Спорава Бяроз.

ЛУ́ЧНІК *м.* Падстаўка для лучыны. *Лучыну ўтыкають у лучнік.* Бастынь Лун.

ЛУЧЫ́ТЫ *незак.* Зганяць у кучу. *Будэмо лучыты ужэ скотыну.* Ляхаўцы Малар.

ЛЫВІ́РКА *ж.* Вавёрка. *Лывірка пырыскакувала з одного дэрыва на другое.* Шэбрын Брэсц.

ЛЫГА́ТЫ *незак.* Глытаць. *Мні так болыть горло, шчо я ны могу лыгаты.* Мацієвічы Жабін.

ЛЫ́ГІ *мн. экспр.* Доўгія тонкія ногі. *Ну і плацце адзела, што ўсе лыгі наверсе.* Калоднае Стол.

ЛЫ́ЖБА *ж.* Драўляны канёк. *Спочатку трэба навучытыся іздыты на одну́й лыжбы.* Пажэжын Малар.

ЛЫКОВА́ТЫЙ *прым.* Такі, што кепска жуецца. *Подмышка ні давалася парсюку, то і сало лыковатэ.* Баброві́чы Івац.

ЛЫМІ́ШКА, ЛЭМІ́ШКА *ж.* Зацірка. *Тыпэр мы варылы лымішку.* Карсынь Іван. *З одного мішка хліб і лымішка.* Крытышын Іван. *Наварыла якэісь лэмішкы, шо ў душу ны йдэ.* Ляхаўцы Малар.

ЛЫНДА *ж. устар.* Посная страва з ільнянога семя з селядцамі. *Лынду не ўжываюць і старыя людзі.* Мазуркі Лях.

ЛЫ́НДАВКА *ж.* Карусель. *Хлопцы зробылы лындавку на лёду.* Замшаны Малар.

ЛЫПЛЯ́НКА *ж.* Глінабітная хата. *Там жылы в лыплянках.* Залядынне Іван. *Лыплянкы ж не буду робыты.* Кустын Брэсц.

ЛЫСУ́ХА *ж.* Участак зямлі, пазбаўлены расліннасці. *На лысуху глянь, які вітёр.* Гарадная Стол.

ЛЫ́СЫНА *ж.* Тое ж. *Лысына — гола містына, пэсок.* Гарадная Стол.

ЛЫХЫ́Й, ЛЫХЭ́Й *прым.* 1. Зношаны (прадмет, прылада). *Мышок гэть був лыхый.* Пажэжын Малар. *Лыхэю сокірыю дров ны насычэш.* Літоўск Драг. 2. Злы. *Вэльмы лыхый чуловік, тілько і думае зробыты кому зло.* Пажэжын Малар.

ЛЫ́ШТВА *ж.* Планка, рэйка. *Лыштву прыбыв, шоб вітёр не задував.* Ляхаўцы Малар.

ЛЫШЫ́Р *м.* Кош. *Муй лышыр занятый, сып вжэ ягоды в свый.* Макраны Малар.

ЛЭ́БАХІ *мн. іран.* Старая вопратка. *Маты выносьвала лэбахі ў высьцёпку.* Моталь Іван.

ЛЭЖЫНЬ *м.* Гл. лежня. *Чого лыжыш, лэжынь? Усі люды на роботу пошлы.* Какорыца Драг.

ЛЭККОБЫ́ТНЫЦЯ *ж.* Жанчына, што ўмее лёгка жыць. *Лэккобытныця лэжыть собі в тэнечку, а маты полэ.* Сушытніца Малар.

ЛЭ́НДЫЦЯ *ж.* Клін у рукаве. *Лэндыцю трэба в рукавовы зробыты.* Арэхава Малар.

ЛЭНЬЦЮ́Х *м.* Ланцуг. *Лэньцюх чэпляемо телушцы на рогы.* Ляхаўцы Малар.

ЛЭЧМАНЭ́ *мн.* Упрыгожанне з медзі, пацеркі. *Матрунэ подарылы лэчманэ дочка з зятем.* Перавысь Малар.

ЛЮ́ХТА, ЛЮ́ФТА *ж.* 1. Юшка. *Піч була ужэ готова, алы ны хватало шчэ люхты.* Галоўчыцы Драг. *Открый люхту, бо зара будэ повна хата дыму.* Высокае Бяроз. *Матэ отсунула люфту, шоб ліпш выходыв дэм.* Перавысь Малар. 2. Дымаход. *Няправільно зробылы люхты і дым йдэ на хату.* Пажэжын Малар.

ЛЮ́ФЦІК *м.* Фортачка. *Аткрылі люфцік, каб праветрыць пакой.* Навасёлкі Бар.

ЛЯГА́РА, ЛІГА́РА *ж.* Падваліна, на якую кладзецца падлога. *Лягару трэба змяніць, бо пагніла.* Гошчава Івац. *Лігары дядько прывіз хурошы, стрыжэнысты.* Пажэжын Малар. Гл. *л а г а.*

ЛЯ́ДА *ж.* 1. Прыстасаванне для рэзкі саломы. *Бацька прынёс ляду і пачаў рэзаць салому.* Арабнікі Пруж. 2. Прылада для падняцця грузаў. *Паварочвай ляду вось сюды.* Слабажаны Бар.

ЛЯДА́КО *прысл.* Дрэнна. *Раней людзі жылі лядако.* Задуб'е Ганц.

ЛЯДО́ЎНЯ *ж.* Яма ў пограбе. *У пограбе зрабілі лядоўню.* Гута Лях.

ЛЯК I *м.* Страх. *От напаў на цябе ляк.* Велута Лун. *Ляк до добра ны прыводыть.* Бярозавічы Пін. *Хлопчыка опановаў ляк.* Лядзец Стол.

ЛЯК II *м.* Сок з капусты. *Бочка пойная ляку.* Харомск Стол.

ЛЯКА́ЦЦА, ЛЯКА́ТЫСЬ *незак.* Палохацца. *Ох, я вэльмо часто лякалася.* Адвержычы Стол. *Кінь завшэ лякався машыны.* Вавулічы Драг.

ЛЯЛЬКЫ́ *мн.* Малюнкі ў кніжцы. *Дай кныжку, хай дытына ляльки подывыцця.* Замшаны Малар.

ЛЯМО́ВКА *ж.* Шалёўка ў акне ці ў дзвярах. *Хорошу лямовку зробылы.* Адрыжын Іван.

ЛЯМПЭ́РЫЯ *ж.* Тое ж. *Хутко зробылы і лямпэрыю.* Прылукі Брэсц.

ЛЯНЫ́ЦА *ж.* Ільняное валакно высокага гатунку. *А на шчутцы, то пачосы, само хорошэ, шчо остае ужэ в жмэні лён — ляныца, як шчуткою чэшэш — кужэль.* Спорава Бяроз.

ЛЯО-СЁ *часц.* Вунь. *Ляо-сё вісіць аб'ява аб калгасным сходзе.* Бабровічы Івац.

ЛЯ́ПАЦЬ *незак. перан. экспр.* Гаварыць абы-што. *Гэты цэлы дзень ляпае і ляпае.* В. Малешава Стол. *Шчо ты ляпаеш, людзям надоело слухаць ужэ.* Адвержычы Стол.

ЛЯПЕ́ЧАК *м.* Прыпечак. *На ляпечку сядзела малая дзяўчынка.* Юндзілы Пруж.

ЛЯСЕ́НКА *ж.* Дэмісезоннае паліто. *На ёй была чыстая лясёнка.* Велута Лун.

ЛЯ́СКА *ж.* Дошчачка ў драбіне. *Ныкуды я ны поіду, бо в мынэ поламалыся тры ляскы в возовы.* Марцінова Драг.

ЛЯ́СКАТЫ *незак.* Пустасловіць. *Быры кнышкы і ўчысь, ны ляскай абышчо. Вавулічы Драг.*

ЛЯТА́ЙКА *ж.* Печ. *Хлопчык іх залез на лятайку.* Юндзілы Пруж.

ЛЯ ТО́Е *часц.* Усё-такі. *Ля тое я тыбэ любыла.* Міжлессе Бяроз.

ЛЯХКАВУ́ШКА *ж.* Легкавая машына. *Нейкая ляхкавушка едзе.* Навасёлкі Лях.

# М

МАЗНЫ́ЦА *ж.* 1. Драўляны посуд для мазуту. *Дядько в далёку дорогу брав с собою усігда мазныцу.* Кулякі Іван. 2. *перан.* Неахайная жанчына. *Такую мазныцу нэ варто в хату пускаты.* Дзераўная Стол.

МАЗУ́ЛЬ, МОЗІ́ЛЬ, МОЗО́ЛЬ, МОЗУ́ЛЬ, МОЗЫ́ЛЬ *м.* Вузел. *Скулько ты навязав мазулів?* Ваўкаставец Кам. *Розвяжы мозіля.* В. Якаўчыцы Жабін. *Зробы мне мозоль.* Сялец Бяроз. *Сам вун ростом з мозуль.* Цвярдоўка Пін. *Хустка в іі була завязана на мозыль.* Чвіркі Кам.

МАЗУ́Н *м.* Пястун. *Ну і мазун у вас ростэ.* Гарадная Стол.

МАЗУ́РОК *м.* Верабей. *Нэ ўспіеш сыпнуты курам, як мазурок тут жэ скачэ коло іх.* Дзераўная Стол.

МАЙДА́Н *м.* 1. Вялікі двор. *Батько сказав подмэсты майдана.* Мікалаева Кам. 2. Кавалак поля. *За ранок выгорав добрый майдан бульбы.* Кулякі Іван. 3. Плошча ў вёсцы, дзе часта сыходзіліся сяляне. *Старый любыв побалакаты на майдані в нэділю або в свято з мужыкамы.* Пінкавічы Пін. 4. Месца на кірмашы, дзе прадавалі скаціну. *Учора на майдані добру тылушку собі вторговав.* Патрыкі Кобр. 5. Чатыры слупы з перакладзінамі, на якія клалі сена, лён. *Наскыдала з вышок на майдан сына коровы даваты.* Ракітніца Жабін. 6. Прыбудоўка да хлява. *Парсючка загналы в майдан.* Н. Раматова Малар.

МА́ЙІТЫ *незак.* Красавацца. *Жыто начынае майіты.* Гершоны Брэсц.

МА́ЙКА *ж.* Майскі жук. *Я наловіла богато маек.* Давыд-Гарадок Стол.

МА́ЙКУС *м.* Кавалачак (звычайна пра хлеб). *На столі лыжало два майкусы хліба.* Карсынь Іван.

МА́ЙТКІ, МА́ЙТКЫ *мн.* Трусы. *Автулавка прывэзла якіх хочэш майток.* Ваўкаставец Кам. *Наложыла новы майткы.* Камянюкі Кам.

МАКАЗЫ́Н *м.* Магазін. *У маказын прывязлі хлеп.* Навасады Бар.

МАКА́ТКА *м.* 1. Вышыўка. *Так хорошэ вышыла макатку, шчо аж ягоды завыдують.* Гальцы Стол. *Вышыла нову макатку.* Саха Драг. *На стіні вісіть хуроша макатка.* Пелішча Кам. *У ее ў хаце вісіць без толку макаток.* Сямігосцічы Стол. *У нашых девок багато макаток.* Велямічы Стол. *Макатка ў рамцы вісела на сцяне.* Шэйпічы Пруж. 2. Накідка. *Харошыя ў цябе макаткі на падушках.* Навасёлкі Лях.

МАКАЎНЯ́ *ж. экспр.* Галава. *Разаб'еш сваю макаўню.* Калоднае Стол.

МАКІГО́Н *м.* Мешалка. *Макігон хутко ходыв у бабіных руках.* Арэхава Малар.

МАКІ́ТРА, МАКУ́ТРА *ж.* 1. Гаршчок для хатніх кветак. *Вазьмі макітру да пэрэсады вазоны.* Першамайск Стол. *На окні стоіть макітра.* Радаўня Іван. 2. Гліняная міска. *Я іла борщ з макітры.* Сварынь Драг. *Положы ў макітру тварог і накрый, коб кіт нэ з'ів.* Гальцы Стол. *Подай мэні макітру.* Сулічава Драг. *У макутру натэрлы*

нія бярвенні, якія кладуцца ў верхнім вянку хаты. *Вжэ на очопы поставылы кроквы.* Хмелева Жабін. *Кроквы ставлять на ошчэпу.* Лагішын Пін. *Очэпы хорошы вчора сусіду прывэзлы.* Кустын Брэсц. *Ошчэпы положыты, той зруб готовый.* Тышкавічы Іван.

ОЧУВА́ТЫСЬ *незак.* Знаходзіцца. *Сусід дэсь пропав і ны очуваіця.* Сварынь Драг.

ОШЧЯ́ПНЫЙ *прым.* Шчыльна прыгнаны да стану. *Ошчяпнэ платте пошыла собі.* Лышчыцы Брэсц.

# П

ПАВА́ЖЫЦЦА *зак.* Вызначыць сваю вагу. *Спорылі, хто цяжэйшы, да пашлі паважыцца.* Агарэвічы Ганц.

ПАВІТУ́ХА, ПОВЫТУ́ХА I *ж.* Бабка, якая прымала роды. *Ідзі пакліч павітуху.* Таўцвілы Пруж. *Повытуха була добра, опытна, і дытына хутко родылась.* Плоска Брэсц.

ПАВІТУ́ХА II *ж.* Вясёлка. *Якая павітуха прыгожая на небі!* Падлаззе Лях.

ПАВУТА́, ПАУТА́ *ж.* Павуцінне. *У тому місцы, дэ есць павукы, завсіды павута.* Ляхавічы Драг. *Обмыты пауту з потолка.* Шэбрын Брэсц.

ПАВУ́ТКА, ПОВУ́ТКА *ж.* Павіліца. *Всі квіткі павутка поплыла.* Плоска Брэсц. *У картоплі мныго повуткі.* Дзмітравічы Кам.

ПАД *м.* Апалыя яблыкі. *На лаўцы стаяла два кашы паду.* Юндзілы Пруж.

ПА́ДАНКА *ж.* Тое ж. *Паданкі чырвоныնькі, а нысмачны.* Плоска Брэсц.

ПА́ДАЛНЫЦА *ж.* Гл. пад. *Позбырай падалныцы і свынням оддай.* Гальцы Стол.

ПАДВІ́ЧКА *ж.* Хустка, завязаная на лоб пад другую хустку. *Цепер не носяць падвічкі.* Заліпенне Лях.

ПАДЖЭ́ГЛІСТЫ *прым.* Высокі і худы. *Насустрач мне йшоў вельмі паджэглісты хлопец.* Мыслабаж Лях.

ПАДКАЛО́ТКА, ПОДКОЛО́ТКА *ж.* 1. Бульбяны суп, запраўлены мукой. *Як падварыцца бульба, то муку ўсып у падкалотку.* Нецеч Бар. 2. Яечня. *Ранком сям'я ела бліны з подколоткою.* Дрэбск Лун.

ПАДО́ШВА, ПОДО́ШВА, ПУДО́ШВА I *ж.* 1. Ніжняя частка абутку. *У моём тухлі раптоўно поломалас подошва.* Хотамель Стол. 2. Ніжняя частка ступні. *У мынэ пакало-*

*ласа падошва.* Церабень Пін. 3. Ніжні слой каравая. *Мій папо завжды прывозыть з высілля подошву з коровая: по обычаю вона даецця гармоністу.* Свеклічы Драг.

ПАДО́ШВА, ПОДО́ШВА, ПУДО́ШВА II *ж.* Падмурак. *Заніская падошва, стройце большу.* Таўцвілы Пруж. *Пуд хату заложэлэ пудошву.* Сварынь Драг.

ПАДЦЁС, ПОДТЁС *м.* Сцёс у нізе бервяна. *Большы падцёс зрабіце.* Мыслабаж Лях. *Зробы подтёс, а то жэрдка ны лыжыть добрэ.* Корчыцы Кобр.

ПАЖУ́Р *м.* Пазногаць. *Пуздрызуй, Вася, пажуры.* Ялач Драг. *Якыі доўгыі пажуры.* Падышча Іван.

ПАЗУ́Р, ПАЗЮ́Р *м.* 1. Тое ж. *Трэба пузрызуваты пазурі на пальцах.* Яміца Малар. *Дывкы покрасылы пазюрі.* Радаўня Іван. *Чужымы пазюрамы жару ны загрыбэш.* Какорыца Драг. 2. Кіпцюр. *Ну й пазуры ў нашого кота!* Смольнікі Іван. 3. Капыт. *Корова збыла пазур.* Сакалоўка Пін. 4. У спалучэнні: і н а п а з у р — мала, мізэрна. *Уна такая скупая, і на пазур ныц ны дасть.* Плоска Брэсц.

ПА́ЗУХА *ж.* 1. Разрэз у кашулі. *Зашый у сорочцы пазуху.* Ляхаўцы Малар. *Баба пошыла сорочку, алэ ж пазуху завылыку зробыла.* Сычэва Іван. 2. Манішка. *Пазуха хорошэ вэшыта.* Заверша Драг. 3. Частка кашулі ад грудзей да пояса. *Усю пазуху обліў.* Хотамель Стол.

ПАЗЮРІ́ *мн.* Капаніца. *Зобравшысь іхаты на полэ, мама положыла на віз коші, мышкы, пазюркі.* Кулякі Іван. *Хутко копаты картоплы, зробы пазюрі.* Смольнікі Іван.

ПАКА́МІСЬ, ПОКА́МЫСЬ, ПУКА́МЫСЬ *прысл., злучн.* Пакуль, пакуль што. *Пакамісь ты сходзіш у магазін, я вячэру звару.* Св. Воля Івац. *Покамысь у сылі було тыхо: ныхто ныц ны говорыв про Раінэ высілле.* Сычэва Іван. *Пудужды пукамысь, бо зара ныма.* Доўбнева Кам.

ПАКО́Т, ПОКО́Т, ПОКІ́Т, ПОКЕ́Т *м.* 1. Гарышча. *Стары палез на пакот.* Плехава Івац. *Влізь на покіт, клубкы достань.* Гальцы Стол. *На покеты сушыцца платье.* Парахонск Пін. 2. Століь. *На пакоце пад страхой яблыкі ляжалі да самых халадоў.* Квасевічы Івац. *У старой леснічоўцы гэтым летам абваліўся пакот.* Роўбіцк Пруж. *Покот покрасілі голубою краскою.* Чарабасава Лун. *Покет у хаце некалі быў вельмі ніско.* Вялікая Гаць Івац.

ПА́КУЛЛЕ *н.* 1. Лён, які яшчэ не трапалі. *Пакулле, отрыпыны, нетрэпаны лён — гэто однэ і тое самэ волокно.* Адрыжын Іван. 2. Пакля, адыходы трапання льну, каноплі. *Пакулле з-под трыпачкі отходыт.* Сварынь Драг.

ПА́КУН *м.* Бакас. *Пакун нэса чэтэрэ ейці на болотэ.* Арэхава Малар.

ПАКУ́ТА, ПОКУ́ТА *ж.* 1. Хвароба. *На сестру напала покута, і сестра померла.* Бор-Дубенец Стол. 2. У выразе: І д ы  с у б і  з  п о к у т о ю — адстань, адчапіся. *Іды субі з покутою, чого ты ду мынэ прычыпылась.* Плоска Брэсц.

ПАЛАМЫ́САК, ПОЛО́МІСОК *м.* Талерка. *Падай мне паламысак.* Навасады Бар. *Наліла рэзанок у поломісок.* Дрэбск Лун.

ПАЛАМЯ́НКА *ж.* Спечаная булка. *Адламі паламянкі папробаваць.* Слабажаны Бар.

ПАЛАНІ́ЦА *ж.* Патэльня. *На паланіцы ляжалі бліны.* Баравікі Лун.

ПА́ЛІК *м.* Вешка. *Дорогу замыло, алэ коб було выдно знаты, то поставылы палікі.* Дастоева Іван.

ПАЛІ́НКА *ж.* Бохан хлеба. *Маты напэкла высокіх палінок.* Ляхаўцы Малар.

ПАЛКА́ЦЬ *незак.* Глытаць. *Ні трымай у році, а хучэй палкай.* Сасновы Бор Івац.

ПАЛО́К *м.* 1. Палаці ўздоўж сцяны. *А цяпер палкоў гэтых і ні ўбачыш нідзе, звяліся саўсім.* Пачапава Бар. 2. Нары за печчу. *На палку за печчу мармытаў кот.* Калоднае Стол. 3. Ложак. *Я сёні буду спаць на новым палку.* Люсіна Ганц.

ПАЛУ́ННАЦЬ *незак.* Палуднаваць. *Пасля работы можна палуннаць.* Дзяніскавічы Ганц.

ПА́ЛУШКЫ, ПО́ЛЫШКІ *мн.* 1. Апалушкі. *Возьмі палушкы, ополай просо.* Лукава Малар. 2. Драўлянае карыта, у якім мыюць бялізну. *Прынэсэ но ля мэнэ палушкэ.* Радастава Драг. *У полышках быллё мокнэ.* Тышкавічы Іван.

ПАЛЬ *м.* Паля. *У мосту паль зусім погнэв, то міст аж шатаецца.* Радастава Драг. *Ны напурыса ты на паль.* Адвержычы Стол.

ПАЛЬТО́Н *м.* Паліто. *Як пошыв вон мне пальтона шэснаццаць год тому назад, той зарэ новы.* Белавуша Стол. *Купіла собе на зіму пальтона.* Хотамель Стол.

ПАЛЭ́БНІЦА, ПОЛЭ́БНЫЦЯ *ж.* Паляндвіца. *Палэбніцу однымаеш з кабана, з кості, шо ідэ сэрэд спыны.* Спорава Бяроз. *Полэбныця і свіжа і копчяна смачна.* Корчыцы Кобр.

ПАЛЮВА́ТЫ, ПАЛЮВА́ТЭ *незак.* Цячы, не замярзаючы зімой (пра ваду ў рэчцы). *Палюе вода, і прутёк ідэ,*

*то ны замырзае, ідэ вода прутёком.* Радастава Драг.

ПАЛЮ́ТКА, ПОЛУ́ТКА I *ж.* Капусная галоўка. *Капусту палюткамы кладуть.* Ляхавічы Драг. *Добра полутка на голубцы.* Кустын Брэсц.

ПАЛЮ́ТКА II *ж.* Сцягно. *Так впала, шо й зараз палютка булыть.* Плоска Брэсц.

ПАЛЮ́Х *м.*, ПАЛЮ́ХІ, ПАЛЮХЕ́ *мн.* 1. Клёцкі з цёртай бульбы. *З тэртоі картошкі качають такэі шарыкы, з молоком і бэз молока палюхе бувають.* Олтуш Малар. 2. Аладка. *Палюхі булы смачныі.* Дубіца Брэсц.

ПАЛЯНЫ́ЦЯ *ж.* 1. Палядвіца. *Паляныця добрэ заправляна.* Арэпічы Кобр. 2. Бохан хлеба, пшанічнага ці жытняга. *Мама накрыла паляныцю ручныком.* Сварынь Драг.

ПАМАСТО́К, ПОМО́СТОК *м.* Ганак. *На памастку седят деті.* Хойнікі Бяроз. *На помостку лежаў собака.* Альгомель Стол.

ПА́МЛОДОК *м.* Парастак. *Помалу, зламныш памлодка.* Сварынь Драг.

ПА́МОЛОДЫТЫСЯ *незак.* Пачаць падрастаць (пра расліну). *Памолодытьця, окрыяе пусля морозу.* Радзеж Малар.

ПА́МО́СТ, ПАМЭ́СТ, ПОМО́СТ *м.* Падлога. *Толькі што вымыла памост.* Агарэвічы Ганц. *Сёння мы пафарбавалі памэст жоўтай фарбай.* Св. Воля Івац. *Я зарэз помыю помост, і пойдом у клуб.* Люсіна Ганц.

ПАМПУ́ХА *м.* Мяч. *Діты гралы ў пампуху.* Моталь Іван.

ПАМПУ́ШКІ *мн.* 1. Булкі. *Моя маці часто ў нідзелю пекла пампушкі.* Сітніца Лун. 2. Бліны на дражджах або содзе. *Пампушкі трэба жарыты.* Адрыжын Іван.

ПАНІ́ВА *ж.* Патэльня. *Маты пэкла бліны на чыгунной панівы, бо з алюмінёвой панівы воны зніmaліся гурш.* Камень Пін. *На паніве пячэцца сало.* Навасёлкі Бар.

ПАНТО́ПЛІ *мн.* Лёгкі абутак. *Дуйдэмо до Кобрыня, одінымо пантоплі на ногы і ходымо по городу.* Бухавічы Кобр. *Я обую пантоплі, бо ў чобоцях вашко.* Рамель Стол.

ПАНУВА́ТЫ *незак.* 1. Быць патрэбным. *Тое зыло почьті до всюго пануе.* Радзеж Малар. 2. Падыходзіць, стасавацца. *Пануе тубі платте.* Радастава Драг.

ПАНЦА́К *м.* 1. Круглыя ячныя крупы. *Наробілі панцаку куццю варыць.* Дзятлавічы Лун. 2. Каша з ячных круп. *Дзеці цэлы дзень елі панцак.* Любішчыцы Івац.

ПА́НЦЫРКА *ж.* Ватоўка. *Холодно, наложы панцырку.* Рубель Стол.

ПАПЕ́Р, ПАПІ́Р *м.* Папера. *Вазьмі папер, напішы пісьмо.* Дзяніскавічы Ганц. *Лысток папіру лыжав на стулі.* Чарнаўчыцы Брэсц.

ПА́ПУЦЬКІ *мн.* Вязаныя з нітак або сшытыя з палатна тапачкі. *Для вязання папуцькаў трэба пяць вязальных спіц.* Шарашова Пруж.

ПАПЫРІ́ВКА, ПАПЫРУ́ВКА *ж.* Сорт яблыкаў. *У нас в городы ростэ дві папырівкы.* Дзеткавічы Драг. *Вжэ наша папырувка родыть.* Клейнікі Брэсц.

ПАРАБЕ́РАНКА, ПЕРАБЕ́РАНКА *ж.* Саматканая посцілка з узорамі. *Радзюшку-параберанку прывазлі з Бастыня, бо ў нашым селе шчы такое нема.* Дзятлавічы Лун. *Пераберанкі красівыя.* Таўцвілы Пруж.

ПАРАДЫ́НЕ *н.* Адгароджанае ля хлява месца для жывёлы. *По парадыню ходзілі коровы.* Сінкевічы Лун.

ПАРАІ́КА *ж.* Неспакойная жанчына, якая ўвесь час штосьці робіць. *Во параіка і знов кудысь побігла.* Закозель Драг.

ПАРАСО́ЛЯ, ПАРОСО́ЛЯ *ж.* Парасон. *Пошов чоловік з парасолею.* Астрамечава Брэсц. *Паросолю згубыв.* Кустын Брэсц.

ПАРНЭ́К *м.* Драўляная бочка, у якой гатуюць свінням ежу. *Мартоха товкла в парнэковэ бульбу.* Перавысь Малар.

ПАРО́НІКІ *мн.* Бульба, звараная ў лупінах. *Паронікі былі шчэ не давараныя.* Квасевічы Івац. *Маці наварыла чыгун паронікаў.* Любішчыцы Івац.

ПАРО́НКА *ж.* Тое ж. *Мы ўсе любім паронкі.* Запроссе Лун. *Мама паставіла на стол саган паронак.* Лактышы Ганц.

ПАРО́ЎКА *ж.* Млын. *Пароўка працуе до познего вечора.* Лядзец Стол.

ПАРО́ХА *ж.* Участак поля, які ўзараны позняй вясной для таго, каб восенню яго засеяць. *Пароха під жыто ідэ в нас.* Радзеж Малар.

ПА́РУБОК *м.* 1. Парабак. *Добрэ робыв парубок.* Вавулічы Драг. 2. Нежанаты хлопец. *Парубкі ужэ собралысь.* Ляхаўцы Малар.

ПАРШУ́К *м.* Вяпрук. *Паршука закололэ на сало.* Ласінцы Драг. *Свіню кармілі на прыплод, а паршука закалолі.* Дамашэвічы Бар.

ПА́РЫШ *м.* 1. Страва з запаранай мукі. *У того парыш*

*удаецца, у кого пяты доўгі.* Дастоева Іван. *У макітры розмэшалы парыш.* Жоўкіна Пін. 2. Страва з аўсяных хлоп'яў. *Зварітэ нам парышу з хлоп'юв.* Карсынь Іван.

ПАРЭНДЖЫНА *ж.* Жэрдка, перакладзіна. *Заложыла парэнджыну, коб кінь нэ выскочыв.* Харсы Брэсц. *Чуго ты пувіс на парэнджыны?* Доўбнева Кам.

ПАС *м.* Гуж звязаных плытоў сплаўнога лесу. *Много начэпваецца гонсток — то пас.* Альманы Стол.

ПАСА́Р *м.* Пасаг. *Мой чоловек ні просіў пасару.* Давыд-Гарадок Стол.

ПА́СВЫСКО, ПАСОВЫ́СКО *н.* Паша. *Гоны коровы на пасвыско.* Дружба Брэсц. *От пасовыско добрэ.* Кустын Брэсц.

ПАСІЯ́Н *м.* Люты чалавек. *Чы ж гэто так трэба крычаты на малэе дытя, пасіян?* Выжлавічы Пін.

ПА́СКА I *ж.* Палоска. *Паска на сподныці вэльмы хороша.* Гальцы Стол.

ПА́СКА II *ж.* 1. Вялікдзень. *Хутко ужэ паска.* Орлавічы Драг. 2. *перан.* Велікодны пірог. *Смачна паска вдалася.* Плоска Брэсц.

ПАСКУ́ДНЫЙ *прым.* 1. Непрыгожы. *Колысь була хороша, а на гэтэ врэмя паскудна.* Кавярдзякі Брэсц. 2. Дрэнны. *На дворы паскудна погода.* Дружба Брэсц.

ПА́СМО, ПА́СЬМО *н.* 1. Адзінка вымярэння, роўная 30 ніткам асновы. *Тры тростыны дэсать раз — пасмо.* Адрыжын Іван. *У пасьмо входыть дэсять чыслянок по тры ныткы в каждуй. Як снують основу, од бэрда бувае дванаццать, а то і шэснаццать пасём — гэто, як хто хочэ шэрокэ полотно, алэ бульш дванаццаты в нас нэ ткалы.* Каўбы Пін. 2. Мера палатна ў шырыню. *У дэв'ять пасом тку полотно.* Корчыцы Кобр. 3. Некалькі віткоў нітак на клубку. *Кажэ, діявол, вэлыкімы пасмамы наматала, обсуваеться.* Олтуш Малар. 4. Невялікая колькасць вычасанага лёну. *Пасмочко льну молодая возьмэ, як ідэ до вынця, обтягае сорочку, а потом вшывала в кічку, носыла на голові.* Ляхавічы Драг.

ПА́СОК *м.* Пояс. *Ты не бачыла, дзе мой пасок?* Хотамель Стол.

ПАСО́ЛЯ *ж.* Фасоля. *Няма ў мяне ў гэтым годзе пасолі. Выжахла ўся.* Чэрніхава Бар. *Пасолі ў гэтым годзе было як ніколі.* Квасевічы Івац.

ПАСТАЛЫ́, ПОСТОЛЫ́, ПУСТОЛЫ́ *мн.* 1. Лапці з лазы. *Ботаў не было, а хадзілі ўсе ў пасталах.* Роўбіцк Пруж. *У нас постолыў ужэ ныма.* Какорыца Драг. *Доб-*

*рэ ходыты літом у пустолах на сынокосы.* Ланская Малар. 2. Скураныя лапці. *У нас шчэ е кожаны дідовы постолы.* Бярозавічы Пін. 3. *іран.* Туфлі з дзірачкамі, басаножкі. *Я купіла собе постолы.* Дварэц Лун.

ПАСТОВНЫ́К *м.* Паша. *На пастовныку росло дэрыво.* Міжлессе Бяроз.

ПА́СТЫ, ПА́СТЭ *зак.* Здохнуць (пра жывёлу, птушак). *Могуть пастэ свэнэ, курэ.* Дзмітравічы Кам.

ПАСТЭ́ВКА *ж.* Кармавая морква. *Пастэвку даем коровам, а добру моркву самы імо.* Астрамечава Брэсц.

ПА́СЫРБ *м.* Пасынак. *Я вдова, пошла замуж, то моі діты пасырбы другому мужыку.* Відзібар Стол.

ПА́СЫРБА *ж.* Падчарка. *Пасырба так добрэ вучыцца.* Гальцы Стол.

ПА́СЫРНЫЦЯ, ПА́СЭРБНЫЦА, ПА́СЭРБЫЦЯ. Тое ж. *Пасырныця вжэ вылыка, быды ны будэ.* Гаравіца Драг. *Не, гэто нэ іі дочка, гэто пасэрбныца.* Каўбы Пін. *Його пасэрбыця вэльмы робітна дівчына.* Кустовічы Кобр.

ПАСЯ́К *м.* Суконны дыван, вытканы яркімі палосками. *Мы аддалі пасякі ткаці. Абяшчалі хутко зробіці.* Св. Воля Івац.

ПАТЗА́Х *м.* Гл. панцак 2. *У печы варыцца патзах.* Навасёлкі Бар.

ПАТРА́ЎКА *ж.* 1. Страва, ежа. *Есць цепер розная патраўка.* Востраў Ганц. 2. Падліўка. *Патраўка атрымалася сёння негустая і вельмі смачная.* Дзяніскавічы Ганц.

ПАТУ́Х *м.* Певень. *Патух залецеў на плот.* Давыд-Гарадок Стол.

ПАТЫ́КА *ж.* Палка. *Сходы назбырай патык подвязаты помыдоры.* Астрамечава Брэсц. *Патыка лыжыть на дорозі, одсунь еі, бо малое впадэ.* Кустын Брэсц.

ПАТЫ́НКЫ *мн.* Самаробныя тапкі. *Маты хлопчыковы пошыла патынкы.* Замшаны Малар.

ПА́ТЫРКЫ, ПАТЭРКІ́ *мн.* Пацеркі. *Маты купыла сыстрі хорошы патыркы.* Заверша Драг. *Патэркі россыпалысь.* Сакалоўка Пін.

ПАТЭ́ЛЬКА, ПІТЭ́ЛЬКА *ж.* Пятля. *У пальтовы зробылы патэлькы.* Азяты Жабін. *Зашчэпні на пітэльку.* Альманы Стол.

ПАЎРО́ЗЫ, ПОВРО́ЗЫ *мн.* 1. Тасёмка, матузы ў фартуху. *Цётка завязала фартух на паўрозы.* Дварэц Лун. *Ны прышывай мні довгых поврозов до фартуха.* Каўняцін Пін. *Поврозы довгы, добрэ завязваты.* Корчыцы Кобр.

2. Махры ў хустцы. *Купіла хустку з паўрозамі.* Квасевічы Івац.

ПАХАДУ́ХА, ПОХОДУ́ХА *ж. экспр.* Непаседлівая жанчына, якая ходзіць па хатах. *Ну й пахадуха твая жонка.* Мілейкі Івац. *Гэта походуха нэ зâтрымаецца доўго ў хаце.* Нарутавічы Бяроз.

ПАХА́ТНІЦА, ПОХА́ТНЫЦА, ПОХА́ТНЫЦЯ *ж. экспр.* Тое ж. *Ад пахатніцы Сцяпулі ніводная навіна не ўцячэ.* Калоднае Стол. *Знов гэта похатныца до нас ідэ.* Гальцы Стол. *Маня в нас похатныця.* Крытышын Іван.

ПА́ХВА, ПОХВА́ *ж.* 1. Паха. *Бабка Настуля кажный раз прыносыла з лісу под пахвою голле.* Ляхавічы Драг. 2. Падуздышная ўпадзіна ў жывёлы. *Шрам пропоролы коровы коло похвы.* Гершоны Брэсц.

ПАХНЮ́ЧЫЙ *прым.* Пахучы, духмяны. *Е пахнючый пэрэц.* Відзібар Стол.

ПАЦА́НКА *ж.* Кавалак сала на палачцы, спечаны на агні. *Хлопцы паслі коровы і ілі пацанкі.* Чвіркі Кам.

ПАЦЁРЫ *мн.* Гл. патыркі. *От хорошы пацёры в молодухі!* Сушытніца Малар.

ПАЦЁС *м.* Столь. *Мой старэйшы вымахаў пад самы пацёс.* Слабажаны Бар.

ПАЦЫЯ́Т, ПАЦЫЕ́Т *м.* Франтон. *У пацыяце выразано акно.* Шэйпічы Пруж. *Мы поставылы новый пацыят.* Сакалоўка Пін. *Поможітэ нам пацыета засунуты на хату.* Крытышын Іван.

ПАЧАНІ́НА *ж.* Апёк. *Ох, як ссадзяе пачаніна!* Велута Лун.

ПА́ЧОК *м* Скрынка. *Дід зробыв пачка.* Сакалоўка Пін.

ПАЧО́НКА *ж.* Прыбудова. *Бацька пачаў будаваць пачонку.* Скорцы Пруж.

ПАЧО́СЫ *мн.* 1. Лён пасля апрацоўкі. *Начысала пачіс і навыртіла кудэлі.* Ляхаўцы Малар. 2. Пачаскі. *Пачосы спрала.* Дзятлавічы Лун.

ПАЧУ́РА, ПЫЧУ́РА *ж.* Невялікая выемка ў печы. *У нашай пачэ дзве пачуры.* Хатынічы Ганц.

ПАШНЫ́ЦЯ *ж.* Збожжа, зерне. *Святый Васыль по полю ходыть, жыто-пшэныцю родыть, всяку пашныцю. Зароды, божэ, вам жыто.* Радзеж Малар.

ПАШЫПА́ *ж.* Ігліца. *З хвоіны опала пашыпа.* Застружжа Іван.

ПА́ШЧЭНКА *ж.* Сківіца (у воўка). *Той чоловік взяв вовка за ныжню пашчэнку.* Радзеж Малар.

ПЕ́ЛЕНА *ж.* Прыпол. *Набрала яблок поўную пелену.* Пузічы Лун.

ПЕ́НДЭЛЬ, ПЭ́НДЗЭЛЬ *м.* Шчотка, якой беляць печ, столь. *Пендлі ў нас робяць з травы, якая зовецца ребрэй.* В. Малешава Стол. *Дай пэндзля забілэтэ грубу.* Заверша Драг.

ПЕРАКІНУЦЦА *зак. экспр.* Памерці. *Перакінуўся наш стары.* Тартакі Бар.

ПЕРАМЕ́Л *м.* Брод. *Смело едзь і з возом, там перамел.* Дзяніскавічы Ганц.

ПЕРАХА́ЎКНУЦЬ *зак.* Перабольшыць. *Бабуля зварыла суп някепскі, але крышку перахаўкнула солі.* Мінічы Лях.

ПЕ́РУЧ *прысл.* Спачатку. *Перуч чым адрэзаць, трэба сем раз адмераць.* Галоўчыцы Пруж.

ПЕРША́ЧКА, ПЫРША́ЧКА *ж.* Карова, якая першы раз ацялілася. *Мая карова першачка.* Востраў Ганц. *Твоя пыршачка богато молока дае.* Гершоны Брэсц.

ПЕРЭПІЧКА, ПЭРЭПІ́ЧКА *ж.* Невялікі хлябец. *Скорэй перэпічок накідаю.* Рубель Стол. *Пэрэпічка — як нывылыка булка.* Спорава Бяроз.

ПЕЧУРЫ́ЦА *ж.* Шампіньён. *Печурыцы ростуць і на сенокосах, і на пасьцьбішчах.* В. Малешава Стол.

ПЕ́ШНЯ *ж.* Долата з доўгім чаранком для ачысткі пазоў. *Пешня — гэто на палцы долато, можна секці вульі.* Дзяніскавічы Ганц.

ПІ́ВЗЫНЦЭ *н.* Апоўзіны. *Прывіз з лісу півзынцэ на стыг.* Павіцце Кобр.

ПІВНІ́ЦА I *ж.* Драўляная бочачка з двума донцамі на квас. *Прынесі півніцу, то прыставлю квас.* Бастынь Лун.

ПІВНЫ́ЦЯ II *ж.* Склеп. *Сходы в півныцю по гуркы.* Кустын Брэсц.

ПІ́ДБЫЛКА, ПУДБЫ́ВКА *ж.* 1. Ніжняя частка сукенкі, спадніцы, падрубленая другой тканінай. *Підбылка в спуднэці нывыліка.* Бучамля Кам. 2. Падклад у верхнім адзенні. *Ты шыіш плаща́ з пудбывкою?* Пескі Бяроз.

ПІ́ЖНЯ *ж.* Пожня. *Тэпэр коровы тылько на піжні пасуть.* Гальцы Стол.

ПІ́ЗІ *мн. неадабр.* Слёзы. *Оно знае, шчо пізі пускае.* Акропна Драг.

ПІ́ЗЫННЕ *н.* Гл. півзынцэ. Каўбы Пін.

ПІ́ЗЯ, ПЫ́ЗЯ *м.* і *ж.* Плаксун, плаксуха. *От, пізя.* Акропна Драг. *Чого ты плачыш, пызя?* Галоўчыцы Драг.

ПІ́КУС *м.* Фікус. *У покоі много пікусоў.* Навасёлкі Бар.

ПІЛІ́КАЦЬ *незак. экспр.* Рэзаць тупым. *Будзя табе пілікаць па доскам гэтым.* Паланэчка Бар.

ПІ́ЛКА, ПУ́ЛКА *ж.* Фартух. *Возмы пілку, а то вымочыш сподн響ицю.* Астрамечава Брэсц. *Якая добрая пулка.* Ваўкаставец Кам.

ПІЛО́ *н.* Пойла. *Занысы коню піло.* Гершоны Брэсц.

ПІЛОВІ́НЫ *мн.* Пілавінне. *С-пад пілкі сыплюцца жоўтыя піловіны.* Мазуркі Лях.

ПІ́ЛЬТЬ *м.* Кавалак (сала). *Купыла капу за пільть сала.* Доўбнева Кам.

ПІРО́Г *м.* Блін. *Уставай, пірагі сьпякліся. Мачай у сьмятану і еш.* Ласасіна Пруж.

ПІ́РНАЧ *м.* 1. Пярына. *Раньшій дівка быз пірнача замуж ны йшла.* Карсынь Іван. 2. Пухавік. *Насця спыть на пырначы, быз наволочкы.* Туляцічы Іван.

ПІТУ́ШКА *ж.* Невялікі гліняны гаршчочак. *Малако стаіць у пітушцы.* Блізная Пруж.

ПІЦЬ *м. зневаж.* Нос. *Сэды, бо зарэ як дам у піць.* Валішча Пін.

ПІ́ШНЯ *ж.* Невялікі кій, якім падпіраюцца, ідучы па лёдзе. *Чоловік з пішнію пэрэходыв чэрэз тонкый лід.* Хрысцібалавічы Пін.

ПЛАВА́К *м.* Плывец. *Ну й плавак с цебэ!* Азярніца Лун.

ПЛАВУ́ШКА *ж.* Першая трава. *Плавушка вжэ выскаквае, то будэ тыпло.* Ботава Пін.

ПЛА́ЗМА, ПЛА́ЗЬМЯ *прысл.* Плазам. *Дошка в пудлозы лыжыть плазма, кніжка на столі тожэ.* Сіманавічы Драг. *Воны лыжеть плазьмя.* Валавель Драг.

ПЛАМЭ́ТЫТЫСЬ *незак.* Хандрыць. *Тэ знов пламэтысся.* Дзівін Кобр.

ПЛА́НКЫ *мн.* Клямар. *Планкамы рувняють стыну.* Гершоны Брэсц.

ПЛА́ТТЕ, ПЛА́ЦЦЕ *н.* 1. Бялізна. *Я прынюс маты праты платте.* Ботава Пін. *Увэчэры мне трэба позоліць плацце.* Цна Лун. 2. Сукенка. *Матруна, надзяні чыстае плацце.* Востраў Ганц.

ПЛАЎ *м.* Топкае балота. *Плав, плывэ, шчо ны можна пруйтэ: ты ідэш, а він дмэця пэрэд тубою.* Радастава Драг.

ПЛА́ХТА *ж.* Саматканая посцілка. *Мы вытчымо нову плахту.* Ваўкаставец Кам.

ПЛЕЙТОШ *м. экспр.* Балбатун. *Но й плейтош, плетэ, плетэ, абы-шчо бае, здаецца, ото ужэ й языка зламіть — аж не.* Валішча Пін.

ПЛЁСКАЦЬ *незак. зневаж.* Гаварыць абы-што. *А вон і будзе плескаць языком.* Велямічы Стол.

ПЛЕТ, ПЛІТ *м.* Плот, паркан. *Коло хаты бацько зробіў плет.* Вулька I Лун. *Наша хата обгороднена новым плотом.* Рагадашч Іван.

ПЛЕЦЮНКА, ПЛЭТЮНКА *ж.* Кошык з лазы, спецыяльна сплецены для шклянога бутля. *Сплёў бы плецюнку для бутля.* Рудня Івац. *Дай но бутля в плэтюнцы.* Радзеж Малар.

ПЛЁШКА, ПЛЯШКА *ж.* Бутэлька. *У плешцы була вода.* Сулічава Драг. *Занысы пляшкы здай.* Хмелева Жабін.

ПЛЁШНІК, ПЛОШНЫК, ПЛЫШНЫК *м.* Аер. *Нарвала на болоці плешніку і на троіцу нарадзіла хату.* Альшаны Стол. *Плошнык ростэ на болоты.* В. Якаўчыцы Жабін. *Плышныку нарвалы.* Кустын Брэсц.

ПЛЁШЧЫТЫ *незак.* Шумець (пра ваду). *Плёшчыть вода.* Відзібар Стол.

ПЛІВКА *ж.* Дыяфрагма. *Плівка так і називаецця в нас.* Гершоны Брэсц.

ПЛІСІРОВКА *ж.* Спадніца ў складачкі. *Тэпэр хорошы плісіровкы роблять.* Кустын Брэсц.

ПЛІСКА I *ж.* Раска. *У гэтой дэнь озэро було покрыто пліскою.* Спорава Бяроз.

ПЛІСКА II *ж.* Драбіны (у возе). *Пліска — драбіны ў возе.* Дзятлавічы Лун.

ПЛІСКІ, ПЛЫСКЫ *мн.* Лісічкі. *У лісы зараз мнуго плісок.* Ваўкаставец Кам. *Плыскы — такіі жовтэнькі грыбы.* Хмелева Жабін.

ПЛІСНЯ *ж.* Верх ступні нагі. *Обтэр зусім плісню.* Відзібар Стол.

ПЛІЦАК *м.* Рукзак. *Я купыла пліцака.* Вавулічы Драг. *Субыры сынувы пліцака в дурогу.* Плоска Брэсц.

ПЛІШКА *ж.* Месца, дзе не ўзышла гародніна. *Пустая плішка на грядцы, нычого ны зыйшло.* Камянюкі Кам.

ПЛОЙМА, ПЛЫЙМА *ж.* Вялікая колькасць чагонебудзь, процьма. *Хлопцаў цэлая плойма сабралася.* Слабажаны Бар. *Плыйма жуків на картоплях.* Вулька Сіманаўская Драг.

ПЛОТ *м.* і *ж.* Гл. плейтош. *А баба Яра такі плот, шчо*

*свет не бачыў. Да ў тэбэ ўжэ вушы ўпалі, слухаючы плота.* Валішча Пін.

ПЛУ́ТО *м.* і *ж. зневаж.* Нікчэмны чалавек. *Плуто ты, нічого не можэш зробіць.* Бакуны Пруж.

ПЛЫ́ГНУТЫ *зак.* Скочыць. *Муй кінь як плыгнэ, і шчо ты думаеш, той ровчак пэрэскочыв.* Каўбы Пін.

ПЛЫ́СКАТЫСЯ *незак.* Пырскацца. *Нэ плыскайса, нэ бачыш, і так всю облыв.* Каўбы Пін.

ПЛЫСКУ́НКА *ж.* Асака. *На болоты вжэ прорізалася плыскунка.* Гершоны Брэсц.

ПЛЫТА́Р *м.* Плытагон. *Мый дід робыв плытаром.* Дастоева Іван.

ПЛЫ́ТКО *прысл.* Неглыбока. *Нэ буйса, пырыходь, тут зусім плытко.* Цвярдоўка Пін.

ПЛЫТЫНЯ́, ПЛЕЦЁНЯ *ж.* Пляцень. *Плота зробыв з плытыні. Нарубав лозын, сплів плытыню і плют.* Радзеж Малар. *Каля суседняй хаты паставілі плеценю.* В. Чучавічы Лун.

ПЛЫТЮ́Х *м. экспр.* Гл. плейтош. *От такый плытюх старый.* Радзеж Малар.

ПЛЮГА́ВЫ, ПЛЮГА́ВЫЙ *прым.* 1. Дрэнны. *Ду нас всё якійся плюгавый субака прыбыгае.* Плоска Брэсц. 2. Брудны. *Ой, якый ты плюгавый!* Сакалоўка Пін.

ПЛЮ́СКАВКА, ПЛЮ́СКАЎКА, ПЛЮ́СКАМКА *ж.* Кнопка. *Плюскавкыю прыколоты газету.* Крамно Драг. *Карціну прыкалолі плюскаўкамі.* Варанілавічы Пруж. *Дай мне плюскамок.* Навасёлкі Лях.

ПЛЮ́ТА *ж.* Дождж са снегам. *Якая на дворі плюта, шо субакы ны выжынэш.* Радзеж Малар.

ПЛЮХО́ТА, ПЛЮ́ХТА *ж.* Тое ж. *Стаіць такая плюхота, што з хаты не хочацца выходзіць.* Рудня Івац. *Сядзі дома, нікуды не пойдзеш гетаю плюхтаю.* Востраў Ганц.

ПЛЮ́ШАВІК *м.* Паўпаліто, пашытае з плюшу. *Пайду на вуліцу я ў плюшавіку.* Заліпенне Лях.

ПЛЯ́ГА *ж.* Зараза, навала. *Як убіласа гэтая пляга в горо́д, дак усэ на светы понэсла — гебі й нэ садыла ныц.* Валішча Пін.

ПЛЯ́ЖЫЦЬ *незак.* Ісці няспынна (пра дождж). *От учора пляжыў дошч.* Рамель Стол.

ПЛЯ́ЗГАЦЬ *незак.* Плявузгаць. *Плязгае на чалавека німаведама што.* Слабажаны Бар.

ПЛЯ́МКАТЫ *незак.* Цмокаць, чмякаць (ротам). *Плямкае под ухом, існы ны вміе.* Кустын Брэсц.

ПЛЯЦ *м.* 1. Месца для пабудовы хаты і для агаро-

да. *Але і пляц добры табе далі: і рэчка бліско, і карову добра выгнаць, у шкоду не ўлезе.* Пачапава Бар. 2. Сядзіба. *У тэбэ добрый пляц.* Ботава Пін. 3. Месца, дзе размяшчаецца калгасная ферма. *Матэры ішчэ з пляцу нэма.* Гальцы Стол.

ПЛЯ́ЦНУЦЬ, ПЛЯ́ЦНУТЫ *зак. экспр.* Стукнуць. *Возьмі да пляцні, чого вон розышоўса.* Рубель Стол. *Пляцнуло шось в сінях.* Кустын Брэсц.

ПЛЯ́ЦОК *м.* 1. Блін, аладка. *Діты мачают пляцкі в тук.* Чвіркі Кам. *На сніданне напыклы пляцкув.* Яміца Малар. *Ужэ подышлы пляцкы, трэба пычы.* Гершоны Брэсц. 2. Дранік. *На обід булы картопляны пляцкы.* Маларыта.

ПОБЫГУ́ШЧЫЙ *прым.* Прагавіты (пра жывёлу). *В тэбэ корова натто побыгушчая.* Гершоны Брэсц.

ПОБЕ́Л *м.* Крэйда. *Ты купі побелу: трэ побеліці печ.* Раздзялавічы Ганц.

ПОБЛА́ГНУТЫ *зак.* 1. Змарнець. *После мyроза картоплі публаглы.* Пугачова Брэсц. 2. Пастарэць. *Поблагнула вжэ маты.* Корчыцы Кобр.

ПОВА́Л, ПО́ВАЛ *м.* 1. Столь. *У старых хатах пова́л був ныській.* Боркі Бяроз. *По́вал у хатэ був покрашаны голубэю краскыю.* Завялёўе Драг. *Тэпэр мы клеілы по́вал.* В. Якаўчыцы Жабін. 2. Гарышча. *Одніс на по́вал старэі кніжкэ.* Валавель Драг.

ПО́ВАЦЬ, ПО́ВЭТЬ *ж.* Павець. *Сходзі под повaць да набэры сухіх дроў, бо гэтые, з двору, горэць не хочуць.* Дзятлавічы Лун. *Набэры дров у повэті.* Парахонск Пін.

ПОВІ́СМО, ПОВЫ́СМО *н.* Жменя цёртага лёну. *З повісма звылы мотуза.* Ляхавічы Драг. *Лён трут і вяжут у повысмо.* Дзмітравічы Кам.

ПОВІ́ТКА *ж.* Гл. повaць. *Сходэ в повітку, набэрэ дров.* Ладараж Пін.

ПО́ВНУЧЭ *прысл.* Цёмна. *А я сыжу сама в хатэ, повнучэ на улыцэ, страшно мні, вся лякучу.* Дзівін Кобр.

ПОВОДЗЁ́Ц *м.* Тое ж. *Цэлы тыдзень поводзец лежав без потрэбы.* Альшаны Стол.

ПОВОДО́К *м.* Нядоўгая, але тоўстая і моцная вяроўка. *Нашу корову завсёды на поводку трэба водыты, бо вона брыкаецца.* Гальцы Стол.

ПОВО́РНІЦА *ж.* Хамут для пары быкоў. *Пана́с, возьмі поворніцу і повода, запрагом волы, будом орaць поле.* Купаўцы Лун.

ПОВХ, ПОЎХ *м.* Крот. *Повх рые вэлыку нору.* Макраны Малар. *Повх точыть зэмню.* Сукачы Драг.

ПОВХОВЫ́ННЕ *н.* Зямля, паточаная кратамі. *Всёй сынокос в повховыннёвы.* Доўбнева Кам.

ПОВХОТО́ЧЫНЫ *мн.* Тое ж. *Повхоточыны по всёму полы, повх нарыв.* Кустовічы Кобр.

ПОВЫ́ВАЧ *м.* Спавівіч. *Возьмы повывач да уповый дытыну.* Шэбрын Брэсц.

ПОВЫПРАВЛЯ́ЦЦА *зак.* Падохнуць, выпруціцца. *Шоб мое курэнятка бэз курыці нэ повыправлялысь.* Ставы Кам.

ПОВЫСМЫКА́ТЫ *зак.* Павыцягваць. *Повысмыкав разом з зіллем і буракы.* Кустын Брэсц. *Мама попросыла мынэ помогчы ёй канву повысмыкаты.* Сычэва Іван. *Бабэ повысмыкалі лён у довгі нэткі.* Сарава Кам.

ПОВЫХВА́РШВАЦЦА *зак.* Прыгожа апрануцца. *Повыхваршваюцца да ходзяць по вуліцы і ў будзень, і ў свято.* Цераблічы Стол.

ПОГА́НЫ, ПОГА́НЫЙ *прым.* Дрэнны. *Остап з молодых літ шчытавса поганым чоловіком.* Выжлавічы Пін. *Погана ўчора була погода.* Адвержычы Стол.

ПОГА́НО *прысл.* Дрэнна. *Тэпэр погано жыто жаты.* Юнішчы Стол.

ПОГОЛО́ВАЧ *м.* Папярочныя барозны ў канцы ўчастка. *Поголовач робяць, дзе не доорваюць.* Рубель Стол.

ПОГО́НЯ *ж.* 1. Заліўны луг. *На погоні пасуть корув і свіней.* Бор-Дубенец Стол. 2. Невялікае балота. *Дзе погоня, ніц не росце.* Рубель Стол.

ПОГРАБІ́ТЫ *зак.* Адубець (пра пальцы). *Пограбілы пальцы в вуді.* Сулічава Драг.

ПОД *м.* 1. Дно калодачнага і рамачнага вулля. *Под — дно вулея.* Палонка Бар. 2. Дашчаты насціл на дрэве ці на зямлі, на якім ставяць вулей. *На поду ставлять вулья.* Альпень Стол.

ПОДА́НКЕ *н.* Дажджавая вада. *Такэі водэ нэ пэй, бо то тылько поданке.* Арэхава Малар.

ПОДВО́ЛЫЦЯ, ПУДВО́ЛЫЦЯ *ж.* Ніжняя частка падбародка. *Бач, якую подволыцю наів, аж комнір ны зашчікаіця.* Падышча Іван. *Похудів, пудволыця помэнчала.* Сулічава Драг.

ПОДВОРО́ТНЫЦА, ПОДВОРО́ТНЫЦЯ *ж.* Дошка пад варотамі. *Пры в'ездзе на двур подворотныца одымаецца.* Лагішын Пін.

ПОДВЫ́РОК, ПОДВІ́РОК, ПОДВУ́РОК *м.* Падворак. *Подвырок був высыпаный жовтым пыском.* Заверша Драг. *На подвірку ходять куры.* Плоска Брэсц. *Якій в тыбэ чыстый подвурок.* Клейнікі Брэсц.

ПОДВЫ́ЧКА *ж.* Стужка. *На шапках у партызан булы чырвоны подвычкі.* Лука Кобр.

ПОДГА́РЛЕ *н.* Ніжняя сківіца ў жывёл. *Вовк схватыв порося за подгарле.* Гершоны Брэсц.

ПОДДУ́БНАК *м.* Грыб свінуха тонкая. *У нашым лысі мнэго поддубнаків.* Ляхавічы Драг.

ПОДГРІ́БОЧКА, ПУДГРІ́БОЧКА, ПУДГРЫБА́ЧКА *ж.* Качарга. *Подгрэбы жер подгрібочкою.* Якша Іван. *Пудгрібочка кулу пэчы.* Пелішча Кам. *Кулу пэчы лыжала пудгрыбачка.* Індычы Кам.

ПО́ДЖАР, ПЫ́ДЖАР *м.* Пясчанае поле, якое не апрацоўваецца. *Пыджар, которэ вонэ неўродлівэ, дзе клок поля, сама плохая земля, гора, песок.* Рубель Стол.

ПОДЗО́Р, ПУДЗО́Р *м.* Падзор. *Хорошы подзор, Маня, у цебэ.* Рубель Стол. *Пудзора купыла в магазіны.* Макраны Малар.

ПОДЗО́РНІК, ПУДЗО́РНЫК *м.* Тое ж. *Чаму падзорніка не прычэпіш?* Таўцвілы Пруж. *Поправ пудзорныка, ты ж ёго оборвала.* Радчыцк Стол.

ПОДКУЛЬБА́ЧНІК *м.* Пас. *Подкульбачнік дэржыт оглоблі.* Спорава Бяроз.

ПОДЛОЖЫ́ТЫ *зак.* Падкласці, падшыць. *Гэтэ платте трэба було шчэ подложыты.* Ляхавічы Драг.

ПО́ДМАЗКА, ПУДМА́ЗКА *ж.* Кавалачак сала ці тлушчу для падмазвання патэльні. *Пумаж пытэльню подмазкыю.* Камень Кобр. *Ты пудмазкую мажыш чы улій льеш?* Плоска Брэсц.

ПОДПА́ЛЕК, ПУДПА́ЛОК *м.* Скавароднік з хлебнага цеста, спечаны перад полымем. *Напэкла подпалків пэрэд полумнем на сніданне.* Арэхава Малар. *З'ів пудпалка.* Сварынь Драг.

ПОДПОЛО́НЫК, ПУДПОЛО́НЭК *м.* Тоўсты блін з хлебнага цеста. *Подполонык пэчоны с хліба.* Дружба Брэсц.

ПОДРОБЭ́НЬКЭ, ПУДРУБЫ́НКЫ *мн.* Вантробы. *Подробэнькэ на сальтісон вставэлэ.* Сулічава Драг. *Вставыла собі такі-сякі пудрубынкы.* Доўбнева Кам.

ПОДРУ́БА, ПУДРУ́БА *ж.* 1. Падмурак. *Вуны заложылы новую подрубу в хаты.* Міжлессе Бяроз. *Пытро ужэ хату почев робыты, ужэ подрубы award положыв.* В. Лес Драг.

2. Ніжні вянок зруба. *Пудрубы мажуть смолою, тому шчо нападае грыб.* Лагішын Пін.

ПОДСВЫНЯ́К *м.* Падсвінак. *Подсвыняк у город заліз.* Гершоны Брэсц.

ПОДСТА́РОСТА, ПУДСТАРО́СТА *м.* Чалавек, які памагае свату на вяселлі. *Подста́роста вжэ коровай трэбуе.* Сакалоўка Пін. *А хто ў вас пудсталро́ста?* Парахонск Пін.

ПОДСТЫ́РЫТЫ *зак. экспр.* Падгаварыць. *Алэ хто-то тыбэ так подстырыў, шоб ты такую пакость зробыў?* Сычэва Іван.

ПОДХВА́ТКА *ж.* Сачок пад рыбу. *Трэба іты позычыты в сусіда подхватку.* Чарнаўцы Брэсц.

ПОДЫ́ВЛЕ *н.* Дзівоснае здарэнне, дзіва. *Такэ страшнэ подывле було; зараз ныма такого подывля — дывуютьця люды, шо случай такый получывся.* Радзеж Малар.

ПОДЫВЫ́ТЫСЯ *зак.* Паглядзець. *Подывыся зымою в окно, то одын сніг лыжыть на полы.* Галоўчыцы Драг.

ПОД'Ю́НДЫТЫ *зак. экспр.* Пад'юдзіць, падбухтОрыць. *Гэто ты ёго под'юндыла, шчо він такый злый.* Камень Кобр.

ПО́ЖА́РКА *ж.* Трэшчына на лёдзе. *Дітэ на людовэ зрубэлэ пожарку.* Гаравіца Драг.

ПОЖБУ́РЫТЫ *зак. экспр.* Кінуць. *Я подняў ломаку і пожбурыў у собаку.* В. Малешава Стол.

ПО́ЖНЯ, ПІ́ЖНЯ, ПУ́ЖНЯ *ж.* 1. Поле, з якога сабрана збожжа. *Іды на піжню, суломы назбырай.* Плоска Брэсц. *Пушоў товар по пужні.* Рубель Стол. 2. Іржышча. *Пожня высокая, можна накосіці.* Азярніца Лун. *Трэба пужні накосіць, корове подослаць.* Велута Лун.

ПОЗА́БОРСЫ *прысл.* Па шчыкалатку. *А воды тут — позаборсы.* Каўбы Пін.

ПОЗА́ВТРІ *прысл.* Паслязаўтра. *Позавтрі до мэнэ прыйдуть хлопцы з Молодова.* Дастоева Іван.

ПОЗАГУ́НШЧЫНА *ж.* Падзел зямлі на загоны. *Загун вашый і нашый, то позагуншчына.* Відзібар Стол.

ПОЗЁМКІ *мн.* Суніцы. *Мы ходылы за позёмкамы.* Шэбрын Брэсц.

ПОЗОЛІ́ЦЬ *зак.* Пажлукціць бялізну. *Каце, прынесі жлукто, бо трэба плацце позоліць.* Дзятлавічы Лун. *Матко, давай унясом жлукто, позолю плацце наноч.* Купаўцы Лун.

ПОЗО́РНЫЙ, ПАЗО́РНЫ *прым.* Прыгожы, відны. *Нэ*

*такая позорная дівчына, а шчаслывая.* Азяты Жабін. *Які касцюм у цебе пазорны!* Таўцвілы Пруж.

ПОЗЮ́НЬКЫ *мн.* Гл. позёмкі. *У лісы поспілы позюнькы.* Сулічава Драг.

ПОЇЛКА *ж.* Невялікае вядзерца, з якога пояць малых цялят, у паілку таксама збіраюць ягады. *Набралі дві поілкы і вісім брачок.* Радзеж Малар.

ПОКА́ЛЕНЫ *прым.* Брудны. *Твуй пінжак покалены.* Рамель Стол.

ПОКІДАНЕЦ, ПОКЫДА́НЭЦЬ, ПОКІДЭ́НЕЦ *м.* Пакінуты муж. *Пошла замуж за покіданца.* Азярніца Лун. *До нас подсэлывся новый сосід — покыданэць.* Сакалоўка Пін. *Вон покідэнец.* Бастынь Лун.

ПОКІДА́НКА, ПУКІДАНКА, ПОКІДЭ́НКА *ж.* Пакінутая жонка. *До мэі сосідкы прыіхала ў госты дочка-покіданка з дытыною.* Сычэва Іван. *Пуйды пусватайся ду тэі пукіданкі.* Доўбнева Кам. *Вона покідэнка.* Бастынь Лун.

ПОКОВБА́ЧЫТЫСЯ *зак.* Пакрывіцца. *Хата іі старая, ужэ поковбачылася.* Пескі Бяроз.

ПОКО́ВЧАТЫ *зак.* Запэцкаць, пам́яць. *Можэ б і сіла, да боіцца — сподныцу поковчае.* Каўбы Пін.

ПОКО́ПЫШЧЭ, ПОКО́ПІШЧЭ *н.* Поле, з якога выкапалі бульбу. *Пустэе покопышчэ зосталосо, як покопалі бульбу.* Гарадная Стол.

ПОКРЫ́ШКА *ж.* Пакрывала. *На лужку лэжалы хорошые покрышкі.* Радчыцк Стол.

ПОКУМЫ́ТЫСЯ *зак.* Стаць кумамі. *Вона з ім покумылася.* Хмелева Жабін.

ПО́КУТЬ *ж.* Чырвоны кут у хаце. *Молодых на высіллі садять на покуті.* Смольнікі Іван. *Постав кутю на покуті.* Пескі Бяроз.

ПО́КУТТЕ *н.* Тое ж. *На вэсіллі старша сваха сэдыть на покутті.* Гальцы Стол.

ПОЛА́ДЫТЫ *зак.* Адрамантаваць. *Гэты чоботы трэба було поладыты.* Ляхавічы Драг.

ПОЛА́ *ж.* Крысо. *У гэтому пінжаковы була порвана пола.* Ляхавічы Драг.

ПО́ЛАП, ПОЛА́П *м.* Гл. пакот 3. *Батько красыв по́лапа.* Дубіца Брэсц. *По́лап був пугнывшій і прувалывся.* Ваўкаставец Кам. *Пола́п пудбэтый дыктыю.* Арэхава Малар.

ПОЛАТА́ВШЫСЯ *у знач. пабочн.* Магчыма. *Полатавшыся, абыйдымося самы.* Сулічава Драг.

ПО́ЛЕЎКА, ПО́ЛЫЎКА *ж.* Малочны суп. *Маті поставіла на стэл полеўку.* Глінішча Івац. *Люблять малыі діты полыўку.* Выжлавічы Пін.

ПО́ЛІК *м.* Гл. палок 1. *На поліку добрэ одпочыті.* Глінішча Івац.

ПОЛІ́ТА *ж.* Гліняны паліваны гаршчок для масла. *Політа гладэнька, блыскуча такая.* Олтуш Малар.

ПО́ЛКА, ПУ́ЛКА *ж.* Гл. пола́. *На одну полку мацер'ялу не хватае.* Хотамель Стол. *В тыбэ удна пулка довша.* Клейнікі Брэсц.

ПОЛОВІ́ТЫ *незак.* Палавець. *Овэс половіе, спіты почынае.* Лапацін Пін.

ПОЛО́ВНЯ *ж.* Хлеў, у якім зімою знаходзіцца сена. *Сіно заложылы у половню.* Вылазы Пін.

ПОЛОВЫ́НЧЫК *м.* Аполак. *Хата поставляна з половынчыкув.* Доўбнева Кам. *Вылыку быркзыну розрізалы на половынчыкі.* Смольнікі Іван.

ПОЛО́ЗІНЕЦ, ПОЛО́ЗЫНЭЦ *м.* След ад палазоў. *Іды полозынцэм.* Відзібар Стол. *Нехто ехаў, полозінец відно́.* Азярніца Лун.

ПОЛОМЫ́СОК, ПОЛОМІ́СОК, ПОЛУМЭ́СОК *м.* Талерка. *Помый зарэ поломыскы.* Чэнчыцы Пін. *На паліцы роўненько стоят поломіскі.* Мікалаевічы Пруж. *Дівчынка розбэла полумэска.* Арэхава Малар.

ПОЛО́НІК, ПОЛО́НЫК, ПУЛО́НЫК *м.* Апалонік, вялікая лыжка. *Мама взяла полоніка і наліла в мыску супу.* Столін. *Полоньк вэлыкій, добрэ мэшеты ім.* Олтуш Малар. *У пулоныка одорвалась ручка.* Ставы Кам.

ПОЛО́НЯ *ж.* Месца, дзе не ўзышло пасаджанае, пасеянае. *На загоны вылыкая полоня.* Бурмакі Драг.

ПОЛО́ССЕ, ПОЛО́СЦЕ *н.* Лыка. *Прынысы мні тыі постолы, шчо з молодого полосся. Він надрав полосся, полоссем позавішвав усэ на світы: повітку, комірку, хлэвы.* Каўбы Пін. *В нашуй лавцы платять по дваццэть однуй копійцы за кілё полосця.* Маладзельчыцы Пін.

ПОЛОТНЯ́НКІ *мн.* Буркі. *Полотнянкі шыют з полотна.* Кустын Брэсц.

ПОЛО́ХАТЫ *незак.* Плюхаць. *Чую, ныхто полохае по болоту.* Дзераўная Стол.

ПО́ЛУДЭНЬ, ПОЛУ́ДЭНЬ *м.* Абед. *Мама позвала ўсех на по́лудэнь.* Боркі Бяроз. *На стул поставылы полу́дэнь.* Парахонск Пін.

ПОЛУ́ПОШОК, ПОЛУ́ПЫШОК *м.* 1. Воз. *На дворі стояв новый полупышок.* Трудавая Іван. 2. Прыстасаван-

не для сядзення на возе. *У пыродку воза лыжыть полупышок.* Вавулічы Драг. 3. Пляцёнка, якая кладзецца на воз. *Знялы з воза полупошок.* Пугачова Брэсц. *У полупышковы возять овэс.* Камень Кобр.

ПОЛУСЫ́ТОК *м.* Падсітак. *Дай мыні свойго полусытка муку просіяты.* Гальцы Стол. *Полусыток рыдшій за сыто.* Відзібар Стол.

ПОЛУСЫ́ЦОК *м.* Рэшата з лыкаў. *Полусыцок з лыкэй ткалы, як рышыто.* Відзібар Стол.

ПО́МАГ, ПО́МЯГ *м.* Воблака. *По нэбу плывуть по́магі.* Столін. *Мабыць, будзе дошч: помягі на небі відно.* Рубель Стол. *Памянш.* п о м я ж о́ к. *Хоць бы погода не спорцілас, бо нешчо помяжок появіўса на небі.* Там жа.

ПОМІ́ШЧЫК, ПОМЫ́ШЧЫК *м.* 1. Парог. *На помышчыку сыділа малая дытына.* Гошава Драг. 2. Ганак. *Ніна помыла помішчыка.* Крытышын Іван.

ПО́МНІ *мн.* Штаны. *Мне купілі новые помні.* Давыд-Гарадок Стол.

ПОМО́РОК, ПОМЭ́РОК *м.* 1. Напасць. *Шо за поморок на куры напав, здыхають і ны нэсуцця.* Корчыцы Кобр. 2. Прывід. *Так похована стала худыты помэрком.* Радзеж Малар.

ПО́МУЧ *м.* Дапамога. *Прыдэ́ сюгодня на помуч.* Гершоны Брэсц. *Помуч твуя трэба.* Корчыцы Кобр.

ПОМЫ́ЙНІЦА, ПОМЫ́ЙНЫЦЯ, ПУМЫ́ЙНЫЦЯ *ж.* 1. Вугал насупраць печы, дзе стаіць кухонны посуд. *В помыйніцы стояць горшчкі.* Азярніца Лун. 2. Міска, у якой мыюцца. *Налы чыстоі воды у помыйныцю.* Лышчыцы Брэсц. 3. Вядро, у якое зліваюць памыі. *Кынь вжэ в пумыйныцю, бо ныхто ісaskты нэ будэ.* Кустын Брэсц.

ПОМЯ́ТКЫ, ПОМЕ́ТКЫ *мн.* Звараная тоўчаная бульба. *Маты наварыла смачных помятків.* Замшаны Малар. *Пометкы горячы натто смачны.* Хаціслаў Малар.

ПО́НАЧЫ, ПО́НОЧЫ, ПОНОЧЭ́ *прысл.* Гл. повнучэ. *Тыпэр на дворы вэльмі пона́чы.* Міжлессе Бяроз. *Зымою в сім часов ужэ поночы.* Дзеткавічы Драг. *Куда тэ підэш, ужэ ш поночэ.* Закозель Драг.

ПОНЁВА *ж.* Першы снег. *Тэпэр понёва, можэ пійдэм на полёванне?* Радастава Драг.

ПОНОЖІ́, ПОНОЖЫ́ *мн.* Панажы. *Пырыбырай ногамы по поножех.* Орлавічы Драг. *Корнаткы поножі, нымножна достаты ногамы.* Папіна Драг.

ПОНЭ́ТКА *ж.* Жанчына, якая развялася з мужам. *Тая баба понэтка.* Павіцце Кобр.

ПОПА́Р *м.* Пырнік. *Попар вэльмы врэдный, як розростэцца на полы, тогды картоплі ны ростуть. Дэ есця попар, то всэ запустує.* Спорава Бяроз.

ПО́ПЛАВ, ПО́ПЛАЎ *м.* 1. Заліўны луг. *Скутына пушла на поплав.* Гершоны Брэсц. 2. Сенажаць. *Пойдзем на поплаў косіць.* Дзятлавічы Лун. 3. Сенажаць каля хаты, каля агарода. *Поплав — грудок куля хаты, блызэйко. На мэжі куля поля прыгурудэв поплава.* Радастава Драг. *Павеліч.* поплавыско. *На поплавыску ходылы коровы.* Міжлессе Бяроз.

ПАПЛАВНЫ́ЧІЙ *м. устар.* Вартаўнік паплавоў. *Ох, і быда будэ, як зловыть нас поплавнычій.* Рагадашч Іван.

ПОПЛАВУ́ХА *ж.* Трава, якая расце толькі вясною на вадзе, раска. *Глянь, якая вэлыка поплавуха ростэ.* Гальцы Стол.

ПОПЛАВЭ́Ц *м.* Месца на лузе, дзе жанчыны беляць палатно. *Тэпэрэчка тэплая вэсна, то будуть надто добрыі поплавцы, доладу полотна побылымо.* Моталь Іван.

ПОПЛЮ́СКЫ *мн.* Гл. пліска II. *Постав на возовы поплюскы.* Вавулічы Драг.

ПОПО́НА *ж.* Гунька. *Прынысы попону коня накрыты.* Адрыжын Іван.

ПОПО́НКА, ПОПУ́НКА *ж.* 1. Тое ж. *Коні моцно ўпарваюцца, і на іх накідаюць попонку.* В. Малешава Стол. 2. Дзяруга. *Обопныса попункою, а то дождж намочыть.* Радчыцк Стол.

ПОПО́РАТЫСЯ *зак.* Управіцца па гаспадарцы. *Ох, засыділась я, пойду, а то шчэ я ны попоралася.* Марцінова Драг.

ПОПОТУ́РКАТЫ *зак.* 1. Прыкласці нямала намаганняў. *Попотуркае вын, покыль до Дорогычыня зайдэ.* Радастава Драг. 2. Доўга турбаваць. *Івана трэба було попотуркаты, коб він зробыў корыто.* Сычэва Іван.

ПОПРА́ДУХЫ *мн.* Папрадухі. *Ны хочыцца в хаты самуй сыдіты: пойду на попрадухы, мо шчо почую коло бабэй.* Выжлавічы Пін.

ПОПРІ́ЛЫЙ *прым.* Прэлы. *Попрілэ сіно, корова ны ісць.* Гершоны Брэсц.

ПОПРУ́ГА *ж.* 1. Папруга, частка збруі. *Попруга — пут чэрэвом, шоб сэділко нэ злітало.* Гарадная Стол. 2. Рэмень, дзяга. *Куды сховала мою попругу? Хай вісыть на стыні, коб діты бачылы.* Корчыцы Кобр.

ПОПРЫ́ЦА, ПОПРЫ́ТА *ж.* Прылада, якая рэгулюе рух каменняў у жорнах. *У старых жорнах змололаса*

*попрыца.* Дастоева Іван. *Попрыта — довгое зэлізо, поднымае камэня.* Радзеж Малар.

ПОПЫЛЬНЮ́Х *м.* Кавалак мешкавіны, на які сыпалі попел, каб жлукціць бялізну. *Мама насыпала на попыльнюх попылу, шоб зробыты позолы.* Кулякі Іван.

ПОПЫЛЮ́Х, ПОПЭЛЮ́Х *м.* Матыль. *Попылюх влытів на огонь.* Замшаны Малар. *Мы наловэлэ мніго попэлюхів.* Арэхава Малар.

ПОПЫНДЮ́Х *м.* Тое ж. *У хату улытів попындюх.* Хацíслаў Малар.

ПОПЫРЫЧНЯ́К, ПУПЫРЫЧНЯ́К *м.* Папярочны загон. *Пусадыв пупырычняк картофлюв.* Доўбнева Кам.

ПОПЫРЭ́ДНЯ *ж.* Ланцуг для ўціскання сена. *Позыч попырэдню в сусіда.* Залессе Кобр.

ПОПЭРЭ́Д *прысл.* Раней. *Воны прыехалі попэрэд нас.* Вулька II Лун.

ПОПЭРЭ́ЧКА *ж.* Гл. попырычняк. *Пуйду полоты попэрэчку.* Гершоны Брэсц.

ПО́ПЭРЭДНЯ *ж. экспр.* Чалавек, які перабівае другіх. *А Ніна, як попэрэдня, ны дала сказаты ны слова.* Міжлессе Бяроз.

ПО́РАТЫСЯ *незак.* Гл. попоратыся. *Я шчэ ны поралася дома.* Заполле Брэсц.

ПОРОВНУВА́ТЫ *зак.* Параўнаваць. *Хто горэ, хто боронуе, всіх буг поровнуе.* Відзібар Стол.

ПОРОЖІ́ЛЛЯ, ПОРОЖЫ́ЛЛЯ *ж.* Парадзіха. *Ны спышы робыты, бо ты шчэно зародыла, порожілля ты.* Падышча Іван. *Лыжыть, ек порожылля.* Сулічава Драг.

ПОРОШО́К *м.* Таблетка. *У аптецы трэба було купыты поро́шкув.* Бярозавічы Пін.

ПОРО́ШЧУНЫ *прым.* Прараслы. *Порошчуны гуркы.* Гершоны Брэсц.

ПОРУ́ЛОДЭНЬ *м.* 1. Коўдра. *Накрыйся порулоднем.* Сварынь Драг. 2. Прасціна. *Постэлы чыстый порулодэнь.* Застаўе Драг.

ПО́РЦЫЯ, ПО́РЦІЯ *ж.* Шклянка. *Вун выпыв порцыю вына.* Міжлессе Бяроз. *Порції тэпэр чаркамы называють.* Радзеж Малар.

ПО́СВЫСТОЛ, ПО́СВЫСТЭЛ *м.* 1. Свісток. *На, посвышчы ў посвыстол.* Малеч Бяроз. 2. *перан.* Нясталы чалавек, распуснік. *Дэ вона нашла такого посвыстэла? Находылыся ж добры люды.* Кустын Брэсц.

ПОСЕДЗЕ́НЬКІ, ПОСЕДЗЕ́НКІ *мн.* Вячоркі. *Колі почнуцца морозы, часцей будзем на поседзенькі хо-*

*дзіць*. Цераблічы Стол. *Мы ходзілі на поседзёнкі*. Велямічы Стол.

ПОСКРЫ́ПТАЧ, ПОШКРІ́ПТАЧ *м*. Хлябок з рэштка́ў цеста. *Спыкла поскрыптача*. Арэхава Малар. *Памянш*. пошкріптачок. *Пошкріптачка діты з'ідеть*. Яміца Малар.

ПО́СКРЫ́ПТУХА, ПОСКРЭ́ПТУХА *ж*. Тое ж. *Осталось тісто на поскрыптуху*. Павіцце Кобр. *Трэба з остаткув тіста спычы поскрэптуху*. Ляхавічы Драг.

ПОСМАЧЫ́ТЫ, ПУСМАЧЫ́ТЫ *зак*. Засквварыць. *Посмачы добрэ товканыцю*. Корчыцы Кобр. *Пусмачы більш кашу, то смачній будэ*. Плоска Брэсц.

ПОСМЭ́ТЮХ *м*. Жаваранак. *Над головамы крычалы посмэтюхы*. Воса Кобр. *Вжэ прылытілы посмэтюхы*. Яміца Малар.

ПО́СНЫЙ *прым*. Нішчымны. *Посна бульба, посный хліб*. Арэхава Малар.

ПОСО́ЛЯНКА *ж*. Цэлая вараная бульба. *З молодое бульбы наварылі посолянкі*. Плехаўшчына Бяроз.

ПО́СПАЛЬ *прысл*. Запар. *Два дня поспаль не вылазіць з хаты*. Цераблічы Стол.

ПОСТА́ВЭЦЬ *м*. Ражка, у якой замешвалі корм для свіней. *Поставэць картоплюв за два раза свыня з'ідае*. Олтуш Малар.

ПО́СТАРЫЙ *прым*. Пажылы чалавек. *Вжэ він постарый*. Радзеж Малар.

ПО́СТАЦЬ *ж*. Паласа жыта. *Гэта постаць жыта зусім не ўрадзіла*. Галоўчыцы Пруж.

ПОСТОЛНЫ́К *м*. Сенажаць, размешчаная адразу за хатамі. *Гусы ходылы за городамы на постолныку*. Кулякі Іван.

ПОСТОРО́НКІ *мн*. Пастронкі. *Прынэсы посторонкі скорій, да пуідэмо в ліс по дрова*. Радчыцк Стол.

ПОСТОЯ́ЛКА *ж*. Сыракваша. *Мaць прінесла з лёха постоялку*. Гоцк Лун.

ПОСТРО́ЙКА, ПУСТРО́ЙКА *ж*. Будынак. *Раньшэ такых построёк ны було*. Заверша Драг. *Пустройкы в його хурошы*. Ланская Малар.

ПО́СТЭЛКА, ПО́СЦІЛКА *ж*. Посцілка. *Дома выткалы постэлку*. Кустын Брэсц. *На ложку лежала хорошая посцілка*. Рубель Стол.

ПОСТЭЛЫ́ТЫ *зак*. Паслаць. *Підбэрэм місцэ, шоб постэлыты лён*. Ляхаўцы Малар.

ПО́ТАК, ПО́ТАХ *м*. Прылада для намотвання нітак

на бабіну. *Позыч на дэнь потака.* Вавулічы Драг. *Помаж потака, бо тежко сукаты.* Папіна Драг. *Ты на потаховы вмієш мотаты?* Арэпічы Жабін.

ПОТА́ПЦЫ *мн.* Страва з хлеба і малака або вады. *На столі стоять потапцы.* Сакалоўка Пін. *Цётка зробіла дзецям на сьнеданне потапцы.* Сінкевічы Лун.

ПО́ТО *злучн.* Як, як быццам. *Кроваты засланы білыю простынію пото сніх.* Радаўня Іван.

ПОТРА́ВА *ж.* Гл. патраўка 1. *Пэрша потрава кысла, друга потрава прісна.* Спорава Бяроз.

ПОТРА́ВЛЯНЫЙ *дзеепрым.* З'едзены. *Увэсь загын потравляный.* Гершоны Брэсц.

ПОТРОБІ́ЛКА *ж.* Магазін. *У потробілку прывызлы муку.* Знаменка Брэсц.

ПОТРОНДЭ́ЛЯ *ж.* Балбатуха. *Одного ны кончыла, другэе почала, от потрондэля.* Лагішын Пін.

ПОТРОША́НКА *ж.* Вантрабянка. *Я сігодня зробыла потрошанку.* Доўбнева Кам. *Потрошанка вдалася вэльмо смачна.* Дварэц Кам.

ПОТРУ́СЫНЫ *мн.* Канец вяселля. *До молодого прыіхалы на потрусыны.* Бярозавічы Пін.

ПОТШУ́ПКА *ж.* Прыбудова. *Потшупку нэдавно построілы.* Міжлессе Бяроз.

ПОТЫРУ́ХА, ПУТЭРУ́ХА *ж.* Адыходы ад сена. *Од сіна осталась одна потыруха.* Гершоны Брэсц. *Іды в хлыві потырухы набыры.* Орлавічы Драг.

ПО́ТАСЬ, ПО́ТЮСЬ, ПО́ЦЮСЬ *м.* Прасніца. *Кудэлю прывязала до потася.* Ляхавічы Драг. *Прынысы свого потюся.* Кустын Брэсц. *Учыпыла кудэльку до поцюся, праду.* Ляхаўцы Малар.

ПО́ТЭСЬ, ПО́ТЫСЬ, ПО́ЦЯСЬ *ж.* Тое ж. *Ганна сэдзела за потэссю і руўно выводзіла нітку.* Пясчанка Бяроз. *У мэнэ йшчэ од свэкрыві потэсь осталаса.* Гальцы Стол. *Ідуть з потысямы на вычоркы.* Крамно Драг. *Ніна ўзяла поцясь і начала прасці.* Дамашэвічы Бар.

ПО́ЎЗЕ *н.* Апоўзіны. *Поўзе бэрэзовое таке з лістом одно з другім звяжуть, коб сіно не розліталоса.* Гарадная Стол.

ПО́ЎЗІНЫ, ПЭ́ВЗІНЫ, ПІ́ЎЗЫНЫ *мн.* Тое ж. *Поўзіны кладуць на стозе.* Дзяніскавічы Ганц. *Прыложы стожка пэвзінамі.* Сакалоўка Пін. *Він пойшоў по піўзыны, бо трэба выршыты стожка.* Падышча Іван.

ПОХА́ПАЧ *м.* Чапяла. *Похапачом достають каструлі.* Крамно Драг.

ПОХОДА́НЬКЭ *мн. іран.* Бадзянне, гу́лянне, хадня. *Дась пушла наша дівка на походанькэ.* Субаты Драг.

ПОХОДУ́НКА *ж.* Склеп. *В походунцы вода.* Ставы Кам. *В походунку хувають картофлі.* Доўбнева Кам.

ПОЦЯ́КАЦЬ *зак.* Падаіць. *Вона поцякала корову.* Радзеж Малар.

ПОЧАПЕ́НЬКА *ж.* Кошык. *Я ўзяла почапеньку і пошла ў лес.* Сінкевічы Лун.

ПОЧТА́РКА *ж.* Жанчына-паштальён. *Почтарка прынысла тіліграму.* Сулічава Драг.

ПОЧУХРЫ́ТЫ *зак.* Пачухаць. *Целя подошло, шчоб його почухрылі.* Белавуша Стол.

ПОЧЫ́НОК *м.* Вялікае верацяно, на якое звіваюць пражу з двух-трох верацён для прасушкі. *Звыла дві ручейкы на почынок.* Папіна Драг.

ПО́ЧЫРЭДЬ *ж.* Чарга пасвіць кароў. *Наша почырэдь чырыз тры дня.* Клейнікі Брэсц.

ПО́ЧЭП *м.* Вілы. *Почэп стояв в углу.* Міжлессе Бяроз.

ПО́ШВА *ж.* Навалачка. *Вжэ пошва закалялася, трэба мыты.* Папіна Драг.

ПОШКРЫ́БАЧ, ПУШКРЫ́БАЧ *м. экспр.* Апошняе дзіця. *Як жэ ш пошкрыбач той вдався ростом!* Ляхаўцы Малар. *Наш пушкрыбач пасэ скотыну.* Макраны Малар.

ПО́ШУВКА *ж.* Гл. пошва. *Пошувкэ булэ маратэ і матэ зняла іх, шоб постіратэ.* Брашэвічы Драг.

ПОШЫХОВА́ТЫ *зак.* Пашанцаваць. *Ёму вэльмэ пошыховало, вун выйграў «Москвіча».* Камень Пін.

ПОШЭРУ́ШЫТЫСЯ *зак.* Зрабіцца шурпатым (пра скуру). *Рукі от холоду пошэрушыліся.* Дварэц Кам.

ПРАВАВА́ЦЬ, ПРАВУВА́ТЫ *незак.* Крыўдзіцца. *Вона правуе і сама ны знае чого.* Агова Іван.

ПРАВДЫ́ВЫЙ ГРЫБ *м.* Баравік. *Пусля хурошого дуждя назбыраім правдывых грыбув.* Клейнікі Брэсц.

ПРАВДЫ́ВЭЦЬ *м.* Тое ж. *Пуд дубочком русло много правдывцюв.* Дубіца Брэсц.

ПРАВДЗУ́Н *м.* Тое ж. *Правдзуны — хорошы грыбы.* Шэбрын Брэсц.

ПРАВЗУ́К *м.* Тасьма фартуха. *У хвартуху розавы правзук.* Андрыянаўка Пруж.

ПРАВІ́ЛО, ПРАВЫ́ЛО *н.* 1. Частка воза: доўгая жэрдка, якая злучае задок і передок. *Із шворня в задок — правіло подоўжное пэрэднее.* Альманы Стол. 2. Апошняе бервяно ў зрубе. *Правыло положыв шэ муй батько.* Харсы Брэсц.

ПРА́ВЫТЫ *незак.* Расказваць. *Баба часто правыла внукам казкі.* Клейнікі Брэсц.

ПРАГУМЕ́НОК *м.* Месца на дварэ, дзе пабудаваны хлеў. *Наш прагуменок маленькі.* Церабліčы Стол.

ПРАДІ́ЛЬ *м.* Прабор. *Зачысався на праділь.* Ялач Драг.

ПРАЖЕ́ЛО, ПРАЖЭ́ЛО *н.* Растоплены тлушч. *Кубасу мі залываемо пражелом.* Гаравіца Драг. *Матэ налыла пражэла в бульбу.* Радастава Драг.

ПРА́ЖКА *ж.* Спражка. *Вэльмэ хурошы пражкы пукрашаны жовтую краскую, як зулутэі.* Бабічы Кам.

ПРАЛЫ́СІЦЬ *зак.* Крыху прамыць. *От памыла, пралысіла крыху.* Востраў Ганц.

ПРАМУ́ЗА *ж.* Падпечак. *У прамузе ляжаць стальнякі.* Шэйпічы Пруж.

ПРА́НІК, ПРА́НЫК *м.* 1. Верхняя качалка. *Пранікам была добра выкачана бялізна.* Гута Ганц. 2. Пранік. *Б'еш, б'еш праніком полотно, дай крохы выб'еш, а посля выполошчу.* Ладараж Пін.

ПРАРЫЗІ́НКІ *мн.* Гумовыя тапачкі. *Купіла я прарызінкі, каб займацца фіскультурай.* Мыслабаж Лях.

ПРАС *м.* Электрычная плітка. *Пастаў воду на прас і падагрэй.* Гута Лях.

ПРА́СЛО I *н.* Прас. *Праслом разы два потягны.* Глінка Стол. *Я купіла прасло.* Рубель Стол.

ПРА́СЛО II *н.* 1. Частка агароджы ад слупка да слупка. *У плоці не хватае прасла.* Азярніца Лун. 2. Плот з неабчасанага колля. *Вашэ прасло трэба ужэ строіць.* Церабліčы Стол. 3. Жэрдка, якой закладаюць праход у агароджы. *Гляды, бо прасло зломаецца.* Корчыцы Кобр.

ПРА́СНА *ж.* Тое ж, што п р а с л о II 2. *Высока прасна, што і хаты не відно́.* Любань Лун.

ПРАСНА́К, ПРЫСНЕ́К *м.* Праснак. *Маці напякла смачных праснакоў.* Баравікі Лун. *В квасу прыснек розмякнэ, на ім хліб рошчынять.* Арэхава Малар.

ПРА́ТВА *ж.* Старое рэчышча. *Наша пратва заросла травою.* Заверша Драг.

ПРА́ТЫ, ПРА́ЦЬ *незак.* Мыць бялізну. *Пойду я ўжэ праты.* Ботава Пін. *Пойду на рэку праць.* Дрэбск Лун.

ПРАЦ *м.* Гл. пра́сло I. *Я гладіла біллё працом.* Пелішча Кам.

ПРАЧ I *м.* 1. Спецыяльная прылада з ручкай, зробленая з дрэва для аббівання льну. *Прачом бэлэ лён.* Імя-

нін Драг. *Прач, якым мама была лён, був вэльмы важкый.* Кулякі Іван. 2. Пранік. *Баба захватыла шэ з собою прачя і пошла на луг.* Гошава Драг. *Мыла белізну і прача згубыла.* Бардзёўка Кам.

ПРАЧ II *м.* Апалонік. *У воді плаваў прач.* Імянін Драг. *Памянш.* п р а́ ч ы к. *Як булы малымы, банкамы лувылі прачыкі.* Доўбнева Кам.

ПРАЧ III *м.* Плоскі бохан хлеба. *Купыла в лавцы хліба два прачі.* Бярозавічы Пін.

ПРАЯВА, ПРОЯВА *м.* і *ж. экспр.* Дасціпны чалавек. *Ось праява, дык праява!* Плехава Івац. *От, проява, відае, дэ шо лэжыть.* Кустын Брэсц.

ПРО́ДУХА *ж.* Адтуліна. *Утчэнэ продуху, бо подлога мокрые.* Хмелева Жабін.

ПРО́ЙМА *ж.* Выраз для рукава. *Пройму трэба вырізуваты такую, як і рукав.* Бабічы Кам.

ПРОКЫ́ВА *ж.* Крапіва. *Под плотом ростэ прокыва.* Спорава Бяроз. *Одного разу я упав у прокыву.* Моталь Іван.

ПРОЛО́Й, ПРОЛЫ́Й *м.* Лівень. *Хмара выліка, а пролою ны було.* Дастоева Іван.

ПРО́ПРА́СТЫ *зак.* Здзерці да крыві скуру на пальцах ад доўгага прадзення. *Пропрала пальцы.* Здзітава І Бяроз.

ПРОПЭ́КА *ж.* Здобны пірог. *Повымалі с печы пропэкі.* Любань Лун.

ПРОСЛІ́ДОК *м.* След, зроблены ўпершыню. *Коло хатэ курэ зрубэлэ прослідок.* Павіцце Кобр.

ПРОСТОВА́ТІ, ПРОСТОВА́ТЫ *незак.* Ісці напрасткі. *Хто простуе, той дома ны ночуе.* Плоска Брэсц.

ПРОСТРУГА́ТЫ *зак.* Прамыць (роў, даліну). *Простругала дорогу вода.* Вулька Сіманаўская Драг.

ПРОСЫ́ЛНЫКІ *мн.* Людзі, якія ходзяць па хатах і завуць на вяселле. *Просылныкі клычуть гостэй.* Казловічы Брэсц.

ПРО́ТУР *м.* Вялікая іголка. *Дэ то муй протур, мэшка зашэты.* Сулічава Драг.

ПРОХРОМІ́ТІ, ПРОХРОМЫ́ТЫ *зак.* Прабіць нагу цвіком, шклом. *Ой, а дэ ж гэто ты ногу прохромыў?* Сычэва Іван.

ПРО́ЦА *ж.* Рагатка. *З процы забыв шворабa.* Літоўск Драг.

ПРО́ШВА *ж.* Вышыўка, карункі. *Вуна зробыла на подушцы прошвы.* Макраны Малар.

ПРОШЫВКА *ж.* Тое ж. *Гэта прошывка робыла настілнык шыршым.* Ляхавічы Драг.

ПРУЖЫНЫВКА *ж.* Конны культыватар. *Позыч в сусіда пружыныўку.* Камянюкі Кам.

ПРУЗАК *м.* Раменьчык. *Іван вырызав с шкуры прузака.* Вулька Дастоеўская Іван.

ПРУЦІК *м.* Пруток для вязання. *Пруцікі зусім тупые.* Тартакі Бар.

ПРЫБОР *м.* Ткацкая прылада. *Ны погубы прыбора до вырстата.* Папіна Драг.

ПРЫВЕН *м.* Сенцы. *Вон ціхенько ўвойшоў у прывен.* Угляны Бяроз.

ПРЫВЗЫ, ПРЭВЗЭ *мн.* Галіны, якія кладуць зверху на стог. *Стужок звэрху скрыплеіцця прывзамы.* Ляхаўцы Малар. *Шоб вітэр нэ роздув сіно, наварх положэмо прэвзэ.* Перавысь Малар.

ПРЫГАРКА *ж.* 1. Падгарэлая ежа. *У хаце прыгаркаю пахнэ.* Магілёўцы Пруж. 2. Плёнка на параным малацэ. *Прыгарка робіцца, як кыпятыш молоко.* Спорава Бяроз.

ПРЫДАНКІ *мн.* Удзельнікі вяселля, якія дапамагаюць перавезці пасаг маладой у дом маладога. *Прыіхалы прыданкі.* Агова Іван.

ПРЫДАТОК *м.* Дабавачны ўчастак зямлі да асноўнага надзела. *Сусід получыв прыдатка.* Гершоны Брэсц.

ПРЫДІРОК *м.* Кусок поля, узнятай цаліны, што прылягае да вялікага масіву поля. *Вжэ згорав свуй прыдірок.* Вулька Сіманаўская Драг.

ПРЫЗЫЛЫТЫ *зак.* Прываражыць. *Ты хотіла мынэ прызылыты.* Падышча Іван. *Прызылыты хлопця до сыбэ тяжко.* Сулічава Драг.

ПРЫЗІРАДЛО, ПРЫЗЫРАДЛО *н.* Люстра. *Чаго ты ўсё тырчыш у прызірадле?* Навасады Бар. *Купылы шкапа з прызырадлом.* Смольнікі Іван.

ПРЫКЛУНОК *м.* Павець (для дроў). *Прыклунок збоку хлыва.* Сулічава Драг.

ПРЫКОРКНУТЫ *зак.* Задрамаць. *Очы зліпаюцця. Прыкоркну на мінутку.* Плоска Брэсц.

ПРЫМАТКОБОЖЫТЫСЬ *зак. экспр.* Прымасціцца. *Роман прыматкобожывся на лаўцы коло выдра.* Падышча Іван.

ПРЫМЕН, ПРЫМЕНЬ *м.* 1. Гл. прывен. *Зайшоў у прымен, намацаў дзверы ў хату.* Квасевічы Івац. *У прымні было цёмно.* Коланск Івац. *У прымне стаяў яго ровар.*

Ласасіна Пруж. 2. Павець. *Дровы склалі ў прымень.* Арабнікі Пруж.

ПРЫМОСТОК, ПРЭМУСТОК *м.* Ляжак ля печы. *На прымостку сыдів дід.* Маларыта. *На прэмустку коло пачэ спав дід.* Перавысь Малар.

ПРЫМОСТЫ *мн.* Тое ж. *Пытро з Іваном спеть на прымостах.* Замшаны Малар.

ПРЫМЫРГОВАТЫ, ПРЫМЭРГОВАТЫ *зак.* Памерацъ. *Трэба добра прымырговаты, чы выйдэ платте.* Падышча Іван. *Трэба прымэрговаты ліпшу зэмлю жэніха.* Крыўчыцы Пін.

ПРЫПАСЫЧ *м.* Падпасак. *Мыкіта тыпэр прыпасыч.* Гершоны Брэсц. *Прыпасыч помогае пастуховы.* Ляхаўцы Малар.

ПРЫПЫК, ПРЫПЫЧ *м.* Прыпечак. *На прыпыку стояла шковрода з еечнею.* Моталь Іван. *На прыпычу стоялы каструлі.* Шэбрын Брэсц.

ПРЫСАБЕЧЫЦЬ *зак. экспр.* Прысвоіць. *Прысабечыла ты мой кошык.* Навасёлкі Лях.

ПРЫСАДЗЬ *ж.* Саджанец. *А як замацуем прысадзі?* Плехава Івац.

ПРЫСКРЫНОК, ПРЫСКРЫНЭК *м.* Баковачка ў куфры. *Пулужы кульцо в прыскрынок.* Плоска Брэсц. *У прыскрынэк я завсёды грошы кладу.* Гальцы Стол.

ПРЫСТАВІЦЬ *зак.* Паставіць варыць у печ. *Прыставіла квас і кашу.* Чарабасава Лун.

ПРЫСТАРОНАК *м.* Застаронак. *Снопы клалі ў прыстаронак.* Коланск Івац.

ПРЫСТОЛЬНІК, ПРЫСТЭЛЬНІК *м.* Шуфляда ў стале. *Ложкі і вілкі лежаць у прыстольніку.* Вулька II Лун. *Пушку положы ў прыстэльнік.* Велута Лун.

ПРЫСУШЫТЫ *зак.* Прысушыць, прываражыць. *От прысушыла, так прысушыла, сохнэ быз її.* Плоска Брэсц.

ПРЫСЫ *мн.* Вусы. *У його вэлыкы прысы выраслы.* Плотніца Стол.

ПРЫСЯБРЫЦЦА *зак.* Паддобрыцца. *Прысябрыўся ты нешта да дзеўчыны.* Н. Агарэвічы Ганц.

ПРЫТАБАК *м.* Партсігар. *Прытабак лежаў у кармане.* Раздзялавічы Ганц.

ПРЫТАБАШНЫЦА, ПРЫТАБАЧНЫЦЯ *ж.* 1. Скрынка з бяросты для нюхальнага тытуню. *У прытабашныцы трымалы табак.* Олтуш Малар. 2. Гл. прытабак. *Дід выняв прытабачныцю і закурыв.* Пугачова Брэсц.

ПРЫТА́ЙВАЦЦА *незак.* Прытварацца. *Він прытайваецца, шо спыт.* Ставы Кам.

ПРЫТУМАНЕ́Т *м.* Кашалёк. *Прытуманет лежыць на столе. Положы туды грошы.* Дварэц Лун.

ПРЫ́ТЬМОМ *прысл.* Вечарам, на змярканні. *Прытьмом всэ скопалэ, нэц ны осталось.* Харсы Брэсц.

ПРЫ́ХА *ж.* 1. Пыса. *Не сунь сваю мокрую прыху.* Гошчава Івац. 2. Храпа ў каня. *Возьмы коня за прыху, то закільзаеш.* Падышча Іван.

ПРЫ́ХВАТКАМІ *прысл.* Укрыўкамі. *Прыхваткамі багато не зробіш.* Агарэвічы Ганц.

ПРЫЧІ́ЛОК, ПРЫЧО́ЛАК *м.* Вільчык. *Прычілок хаты був подкрашаный.* Харсы Брэсц. *А галубы на прычолку ўсю раніцу буркавалі.* Слабажаны Бар.

ПРЫЧЫНДА́ЛЫ *мн.* Фокусы. *Не показвай свое прычындалы.* Угляны Бяроз.

ПРЫЯ́ТІ, ПРЫЯ́ТЫ *незак.* Спрыяць. *Чы ж я ій ны прыяла?* Вулька Сіманаўская Драг. *Прыяты — добра жылаты.* Сулічава Драг.

ПТА́СТВО *н.* Свойскія птушкі. *Трэба покормыты свое птаство.* Людвінова Драг.

ПУВЗАГІ́Н *м.* Палова загона. *На пувзагінувы пусіялы учоры.* Макраны Малар.

ПУ́ГА *ж.* 1. Бізун. *У його ны було пугы, і вын коня погоняў дубцэм.* Дастоева Іван. 2. *экспр.* Той, хто непакоіць, перашкаджае (аб дзецях, аб малых свойскіх жывёлах). *Чого гэта пуга малая мышае?* Сулічава Драг.

ПУДВА́ЛКЭ *мн.* Ніжні вянок зруба. *Трэба в ліс поіхатэ і прывэзтэ дубовы пудвалкэ.* Арэхава Малар.

ПУДВА́ЛОЧКА *ж.* Падваліна. *Пудвалочкы в ганку дырывлены.* Ляхаўцы Малар.

ПУ́ДЛАНКІ *мн.* Планкі, якія падбіваюцца пад палазы, калі яны з'ездзяцца. *Санкі з'іздылыса, мусыв ставыты пудланкі.* Дастоева Іван.

ПУДНАРА́ДА *ж.* Падкладка пад халявы ботаў. *Подклады пуднараду.* Ляхаўцы Малар.

ПУДНЫБЭ́ННЕ *н.* Скляпенне ў печы. *В пычі рузвалылося пудныбэнне.* Макраны Малар.

ПУДПА́ЛКА *ж.* Гл. подпалек. *Він з'ів дві пудпалкі.* Ляхаўцы Малар. *У пычі стоялы смачны пудпалкы.* Трудавая Іван. *Маты напэклы пудпалкув в пэчы.* Радастава Драг.

ПУДПІ́ЧЧЭ *н.* Падпечак. *У пудпіччы раній трымалы куры.* Заверша Драг.

ПУДРА́НОК *м.* Паранены звер, птушка. *Собака давно гонев пудранка.* Арэхава Малар.

ПУДШЕ́ВКА *ж.* Падкладка ў паліто. *Пудшевка у пальтовы була атласная.* Бучамля Кам.

ПУДЭ́ЛОЧОК *м.* 1. Каробачка. *Пудэлочок от пудры лежаў на столе.* Шэйпічы Пруж. 2. Маленькая шкляная баначка. *У ее століку ў пудэлочках розные малеванкі стояць. Усе грошы на іх зводзіць.* Белавуша Стол.

ПУЗУ́БЫТЫСЯ *зак.* Прарасці (пра насенне). *Трэба пусадыты, бо насінне пузубылося.* Макраны Малар.

ПУКІ́Р *м.* Пухір. *Опэкла руку, шчо аж пукір выскочыв.* Гальцы Стол.

ПУКО́С, ПУКІ́С *м.* 1. Касьба. *Пукіс вжэ почався.* Макраны Малар. 2. Доўгая града скошанай травы. *На грудку лыжало мніго пукосув.* Гершоны Брэсц.

ПУЛА́НКА *ж.* Мышалоўка, пастка. *За місяць в пуланку пупалось сорок мышэй.* Клейнікі Брэсц.

ПУЛІВА́ЧКА *ж.* Лейка. *Пулівачка стала тычы.* Макраны Малар.

ПУ́ЛЬГАТЫ *незак.* 1. Разбрызгваць, разліваць. *Іш нурмально, ны пульгай.* Сулічава Драг. 2. Сёрбаць. *Поставлю вам мыску крупныку, да пульгайтэ.* Вулька Сіманаўская Драг.

ПУ́МНІ *мн.* Месца, дзе пальцы сутыкаюцца з пясцю, калі рука сціснута ў кулак. *Я побіла пумні.* Церабень Пін.

ПУ́ПЭК, ПУПЭ́Х *м.* Пупышка. *Пупэкі набрынялі, хутко роспусцяцца.* Св. Воля Івац. *На вэрбі вжэ пупэхі.* Кустын Брэсц.

ПУ́ПЭНОК I *м.* Страўнік. *У пупэнковы була жывая пшэныца.* Хойнікі Бяроз.

ПУ́ПЭНОК II *м.* Бутон кветак. *Сірэнь хутко зацвытэ, вжэ пупынкі е.* Плоска Брэсц.

ПУРКАВЭ́ТКА *ж. зніж.* Матацыкл. *Пуркавэтка стоіць коло плота.* Дрэбск Лун.

ПУРТО́К *м.* Тканы настольнік з узорамі. *Я бачыла на базары вэльмы хорошый пурток.* Радастава Драг. *Стыл засланы хорошым пуртком.* Сварынь Драг.

ПУРЫ́МЭЦ *м.* Невялікая булачка. *Учора пэкла пурымцы, то діты так смачно ілы.* Маладзельчыцы Пін.

ПУСТЭ́ЧА *ж.* Пустка. *На нывы добрэ вродыло жыто, а на пустэчы пропало.* Сычэва Іван.

ПУТБО́ЛКА *ж.* Футболка. *Мойму брату пошылі нову путболку.* Пясчанка Бяроз.

ПУТЛЁЎКА, ПЫТЛІВКА *ж.* Вальцаваная мука. *Мой хозяін поехаў у Сленцы ў мэльніцу, хочэ зробіць путлёўку.* В. Малешава Стол. *В магазін прывызлы пытлівку.* Корчыцы Кобр.

ПУТЬ-ПУТЬ *выкл.* Падзыўныя выгукі для курэй. *Путь-путь! Скорый ходітэ, шчоб вас шуляк подавыв.* Радчыцк Стол.

ПУХА́ *ж.* Тупы канец яйка. *На велікдзень б'юць яйкі ў носок і пуху.* Альшаны Стол.

ПУЦ *м.* Сякера з доўгім тапарышчам. *У мене пуц вострэйшы, чым у цебе.* Люсіна Ганц.

ПУЧО́К *м.* Ахапак (звязаных дроў). *Прынысы пучок дров з двора.* Гершоны Брэсц. *За дэнь я трыццэть пучків дров насыкла.* Гальцы Стол.

ПУ́ШКА І *ж.* 1. Карабок. *В пушцы мныго запалкув.* Ляхавічы Драг. 2. Рэпрадуктар. *Купіла я собе маленькую пушку, добрэ говорыць.* Давыд-Гарадок Стол.

ПУШКА ІІ *ж.* 1. Збан. *Матэ надуіла пушку мулука.* Агароднікі Кобр. 2. Маленькі гаршчок з вузкім горлам. *В пушцэ трымають голій.* Арэхава Малар.

ПУШУ́ПКА *ж.* Прыбудова для дроў ці торфу. *Сходы, Маню, у пушупку, прынэсі дроў.* Шылінок Бяроз.

ПЦУГІ́ *мн.* Абцугі. *Подай мне пцугі.* Перунова Лун.

ПШОНЫ́ЧНЫСКО *н.* Поле, з якога зжалі пшаніцу. *Коровы погналы на пшонычныско.* Гершоны Брэсц.

ПЫДБО́ЧНІК *м.* Пярына. *Ох, і вэлікі пыдбочнік прывезла наша молода.* Рубель Стол.

ПЫ́КІ *мн. экспр.* Губы. *У яго вялікія пыкі.* Ласасіна Пруж.

ПЫЛОВЫ́ННЭ *н.* Апілкі. *Пыловыннэ зусім сухое.* Саха Драг.

ПЫ́ЛЫПА *ж.* Шырокая канава. *Мы пыдэмо на пылыпу кататыса на лодцы.* Моталь Іван.

ПЫ́ЛНЭК *м.* Напільнік. *Дядько купыв сігодня нувого пылнэка.* Харсы Брэсц.

ПЫЛЮ́ГА, ПЭЛЮГА́ *ж.* Моцны пыл. *Такая пылю́га на току, дыхаты ныма чым.* Плоска Брэсц. *Нуй пэлюга́ пуднялась.* Сулічава Драг.

ПЫЛЮ́ШКА, ПЕЛЮ́ШКА *ж.* Пялёнка. *Накрый дзіця, холодно ёму ў пелюшках.* Св. Воля Івац. *Возьмы змыны пылюшкы.* Шэбрын Брэсц.

ПЫЛЮ́ТЧЫНА *ж.* Верхняе лісце капусты. *Обобравшы пылютчыны, можна шатковаты капусту.* Крамно Драг.

ПЫПЭ́СКА *ж.* Канцылярская кнопка. *Хату ны клеілы, а прыбывалы бумагу пыпэскамы.* Кулякі Іван.

ПЫРАЧУ́Н *м.* Момант, калі пры паляванні сабака выбягае ўперад, каб перахапіць звера. *Ухотнік ны любыть пырачуна.* Казловічы Брэсц.

ПЫРГА́, ПЭРГА́ *ж.* Сабраны пчоламі пылок. *Пчола нысла мныго пэргы. Для молодых пчыл робять пыргу.* Макраны Малар.

ПЫРГА́Н, ПЭРГА́Н *м.* Паркан. *Кругом школы поставылы новый пырган.* Моталь Іван.

ПЫРІ́СТЫЙ *прым.* Няроўна пафарбаваны, з плямамі. *Покрасыла нэдобрэ, полотно стало пырістым.* Хмелева Жабін.

ПЫ́РНІК, ПЮ́РНІК *м.* Пенал. *Учыніку купылы пырнік.* Вавулічы Драг. *Положыв у сумку пюрнік і пошов у школу.* Тэўлі Кобр.

ПЫРШО́К *м.* Першы рой. *Есть тры рої: пыршок, другок, трытек.* Макраны Малар.

ПЫРЫВЕ́СЛО, ПЭРЭ́ВІСЛО, ПЭРЭВЭ́СЛО *н.* Перавясла. *Зробы пырывесло снопа звязаты.* Орлавічы Драг. *Трэба скрутыты пэрэвісло, шоб ны роскідався снып.* Ляхаўцы Малар. *Як сэчэм дрова, мні Іван робыть пэрэвэсла, а я в'яжу.* Гальцы Стол. *Ужэ мусыть хватыть пэрэвэслув.* Заверша Драг.

ПЫРЫДНЕ́К *м.* Фартух. *Пырыднек завсіды одівають тоді, як начынають шчо мыты.* Ляхавічы Драг.

ПЫРЫДО́ІШЧЭ *н.* Момант вясельнага абраду — другі прыезд сватоў у хату нявесты. *Прыіхалы сваты на пырыдоішчэ.* Вулька Сіманаўская Драг.

ПЫ́РЫЗ *прыназ.* Праз, цераз. *Мы прошлы пырыз міст.* Журавок Іван.

ПЫРЫЗО́В, ПЭРЭЗО́Ў *м.* 1. Першае пасля вяселля (праз тыдзень) наведванне роднымі сям'і маладой. *Мныго гостэй було у пырызві.* Бярозавічы Пін. 2. Пачастунак у бацькоў маладой. *Пэрэзоў, пэ́рэзоў, дорогу пэрэшоў.* Рубель Стол.

ПЫРЫЛА́З *м.* Драўляны плот. *На пырылазы сыдыть птушка.* Вавулічы Драг. *Пырылаз розвалывся, трэба новый.* Саха Драг.

ПЫРЫКРУ́СЭННЕ *н.* Ніткі, якія ідуць ад задняга навоя да пярэдняга. *Ныдуткала уднэ пырыкрусэнне.* Страдзеч Брэсц.

ПЫРЫМО́ТА *ж.* Памылка, якую можа зрабіць жан-

чына пры снаванні кроснаў. *Сновала кросна і зробыла пырымоту.* Папіна Драг.

ПЫРЫПІ́ЛКА *ж.* Матыль. *От ловат пырыпілкі малыі.* Хмелева Жабін.

ПЫРЫДО́ЙКА *ж.* Ялавая карова, якая доіцца другі год. *В мынэ курова пырыдойка, то мулука мало.* Плоска Брэсц.

ПЫРЭ́ДНЯ *ж.* Пярэдні пакой ці сталовая. *Молодая завжды сыдыть в пырэднюй.* Ланская Малар.

ПЫРЭ́Й *м.* Пырнік. *Пырэй нарос, заглушыў авёс усей.* Паланэчка Бар.

ПЫРЭ́МЫТУШ *прысл.* Стрымгалоў. *Быжы пырэмытуш, поклыч тата.* Вулька Сіманаўская Драг.

ПЫСКУ́Р *м.* Пячкур. *Нам у сетку попалось мныго пыскурів.* Ляхавічы Драг.

ПЫСО́ЧНЫК *м.* Бяссмертнік (кветка). *На ныусокіх бугорках ростуть пысочныкы.* Яечкавічы Іван.

ПЫЧО́РА *ж.* Нара. *Сусід выйняв лынька з пычоры.* Дастоева Іван.

ПЫЧУ́РКА *ж.*, ПЫЧУРКІ́, ПЫЧУРКЫ́ *мн.* Гл. печурыца. *После добруго дуждя вырусло мнуго пычурок.* Клейнікі Брэсц. *У нас на выпасы ростэть стількі пычурок, шо набрав я повкоша.* Какорыца Драг.

ПЫЧЭ́НЯ, ПЭЧЭ́НЯ *ж.*, ПЭ́ЧЭНІ *мн.* Печань. *Пычэня в кабана була хвора.* Дабучын Пруж. *У батька болять пэчэні.* Церабень Пін.

ПЭ́ДРЫК, ПЭ́ТРЫК *м.* Божая кароўка. *Пэдрык, пэдрык, куды повзэш?* Панасавічы Бяроз. *Пэтрык, пэтрык, чы пэнь, чы колода, чы будэ завтра погода?* Хмелева Жабін.

ПЭ́НДЫТЫ, ПА́НДЫТЫ *незак. экспр.* 1. Несці, цягнуць, валачыць. *Пэндыв сам мышка, воны стоялы.* Корчыцы Кобр. *Кішка мыш пандыть.* Брашэвічы Драг. 2. Гнаць. *О, як субака Ольчыну курову пэндыт.* Доўбнева Кам.

ПЭ́НДЫТЫСЬ *незак. экспр.* Насіцца. *Дэ ты так довго пэндылась?* Доўбнева Кам. *Костя дэсь на коні пэндыцца.* Вулька Сіманаўская Драг.

ПЭ́НЬКНУТЫ, ПЭ́НЬКНУТЬ *зак.* Лопнуць. *От пэнькнэш со сміху!* Дзераўная Стол. *Можэ пэнькнуты мыска.* Кустын Брэсц.

ПЭРОГО́Н *м.* Абястлушчанае сепаратарам малако. *Цепер пэрагоняюць молоко, слійкі збіраюць, а пэрогон остаўляюць.* Альшаны Стол.

ПЭ́РУЧ *прысл.* Спачатку, раней. *Пэруч у мяне хвайны швэдэр быў.* Калазубы Пруж.

ПЭ́РШЫ СТЭ́РНІ. Дваюрадны. *То ёго пэршы стэрні брат.* Павіццё Кобр.

ПЭРЭДЫ́ННЕ *н.* Хлеў для жывёлы. *Ідзі на пэрэдынне, подкінь корові сена.* Любань Лун.

ПЭРЭ́ІД *ж.* Аб'едкі. *У коровы в жолобі зосталася пэрэід.* Ляхаўцы Малар.

ПЭРЭКАЛЬКУВА́ТЫ *зак.* Адбіць на тканіну малюнак для вышывання. *Рушнык пэрэкалькувалы на другій рушнык.* Макраны Малар.

ПЭРЭ́КІДКА *ж.* Палатно, якім кума пакрывала дзіця пры хрышчэнні. *Хорошу якую пэрэкідку положыла.* Хмелева Жабін.

ПЭРЭЛО́ГІ *мн.* Хвароба свойскай жывёлы. *На корову напалі пэрэлогі.* Валішча Пін.

ПЭРЭ́НЖА *ж.* Поручні. *Збоку маста былі пэрэнжы.* Скорцы Пруж.

ПЭРЭПІ́Й, ПЫРЫПІ́Й *м.* Момант вясельнага абраду, калі адорваюць маладых. *Молудую пэрэпылы вэльмо бугато, бугатый пэрэпій.* Ляхаўцы Малар. *Мніго грошы пулужылы на пырыпій.* Плоска Брэсц.

ПЭРЭСТО́Й *м.* Жыта, якое не было зжата ў час. *Поспіло жыто і падае, то пэрэстой.* Олтуш Малар. *Як пэрэстой, то склякло жыто, зламываецца.* Рубель Стол.

ПЭРЭТО́П *м.* Печатопленае сала. *З свежого сала маці зробіла пэрэтоп.* Талмачова Стол.

ПЭРЭХМА́РОК *м.* Нечаканая невялікая хмара. *Малый пэрэхмарок, а дошч дав такый.* Кустын Брэсц.

ПЭРЭ́ХОТКА *ж.* Хвароба, якая хутка праходзіць. *Ай, ныц-ныц нэ бійса, гэто пэрэхотка.* Гальцы Стол.

ПЭ́СТКІ *мн.* Семачкі. *Купі стакан пэсткаў.* Тартакі Бар.

ПЭ́ЧЫВО *н.* Колькасць хлеба, выпечанага за адзін раз. *Як рошчынець веліко пэчыво, то шэсць-сем боханцоў.* Альманы Стол.

ПЭШЧУГА́, ПІШЧУГА́ *ж.* Пясчаны ўчастак, які не апрацоўваецца. *Пэшчуга — горы такіе, выгоны, одын пэсок да камінне.* Гарадная Стол.

ПЯКО́ТКА *ж.* Іканне. *Ішла пякотка да мора, сустрэла Рыгора: «Рыгору, верніса, пякотка, мініса!»* Косава Івац.

ПЯЛЮ́ННІК *м.* Хлеў. *Мы нядаўна новы пялюннік зрабілі.* Слабажаны Бар.

ПЯРЭ́БІРКА *ж.* Пласт сена. *Даграбай скарэй. Там*

*усяго на некалькі пярэбірак засталося.* Слабажаны Бар. *Дзед памаленьку носіць пярэбіркі.* Кукава Ганц.

ПЯРЭ́РВА *ж.* Размытая дарога. *Тудою не едзь, там пярэрва.* Дзяніскавічы Ганц.

ПЯ́СТЫСЬ, ПЯСТЫ́СЬ *незак.* Напружвацца. *Мачухіна дочка пялася, пялася выврваты яблычко, а яблыня ны далася.* Клейнікі Брэсц.

ПЯСЧА́НКА *ж.* Зямлянка. *Цепер немашэка ў нас песчанок.* Запроссе Лун.

ПЯЧА́ЙКА *ж.* Пякотка. *Нешта пячайка пячэ.* Паланэчка Бар.

ПЯЧО́НКА *ж.* Печаны гарбуз. *Дастань там у печы пячонку.* Дзяніскавічы Ганц.

# Р

РАБЕ́ЙЗА *м.* і *ж.* Чалавек, у якога твар густа пакрыты рабаціннем. *І ў каго ты, божачка, удалася такая рабейза?* Востраў Ганц.

РАБРЫ́НА *ж.* 1. Лесвіца. *У нас у сінюх стоіть рабрына на гору.* Дзеткавічы Драг. 2. Рашотчаты бок у возе. *Рабрына і до воза і до хаты.* Забалацце Малар.

РАБРЭ́Й *м.* Аер. *Пуд труйцу усю хату посыпають рабрэём.* Пінкавічы Пін.

РАДІКЮ́ЛЬ, РЫДІКЮ́ЛЬ *м.* Невялікая жаночая сумачка. *Які ў тебэ хорошы радікюль!* Здзітава І Бяроз. *В мынэ шчэ польскій рыдікюль.* Плоска Брэсц.

РАДНО́, РЯДНО́ *н.* 1. Грубае саматканае палатно. *Зараз ужэ ны тчут радна.* Бабічы Кам. 2. Саматканая посцілка. *Моя нывістка радном ліжок застылае.* Гальцы Стол. 3. Двайная палатняная посцілка, сшытая з шасці палотнішчаў. *Радно з ільну у шысть пулок шыють накругло.* Спорава Бяроз. *У радновы носять солому.* Варацэвічы Іван. 4. Коўдра. *Мама купыла новэ радно.* Юнішчы Стол. *Взялы рядно, шоб було тыплій.* Крамно Драг.

РАДНЫ́НА *ж.* Тое ж, што радно 1. *Ны трэба былыты радныну.* Кустын Брэсц.

РАДНЯ́НЫ *прым.* 1. Грубатканы. *Самое товстое полотно раднянэ.* Здзітава І Бяроз. 2. Тоўсты, груба спрадзены (пра ніткі). *Радняны ныткі.* Здзітава І Бяроз. 3. Прызначаны для ткання грубага палатна. *Бэрдо раднянoе.* Спорава Бяроз.

РАДОВО́Е *прым. у знач. наз.* Тканіна, вытканая «ў

рады». *Радовое ідэ на ручнык і радюшкі.* Олтуш Малар.

РАДОВЭ́НА *ж.* Гл. радно 1. *Пража всекого віду е: тонка ідэ на пулутно, грубша — на радовэну.* Сварынь Драг.

РАДЮ́ГА *ж.* Гл. радно 2. *У нас була мода на тканы радюгі.* Какорыца Драг.

РАДЮ́ЖКА, РАДЮ́ШКА *ж.* Тое ж. *Ну, ужэ радюжок натчэм на кроснах!* Пінкавічы Пін. *Сэстра выткала радюшку нового взора.* Боркі Бяроз.

РА́ЖАНКА, РЯ́ЖАНКА *ж.* Ражанка. *Ражанка смачная.* Корчыцы Кобр. *Молоко парать, остужвають, влывають кіслыі смытаны, робять ряжанку.* Плоска Брэсц.

РА́ЖКА, РЯ́ЖКА, РЕ́ШКА *ж.* 1. Драўляная нізкая пасудзіна, у якой замешваюць есці свінням. *Свынём наклалы повну ражку кукурузы.* Чарнаўчыцы Брэсц. *Ряжка для свынэй, а цэбрык для чого ліпшого.* Радзеж Малар. *В решцы ставлялы картоплы.* Ляхавічы Драг. 2. Памыйнае вядро. *Выкінь смітте в ряшку.* Плоска Брэсц.

РА́ЗАНКІ, РЭ́ЗАНКІ *мн.* 1. Бульба, звараная палавінкамі ў мундзірах. *Прыстаў разанкі варыць.* Рубель Стол. 2. Бульбяны суп. *Наліла в міску рэзано́к.* Велута Лун.

РАЗА́ЧКА *ж.* Рэзкі боль у жываце. *Каб іх разачка рэзала, калі яны выразалі ўсе кветкі.* Калоднае Стол.

РОЗБРАДЗІ́ЦЦА *зак.* Распрануцца. *Вона хутко розбрадзіласа і легла спаць.* Дрэбск Лун. *Розбрадзіса, бо вспотнееш.* Азярніца Лун.

РА́ЗНЕ, РА́ЗНЯ *прысл.* Заўсёды. *Разне вон такі хмуры.* Дрэбск Лун. *Я разня ўстаю рано.* Велута Лун.

РА́ЗНО *прысл.* Раўнамерна, аднолькава роўна. *Хорошэ посіяв, разно.* Вулька Сіманаўская Драг.

РАЛ *м.* Сплеценая з саломы скрынка вялікіх памераў для ссыпання збожжа. *Добра́ було мныго шчэ в ралу́.* Радзеж Малар.

РАЛЮ́Х *м.* Загон. *Сюгодня засіялы последнюго ралюха.* Макраны Малар. *Посадыла ралюх картоплюв.* Гершоны Брэсц.

РАМІ́ННЫК *м.* Рэмень. *Кулесь пудвязувалі нагавэці шнурком, а зараз рамінныком.* Бабічы Кам.

РАПТО́ВО *прысл.* Раптоўна. *Высна началась вэльмэ раптово.* Галоўчыцы Драг.

РАСКО́ЛА *м.* і *ж.* Хуліган. *Той раскола зноў разбіў Івану галаву.* Востраў Ганц.

РАСПО́РКА, РОСПО́РКА *ж.* 1. Распорка чаго-н. *На-*

*што табе тая распóрка? Не порць вочы.* Таўцвілы Пруж. *Стволькі врэмня на роспóрку потраціла.* Азярніца Лун. 2. Прарэх. *Завылыка рóспорка в сурочцы.* Плоска Брэсц.

РАТА́Й *м.* Араты. *Цілый дэнь горав ратай.* Ляхаўцы Малар.

РА́ТВА *ж.* Карункі. *Я ўжо ратву звязала на просьціну.* Падлаззе Лях.

РА́ХВА, РІ́ХВА, РЯ́ХВА *ж.* Прыстасаванне для ўмацавання спіц у колах. *Коло спыц дві рахвы.* Дастоева Іван. *Наб'ю шэ ряхву на колыдку.* Вулька Сіманаўская Драг.

РАХУ́НКІ *мн.* 1. Матэматычныя прыклады. *Рахункі былі цяжкія.* Ліпск Лях. 2. Урокі. *Лено, ці ты рахункі ўжэ спісала?* Азярніца Лун.

РІ́ЗКА *ж.* Пілавінне. *Різку высыпалы на дорозы.* Пажэжын Малар.

РІК *м.* Год. *Дэнь довгый, ек рік.* Сулічава Драг.

РІ́ПА *ж.* Дэталь пралкі, якая злучае яе верхнюю частку з падстаўкай. *Кужылка вкладаецця в стулэць, а в стульці ріпа.* Олтуш Малар.

РОБА́К *м.* Гліст. *В мэнэ, мусыть, е робакы.* Кустын Брэсц.

РОБОТЯ́ШЧЫЙ, РОБОЦЯ́ШЧЫ *прым.* Працавіты. *От робоцяшчая Маніна Вера.* Рубель Стол. *Вун хоть і в годах, алэ бач, якій роботяшчый.* Якша Іван.

РО́БУШОК *м.* Верабей. *Робушкэ гэть знішчылэ мое просо на Джары.* Радастава Драг.

РО́ВАР, РО́ВЕР, РО́ВЭР, РО́ВЫР *м.* Веласіпед. *На новум ровары і ехаць ляхчэй.* Пачапава Бар. *Я роверэм прыехаў.* Азярніца Лун. *Тыпэр вжэ мало хто купляе ровэры, бульш мотоцыклы.* Ланская Малар. *У нас в сылі каждый мае свій ровыр.* Дзеткавічы Драг.

РОГОНУ́ЦІ *зак.* Раптоўна памерці. *Ніхто не думаў, як Уляна рогонула.* Пясчанка Бяроз.

РОГУ́З *м.* Балотная расліна, якую можна есці. *От ужэ літом рогузу наімоса.* Пінкавічы Пін.

РО́ЖА *ж.* Вяргіня. *Лоўкая рожа зацвіла ў городчыку под вокном.* Цна Лун. *Высокіе рожы ў цебэ ростуць.* Любань Лун.

РОЖНО́ *н.* Драўляны пруток, на якім смажаць сала. *Вурэж рожно, сала трэба напекці.* Цераблічы Стол.

РОЖНЫ́ *мн.* Вілкі, якімі ставяць у печ і дастаюць чыгуны. *Там, у кутку, стояць рожны.* Адвержычы Стол.

РОЗВО́ДНІК *м.* Мужчына, які развёўся з жонкай. *Він гідкый чоловік, він розводнік.* Павіцце Кобр.

РОЗВО́РА *ж.* Трайня. *Пэрэдок ідэ на розворі.* Гарадная Стол.

РОЗГОРА́ТЫ *зак.* Пазябліць. *Трэба розгораты тое, шчо росло.* Гершоны Брэсц.

РОЗДОРІ́ЖЖЭ, РОЗДОРО́ЖЖЭ *н.* 1. Раздарожжа. *Мы дойшлы до роздоріжжа й ны зналы, куды іты.* Дастоева Іван. *На роздорожжы крыжі ставлялы.* Чарнаўчыцы Брэсц.

РОЗЛУ́ЧНЫК *м.* 1. Той, хто разлучае жонку з мужам. *Знов прышов той розлучнык.* Плоска Брэсц. 2. Дэталь ткацкага станка. *І розлучнык, здаецця, добрый, а всэ ровно поножі злазять.* Ляхавічы Драг.

РОЗМА́ЗАНЫЙ *прым.* 1. Размазаны. *Як ты пысав, шчо всё розмазанэ?* Сулічава Драг. 2. *экспр.* Распешчаны, збалаваны. *Ну й розмазаный в тыбэ хлопыць.* Плоска Брэсц.

РО́ЗМІНКА *ж.* Тварог, перамешаны са смятанай ці малаком. *Сыр с оскодоўца росціраюць з молоком — то розмінка.* Рубель Стол.

РОЗТЫКА́ТЫ *незак.* У час ткання пускаць дадатковыя ніткі па асноўных. *Пасамэнныкы ткалы, а купчым розтыкалы.* Олтуш Малар.

РО́ІННЕ *н.* Раенне. *Пэрэд роіннем пчолы лытають.* Ланская Малар.

РО́ЙНЫЦЯ *ж.* Раёўня, прыстасаванне ў выглядзе скрынкі з вентыляцыйнай сеткай. *Як пчолы сілы, то стряснув іх у ройныцю.* Олтуш Малар.

РО́НДЭЛЬ *м.* 1. Невялікая каструля з ручкай. *На плыті стояв рондэль.* Макраны Малар. *Памянш.* р о н д л і к, р о н д э л і к. *Маці зварыла крышаны ў рондліку.* Глінішча Івац. *Не чапайце, дзеці, у рондэліку молоко, гэто маленькому.* Дрэбск Лун. 2. Патэльня. *Од рондля розносывся пах смажаного баранчыка.* Сушытніца Малар. 3. Чапяла. *Схватыв рондэлем патэльню.* Ляхаўцы Малар.

РОПА́ *ж.* 1. Расол з пасоленага мяса, рыбы. *Осэлэнцы лыжалы в ропі в бочцы.* Гарадная Стол. 2. Крывяністае выдзяленне з раны. *Як надавыв скулы, то одразу ропа полылася.* Кустын Брэсц.

РОСКА́ЛЛЕ *н.* Слата, хлюпота. *Такое роскалле, шо ніг нэ вытягнуты.* Доўбнева Кам.

РОСПЛО́Д, РОСПЛЫ́Д *м.* Пчаліны вывадак. *Пчолы кормляць росплод.* Харомск Стол.

РО́СПОРКЫ *мн.* Частка кроснаў. *У кроснах поломалысь роспоркы і ны можна ткаты.* Ляхаўцы Малар.

РОСПРО́СТАТЫСЯ *зак.* Вызваліцца ад чаго-н., разлучыцца з кім-н. *Абы я з тобою роспростайся, то шчэ пожыву.* Падышча Іван.

РО́СПУГА *ж.* Баразна паміж градамі. *Зробы роспугі глубжы, шоб вуда ны стояла.* Гершоны Брэсц.

РОСТРЫБУШЫ́ТЫ *зак.* Раскідаць. *Вітёр рострыбушыв всёго стожка.* Семяховічы Пін.

РО́ШЧА *ж.* Рост (раслін). *Картопля ны мае рошчы, так і сыдыть на місцы.* Гершоны Брэсц.

РО́ШЧЫНА, РОШЧЫ́НА *ж.* 1. Рэдкае заквашанае цеста, якое потым замешваецца. *З ро́шчыны пэклі огладкі.* Здзітава І Бяроз. *Рошчы́на — то, шчо хлеб рошчыняем, і на водку рошчы́на, кісель варацъ з рошчы́ны.* Рубель Стол. 2. Від стравы, кулага. *Наварымо рошчыны і імо с хлібом.* Спорава Бяроз.

РОШЧЫНЯ́ТЫ *незак.* Паставіць цеста на заквасцы ці на дражджах. *Кісіль варать з овса, таксамо рошчыняють.* Арэхава Малар.

РУБЭ́ЛЬ *м.* Прылада для ўціскання сена ці саломы на возе або машыне. *Шчоб більш накласты сіна на санкы, быруть на вырху колысныка кладуть рубля і прывязвають выровкамы.* Семяховічы Пін. *Згубыв рубля і нэ довызу сіно на пляц.* Гальцы Стол.

РУДА́ *ж.* Красільнае рэчыва, што змяшчаецца ў ільняным палатне, выводзіцца з палатна вымочваннем і адбельваннем. *Полотно белім, шчоб з його руда вышла.* Здзітава І Бяроз.

РУДЛЯ́ *ж.* Узаранае поле. *По рудлі іты тяшко.* Гершоны Брэсц.

РУДЫ́Й *прым.* Нябелены. *Рудое полотно, рудый настылнык.* Сулічава Драг. *Гэты ручныкы трэба одбылыты, бо воны шчэ рудыі.* Падышча Іван.

РУЗО́РА *ж.* Разора. *Вуда стікае в рузору.* Ялач Драг.

РУКАВА́ТЬ *ж.* Мяшок у выглядзе клінка для прыгатавання сыру. *Молоко откенуты у рукавать на сэр.* Арэхава Малар.

РУЛІ́ *мн.* Страва, прыгатаваная з кусочкаў хлеба, пакрышаных у салёную або салодкую ваду. *Діты ілы рулі.* Альманы Стол.

РУМЯ́НОК, РУМНЁНОК *м.* Рамонак. *Румянок мы збыраем і сушым на лікарство.* Макраны Малар. *Румненком мыють голову.* Ляхаўцы Малар.

РУМЫ́НКІ *мн.* Жаночыя чаравікі з невысокімі халяўкамі. *Добрые румынкі мыні батько купыв.* Гальцы Стол.

РУНО́ *н.* 1. Воўна з адной авечкі. *З однэі овэчкы — однэ руно.* Спорава Бяроз. 2. Воўна з ягнят і маладых авечак. *Руно з молодых овэчок, а вовна — со старых.* Лукава Малар.

РУХЛЯ́ВЫ, РУХЛЯ́ВЫЙ *прым.* Рухавы. *От жа ж гэты Панасіхін хлопец рухля́вы.* Варанілавічы Пруж. *Ну й рухлявый хлопэць в тыбэ.* Клейнікі Брэсц.

РУ́ЧКА *ж.* Ручайка. *За вечор напрала штыры ручкы льнянэі пражы.* Выжлавічы Пін.

РУШНІ́ЦА *ж.* Вінтоўка. *Я тольկі прыцэліўса з рушніцы, а вон подняўса і кінуўса науцёк.* Альгомель Стол.

РЫ́БА *ж.* Няроўнасці на палатне касы пры няўмелым кляпанні. *Хто ны вміе клыпаты, то рыбы нажынэ.* Гершоны Брэсц. *Клэпав косу і загнав рыбу.* Ляхаўцы Малар.

РЫБОІ́Д *м.* Вадзяны жук. *Тыпэр хлопцы пловнію разом з рыбою вытягнулы рыбоіда.* Ляхавічы Драг.

РЫ́ГЛІ *мн.* Вілы для гною. *Дай рыглі, трэба гной выкідаць.* Перунова Лун.

РЫ́ДЕЛЬ, РЫ́ДЭЛЬ *м.* Рыдлёўка. *Добрэ новым рыдлём копаты.* Ліпава Кобр. *Позыч, Ганно, мні свого рыдля розоры вы́кідаты.* Цвярдоўка Пін.

РЫЗА́ *ж.* Пілаванне. *Дэрво колы рыжыш, рыза лытыть.* Шэбрын Брэсц.

РЫЗУВА́ТЫ *незак.* Расчышчаць. *На працы гучынікы рызувалы сніг.* Ялач Драг.

РЫЗУ́ХА, РЭЗУ́ХА *ж.* Асака. *Мы нажалы рызухы для коровы.* Макраны Малар. *Рэзухі накосыв радюшку.* Ляхаўцы Малар.

РЫНКА *ж.* Маленькая патэльня на трох ножках. *Трэба почыстыты рынку.* Ліпава Кобр. *Поджа́р са́ла в ры́нцы.* Ялач Драг.

РЫ́ХТЫК *прысл.* Якраз, дакладна, сапраўды. *Ты рыхтык як маты.* Астрамечава Брэсц. *А дзейка рыхтык наша Манька.* Востраў Ганц.

РЫШЫТО́, РЭ́ШЭТО *н.* Рэшата. *Вжэ трэба новэ рышыто.* Гершоны Брэсц. *Жыто пуччыняеш на рэшэтовы, а бруд скідаеш.* Макраны Малар.

РЭ́ГОТЫ *мн.* Драўляная пасудзіна ў выглядзе карыта, у якой мялі сукно. *Колысь мнялы ў рэготах сукна.* Радзеж Малар.

РЭ́ЗКІ *мн.* Вілы для пераноскі саломы. *Гэтыі рэзкі*

*ліпшы до соломы, а тыі короткі і мало возьмэш.* Дубраўкі Драг. *Повісь рэзкі ў клюні, кэб на дошчы ны гнылы.* Сулічава Драг.

РЭ́МЖЫТЫ *незак.* Іржаць. *Кінь рэмжыть у хлыві.* Ляхаўцы Малар.

РЭПНЫК *м.* Страва, прыгатаваная з бульбы і морквы, забеленая малаком. *Я вэльмэ люблю рэпнык.* Тэўлі Кобр.

РЭ́ПЦЭМ *прысл.* Нечакана, раптам. *Рэпцэм пошоў дошч.* Вулька II Лун.

# С

СА́ВГАТЫ *незак.* Кляваць. *Старэі курэ савгаюць крупэ, удгонэ, хай едзяць молодэі.* Сварынь Драг.

САГА́Н, СОГА́Н *м.* Чыгун. *Пастаў сагана на пліту.* Тартакі Бар. *У лавку прывызлы новэ саганэ.* Завялёўе Драг. *Маты купыла знов сагана.* Зарэчка Драг. *Свынюм у сагановы там у пычі.* Варанцэвічы Іван. *Солёнікі бэры в сагане.* Коланск Івац.

САГО́НІ *прысл.* Сёння. *Сагоні шоў снег.* Сухопаль Пруж.

САКАТУ́ХА *ж. экспр.* Балбатуха. *Гэта Ніна нічога не робіць, толькі ходзіць па людзях і сакоча. От жэ сакатуха.* Чэрніхава Бар.

САЛАМА́ЙДА *ж.* Узвар з каліны. *Учора варылі з калін саламайду.* Талмачова Стол.

САЛАМА́ХА, СОЛОМА́ХА *ж.* 1. Яечня. *На патэльні шыпела саламаха.* Баравікі Лун. 2. Зацірка. *Навары соломахі з білыі мукі.* Моталь Іван.

САЛЁНІКІ, СОЛЁНІКІ *мн.* Звараная бульба. *Еў салёнікі, запівай малаком.* Квасевічы Івац. *Гарачыя салёнікі стаялі на стале.* Шэйпічы Пруж. *Хутко звару солёнікі.* Лыскава Пруж. *Солёніков на вачэру навару.* Бабровічы Івац.

САЛО́ХА *ж. іран.* Неахайная жанчына. *Адна дачка ды тая салоха некая.* Агарэвічы Ганц.

САЛІСО́ЎКА *ж.* Хустка ў кветкі. *Заўтра свято, то завяжы салісоўку.* Белавуша Стол.

САЛІТЭ́РКА *ж.* Талерка. *У шкапчіку богата салітэрок.* Запроссе Лун.

СА́ЛНЫЦЯ *ж.* Унутранае сала. *Всю салныцю пырытопыла одразу.* Ляхавічы Драг.

СА́ЛО *н.* Груз, прычэплены да калодзежнага жу-

раўля. *Колы до пугы прывязано сало, то воду лёгчэй доставаты.* Падкраічы Бяроз.

САМІКАВА́ЦЦА *незак.* Раіцца. *Маладым завсёды трэба самікавацца са старымі.* Юндзілы Пруж.

САМОДІ́ЛОК *м.* Драўляная барана. *Самоділком бороновалі давно.* Харомск Стол.

САМОДІ́ЛКОВЫЙ *прым.* Самаробны. *Кэдысь всэ было самоділковэ: як ножі, ложкы, так крэсла, столы. Допіро, кажуть, знов за ім на базары гоняюцца. А тут дід зробыв і скрыпку самоділкову.* Барычэвічы Пін.

САМОЛУ́К *м.* Вобад, што агінае барану з трох бакоў. *Самолук вжэ стары, его выгнув колысь шчэ батьков дід.* Рубель Стол.

САМОПУ́СТ, САМОПУ́СТЬ *прысл.* Без догляду, самастойна. *Не, так і выросла вона самопуст.* Корчыцы Кобр. *А чыя то скотына ходыть самопусть?* Сіманавічы Драг.

САМОСІ́В, САМОСІ́Й *м.* Мак, які сам сеецца. *Ой, якы то мак, то самосів.* Гершоны Брэсц. *Самосій зыйшов вэльмы густо.* Макраны Малар.

САМОСЕ́ЙКІ *мн.* Кураняты, якія выведіся самасадам. *У крапіве кура выседзела самосейкі, вжэ осень, чы поростуць?* Дзятлавічы Лун.

САМОТУ́Ж *прысл.* Поцягам. *Мацыклета самотуж вызлэ до хатэ.* Сварынь Драг.

САМОТУ́ЖКІ, САМОТЯ́ЖКІ *мн.* Невялікія ручныя санкі. *Провезі на самотужках крыху.* В. Малешава Стол. *Дід зробыв для мэнэ самотужкі.* Ляхаўцы Малар. *Едзь з самотяжкамі в ліс і прывэзі дрова.* Церабяжоў Стол.

САМОХО́Д *м.* Машына. *Йды, бо зары самоход пуйдэ.* Бухавічы Кобр. *По селу самоход новы пойшов.* Дзятлавічы Лун. *Ее сын работае на самоходзі.* Белавуша Стол. *Наш колхоз получыў новы самоход.* Рамель Стол. *Самоход іхав, аж за ім пыляка курыла.* Арэхава Малар.

САМЫ́ЦЯ *ж.* Самка. *Самыця малых народыла.* Гершоны Брэсц.

САНДА́Л *м.* Сандаля. *Сандал зашпілі, а то хварсіш сандаламы, а не бачыш росшпіляного.* Белавуша Стол. *Дзеці ходзяць у школу ў сандалах.* Заліпенне Лях.

СА́НКІ *мн.* Сківіцы. *Глядзі санкі скрывіш, так позяхаеш.* Дзятлавічы Лун.

САННЫ́К *м.* Колькасць сена, саломы, што змяшчаецца на санках. *Шчэ санныка два сіна прывызтэ трэба.* Сварынь Драг.

САПА *ж.* Матыка. *Возьмэ гострую сапу, тая тупая.* Ладараж Пін. *Трэба було сапуваты сапою картоплі.* Арэхава Малар. *Памянш.* с а п к а. *Моя сапка ныяк ны сапае, шчо хоч тое і робы.* Радзеж Малар. *У нас дома аж тры сапкі.* Калоднае Стол.

САРАХВА́Н *м.* Сарафан. *Пошыла новый собі сарахван вжэ?* Шэбрын Брэсц.

САРА́Ч *м.* Сукно з горшага гатунку воўны. *І на шчо той сарач згодытыса можэ?* Рухча Стол.

САРВЭ́ТКА, СУРВЭ́ТКА *ж.* Настольнік. *Маты вышыла хорошу сарвэтку.* Сакалоўка Пін. *Падарыла на вяселле дачцэ сурвэтку.* Дзераўная Бар.

САРДА́К *м.* Суконная жакетка без падкладкі. *Хутка мецьму сардака, добрэ будзе осенню, як холодно.* Казлы Пруж.

САРЖА́ТКА *ж.* Іголка з вялікім вушкам. *Саржаткай мама цыровала панчоху.* Навасёлкі Бар.

САРОКА *ж.* Аладка. *Маці напекла сарокі, але ніхто не ей.* Запроссе Лун.

САХАВІ́ЛЫ, СОХОВІ́ЛЫ *мн.* Драўляныя вілы з акаванымі зубамі для гною. *Бацько на сахавілы брау много, кідау на воза.* Калоднае Стол. *Добрые соховілы в нашого дядька.* Бабровічы Івац.

САХА́Р, САХО́Р, СОХА́Р *м.*, СУХАРЫ́ *мн.* Тое ж. *А там возьмі сахар і пойдом гной накідаць.* Люсіна Ганц. *Сахор стаяў у стаюшцы.* Тартакі Бар. *Сохарэм вэльмі добрэ гной накідаць.* Раздзялавічы Ганц. *Падай сахары, сынку.* Востраў Ганц. *Сохары я покінуў у свірні.* Запроссе Лун. *Батько сказав, шчоб зараз жа прыніс сухары.* Трудавая Іван. *Молодыцы взялы сухары і пошлы трасті гній.* Пяшкова Іван.

СА́ЧІВКА, СА́ЧУЎКА, СА́ЧЫВКА *ж.* Сачавіца. *Сачівка в нас ны ростэ.* Прылукі Брэсц. *Сачуўкі напарым, то з'ядуць і бульбу.* Нецеч Бар. *Сачывка дрыбна, алэ густа.* Ляхаўцы Малар.

СА́ЧЫК *м.* Кароткае жаночае паліто, жакет. *У еі сачык тёмного колёру.* Падбела Кам. *Жанчына была ў прыгожым сачыку.* Ліпск Лях. *Налужы сачыка, холодно.* Дарапеевічы Малар. *Тітка вэльмі добрэ шые сачыкі.* Ліново Пруж.

СВЕРСА́ДЛО *н.* Люстэрка. *Я ны вэльмы часто дывлюса в сверсадло.* Моталь Іван.

СВЕРМЁГА *ж. устар.* Сярмяга. *Зара в нас вжэ ны носять свермёг.* Шэбрын Брэсц.

СВІЁРКА *ж.* Ваверка. *У нас жыла блізко свіёрка.* Гарадзішча Лях.

СВІЖЫНА́ *ж.* Свежына. *У мынэ тыпэр свіжына.* Адрыжын Іван. *Як заб'еш кабана, будэ свіжына.* Спорава Бяроз.

СВІНА́ЧКА *ж.* Тая, што пасе свіней. *Свіначка жане свіні недалёко.* Падкраічы Бяроз.

СВІ́НІ, СВЫ́НЫ *мн.* Грузды. *Хадземо по свіні на Галоёву гору.* Чахец Пруж. *Свыны ростуть на горі.* Ляхавічы Драг.

СВІСТЁЛ *м.* Жалейка. *Добрэ вмію граты на свістёлу.* Корчыцы Кобр.

СВІРО́НОК, СВЫРО́НОК *м.* Свіран. *Занэсы жыто в свіронок і высып в засык.* Хмелева Жабін. *Цілый свыронок жыта було.* Падбела Кам.

СВІРЫ́ПКА *ж.* Свірэпа. *Свірыпку свыны ідять добрэ.* Шэбрын Брэсц.

СВІ́СЦЬ *ж.* Жончына сястра. *Муя дучка жывэ в городзі, там свісць мае хату.* Сварынь Драг.

СВІ́ТНО, СВЫ́ТНО *н.* Світка. *Світно по пяты наложыла дзіцяці, бо холодно.* Дзятлавічы Лун. *Наложы свытно, бо змэрзнэш.* Ботава Пін.

СВІ́ЧКІ *мн.* Перыяд ад каляд да вадохрышча. *На свічкі у нас ны пралы.* Ляхаўцы Малар.

СВО́ДЫТЫ *незак.* Збіраць разасланы лён. *Отстае лён, вжэ вылыжев, трэба сводыты.* Олтуш Малар. *Трэба лён, конопэлькы сводыты, бо вжэ влэжаны.* Ляхавічы Драг.

СВО́ЛОК *м.* Бервяно, якое кладзецца на сохі. *Давай, сынку, сволок положымо на соху.* Талмачова Стол.

СВЫ́ДЁР, СВЫ́ДЭР, СВЭ́ДЭР, СВЭ́ТЭР *м.* Світэр. *Мама купыла свыдёра.* Козішча Кобр. *Свыдэр такый ловкый.* Матыкалы Брэсц. *У магазін прывызлы хорошы свэдры.* Высокае Бяроз. *Свэтэр хоть був і зробляный ныкрасіво, но затое був тэплый.* Яечкавічы Іван.

СВЫ́НКА, СВЭ́НКА *ж.* Частка дымахода паміж вусцем печы і комінам. *Дым ідэ у свынку, яка на горы соедыняецця с комыном.* Макраны Малар. *Свэнка була побілёна.* Харсы Брэсц.

СВЫНЯ́ЧЫ *прым.* Свіны. *А свынячэ мясо у нас ны выходыть.* Шэбрын Брэсц.

СВЫРБЯ́ЧКА *ж.* 1. Сверб. *На тэбэ свырбячка напала, шо нэ сэдыш на одным місцы?* Кустын Брэсц. 2. Кароста. *Вона захворіла на свырбячку.* Ялач Драг.

СВЫРШЧО́К *м.* Цвыркун. *Свыршчок вэрышчыть пуд лужком.* Камянюкі Кам.

СВЫРЫ́НЭЦ *м.* Свіран. *У нашому колхозі построілі нового свырынца.* Міжлессе Бяроз.

СВЭРГУ́Н *м.* Цвыркун. *Свэргун за печчу знайшовса.* Валішча Пін.

СВЭ́РДЁЛ, СВЭ́РДЭЛ *м.* Свярдзёл. *Трэба было мэншого свэрдла узяць, а то валіку дзірку пракруціў.* Рамель Стол. *Куды ты подів свэрдэл?* Кустын Брэсц.

СВЭРДЛЫК *м.* Цвыркун. *Свэрдлык усю ныч ны давав спаты.* Ляхаўцы Малар.

СЕВА́Р *м.* Сявец. *Севар не голіцца, пока не засеецца, яка борода — такое поле.* Рубель Стол.

СЕВБА́, СЭВБА́ *ж.* 1. Сяўба. *Севба почалася рано.* Велле Стол. *До Сэмэна рання сэвба, а кулэ вжэ после Сэмэна, то пізня, остатня сэвба.* Сварынь Драг. 2. Засеянае поле. *Як зоралі, то роля, як посеють, то севба.* Велле Стол.

СЕ́ДАЛО *н.* 1. Месца, дзе начуюць куры. *Вжэ куры сілы на седало.* Кустын Брэсц. 2. Месца, дзе часта бывае чалавек. *Знов на свое седало пошов.* Коланск Івац.

СЕ́ДАЧКА *ж.* Лаўка. *Дзіця седзела на седачцы.* Дварэц Лун.

СЕДМУ́ХА *ж.* Сёмуха. *Нядзеля такая седмуха.* Гошчава Івац. *Пэрэд тройцою жывэ седмуха.* Макраны Малар.

СЕ́КАР *м.* Сякач. *Посекці бульбу секарэм трэба.* Бастынь Лун.

СЕЛЕХТА́ЦІ *незак.* Казытаць. *Кінь селехтаці, бо боюся, колі селехтаці почынаюць.* Дзятлавічы Лун.

СЕЛЬНІ́К, СЭЛЬНІ́К, СІДНЫ́К, СІМНЫ́К *м.* Сяннік. *Ці ты будзеш сёго літа ткаць сельнікі?* Бортнавічы Пруж. *Помыла новыго сельніка, трэба сходзіці до скірды і прынесці соломы.* Казлы Пруж. *Бацько поехаў до скірды, коб напхаці сэльніка соломою.* Панасавічы Бяроз. *Сімнык со свіжыю соломыю вылыкі.* Вулька Дастоеўская Іван.

СЕМЕНІ́К *м.* Кветканоснае сцябло. *У цыбулі е малые і велікіе семенікі.* Дзятлавічы Лун.

СЕ́РА, СІ́РА *ж.* Малодзіва. *Млінцэ з серы бы гужэвые, не пухкіе, бы цубкіе.* Рубель Стол. *Озьмем выдоімо, сіру на пытэльню, спічэм і імо. После тёлу тры дні доімо сіру.* Спорава Бяроз.

СЕРВІТУ́Т, СІВЕРТУ́Т *м. устар.* Зямля агульнага

карыстання. *Сервітут — обчаская земля, вся дзерэўня пользоваласа.* Альшаны Стол. *Сівертут — опшее для всей громады поле.* Радзеж Малар.

СЕ́СЦІ *зак.* Не падысці (пра хлеб). *Хлеб нэ вдавса, мало вытопіла, сев так.* Валішча Пін.

СЕ́ЮМ *м.* Бяседа. *Чоловекы зобралыс на сеюм, довго там воны посемовалі.* Падкраічы Бяроз.

СЁДНЕ *прысл.* Сёння. *Сёдне була ясная погода.* Арэхава Малар.

СЁКАР *м.* Свёкар. *Сёкар помогае, як батько родны.* Падкраічы Бяроз.

СЁКРО́В *ж.* Свякроў. *У мэнэ сёкров вэльмі добрая.* Валішча Пін.

СІВА́К *м.* Гл. севар. *Знае сіятэ, добры сівак.* Сварынь Драг.

СІ́ВНЫК *м.* Сявенька. *З сівныка сіють жыто.* Шэбрын Брэсц.

СІВУХА́ *ж.* Свінуха тоўстая. *Сівуха вэлыка, дывысь, алэ сівухы в нас ны быруть.* Шэбрын Брэсц.

СІ́ЛАС *м. іран.* Вінегрэт. *Добрая закуска сілас.* Навасёлкі Бар.

СІЛЕ́ГА *ж.* Расшчэпленае хваёвае карэнне, з якога плятуць кашы. *Коша заплетають сілегой.* Бастынь Лун.

СІ́МЕ, СІ́МЯ *н.* Ільняное семя. *Сіме вэльмэ смачнэ.* Шэбрын Брэсц. *Сімя прыложы до раны, хучій нарвэ.* Матыкалы Брэсц.

СІ́МЭНЬ *м.* Тое ж. *Прыложы сімэнь, можэ вытягнэ болячку.* Каўбы Пін.

СІ́НІЦА *ж.* Шчупак. *Воды нагнало, сініцы прокідаюцца ў канаўцы.* Дзятлавічы Лун. *Памянш.* сінéвочка. *У нашай канаві е маленькіе сіневочкі.* Чарабасава Лун.

СІНЬ *м.* Тое ж. *Хлопцы наловілі сінів.* Кароцічы Стол.

СІ́НЯНКА *ж.* Гл. сельнік. *У лаўку прывызлы вэльмы шыроку матэрыю, добрэ сінянку пошыты.* Дубраўкі Драг.

СІПЭ́Ц *м.* Мокры пясок. *Сіпэц нэ даваў закончыці колодзежа.* Угляны Бяроз.

СІРО́ЖКА *ж.* Завушніца. *Сірожка свытылася на сонцы, аж ухо горіло.* Ляхавічы Драг.

СІ́ТКА *ж.* Акучнік. *Колхоз купыв нову сітку картоплі обгортуваты.* Гутава Драг.

СІ́ТЭ, СЫ́ТЭ *займ.* Гэта. *Далі мні сітэ пальто.* Камянюкі Кам. *Сітэ діло трэба рышаты в сым'і.* Корчыцы Кобр. *Сытэ порося зусім худэе.* Дзмітравічы Кам.

СІФКА *ж.* Сеяная цыбуля. *Сіфку сеють на маленьку цыбульку.* Камянюкі Кам.

СІЧАНЫК *м.* Пераплецены тканы ўзор. *У січаныковы то парочка, дві, тры, п'еть, а у ныт, ек у прошчыню.* В. Лес Драг.

СІЯЛНЫК *м.* Гл. севар. *Добрый був батько сіялнык, шыроко сіяв.* Каўбы Пін.

СІЯНКА *ж.* Гл. сіфка. *Сіянка зыйшла хутко.* Макраны Малар.

СКАВАРЭНДА, СКАРАВАДА, СКОЎРОДА *ж.* Патэльня. *Маці печэ аладкі на скаварэндзе.* Запроссе Лун. *Пяклося на скаравадзе сало.* Гарадзішча Лях. *Наша скоўрода зосім старая, трэба другую купыты.* Радзеж Малар.

СКАВІЧОК *м.* Торбачка для сыру, клінок. *Кіслое молоко ўлілі ў скавічок.* Запроссе Лун.

СКАКУН *м.* Танцор. *Дід був добрый скакун, так выдавав под музыку.* Судзілавічы Бяроз.

СКАКУНКА *ж.* Танцорка. *Малая, а вжэ бач якая скакунка.* Судзілавічы Бяроз.

СКАЛКА, СКАЛЬКА *ж.* Слімакова ракавіна. *Скалку взяв под кустом после дошчу.* Рухча Стол. *Воду зогнало, по всёму бэрэзы скалькы.* Барычэвічы Пін.

СКАЛЬ, СКАЛЯ *ж.* Пчаліная разведка. *Бачыш, вжэ скаль прылытіла, хутко і другыі пчолы прылытять.* Бабровічы Івац. *Впэрот пчолы посылають скалю, шоб нашла квэткы.* Спорава Бяроз.

СКАНАТЫ *зак.* Памерці. *Баба вжэ тая сканала давно.* Шэбрын Брэсц.

СКАПУСТЫТЫСЯ, СКАПУСЦІЦІСА *зак. экспр.* Змарнець ад старасці. *Я вжэ зусім скапустылася, ны маю сылы.* Акропна Драг. *Скапусцілас Ганна, нэ познаці, коб нэ одозвалас.* Шылін Бяроз.

СКАРАЧ *м.* 1. Ручнік. *Возьмы скарача да вытрыс.* Шылін Бяроз. *Сыстра прынысла чэстого скарача.* Ласінцы Драг. *Мыла посуду і вытырала скарачэм.* Дастоева Іван. *Гэтым скарачом ногы вытрэш.* Какорыца Драг. 2. Канец палатна разам з ніткамі, якія застаюцца недатканымі і звіваюцца ў шнуркі. *Зробыла скараче ввязуваты гладышку.* Папіна Драг. *Ссучітэ конці на скарачі в дві столкы.* Ляхавічы Драг.

СКАРПЭТКА *ж.* Шкарпэтка. *Порваласа скарпэтка, гля, палец тырчыць.* Дварэц Лун.

СКІБКА *ж.* 1. Трэска. *Скібка одлэтіла од поліна.*

Сушытніца Малар. 2. Невялікі кавалак чаго-н. *Вона одрізала скібку сала.* Дзятлавічы Лун.

СКІГЛІЦІ, СКУГОЛІЦІ, СКУГОЛЫТЫ *незак.* Скуголіць, плакаць уголас. *Шо ты скігліш под ухом?* Шылін Бяроз. *Скуголіт вечно бэз прычыны.* Пясчанка Бяроз. *Хватыть тобі скуголыты, вжэ надоіло слухаты.* Рылавічы Іван.

СКІНУТЫ *зак.* Заўчасна нарадзіць. *Корова скінула тэля.* Гершоны Брэсц.

СКІРТА, СКЫРТА *ж.* Сцірта. *Скірта поставляна коло дорогы.* Матыкалы Брэсц. *Як вона довга, то скырта, а кругла — то стожок.* Макраны Малар.

СКІРТОВАТЫ *незак.* Складваць у сцірту. *У клуні жыто складають у сторону, на полы скіртують.* Адрыжын Іван.

СКЛАД *м.* Баразна. *Пэрша борозна на полі, колы садять картоплы, то склад.* Шэбрын Брэсц. *Доробылы, осталося зровняты склада.* Гершоны Брэсц.

СКЛАДУЖЫНА *ж.* Пакосы, якія кладуцца адзін на другі. *Складужына получаецца, гды ў одну і другу сторону косяць.* Рубель Стол.

СКЛЕП *м.* Магазін. *Була в склепы, там е тюль.* Сулічава Драг. *У склеп прывызлы пэркаль.* Туляцічы Іван.

СКЛУМАЧЫТЫ *зак.* Скамячыць. *Нашто склумачыла плацце?* Сварынь Драг.

СКЛЭБКА *ж.* Скобля. *Склэбку гострый цэлы дзень.* Бастынь Лун.

СКЛЮНДРА *м.* і *ж.* 1. Скупы чалавек. *У гэтыі склюндры і воды холодныі ны возьмэш, пошкодуе.* Карсынь Іван. 2. Пляткар, пляткарка. *Склюндры ны знаіш: з тобою говорыть, а одвэрныця, тыбэ обговорыть.* Карсынь Іван.

СКЛЮТ *м.* 1. Склюд. *Трэба обтысаты, а в нас ныма склюта.* Дастоева Іван. 2. *перан.* Худы, прыгорблены чалавек. *І стаў жа такі, склют і ўсё, а харошы быў.* Паланэчка Бар.

СКМЭТЫТЫ *зак.* Скеміць, сцяміць. *Всі ростіралысь, а той одразу скмэтыв, розмову пэрэвів у другі бік.* Сварынь Драг. *Пупав я в гэткое пулужэніе, алэ скмэтыв, шчо рубэтэ.* Дзівін Кобр.

СКОБЛЫТЫ *незак.* Чысціць. *Трэба вжэ на вэчэру скоблыты картоплі.* Пажэжын Малар.

СКОВОРІДНЫК, СКОВОРОДНЫК *м.* 1. Праснак. *Зарэ спеку сковорідныка.* Велута Лун. *Сковородных сма-*

*чны і хутко пэчэцца.* Гарадная Стол. 2. Чапяла. *Як будэш в лавцы, то купы сковородніка.* Дубраўкі Драг.

СКОЗУ́БЫТЫСЬ *зак.* Пагнуцца, пакасіцца. *Двэры скозубылысь в хлэві.* Сварынь Драг.

СКОЛІ́ТЫ *зак.* Змерзнуць. *Сколів вжэ на морозі.* Кустын Брэсц.

СКОМЛЫ́ТЫ *незак.* Нудзіцца, ныць. *Да нэ скомлы ты, всі гізунты пэрэів. Цілый дэнь скомлыть і скомлыть, місца собі нэ знаходыть.* Каўбы Пін.

СКО́ПЕЦ, СКО́ПЭЦЬ *м.* 1. Яма для захоўвання бульбы. *Бульбу закопалі ў скопец.* Сухопаль Пруж. *Закрыла картоплі в скопэць.* Гершоны Брэсц. *Сходы побач, чы нэ лазять гусі по скопцах.* Валішча Пін. 2. Слупок, які адзяляў надзелы зямлі. *Скопцямы од пана булі огранічэны.* Радзеж Малар. *Паля увоб'ють да і огорнуть, то е скопэц.* Гарадная Стол.

СКОРО́МЫНА *ж.* Скаромніна. *Цэлы кубел скоромыны ў коморы стоіть.* Судзілавічы Бяроз.

СКО́РЧНІ, СКО́РШНІ *мн.* Галоўкі палазоў. *У санях поламаліса скорчні.* Ласасіна Пруж. *Загнёные скорчні.* Спорава Бяроз. *Скоршні санок тырчаць.* Малахоўцы Бар.

СКОТЫ́НА *ж. зборн.* Каровы. *Осынню скотына лыныцця.* Шэбрын Брэсц. *На всёй день ходыть скотына госынню.* Яечкавічы Іван. *Пасты скотыну будэмо по очэроді.* Ляхаўцы Малар.

СКО́ЧКА *ж.* Шматгадовая травяністая расліна сямейства таўсцянкавых, якая хутка размнажаецца. *Каля дарогі расло многа скочак.* Кукава Ганц.

СКРАБОТІ́ТЫ *незак.* Скрабці, шастаць. *Мышы под підлогою скработять.* Гершоны Брэсц.

СКРА́ЙЧЫК *м.* Акрайчык. *Одрыш мні скрайчык хліба.* Павіцце Кобр.

СКРОПЛЬ *м.* Дымар. *Взяв скропля і пошов подглядаць пчолы.* Бастынь Лун.

СКРУНУ́ЦЬ *зак.* Павярнуць. *Машына скрунула вбік.* Жоўкіна Пін.

СКРУ́ТЕХ *м.* Вузел на нітцы. *Скрутехов понатыкала, от господыня.* Сварынь Драг.

СКРЫ́ДЭЛЬ *м.* Пласт. *Скрыдэль зымлі одвалыцця за плугом.* Шэбрын Брэсц.

СКРЫ́НЯ, СКРЭ́НЯ *ж.* 1. Куфар. *У коморы стоіть скрыня.* Сулічава Драг. *Вэлізна крашана скрыня стояла коло стэны.* Пясчанка Бяроз. *Баба ховае грошы у скры-*

*ні.* М. Арлы Стол. *Моя баба шчэ мае посажну скрэню.* В. Якаўчыцы Жабін. 2. Вялікая чатырохвугольная драўляная пасудзіна для захоўвання збожжа. *Насыпала скрыню мукы.* Заверша Драг. 3. Збіты з дошак кузаў воза. *Цілу скрыню пыску прывіз.* Споpава Бяроз. 4. Аконная ці дзвярная шуфляда. *У вокновы згныла вжэ скрыня.* Дзмітравічы Кам.

СКРЫ́ПЭЛЬ *м.* Несапраўдная апенька. *Скрыпэль сіневаты такі, як опенька.* Бастынь Лун.

СКУБА́РНЯ *ж.* Майстэрня, дзе скубуць воўну. *До скубарні вовну розводымо в руках.* Радзеж Малар.

СКУВІ́ТЫ *незак.* Мучыцца. *Скувів цілу ныч, так боліло.* Сварынь Драг.

СКУ́ДАВА, СКУ́ДОВА *прысл.* Адкуль. *Скудава ты ідэш?* Матыкалы Брэсц. *Скудова ты родом?* Цюхінічы Брэсц.

СКУ́ЛЬБЯНЫ *прым.* Згорблены. *Дзядзько вжэ скульбяны, стары.* Сварынь Драг.

СКУЛЯ́ЧКА *ж.* Скула. *Скулячка сіла на ногу, ныяк ны прорвэцця.* Кустын Брэсц.

СКУНДЗЯ́БІЦЦА *зак. экспр.* Сагнуцца. *Сусід так после хворобы скундзябіўса.* Мачуль Стол.

СКУПЫНДЯ́ *м.* і *ж.* Скупы чалавек. *Ны будь скупындёю.* Судзілавічы Бяроз.

СКУ́ПЫТЫСЬ *зак.* Сабрацца ў кучу. *Скупылыся всі коло машыны, ныхто ны одыходыть.* Кустын Брэсц.

СКУТУГІ́Н *м.* Сцежка, вытаптаная жывёлай. *Там якраз скутугін, направо од дорогэ.* Радастава Драг.

СКЫБА́НЫЦА *ж.* Вялікая скіба. *Такую скыбаныцу вэлыку одбахав.* Спорава Бяроз.

СКЫБКА *ж.* Лучына. *Прынысы скыбку в пычі запалыты.* Воса Кобр.

СКЫ́РЫТЫСА *незак. экспр.* Смяяцца. *Увэсь вэчэр вун скырывса.* Цвярдоўка Пін.

СЛАБУВА́ТЫ *незак.* Хварэць. *Муя дівчына шчось пучала слабуваты.* Макраны Малар.

СЛАНІ́НА, СЛОНІ́НА *ж.* Тоўстае сала. *Сланіна добра на хібу.* Нецеч Бар. *Пэрэсолыла я гэтой рік слоніну.* Корчыцы Кобр. *Слоніна — товстэ сало.* Спорава Бяроз.

СЛЕДЗ, СЛЕ́ДЗЬ, СЛЕДЬ *м.* Селядзец. *Следза ззела, воды хочу моцно.* Шылін Бяроз. *Смачны следзі ў магазін прывызлы.* Стаўкі Бяроз. *Знымы шкуру, спынка следя на дві часткі росколваецца.* Матыкалы Брэсц.

*Дайней следі булы смачные, шмальцувка особлыво.* Кустын Брэсц.

СЛЕ́ПОТЭНЬ, СЛЕ́ПЭТЭНЬ *м.* Дзікая пчала. *Слепотэнь до дуба леціць, мо там у дупле гнездо.* Горталь Івац. *Слепотэнь — это дзікая пчола, не своя у садзе.* Бастынь Лун.

СЛЕПА́К, СЛЫПА́К *м.* Сляпень. *Слепак укусэв тэлушку, і вона погезувала.* Арэхава Малар. *Слыпакы напалы на скотыну, вона позадырала хвосты.* Камянюкі Кам. *От напыклы слыпакы ногы.* Судзілавічы Бяроз.

СЛЁЗЫ́НА *ж.* Сляза. *Змахнула слёзыну і зноў заспывала.* Судзілавічы Бяроз. *Слёзына на воку, во-во капнэ.* Падкраічы Бяроз.

СЛІ́НЧЫК, СЛО́НЧЫК, СЛУ́НЧЫК *м.* Маленькі ўслон. *Бабця сыділа на слінчыкувы і чыстыла картоплі.* Індычы Кам. *Батько зробыв слончыка.* Гершоны Брэсц. *На слончыку седзела малая.* Дварэц Лун. *Дасы нам слунчыка сісты?* Рыкавічы Жабін.

СЛО́ВІК *м.* Слоік. *Купіў словіка с павідлам.* Гарадзішча Лях.

СЛОКІ́ТА *ж.* Непагадзь, слата. *Слокіта такая на двары.* Гошчава Івац.

СЛОН *м.* Услон. *У нашой хаці два слоны поўз вокны стояць.* Любань Лун. *У кутковы стуяв слон.* Падбела Кам. *Коля стэны стояў доўгі слон.* Лінова Пруж. *Памянш.* с л о́ н а к, с л о́ н о к. *Слонок стаяў каля стала.* Ліпск Лях. *Нідэ мій слонок подівса.* Парэчча Пін.

СЛО́НЦО *н.* Сонца. *Слонцо свеціць летам жарка.* Заліпенне Лях.

СЛОТА́ *м.* і *ж.* Назола. *Одчэпыса, слота, нэ оттараскаесса от тэбэ.* Каўбы Пін. *Прыстала тая слота.* Кустын Брэсц.

СЛОНЭ́ШНЫК *м.* Сланечнік. *Вэлыкі вырослы слонэшныкі.* Гершоны Брэсц.

СЛЫ́ВКА, СЛЫ́ЎКА *ж.* Сліва. *Слывкы ростуть у городы.* Лісяцічы Пін. *На мыжі росла слывка.* Рагадашч Іван. *Сліўкі старые выкопаці можна.* Шылін Бяроз.

СЛЫ́ЖКА *ж.* Кавалак (сала). *Позычыв у сусіда слыжку сала.* Смольнікі Іван. *Дайтэ слыжку сала.* Карсынь Іван.

СЛЫ́ЗА *ж.* Тое ж. *З дыжы досталы слызу сала.* Ляхавічы Драг.

СЛЫПОТІ́ТЫ *незак. неадабр.* Ліпнуць да дарослых, уважліва слухаць іх размовы. *Іды почытай кніжку, ны-*

*ма чого тут коло старшых слыпотіты.* Судзілавічы Бяроз.

СЛЫПЧЫ́ХА, СЛЫПЧЭ́ХА *ж.* Сляпая жанчына. *По сылі ходыла з хлопчыком слыпчыха.* Кустын Брэсц. *Слыпчэха ходэла раній по хатах.* Брашэвічы Драг.

СЛЫПЫНДЯ́, СЛЭПЭНЖА́ *м.* і *ж. пагард.* Той, хто дрэнна бачыць. *От слыпындя, сам положыв тут, а топіро шукае.* Кустын Брэсц. *Помалу, а то голову розоб'еш, слыпындя, прыгынайся крохы.* Судзілавічы Бяроз. *Такій став слэпэнжа, под носом нэ бачыш.* Каўбы Пін.

СЛЫПЫТІ́ТЫ *незак.* Працаваць, напружваючы зрок. *Слыпытіла кажну зыму над кудэлію.* Вулька Сіманаўская Драг.

СЛЮНЯ́ЎЧЫК *м.* Ёрш. *Вэльмо вкусны жараны слюняўчыкы.* Бабровічы Івац.

СЛЯМАЗА́РНЫЙ *прым.* Дробны. *Слямазарный дошч довго ідэ.* Ляскова Кобр.

СМАГАРЭ́ЛЦЫ, СМАГОРЭ́ЛЦІ *мн.* Прыгарэлая бульба. *Смагарэлцы кажын раз свінням оддаем.* Валішча Пін. *Зберы смагорэлці, не трэба выкідаці, я іх люблю.* Шылін Бяроз.

СМАГЛО́НЫКЫ *мн.* Печаная, смажаная бульба. *Смаглоныкы з костра смачные.* Адрыжын Іван.

СМА́ЖАНЦЫ, СМАЖО́НІКІ *мн.* Тое ж. *На сніданне нажарылы смажанців.* Сакалоўка Пін. *Звары бульбы на смажонікі.* Талмачова Стол.

СМАКО́ЦЫЯ *ж. жарт.* Смаката. *Раней цукеркі смакоцыя была, а зарэ і на іх дзеці нэ дзійяцца.* Шылін Бяроз.

СМАЛЬНЯ́К *м.* Смаляк. *На печы сохлі смальнякі на роспал.* Варанілавічы Пруж.

СМАЛЯ́НКА *ж.* Грыб лісічка. *Поўную корзіну прынесла з лесу смалянок.* Бор-Дубенец Стол.

СМЕ́ЦЕЙКО *н.* Дробнае, пашкоджанае зерне. *Оно смецейко у коробцы осталос, увэсь оўёс высеяў.* Шылін Бяроз.

СМІ́ТТЕ *н.* Смецце. *Сыстра хутко замыла хату і вынысла смітте.* Гошава Драг.

СМОКОТА́ТЫ *незак.* Змочваць нітку слінаю. *Праду, смокочу, спатонькі хочу.* Радзеж Малар.

СМОКОТІ́ТЫ *незак.* Ссаць. *Дытя мало смокотіло груды.* Валішча Пін.

СМОЛА́ *ж.* Молодзіва. *Трэба поглядіты, мо вжэ смола показалася в коровы, пора пудходыть тылытыся.* Стай-

кі Бяроз. *Одна смола, як корова отэліца, молозіва есці нэ будэш.* Шылін Брэсц.

СМОРЖО́К *м.* Вузел. *Крутая нытка в тэбэ, збыраюцца сморжкы, в'язаты ныдобрэ будэ.* Спорава Бяроз.

СМОРО́ДЗІНА, СМУРО́ДЫНА *ж.* Чорныя парэчкі. *Под окном росце смородзіна.* Бастынь Лун. *В кажного чуловіка в нас е тыпэр смуродына.* Пажэжын Малар.

СМОРО́ДНІК, СМУРО́ДНЫК *м.* Кусты чорных парэчак. *Смороднiку пойду в гуркі наламлю.* Бастынь Лун. *Коло сажалкі ростэ густый смуродныk.* Пажэжын Малар.

СМУГ *м.* Смоўж. *Смугув на грыбах многа.* Сіманавічы Драг.

СМУГУ́Н *м.* Дыван, тканы ў палосы. *Смугун вісыт на стыні.* Лукава Малар.

СМУ́ТНО *прысл.* Хмурна. *На дворы шось смутно, можэ дошч будэ.* Цюхінічы Брэсц.

СМУ́ШКА *ж.* Снежка. *Діты гулялы в смушкі. Смушкою туды попадэш?* Моталь Іван.

СМЫКАНЫ́НА *ж.* Цяганне. *Чы тобі бракуе смыканыны, нашо тобі шчэ картоплі самой смыкаты.* Судзілавічы Бяроз.

СМЫ́КАТЫ *незак.* Цягнуць. *Сіно до стожка смыкалы кіньмы.* Жоўкіна Пін.

СМЫ́КАТЫСА, СМЫ́КАТЫСЯ *незак.* 1. Бадзяцца. *Дэ ты смыкався так?* М. Вулька Пін. *Вон смычэца недэ, а людзі его ждут.* Шылін Бяроз. 2. Заставацца. *Хорошэнько жны, коб колуссе за тобою ны смыкалося.* Судзілавічы Бяроз.

СМЫ́ТЮХ, СНЭ́ЦЮХ *м.* Жаваранак. *У густый траві мы найшлы гныздо смытюха.* Белін Драг. *От снэцюх у жыці спэвае.* Шылін Бяроз.

СНЕГО́ВЕЦ, СНІГО́ВЭЦ *м.* Кароценькі гумовы боцік. *Новыя снеговцы стоялі на лаўцы.* Давыд-Гарадок Стол. *Наложы сніговцы, бо мокро.* Кустын Брэсц.

СНІТЭ́Й, СНЭТЭ́Й *м.* Галаўня. *Снітэй чорны, бы сажа, ростэ в жыты.* Горталь Івац. *У ечмені много ростэ снэтэю.* Шылін Бяроз.

СНОВАЛЫ́ *мн.* Прыстасаванне для снавання пражы. *Понакладай сновалы на жэрды.* Папіна Драг.

СНОВА́ЛЬНЫЦА, СНУВА́ЛЬНЫЦЯ *ж.* Тая, што снуе кросна. *Вона сама ліпша сновальныца.* Рухча Стол. *Маты добра снувальныця, еі завшэ просылы засноваты*

*кросна.* Кустын Брэсц. *Памянш.* с н у в а́ л н о ч к а. *Ох, моя снувалночка, дытынко моя.* Сварынь Драг.

СНОВА́ЧКА *ж.* Гл. сновалы. *Сную завшэ сновачкою.* В. Лес Драг.

СНО́ЎНЫЦА, СНЫ́ВНЫЦЯ *ж.* Тое ж. *Унысы сноўныцу, трэба сноваты пражу.* Судзілавічы Бяроз. *Шчоб выткаты полотно, трэба ёго основаты на снывныці.* Шэбрын Брэсц. *Прынысэш снывныцю в хату і будэмо сноваты.* Ляхавічы Драг. *Сновалы мы ны на стэні, було добрэ, зроблена снывныця на нужках.* Радзеж Малар.

СОБАКА́РНЯ *ж.* Псярня. *У нашого пана була добрая собакарня.* Гершоны Брэсц.

СОВГНУ́ТЫ *зак.* Штурхануць. *Гляды, а то коб коцюбою часом ны совгнула.* Кустын Брэсц. *Ны товчэся тут коло пачэ, бо совгну вылкамэ.* Субаты Драг.

СО́ВПАТЫСЬ *незак.* Сноўдацца, совацца. *Совпалась то коло пачэ, то коло свынай.* Субаты Драг. *Совпалась цілый ранок коло пэчы.* Вулька Дастоеўская Драг.

СОВПНУ́ТЫСЬ *зак.* Таркануцца, усунуцца. *Совпнулась в двэры.* Вулька Сіманаўская Драг.

СО́ДНІК *м.* Блінец на содзе. *Смачных соднікаў напэкла мама.* Давыд-Гарадок Стол.

СО́КОР *м.* Таполя. *В нас на дворі ростэ высокый сокор.* Ляхавічы Драг. *Коло школы ростэ сокор.* Вавулічы Драг.

СОКОРІ́ТЫ *незак.* Сакатаць. *Вжэ так сокорять куры, будуть нысты яйця.* Кустын Брэсц.

СОКОРЫ́НА *ж.* Гл. сокор. *Сокорыны ростуть вдовш гуліцы.* Жычын Бяроз. *Скількі гнёздув на сокорыні.* Навасёлкі Кобр.

СОКОТІ́ТЫ, СОКОЦЕ́ЦІ *незак.* 1. Сакатаць. *Сокотіты почала курыця.* Матыкалы Брэсц. *Куры почалі сокоцеці, трэба іці ў хлеўчык дзівіціс, шо там е.* Пясчанка Бяроз. 2. *перан.* Многа гаварыць. *І сокотіт, і сокотіт тая дзеўчына, не коб шо лепш зробіці.* Шылін Бяроз. 3. Смяяцца. *Во ёй росказвае, а вона сокотіт, аж заходзіца.* Шылін Бяроз.

СОЛО́МНЯНКА, СОЛО́МЯНКА *ж.* Сяннік. *Я з сыстрою спала на соломнянцы.* Заверша Драг. *Трэба було напхаты нову соломнянку, бо такая вжэ збылась.* Куляхі Іван. *Ложысь спаты на соломнянку.* Гутава Драг. *Я сходыла в клуню і напхала соломянку.* Крамно Драг.

СОЛО́МНЯНЫК *м.* Тое ж. *На соломняныку надто*

*добрэ спаты*. Моталь Іван. *Ужэ давно ныхто ны спыть в нашой хаты на соломняныках*. Семяховічы Пін.

СОЛО́НЦЫ *мн*. Гл. салёнікі. *Гаречы солонцы стоелы на столі*. Ляхавічы Драг. *Повный саган солонцув наварыла*. Ботава Пін. *Солонцэ з росолом будэтэ есты?* Валішча Пін. *Поздымай солонцы да стовчы товканыцю*. Шэбрын Брэсц.

СОЛОПЭ́Й *м. зневаж*. Салапяка. *Хлопэц добрі, алэ солопэй, рота нэ закрывае*. Махро Іван. *Роззяваты чоловек, чы солопэй*. Шылін Бяроз.

СО́ЛЯНКА *ж*. 1. Сальніца. *Солянка поўная солі*. Велута Лун. 2. Вараная пасоленая бульба. *Наша солянка смачная*. Дабучын Пруж.

СО́МЫЧ *м* Бэлька. *Вон сховав грошы за сомыч*. Боркі Пін.

СО́НОШНІК *м*. Сланечнік. *У нас усе сеюць соношнікі*. В. Малешава Стол.

СО́НЧЫК *м*. Трава сон. *Недалеко од нашого сыла ростут сончыкі*. Лінова Пруж.

СО́НЧЫКЫ *мн*. Насенне сланечніка. *Насушы на зыму сончыкув*. Ботава Пін.

СО́НЮГА *ж. пагард*. Соня. *Тыпэр шось і сонюга рано встала, чуть тылько свытаты стало*. Ляхавічы Драг.

СО́НЯНЬКО *н. ласк*. Сонейка. *Сонянько свеціць*. Плехава Івац.

СО́ПКАТЫ *незак*. Папіхаць кім-н. *Ты ім бульш ны будыш сопкаты*. Радзеж Малар.

СОПОНУ́ТЫ *зак*. 1. Кінуцца. *Сопонулы всі до хлопця, а він лэдьво дыхае*. Кустын Брэсц. 2. Нечакана таўкануць, шмыгнуць. *Як сопонэ пуд ногы хлопчык, то я злякався*. Сварынь Драг.

СО́ПУХА *ж*. Сажа. *Тра чыстыты комына, бо ужэ богато сопухы*. Жоўкіна Пін.

СОПЭ́ЛЬ I *м*. Ёрш. *У гэтом мэсці одны сопле ловаюцца*. Валішча Пін.

СОПЭ́ЛЬ II *м*. Шуфля. *Трэба было взяты сопля, ім ліпш накыдаты пысок*. Бабровічы Івац.

СОРО́ВЯТКА *ж*. Сыроватка. *Соровятку вэлыла в вэдро*. Арэхава Малар.

СОС *м*. Шаша. *На сосу стояла машына*. Ляхаўцы Малар.

СО́СУНЬКА *ж*. Мытнік. *Пушла полоты какарузу, а там одна сосунька*. Макраны Малар.

СОЎГА́ЛО *н. экспр.* Валацуга. *Соўгаеца гэтэ соўгало, оно мэшае.* Шылін Бяроз.

СОЎЯ́К *м.* Падасінавік. *Вырос хорошы соўяк, а там шчэ.* Чарабасава Лун.

СО́ХА *ж. устар.* 1. Саха. *Сохою вжэ ныхто ны орэ.* Шэбрын Брэсц. 2. Зямельны надзел. *Дві сохы — то був рыз.* Ляхавічы Драг.

СОШНЫ́К *м.* Жалезная частка сахі. *На тую соху набыты сошнык кованый.* Радзеж Малар.

СОЮ́ЗКА *ж.* Рант у абутку. *Чоботы трэба обсоюзыты союзкою.* Шэбрын Брэсц.

СПАЙНЯ́ТЫ *зак.* Злавіць. *Вэн мане не спайняў.* Велута Лун.

СПАЛАХТІ́ТЫ *зак.* 1. Згарэць. *Дрова всі спалахтілы, а груба лэдь тэпла.* Хабовічы Кобр. 2. *перан.* Закахацца. *Спалахтів хлопэць, будэ жэнытыся.* Павіцце Кобр.

СПА́ЛЕНКА *ж.* Арэх з чорнай мякаццю ў сярэдзіне. *Много спаленок на орэшыне.* Бастынь Лун.

СПАМАГА́ЦЬ *незак.* Дапамагаць. *Матуля спамагае, шчэ до того родзіна добрая.* Мокрае Пруж.

СПАРАЗА́ТЫ *зак.* Моцна і нечакана ўдарыць. *Як спаражу ёго, то будэ сыдіты дома.* Матыкалы Брэсц. *Ідэ, бо зара спаражу.* Брашэвічы Драг.

СПА́СНЫЙ *прым.* 1. Тоўсты. *Спасный мужык в тэбэ.* Корчыцы Кобр. 2. Непераборлівы ў ежы. *Спасна свіня гэта наша, добрэ, шо купілі тогды, нэ прогадалі, добра до еды, спокойна.* Шылін Бяроз.

СПЕ́РШКУ *прысл.* Спачатку. *Спершку пайду ў школу, а потым дадому.* Востраў Ганц.

СПІ́ВКА *ж.* Прамакатка. *У тэбэ кітрадь бэз співкэ.* Радастава Драг.

СПОГО́НЛЫВЫЙ, СПОГО́НЧЫВЫЙ *прым.* Злапамятны. *Сусід такый спогонлывый, гляды, оддячыть.* Рухча Стол. *Тобі некалі выкажэ, спогоныть, вэн спогончывый.* Бастынь Лун.

СПО́ДНЕ *н.* Бялізна. *Надзень сподне, бо холодно на дварэ.* Мікашэвічы Лун. *Помэняй сподне, можэ ночаваці дэ прыдэца.* Шылін Бяроз.

СПОДО́В'Е *н.* Ніжні слой сена, саломы ў стагу, скірдзе. *Сподов'е навыть ны згныло, бо добрэ пудложылы.* Хацíслаў Малар.

СПОМЫ́ЛОК *м.* Памылка. *Гэто був спомылок ёго.* Бастынь Лун.

СПОНІЦА *ж.* Спадніца. *Цепэр жэ свято, наложы новую споніцу.* Рамель Стол.

СПО́РТЫТЫ *зак.* Сапсаваць. *І гэто ж трэба, ужэ пошчы дошывала і спортыла, трэба будэ знов почынаты ́сначала.* Ляхаўцы Драг.

СПО́ТЫЧ *прысл.* Старчаком. *А там вэрэтэно спотыч стояло.* Радчыцк Стол.

СПРА́ВНО, СПРА́ЎНО *прысл.* Прыгожа, добра. *Справно робыть, хорошэ глянуты.* Корчыцы Кобр. *Вона была адзета вельмі спраўно.* Роўбіцк Пруж.

СПРА́ВЫТЫ *зак.* 1. Купіць, зрабіць. *Пальто собі справыла.* Брашэвічы Драг. 2. Знішчыць. *За місяць справыла тухлі.* Кустын Брэсц. 3. Замучыць. *Ёго справыла тая робота.* Вулька Сіманаўская Драг.

СПРЫНЖЫНІ́ВКА, СПРЫНЖЫНЫ́ВКА *ж.* Культыватар. *Спрынжынівка застрагла в коліі.* Чарнаўчыцы Брэсц. *В колхо́з прывызлы нову спрынжынівку.* Рыкавічы Жабін. *Старый пошов по спрынжынывку.* Гершоны Брэсц.

СПРЫ́ШЧЫТЫ *зак.* Здранцвець, анямець. *Спрышчыло ногу, довго сыділа.* Крамно Драг.

СПТА́ШЫТЫ *зак. экспр.* Знішчыць, тайна забіць. *І хутілы вуны ёго спташыты, забыты.* Радзеж Малар.

СПУ́ДЫТЫ *зак.* Спалохаць. *Ек мы ішлі по лісы, то мій брат гэтак спудыв неку пташку.* Ляхавічы Драг.

СПУ́ЛКА *ж.* Кампанія. *А ў спулцы ўсё лепш.* Востраў Ганц.

СПУ́СКАСТЫЙ, СПУ́СКОВАТЫЙ *прым.* Пакаты. *Той бэрог спускастый, так можно пудыйты до воды.* Гошава Драг. *Спусковатый бэрог порус травою.* Рухча Стол.

СПУ́СКАСТО, СПУ́ШЧАСТО *прысл.* Паката. *Спускасто на тому бэрэговы.* Кустын Брэсц. *Тут ростуть кусты і трохо спушчасто.* Макраны Малар.

СПУСТ *м.* Фуганак. *Прынэсэ спуста, буду дошку ровняты.* Харсы Брэсц. *Він справлев дошкі спустом.* Сварынь Драг. *У доброго майстра добры спуст.* Церабяжоў Стол. *Ловко ходыв спуст у дідовых руках.* Судзілавічы Бяроз.

СПЫТА́ТЫ *зак.* Пакаштаваць. *Возьмы ложку, спытай кашы, а то можэ забуласа посолыты.* Выжлавічы Пін.

СПЫ́ЦА *ж.* Стрэмка. *Нога напухла, бо в нозі сэділа спыца. З-за спыцы нэ можна було ходыты. Помалу, а то зажынэш спыцу в ногу.* Тышкавічы Іван.

ССМЫКА́ТЫ *незак.* Сцягваць. *Пынькы ссмыкатымуть в громады.* Вулька Сіманаўская Драг.

ССЫ́ПКА *ж.* Насыпка. *Ссыпкі ў капераціў прывезлі.* Востраў Ганц.

СТАВ *м.*, СТАВЫ *мн.* Кросны. *Батько зробыв става.* Вавулічы Драг. *Став — то вырстат старынный.* В. Лес Драг. *Мы ўчора почалі ткаці на ставах.* Восаўцы Бяроз.

СТАВО́К *м.* Козлы. *Роспылуйтэ дрова на ставку.* Высокае Бяроз.

СТАГО́ВКА *ж.* Бочка. *Цэла стаговка гуркiв.* Арэхава Малар.

СТА́ЖКА, СТЭ́ЖКА *ж.* Сцежка. *Стажка мэнэ вэвэла до дорогэ.* Арэхава Малар. *По стэжцы ходыть моць людэй.* Павіцце Кобр.

СТАМА́ЙЗА *ж.* Стамеска. *Стамайза сорвалася і ляснула коло мэнэ.* Цюхінічы Брэсц. *Уддав сусід вчора стамайзу.* Харсы Брэсц.

СТА́НІК *м.* Ніжняя вопратка без рукавоў, якую носяць дзеці, жанчыны паверх кашулі. *Вэльмэ узкый станік.* Кустын Брэсц. *Тэплого станіка пошыла малому.* Адрыжын Іван.

СТАНО́К *м.* Папярочная планка ў граблях, у якую набіва́юць зубы. *Поломавса станок в граблях. Трэба вбіті зуба в станок.* Азарычы Пін.

СТА́НЦА *ж.* Станцыя. *Пайду на станцу да поязда.* Заполле Лях.

СТАРОПО́ЛІЦА *ж.* Зямля, якая даўно апрацоўваецца. *Старополіца — удобрэные поля, вечное, домашнее поле.* Рубель Стол. *Старополыца, шчо всігда сіецца.* Лапацін Пін.

СТА́РУСТА *м.* Сват на вяселлі. *На высіллі главный дружок, а старуста юго замістітель.* Пажэжын Малар.

СТАРШУ́Н *м.* Старэйшы сын. *Гэто твій старшун?* Ляхавічы Драг.

СТАРШЯ́К *м.* Тоўсты канец бервяна. *За старшяка трэба двом браты, бо одын ны здужае.* Сіманавічы Драг.

СТАРЫ́К I *м.* Старыца. *У одном старыку воны наловылы много рыбы.* Дастоева Іван.

СТАРЫ́К II *м.* Поўня. *Зарэ вжэ старык, трэ было пудрізаты косу, як молодык був, росла б ліпш.* Судзілавічы Бяроз.

СТА́РЭЦЬ *м.* Старац. *Старці раній ходылы, просылы.* Сушытніца Малар.

СТАТОВЫ́ННЕ *н.*, СТАТОВЫ́НЫ, СТАТЫВКЫ́ *мн.* Найпрасцейшы ткацкі станок, кросны. *Статовынне дід сам робыў.* Міжлессе Бяроз. *Ткалы колысь на статовынах.* Спорава Бяроз. *Тяшко ўнысты статывкы в хату.* Папіна Драг. *Баба взяла в мэнэ статывкы.* Ляхаўцы Малар.

СТАЮ́ШКА *ж.* Дрывотня. *Паскладай дровы ў стаюшку.* Тартакі Бар.

СТЕ́ПКА, СТО́БКА, СЦЁБКА *ж.* 1. Кладоўка. *Прынясі з степкі бульбы.* Андрыянаўка Пруж. *Сході ў степку, прынесі міску гуркоў.* Хойнікі Бяроз. *Восё пойдзі ў стобку, наберы капусты.* Люсіна Ганц. *Вынысла сало в сцёбку?* Гошава Драг. 2. Прыбудова да хаты. *Летам дзеці спяць у сцёбцы.* Парасляны Пруж.

СТІН *м.* Тонкая ледзяная скарынка. *Зашэрхае вуда і робыцця стін, тонэйкый літ, такый тонэйкы, шо курыцю ны здэржыть, як будэ йты пу сцёнувэ.* Радастава Драг.

СТОВПА́К, СТОЎПА́К, СТОВПА́Н *м.* Кветканоснае сцябло. *У нашый цыбулі вылыкы стовпакы.* Бурмакі Драг. *Пошла цыбуля в стовпакі.* Хмелева Жабін. *Вырос вэлікі стовпан шчовуха.* Ляхаўцы Малар. *Стовпаны на грятцы тырчать.* Лышчыцы Брэсц.

СТОДО́Л *м.*, СТОДО́ЛА *ж.* Адрына. *В стодолах молотять.* Олтуш Малар. *В стодолу наложылы мніго жыта, довго трэба молотыты.* Кустын Брэсц.

СТО́ІТЫ *незак.* Каштаваць. *Мое пальто стоіть сто двацыть рублів.* Ласінцы Драг.

СТОЙ *займ.* 1. Гэты. *Стой чулувік вэльмо добры.* Радастава Драг. 2. Той. *Стой хлопець сыдыть у нас.* Сварынь Драг.

СТО́ЛКА, СТУ́ЛКА *ж.*, СТО́ЛОК *м.* Зэдлік. *Хай сядуць на столку.* Бастынь Лун. *Замахнулася стулкою, думае злякався.* Варацэвічы Іван. *В хаті стояв новый столок.* Чарнаўчыцы Брэсц. *Пусунь столока до стула.* Сварынь Драг. *Памянш.* с т о́ л о ч о к. *Коло пэчы стояв столочок.* Чарнаўчыцы Брэсц.

СТО́ЛКІ *мн.* Козлы. *Товстые дрова рэзалі на столках.* Першамайская Бяроз. *Прынысы столкі дрова різаты.* Кустын Брэсц.

СТОЛНЫ́ЦЯ, СТОЛНЭ́ЦА *ж.* 1. Паверхня стала. *У хаты стояв хорошы стыл з вылікыю столнэцыю.* Завялёўе Драг. 2. Шуфляда ў стале. *Добрэ, шо ў столі е столныця, можна положыты ўсякый друб'язок.* Судзілавічы Бяроз. 3. Дошка, на якой рэжуць гародніну, мяса. *Столныця зломалася, зробы нову.* Кустын Брэсц.

СТО́ЛІК *м.* Шуфлядка. *Одсунь столыка, мо туды положыла ныткы.* Заверша Драг.

СТОЛЭ́ЦЬ, СТУЛЭ́ЦЬ *м.* Гл. столка. *В хаты столэць і табурэтка.* Дружба Брэсц. *Прынысы стулэць з кухні.* Астрамечава Брэсц.

СТО́ЛЯ *ж.* Столь. *Простая столя, а хорошэ в хаті.* Харомск Стол.

СТОНО́ВКІЙ *прым.* Непраточны. *Вода там стоновка давно.* Бастынь Лун.

СТОНО́ГА *ж.* Макрыца. *Я так боюся, як убачу стоногу.* Корчыцы Кобр. *Стоног мныго у кутковэ.* Дзмітравічы Кам.

СТО́ПНЯК, СТУ́ПНЯК *м.* Кветканоснае сцябло. *Стопнякы позрываты на цыбулі нызабудь но.* Матыкалы Брэсц. *Ступнякэ на шчав'юху, на цыбулі.* Радастава Драг.

СТОПЭ́ЦЬ *м.* Слупок. *Стопці в ганку тожэ дырывлены.* Ляхаўцы Малар.

СТОРОНА́ *ж.* Застаронак. *Вжэ повна сторона снопів.* Гершоны Брэсц. *Добрый господар, вжэ в ёго повна сторона сіна.* Стаўкі Бяроз.

СТОРЧА́К *м.* Дрэва з абламанымі сукамі. *Такая лоўка яблынка була, а зараз одын сторчак остаўся.* Судзілавічы Бяроз.

СТОЯ́К *м.* Вушак. *Стояк гэты заменілі, як хату перасыпалі.* Дзераўная Бяроз.

СТОЯ́Н *м.* 1. Сухі колас у жыце. *Жыто нечого нэ уродзілос, стояноў много.* Шылін Бяроз. 2. Нязжаты колас. *Стояны осталіс на полі.* Шылін Бяроз.

СТРАБЫ́НА, СТРАМЫ́НА, СТРАМЭ́НА, СТРОМЫ́НА *ж.* Лесвіца. *Трэба поставыты страбыну да стоптаты сіно на вышкі.* Аўсямірава Стол. *Быры страмыну і лізь на стовба.* Карсынь Іван. *Прынэслы страмыну і поставылі еі до стыны.* Моталь Іван. *Зробэ нову страмэну.* Брашэвічы Драг. *Добрэ, шчо коля хаты стояла стромына, то залізлы на стрыху, ны далы вітру скінуты усю чырыпыцю.* Какорыца Драг.

СТРАМЕ́НКЫ, СТРАМЭ́НТЫ *мн.* Барвінак. *Вжэ цвытуть страменкы.* Лапацін Пін. *Страмэнты ідуть на вэнкы.* Там жа.

СТРА́ПНЭК *м.* Зрэбнае палатно нізкага гатунку. *Страпнэк — вуно нехорошэе полотно, ріткое.* Сварынь Драг.

СТРАХ *м.* Пудзіла. *В городы страха поставылы, коб*

*шворобы вышні ны обдзёбвалы.* Вулька Сіманаўская Драг.

СТРАХОПУ́Д *м.* 1. Баязлівец. *Гатой страхопуд усёго боіцца.* Брашэвічы Драг. *Такого страхопуда свет нэ бачыў.* Валішча Пін. *От боюся іхаты в поізду, ныколы ны іхала, гэткы я страхопуд.* Выжлавічы Пін. 2. Пудзіла. *Поставылы в городы страхопуда, коб гороб'і ны дёвбалы грядкы.* Матыкалы Брэсц. 3. *перан.* Незвычайна апрануты чалавек. *Волоссе надэрла, штаны наложыла, настояшчый страхопуд.* Кустын Брэсц.

СТРАХО́ЦЫЯ *ж. экспр.* Жах. *Страхоцыя була і в лісэ сыдітэ, ек нашэ сыло горіло.* Субаты Драг.

СТРАШКО́ *м.* Гл. страхопуд. 1. *Страшко твій бацько, боіцца ныччу ходэтэ.* Сварынь Драг.

СТРІ́ХА, СТРЭ́ХА *ж.* 1. Страха. *Стріху трэба вжэ ладыты.* Матыкалы Брэсц. *Вжэ нову трэба стрэху робыты або гонтамы чы жылізом крыты.* Хомск Драг. 2. Лядзяш. *Стріхы высять замэрзлы. Одломала стріху.* Радзеж Малар.

СТРО́ІЦЦА *незак.* Апранацца. *Ідзі строіцца, а я побежу.* Адвержычы Стол.

СТРО́МА *ж.* Дах. *Строму такую хорошу зробыв дятько.* Адрыжын Іван.

СТРОМЛЯ́ТЫ *незак.* Забіваць у зямлю. *Тычыкі стромляют в зэмлю.* Камянюкі Кам.

СТРО́НЭ *прыназ.* Наконт, дзеля. *Хочу у тыбэ спытаты стронэ його.* Корчыцы Кобр.

СТРОПЭ́Ц *м.* Укладка з дзесяці снапоў, мэндлік. *От хорошого стропца Зося зложыла.* Гальцы Стол. *Девять снопів поставлять, а дэсетого на шепку, то будэ стропэц.* Адрыжын Іван.

СТРО́ХНУТЫ *зак.* Зрабіцца трухлявым. *Гэтой дыль зусім строх.* Вулька Сіманаўская Драг.

СТРУ́БЫТЫ *зак. экспр.* Знішчыць. *Вжэ чэрэвыкы струбыв?* Кустын Брэсц.

СТРУГ *м.* Скобля. *Стругом скублылы жэрдку.* Гершоны Брэсц.

СТРУГА́ *ж.* 1. Мокрае месца, парослае хмызняком. *І знов корова в стругу повернула.* Першамайскі Стол. 2. Балоцістая мясціна. *Вчора паслы куровы за стругыю.* Пажэжын Малар.

СТРУГА́ТЫ *незак.* Церці. *Маты стружэ бульбу на вэчэру.* Сварынь Драг.

СТРУ́ЖЧЫК *м.* Чалавек, які апрацоўвае бярвенні.

*Зыйшлыся старыі стружчыкы, то порадять.* Макраны Малар.

СТРУЛЭ́ЧНІКЬ *м.* Сланечнік. *Струлэчнікь начынае цвістэ.* Радастава Драг.

СТРУМКОВА́ТО *прысл.* Няроўна, вузлавата. *Напредэнэ струмковато.* Олтуш Малар.

СТРУ́МКОВА́ТЫЙ, СТРУПОВА́ТЫЙ *прым.* Няроўны, вузлаваты. *Струмковатэ полотно, нэхорошэ, нэгладкэ.* Олтуш Малар. *Струповатый ручнык.* Спорава Бяроз.

СТРУ́МЭНТ *м.* Сталярскія прылады. *Добрый столяр мае добрый струмэнт.* Хмелева Жабін. *У кожного столяра е струмэнт.* Шэбрын Брэсц.

СТРУПО́К *м.* Верх, вяршыня. *Ворон на лыпыны на самому струпковы сів.* Вулька Сіманаўская Драг.

СТРУ́ЧНЫЙ *прым.* З мноствам ягад. *Агрэст того року быў стручный.* Падкраічы Бяроз.

СТРЫЖОВА́ТЫЙ *прым.* Роўны, гладкі. *Стрыжоваты доскі добры, воны бэз сукiв.* Шэбрын Брэсц.

СТРЫЖЭ́НЫСТЫЙ *прым.* З тонкім слоем абалоні. *Колысь смулу ны тягнулы, ліс був стрыжэныстый.* Пажэжын Малар.

СТРЫ́ЖЭНЬ *м.* Згустак гною ў скуле. *Хутко пройдэ чырак, стрыжэнь ужэ вылазіт.* Шылін Бяроз. *Да скулы, да стрыжня трыпутніка прыкласці трэба.* Дзераўная Бар.

СТРЫЛЕ́ЦЬ *м.* Паляўнічы. *Стрылець тылько стрыляе, остатне робят дру́гі.* Хмелева Жабін.

СТРЫЛКЫ́ *мн.* Насенне сланечніка. *На базары шклянка стрылок двацдэть копеёк.* Дубраўкі Драг. *Мы высушылы много стрылок.* Заверша Драг.

СТРЫПА́Ч *м.* Мера валакна, дзве-тры жмені. *Дэсыть стрыпачів, то повысмо.* Адрыжын Іван.

СТРЫ́ШАЛЬНЫК *м.* Край страхі, што навісае над сцяною. *Воны сховалыся од дошчу под стрышальнык.* Ляхаўцы Малар.

СТРЭ́НЧЫТЫ *незак.* Настойліва раіць. *Гэто ж сусідка так ёму стрэнчыла.* Судзілавічы Бяроз. *Стрэнчыла ёму пойці сёгонь, хай бы послухаў.* Шылін Бяроз.

СТУ́БЛО *н.* Невялікі вадаём. *Коло нашого сыла е нывылыке стубло.* Вулька Дастоеўская Іван. *Стубло було такое глыбокэ, шо ціла носілныця хавалася.* Бабровічы Івац.

СТУГОНІ́ТЫ *незак.* Грукатаць. *Нідэ далэко шлы бої, блыскало, прыложыш ухо до зэмлі, стугоныть. Да нэ стугоны ты так, дытя спыть!* Каўбы Пін.

СТУЖІТЫ *зак.* Трошкі зацвярдзець, падшэрхнуць. *Врано крохэ стужіло, можна пройты.* Сварынь Драг.

СТУЗАТЫСЯ *незак.* Бегчы ад перапуду. *Як то тыі овэчкы, шо то стузаютця. Чоловік як налякаетця, кажуть, шо стузався.* Радзеж Малар.

СТУЛЮВАТЫ *незак.* Набліжаць адно да другога. *Стулюіш пэрода і спынку, сшываеш.* Сварынь Драг.

СТУЛЯНКА *ж. устар.* Пілотка. *Хлопыць був у стулянцы.* Пажэжын Малар.

СТУРЗАЦІ *зак.* Расскубці. *Трэба воўну стурзаці, бо почну ужэ прасці, хочу шкарпэткі выўязаці хлопцові.* Шылін Бяроз.

СТУС *м.* Яма для бульбы. *Чуць ек у стус не ўваліўса.* Альгомель Стол. *Два стусы картоплёў на зіму закопалі.* Цераблічы Стол. *Мой чоловек вукопаў стуса, шчоб захаваць на зіму картоплі.* В. Малешава Стол.

СТЫГНЯК *м.* Кумпяк. *Удріж стыгняка гостюм.* Дарапеевічы Малар.

СТЫДОТТЕ *н. экспр.* Сорам. *Стыдоття наробыла на всё сыло.* Кустын Брэсц.

СТЫЙКА, СЦІЙКА *ж.* Прыстасаванне, у якое ставяць малое дзіця. *Дід зробыв стыйку малому.* Заверша Драг. *Сційку постав на зэмлю, а то шчэ дытя впадэ.* Гальцы Стол. *Памянш.* с т ы е ч к а. *Дытя стоіть у стыеччы.* Ляхаўцы Малар.

СТЫЛО *н.* Стойла. *Загнала тэлушку на стыло.* Ляхаўцы Малар.

СТЫПІРЬЕ, СТЫПЫРЬЕ, СТЫПЫРНЕ, СТЫПЭРЬЕ *н.* Пер'е цыбулі, часнаку. *Быжы нарвы стыпірья.* Дубіца Брэсц. *Стыпырье було зылёнэ.* Макраны Малар. *Наломаю стыпырня цыбулі.* Хмелева Жабін. *Стыпэрье часныку мы ны імо.* Ляхаўцы Малар.

СТЭ *займ.* Гл. сітэ. *Стэ відро люмінювэ.* Гаравіца Драг. *Стэ мні всё вдома е.* Сварынь Драг. *Стэ дэрэво я пусадэв.* Радастава Драг.

СТЭБЭЛІНА, СТЭБЭЛЫНА *ж.* 1. Сцябло. *Стэбэліна тоўста у лебэдзе, трэба вырэзваці ножом, ужэ нэ прополем картоплі.* Шылін Бяроз. *Стэбэлына добра, а картопэль ныякый.* Судзілавічы Бяроз.

СТЭГНО, СЦЕГНО *н.* Гл. стыгняк. *Смачнэ стэгно, той розыйшлося хутко.* Судзілавічы Бяроз. *Сцегно заправіла, да у соль положыла.* Бастынь Лун.

СТЭЖАР, СТЭЖОР, СТЭЖЭР *м.* 1. Стажар'е. *Шоб ны стэжар, то зусім мышы солому поілы б.* Махро Іван. *Ох,*

*і вэлыкый стэжор. На его можна класты сорок копыц сіна.* Гарадная Стол. 2. Жэрдка, вакол якой кладуць стог. *Поставэлэ стэжэра сыно стоговатэ.* Дзмітравічы Кам.

СТЭЛЬВА́ГА *ж.* Стальвага. *Стэльвага чэпляецца до дышла.* Хацісла́ў Малар.

СТЭ́ЛЫШЧЭ *н.* Месца, дзе сцелюць лён. *Лён лыжыть на стэлышчы.* Шэбрын Брэсц. *Стэлышчэ — то сенокосы скосілі, лён сцелюць.* Рубель Стол.

СТЭМП *м.* Прыбіральня. *Сходзі до стэмпу, бо дорога вэліка.* Рубель Стол.

СТЭНУ́ТЫСА *зак.* Скалануцца. *Проняло, аж стэнувса, а він хоч бы шчо.* Каўбы Пін.

СУБА́ЧКІ *мн.* Званец (кветкі). *В угуроды русцвылі субачкі.* Камянюкі Кам.

СУБАЧЭНЯ́ТКО *н. ласк.* Сабачаня. *Коло субакі булы маленькы субачэнятка.* Макраны Малар.

СУВА́ЛОК *м.* Скрутак палатна. *Побілять і покачають сувалок і полотно готовое.* Ляхавічы Драг. *В мынэ шчэ е дэсыть сувалок полотна.* Макраны Малар.

СУ́ВОРОТЫ *мн.* Заварот. *Як доходю до краю борозны, то суворoты.* Ґарадная Стол. *Суворoты робы акуратно.* Каўбы Пін.

СУВУ́ЙКА *ж.* Гл. сувалок. *Як у повуйцы, так як у сувуйцы.* Здзітава I Бяроз.

СУВЯ́ЗОК *м.* Звязка. *Сувязок — то пувкупы, тріцэть повісом.* Здзітава I Бяроз.

СУГЛЯ́ДЫ *мн.* Агледзіны. *Вчора булы сугляды у мэі сусідкі.* Казловічы Брэсц.

СУ́ДАЧКІ *мн.* Вузкі праход паміж будынкамі, адлегласць паміж хатамі. *Праз гэтыя судачкі можна было прайсці толькі аднаму чалавеку.* Галоўчыцы Пруж.

СУДАША́ЦІ, СУДОША́ТЫ *незак.* Сустракаць. *Вона пошла судашаці мацеру.* Сухопаль Пруж. *Дэ ж мынэ маты частоваты будэ? Дэ ж мынэ маты судошаты будэ?* Дубраўкі Драг. *Вона ходыла судошаты сына.* Высокае Бяроз.

СУ́ДНЫК *м.* Шафа для посуду. *Поставым судных вунацькы там коло вокна.* Церабяжоў Стол.

СУДОСЫ́ТЫ, СУДОСЭ́ТЭ *зак.* Сустрэць. *Побыжы маму судосы з роботы.* Корчыцы Кобр. *Судусэтэ кугось там.* Радастава Драг. *Добрэ судошаты, судосэтэ можна, а провожаты тяжко.* Судзілавічы Бяроз.

СУКА́ЛО *н.* Прыстасаванне для навівання нітак. *Дэ ж будэ взяты сукало.* Камароўка Брэсц.

СУКА́Ч *м.* Тое ж. *Сукач стоев на лавце.* Арэхава Малар.

СУ́КНЯ *ж.* Сукенка. *Мы кажэм сукня, а молодыі скажуть платте.* Ботава Пін. *Одзень гэту сукню.* Кароцічы Стол. *Хороша сукня в гэтоі дейкі.* Велута Лун.

СУ́КРАК *м.* Вузел на нітцы. *Нытка вельмі перекрутылаcа, сукраков много.* Хваросна Пін.

СУ́КРУТ *м.* Тое ж. *Знов сукрут скрутывся.* Орлавічы Драг.

СУ́КРУТКА *ж.* Тое ж. *Сукрутка можэ скрутытыса, ек мотаеш.* Адрыжын Іван.

СУСНЫ́НА *ж.* Сасна. *Суснына рустэть на пысковы.* Макраны Малар.

СУ́ТКІ, СУ́ТКЫ *мн.* Гл. судачкі. *У нашой вёсцы суткі зусім малые.* Люсіна Ганц. *Суткы булы малыі, навот віз ны пруходыть.* Пажэжын Малар.

СУТУНІ́ТЫ *незак.* Змяркацца. *Ужэ сутуніе.* Ялач Драг. *Рано сутуніе вжэ.* Радастава Драг.

СУ́ФІТ, СУФЭ́Т *м.* Столь. *У комнаце пакрасілі суфіт.* Навасёлкі Бар. *Суфэт був аж чорный од сажы.* Харсы Брэсц.

СУХАПА́РАМ *прысл.* Хутка. *Як ты так ходзіш сухапарам.* Навасады Бар.

СУХА́РЫК *м.* 1. Коржык. *У сухарыкі іец наб'юць богато і сметаніны нальецца.* Харомск Стол. 2. Сухі нараст па краях бохана. *Дай одломню сухарыка од хліба.* Спорава Бяроз.

СУХАРЭ́БРЫК *м. экспр.* Вельмі худы чалавек. *Унь пайшоў такі ж сухарэбрык.* Слабажаны Бар.

СУХІ́ *прым.* 1. Нішчымны. *Варым сухыі картоплі.* Ляхавічы Драг. 2. Не тлусты. *Сухое мнясо.* Адрыжын Іван.

СУХО́ПАРКАМ, СУХО́ПАРКОМ *прысл.* Сухама. *Мусыть, сухопаркам пырыбулы, покуль мама прыіхала.* Стаўкі Бяроз. *Жінка ёму сніданне ныколы ны варыть, сухопарком поісць і побіг на роботу.* Валішча Пін.

СУХО́ПЭРКА *ж.* Бульба, зварaная з лупінамі. *Люблю есці сухопэрку з молодым гурком.* Лінова Пруж.

СУХО́ТА *ж.* Сухоты. *Каб на цебе сухота напала.* Велута Лун.

СУХО́ТНІК *м.* Бяссмертнік. *В городы рослы сухотнікы.* Астрамечава Брэсц.

СУХО́ТНЫК *м.* Старасцень (лекавая трава). *Напылася сухотныку і удразу пуліпшало.* Макраны Малар.

СУХЫ́НЫ *мн.* Высокае сухое поле. *Шо там вродыцця, то ж сухыны.* Літоўск Драг.

СУ́ЧКА *ж.* 1. Невялікія санкі. *Діты до самого вэчура спускалыся з горы на сучцы.* Моталь Іван. *Мы з сучкамы пошлы в ліс по дрова.* Карсынь Іван. 2. Падсанкі. *Як вэзуть дэрэво, то на сучці.* Здзітава I Бяроз. *Сучку прычэпіў до саней.* Велута Лун. *Прывяжы сучку до санок, будэм возэтэ ліс.* Дзмітравічы Кам. 3. *перан.* Від гальштука (бабачка). *Лёня сам зрабіў сучку до рубахі.* Дабучын Пруж.

СУЧО́К *м.* Вузел. *Завяжы міцно сучка.* Рагозна Брэсц.

СУША́ЛЬНЯ *ж.* Сушыльня. *У сушальні сохнув лён.* Ляхаўцы Малар.

СУ́ШЧЫК *м.* 1. Акрайчык. *З'іш сушчыка, у тэбэ здоровэ зубэ.* Павіцце Кобр. 2. Сухарык. *Сёні ў лаўку сушчыкоў прывезлі.* Любань Лун.

СУШЬ *ж.* Вашчына. *Ставлю в вабнык сушь для прыманкы.* Радзеж Малар.

СХА́ВАНЬ *ж.* 1. Захаванне. *Отдам тобі грошы на схавань.* Корчыцы Кобр. 2. Месца, дзе хаваюць што-н. *Знайшла дэ зробыты схавань.* Корчыцы Кобр.

СХВА́НУТЫ *зак.* Схапіць. *Схванув чоловіка за руку.* Радзеж Малар.

СХЛЯ́БЛЫ *прым.* З апалымі бакамі (пра жывёлу). *Твоя корова вэльмі схляблая.* Гершоны Брэсц.

СХОЛО́НУТЫ *зак.* Ахаладаць. *Вжэ суп зусім схолонув, а він сыдыть за кніжкою.* Кустын Брэсц.

СХРОН *м.* Сховішча. *В вуйну хувалыся уд бумбёжкы в схрон.* Кавалікі Кам.

СХУ́НЯ *ж.* Палатняная торба для зерня, з якой сеялі ўручную. *Со зрэбного полотна шылі схуні, з іх сеялі.* Бастынь Лун.

СЦЕЖАРО́К *м.* Танцпляцоўка. *Усю ноч на том сцежарку скакалі.* Цераблічы Стол.

СЦІ́БРЫТЫ, СЦІ́БРЫТЭ *зак. груб.* Украсці. *Гляды, коб діты нычого ны сцібрылы.* Кустын Брэсц. *Глядэ, шоб в тыба грошэ ны сцібрылэ.* Субаты Драг.

СЦІ́РКА *ж.*, СЦІ́РОК *м.* 1. Ручнік для посуду. *Пудай чысту сцірку.* Корчыцы Кобр. *Возьмы сцірок і вытры ложкі.* Лоўча Лун. 2. Ануча. *Сцірком маці муе подлогу.* Давыд-Гарадок Стол.

СЦЮ́РТА *ж.* Сціpта. *Вы будзяце салому вазіць, а Костусь у сцюрту кідаць.* Падлаззе Лях.

СЦЯНКУ́ВКА *ж.* Печка. *Трэба руспалыты сцянкувку.* Ваўкаставец Кам.

СЧО́ВГАТЫ, СЧО́ВГАТЭ *зак. неадабр.* 1. Стаптаць, счасаць. *Счовгав вжэ чэрэвыкы.* Корчыцы Кобр. 2. Затаптаць падлогу. *За дань счовгалэ пудлогу, траба знов мэтэ.* Субаты Драг.

СЫБА́ *часц.* Няўжо. *Сыба ты ныц ны чув?* Трудавая Іван.

СЫВА́К *м.* Саматканая спадніца. *Тыпер ны ткут сывакы.* Аркадзія Брэсц.

СЫ́ВЫ *прым.* Шэры. *В тэбэ е сыва вовна?* Хмелева Жабін.

СЫ́ДЛЫСКО *н.* Сядзіба. *У Якова на сыдлыскові добрэ ростэ сад.* Залессе Кобр.

СЫДУ́Н *м.* Сорт бобу. *Біб на тычках — тычковы, а быс тычок — сыдун.* Камянюкі Кам.

СЫ́ЛНО *прысл.* Густа. *Сылно сніг ідэ, ны выйты.* Сушытніца Малар.

СЫ́ЛНЫК *м.* Прыбудова для сена. *Зробыв сылныка, а він згорів.* Саха Драг.

СЫЛОМІ́ТТЮ *прысл.* Нахабна, надакучліва. *Сыломіттю лізэ в очы, хоч ты стуй, хоч падай. Дэ просьбою, дэ грозьбою, а дэ сыломіттю, а возьмэ, ны впустыть свого.* Каўбы Пін.

СЫЛЯ́ГА *ж.* Тонкая лаза. *Однэі сылягы віз прывіз.* Гальцы Стол. *Дубці в мэнэ е, трэба шчэ сылягы нарізаты і можна плэсты коші.* Каўбы Пін.

СЫМНЕ́ *ж.* Сям'я. *Вэлыкая сымне наша.* Карсынь Іван.

СЫНО́ВЫЦЬ, СЫНО́ВЭЦЬ *м.* Пляменнік. *У госты до нас прыіхав сыновыць.* Белін Драг. *Своіх хлопцув ныма; то сыновэць помагае дроў прывызты.* Судзілавічы Бяроз.

СЫРДА́К *м.* Кош. *Брат прыніс з лісу повный сырдак грыбів.* Трудавая Іван.

СЫРО́ВАТНІК *м.* Суп на сыроватцы. *Сыроватнік бывала варылі, то кідаем крупу у сыроватку.* Харомск Стол.

СЫРОІ́Д *м.* Гатунак бобу. *На ранок наварэлы сыроіду.* Дружба Брэсц.

СЫРОІ́Ж *м.* Сыраежка. *Прошов дошч, то будуть сыроіжы.* Зарэчка Драг.

СЫРОМІ́ТЬ *прысл.* Амаль дарма. *Зайшов якыйсь одур в голову, сыроміть оддала півня.* Пескі Кобр. *Задурылы голову, сыроміть добру вовну оддала.* Судзілавічы Бяроз.

СЫРПА́НОК *м.* Белая хустка. *Дывчаткы жнут жыто в сырпанках.* Пяшкова Іван.

СЫСЬКА *ж.* Матачнік. *Сыська вжэ вэлыка, гляды, коб нэ выйшла матка, а то будуть роітыся пчолы.* Ланская Малар.

СЫТА́ *ж.* 1. Вада з мёдам. *От чэцверга до суботы нічого не кушаюць, толькі тую сыту. У цёпленькой водзе росколоцяць мёду і п'юць.* Харомск Стол. 2. Страва з кавалачкаў хлеба, пакрышаных у салодкую ваду. *Сыта смачная, діты еі раній любылы, топіро то чоколад, то цукеркі.* Хмелева Жабін. 3. Страва з цёртага канаплянага семя. *Высушыла коноплі, потовкла, розвэла на воде, то зовэм сыта. Варымо шэ гороховую сыту на помінкі.* Бастынь Лун.

СЫТНЫ́К *м.* Чарот. *Муй батько накусыв хвуру сытныку.* Макраны Малар. *У нас на берозі мнуго сытныку. Діты його рвуть і ідять.* Спорава Бяроз.

СЫТЫ́Й *прым.* 1. Тлусты. *Як зварыш з доброго мяса, то сытый борщ, хоч стань на том борщу.* Харомск Стол. 2. Адкормлены, тоўсты. *Сыты гэты чоловік, а був жэ худызны.* Матыкалы Брэсц.

СЫ́ЧЫКІ *мн.* Смажаная бульба. *Добрые цепер сычыкі, аж хрусцяць.* Любань Лун.

СЭКА́Ч *м.* 1. Сякач. *Возьмы сэкача і посэчы коровам бураків.* Гальцы Стол. 2. Прылада капаць бульбу. *Сэкач буў тупы, ны ішоў у землю.* Баравікі Лун.

СЭЛЮХ, СЭЛЯХ *м.* Качар. *То качка, а то сэлюх.* Сварынь Драг. *Сэлях дэсь отстав, качкы коло хаты, а його ныма, коб машына ны забыла.* Барычэвічы Пін.

СЭ́РЦА, СЭ́РЦЭ *н.* Стрыжань. *Сэрца ў карандашы зламалася.* Дзераўная Бар. *Вырвалі моркву, а ее усэ сэрцэ потрухляло.* Хваросна Пін.

СЯВКОТІ́ТЫ *незак.* Пішчаць. *Малыі гусынята сявкотять, гусыня сявкотыть.* Радзеж Малар.

СЯХОТІ́ТЫ *незак.* 1. Бліскаць. *Дывыся, як шось сяхотыт.* Чвіркі Кам. 2. Блішчаць. *Брошка аж сяхотыть.* Кустын Брэсц.

СЯХОТНЯ́ *ж.* Маланка. *Цілу ныч сяхала сяхотня.* Чвіркі Кам.

С'Я́ЧЫК *м. устар.* Брошка. *Вона прышпіліла на свою сукенку с'ячык.* Рубель Стол.

15. Зак. 3716

# Т

ТАБАРЭ́ЗІК *м.* Табурэтка. *Каля стола стоялі два табарэзікі.* Мазуркі Лях.

ТАБАРЭ́ТКА, ТУБАРЭ́ТКА *ж.* Тое ж. *Дзед зрабіў прыгожую табарэтку.* Тартакі Бар. *Пуломаную тубарэтку спалылы.* Клейнікі Брэсц.

ТАВА́Р, ТОВА́Р *м., зборн.* 1. Каровы. *Зайтра нам товар пасці.* Цераблічы Стол. *У нашум колхозі тэпэр добры товар годуецца.* Церабяжоў Стол. *На прыёмны пункт прывелі багато товару.* Сямігосцічы Стол. *Сэргій с Хвэдором пасвылы товар.* Боркі Пін. *У недзелю я пасціў товар.* Чарабасава Лун. *Зара будзе цепло да погонём товар пасьціць.* Велута Лун. 2. Свойская жывёла наогул. *Товар стаў на стойло, бо выпаў снех.* Купаўцы Лун. *А тавару ў мяне мала ў хлеве.* Малахоўцы Бар.

ТАКВЕ́ЛЯ *прысл.* Столькі. *Сёння ён спаў таквеля як учора.* Мазуркі Лях. *Чакаць таквеля я не згодна.* Навасёлкі Бар.

ТА́КМАН, ТА́КМАНЬ *прысл.* Цяпер, нядаўна. *Такман я была в лавцы.* Навасёлкі Пруж. *Такмань ездзіў я дамоў.* Скорцы Пруж.

ТАКІ́ВСЬКЫЙ *прым.* Найбольш зручны ў дадзены момант. *Ныма в мынэ таківського ножыка.* Вулька Сіманаўская Драг.

ТА́ЛЕЖ *м.* Талерка. *На столі стояв повный талеж картоплюв.* Трудавая Іван.

ТАЛІ́РОК *м.* Тое ж. *Я рузбыв талірок.* Ваўкаставец Кам.

ТАЛО́К *м.* Натоўп. *Калі распісвалі маладых, то людзей цэлы талок сабраўсё.* Слабажаны Бар.

ТАЛЭПА́ *ж.* Месца, крыху прыкрытае снегам. *Вэсною місцямэ йіхав пэском, місцямэ талэпою.* Арэхава Малар.

ТАЛЁХАТЫ *незак.* Абгаворваць. *Цэлы дэнь оно й знають, шчо языком талёхаты.* Валішча Пін.

ТА́МАКА, ТА́МЭКА *прысл.* Там. *Тамака было многа людзей.* Зубелевічы Лях. *Тамэка оно одна корова ходыла.* Валішча Пін.

ТА́МАЧКА, ТА́МЕЧКА *прысл.* Тое ж. *Тамачка ля лесу почынаецца канава.* Дзяніскавічы Ганц. *Тамечка за речкою вельмі хорошее месцэ.* Навасёлкі Пруж.

ТА́МБУР *м.* Падстаўка для вядра каля калодзежа.

*Вядро з вадой заўсёды стаяла на тамбуры, які зрабіў сам дзед.* Квасевічы Івац.

ТА́МДЗЯКА *прысл.* Гл. тамака. *Тамдзяка стаяў партызанскі атрад.* Квасевічы Івац.

ТАРАБА́Н *м.* Кош, сплецены з дранкі. *Дзед назбіраў поўны тарабан грыбоў.* Альшаны Стол.

ТАРАГНІ́ЦЬ *незак. экспр.* Хутка ґаварыць. *Не тарагні гэтак.* Велямічы Стол.

ТАРАДА́ЙКА *ж.* Кошык з сасновай дранкі. *Цэлу тарадайку ягод набрала.* Велямічы Стол.

ТАРАНДІ́ТЫ *незак. экспр.* Балбатаць. *А баба тая нэ кончае тарандіты: тарандыть і тарандыть.* Радзеж Малар.

ТАРАНО́ЎКА, ТАРНО́ВКА, ТЭРНО́ВКА *ж.* Шарсцяная хустка ў кветкі. *Трэба завязаць тараноўку ў цветы.* Цераблічы Стол. *І дзе воны достаюць такіе тараноўкі?* Альгомель Стол. *Зав'яжэ тарновку — вона тобі до твару.* Ладараж Пін. *Нывістка купыла білу тэрновку.* Бярозавічы Пін.

ТАРГА́НКА *ж.* Конная малатарня. *Жыто молотять на тарганцы.* Камянюкі Кам.

ТАРКОВА́ТІ *незак.* Церці на тарцы. *Мам, ты будзеш тарковаті картоплю на тарцы?* Сінкевічы Лун.

ТА́РНЫЦЯ, ТЭ́РНЫЦА, ТЭ́РНЫЦЯ *ж.* Прылада для апрацоўкі лёну. *Матруна тарла тарныцію лён.* Перавысь Малар. *У нас тэрныцою ужэ мало колы лён труть.* Гальцы Стол. *Лён обробляють тэрныцею.* Шэбрын Брэсц. *На тэрныцы тэрлы, а трыпачкою трыпалы.* Ладараж Пін.

ТАРПА́ *ж.* Торф. *Тарпою слаўна паліць у печы.* Плехава Івац.

ТАРПАТЫ́Н *м.*, ТАРПАТЫ́НА *ж.* Шкіпінар. *Гарэлкі з чаём выпіў, спіну тарпатыном нацерлі, й кашэль прайшоў.* Магіліцы Івац. *Дай я тобе ногі натру тарпатыною.* Мазуркі Лях. *Пах тарпатыны.* Навасёлкі Бар.

ТАРПЕ́ЛЬНЯ *ж.* Яма пасля торфу. *Выкапалі тарпельню глыбокую.* Навасады Бар

ТАСЫНУ́ТЫ *зак.* Пхнуць. *Тасынув ёго за руку.* Вулька Сіманаўская Драг.

ТАТОВЫ́НА *ж.* Націнне. *Татовыну на бураках трэба позрываты.* Краі Івац.

ТАТУ́СЬ *м.* Хросны бацька. *У нас добры татусь.* Цераблічы Стол.

ТА́ХАТЫ *незак.* 1. Узбоўтваць. *Крохі потахай цэбра, бо насподы будэ муля.* Сіманавічы Драг. 2. Стукаць,

біцца. *Прыбіглы на пужар, сэрцэ тахае, кажыця, зара выскучыть.* Пажэжын Малар.

ТАШЧЫТЫ *незак.* Выбіраць бульбу рукамі. *Завтра будэм ташчыты картоплы.* Бездзеж Драг.

ТЁСКА, ТІСКА *ж.* Лучына. *Трэба тёскі наколоты.* Валішча Пін. *Дай гэту тіску, можэ ёю грубу пудпалю.* Багданаўка Лун.

ТІК, ТОК *м.* Гліняная падлога. *Тік у хаты вымазаный жовтою глыною.* Ласкі Малар. *На току молоцілі горох.* Калоднае Стол.

ТІЛЬНАЯ *прым.* Цельная. *Твоя корова тільная.* Гершоны Брэсц.

ТКАЛЯ *ж.* Ткалля. *Тожэ мне ткаля знайшласа.* Валішча Пін.

ТКАНКА *ж.* Вытканая хустка. *Тканок тыпэр нэ носять.* Кустын Брэсц.

ТКАТЫ *незак.* Ткаць. *Дай мэні става кросна ткаты.* Сварынь Драг. *Ткаты половікі лёхко.* Валішча Пін.

ТКАТЫСА *незак.* Ткацца. *Як добрэ ўсэ наладяно, дак і ткатыса будэ добрэ.* Валішча Пін.

ТКАХА *ж.* Ткалля. *Ткаха Ганна выткала чорнэ сукно.* Ляхаўцы Малар.

ТКОЛЕ *часц.* Ка, тка. *Сходы-тколе ў магазін.* Боркі Бяроз. *Прынэсі-тколе дроў до грубы.* Валішча Пін.

ТЛА-ТЛЯНО *прысл.* Вельмі мокра, сыра. *Дошч, роса і стало тла-тляно.* Падкраічы Бяроз.

ТЛУМАК *м.* Клунак. *У поныділок выйшла замуж, у вовторок набулась, у сырэду за тлумак дай додому подалась.* Карсынь Іван.

ТОБТОМО *мад. сл.* Напэўна. *Тобтомо, вэліка вода будзе цепэр.* Кароцічы Стол.

ТОВДІ, ТОВДЫ, ТОГДЕ *прысл.* Тады. *Товді було ны так, ек зары.* Вавулічы Драг. *Товды мы повставалы рано.* Перавысь Малар. *Нэ було колі тогде розбіратыса.* Валішча Пін.

ТОВКАНЫЦЯ, ТОВКАНЭЦЯ, ТОЎКАНІЦА *ж.* Тоўчаная бульба. *Я зварыла товканыцю.* Пажэжын Малар. *Тыпер була смачна товканыця.* Сулічава Драг. *Товканыцю діты ілы з охвотыю.* Вавулічы Драг. *На столі стояв горшчок товканэці.* Туляцічы Іван. *Тоўканіца вэльмі смачная з катлетамі.* Панасавічы Бяроз.

ТОВКЕНЯ, ТОВКЭНЯ, ТОЎЧЭНЯ *ж.* Тое ж. *На вичэру маты подала товкеню.* Высокае Бяроз. *Мы седзелі за столом і елі товкеню.* Альшаны Стол. *Господыня*

*поставыла на стул мыску товкэні.* Белаазёрск Бяроз. *На вычэру мы елі тоўчэню.* Цераблічы Стол.

ТОВКТЫ́, ТОЎКТЕ́ *незак.* Таўчы. *І просо, і сім'я, і шо ны товкуть, всэ сюда товкты.* Олтуш Малар. *Тоўкачом тоўкте просо.* Валішча Пін.

ТОВСТЫЛЮЗНЫЙ *прым.* Вельмі тоўсты, таўшчэзны. *Така товстылюзна колода.* Рухча Стол.

ТОВЧ *м.* Шалупінне з проса. *З проса товч остаецця, колы обдыраюуть.* Радзеж Малар.

ТО́ВЧА, ТО́ЎЧА *ж.* Гл. товканыця. *Тыпар мы варэлэ товчу.* Завялёўе Драг. *Товчэ вэльмэ смачна.* Ласінцы Драг. *Дзеці селі за стол есці тоўчу.* Мікашэвічы Лун.

ТОК, ТУК *м.* 1. Тлушч. *У магазіне ўсякі ток есць.* Любань Лун. 2. Тлушч са смажанага сала. *Ток с сала постав на полыцю.* Ляхавічы Драг. *Він вмокав картоплі в тук.* Пугачова Брэсц. *Много було туку.* Гута Брэсц.

ТОКМАЧІ́, ТУКМАЧІ́, ТУКМАЧЫ́, ТУМАЧІ́ *мн.* Гл. товканыця. *Токмачі булы тэплы.* Бухавічы Кобр. *Тэпэр матэ наварэла смачных тукмачів.* Гаравіца Драг. *Йіш тукмачі, пока горячы.* Макраны Малар. *Бульбу мнуть тухвачіком, дубавляють туда жіру і пулучаюцця тукмачы.* Радастава Драг. *Во, мо пойісэ, йекрас і тумачі готовэ.* Закозель Драг.

ТОЛОКА́ *ж.* Выган. *Коров погналы на толоку.* Знаменка Брэсц.

ТОЛО́ХАТЫ *незак. асудж.* Балбатаць, малоць языком. *На гуліцы толохае езыком.* Падкраічы Бяроз.

ТОЛЫНА́ *ж.* Ператаліна. *Толына вжэ травою поросла.* Радзеж Малар.

ТОП *ж.* Багна. *Там такая топ, шчо нэ пройте, коровы провальваюцца.* Валішча Пін.

ТОПІ́ТЫ, ТОПЫ́ТЫ *незак.* Паліць у печы. *Пора ўжэ ў пэчэ топіты.* Валішча Пін. *Я вжэ топыла.* Гершоны Брэсц.

ТОПОРЫ́СКО *н.* Тапарышча. *Трэба насадыты сокеру на топорыско.* Падкраічы Бяроз.

ТО́РБА *ж.* 1. Сумка. *Я тобі положыла в торбу сало і хліб.* Церабяжоў Стол. 2. Клінок для вырабу сыра. *Прынэсі торбу, будэмо сыр робіты.* Хваросна Пін.

ТОРЗУНУ́ТЫ *зак.* Тузануць, тарганаць. *Торзунув його за рукав.* Рухча Стол.

ТО́РКАТЫ *незак.* Упікаць, дакараць, лаяць. *Хай бы юй ужэ торкалы, а Йвана ны чыпалы.* Радзеж Малар.

ТОРОДЫ́НКА *ж.* Металічны хамуцік, якім замацоў-

ваецца перадок воза. *Суголовок і тородынкі з воза, тородынкамы суголовок до осе прыкрэпляецца.* Падкраічы Бяроз.

ТОРОЧКЫ *мн.* Завязкі ў навалачцы. *Так хутко торочкы поодрывалыся, шо трэба знов прышываты.* Мінянка Кобр.

ТОРО́ЧЫТЫ *незак.* Даказваць. *Всэ торочыла, шо так добрэ зробыла.* Кустын Брэсц. *Хватыть торочыты однэ і тэе.* Валішча Пін.

ТОРП *м.* Сцірта. *Людзі аж до поту робілі на торпе.* Мокрае Пруж.

ТРА, ТРЭ *мад.* Трэба. *Тра було йты тобі шчы вчора на тую роботу.* Багданаўка Лун. *Трэісці ў магазін хлеба ўзяць.* Заліпенне Лях. *Кому трэ було, той дайно нашоў, чым города згораты.* Хваросна Пін.

ТРАВЛЯНЫЙ *прым.* Травяністы, з травою. *Травляноі соломы прывіз.* Рухча Стол.

ТРАПЕ́НЯЦ *м.* Неспакойны, хуткі ў дзеяннях чалавек. *Яны ў сям'і ўсе такія. Адзіны сынок і той трапеняц.* Гарадзішча Бар.

ТРАПІ́ЛА *н.* Трайня. *У гэтым возе новае трапіла.* Ласасіна Пруж.

ТРАПКА́Ч, ТРЭПКА́Ч *м.* Невялікі льняны ручнік. *На гвоздзіку вісыв трапкач.* Семяховічы Пін. *Узяла трэпкача стола вытэрты.* Валішча Пін.

ТРАПЛО́, ТРЭПЛО́, ТРЭПА́ЛО *н.* Трапло. *Трапло хутка мільгала ў руках жанчыны.* Калоднае Стол. *Трэпло було новэе, оно шчо зроблянэе.* Валішча Пін. *Трэпалом лён трэплють.* Хваросна Пін.

ТРАПУ́НОК *м.* Нечаканы выпадак. *Шо в тыбэ за трапунок?* Сіманавічы Драг.

ТРАПЯТУ́ХА I *ж.* Варэнік з бульбы, начынены мясам. *Мама прыгатавала трапятухі.* Дзяніскавічы Ганц.

ТРАПЯТУ́ХА II *ж.* Рухавая жанчына. *Чаго ты, трапятуха, спяшаеш? Каб усё акуратненька, памаленьку, то больша польза була б.* Востраў Ганц.

ТРАПЯЦІ́НА *ж.* Шкіпінар. *Трапяціною помажу.* Вялікая Гаць Івац.

ТРАСЫЛЭ́ВЫНА *ж.* Дрыгва. *Корова ўлезла ў трасылэвыну.* Навасёлкі Кам.

ТРАХОТУ́НКА *ж.* Матацыкл. *Брат купыв собі трахотунку.* Пугачова Брэсц.

ТРАЧ *м.* Чалавек, які распілоўвае дрэвы. *Мы наймалы трачув трачоваты ліс.* Казловічы Брэсц.

ТРАЧКУВА́ТЫ, ТРАЧУВА́ТЫ *незак.* Распілоўваць бервяно ўздоўж. *Сусіт просыть пумугчы юму трачкуваты ліс.* Дубіца Брэсц. *Завтра будым трачуваты гэту кулодку.* Ваўкаставец Кам.

ТРАЧЫ́НА *ж.* Пілавінне. *На лесопілцы купамы лыжала трачына.* Пугачова Брэсц.

ТРЫБУ́Х *м.* 1. Страўнік. *У коровы заболів трыбух.* Гершоны Брэсц. 2. Вантробы. *У мынэ в жывоті пырывырнулыся ўсі трыбухы.* Ляхавічы Драг. 3. Сальцісон. *Прыходь до нас трыбуха есты.* Валішча Пін.

ТРЫБУХА́ТЫЙ *прым.* З вялікім чэравам. *Такая корова трыбухатая.* Гершоны Брэсц.

ТРІ́СКА *ж.* Трэска. *Тріска лежала на дорозі.* Сушытніца Малар.

ТРІ́СТКА *ж.* Трысцінка. *У бэрду поломалось дві трісткы.* Ляхаўцы Малар.

ТРІ́ЦІК *м.* Частка самапрадкі: маленькае кола побач са шпуляй. *Шпуля закручуецця тріціком.* Олтуш Малар.

ТРО́ЙНЯ *ж.* Трайня. *Тройня звязвае воза.* Харомск Стол.

ТРОЙЧАКЫ́ *мн.* Вілы для сена. *Чы взяв тройчакы на сіно?* Макраны Малар.

ТРО́МКАТЫ *незак.* Брынкаць. *На гітары коло хаты вэчором тромкае і тромкае. Пэрэстань тромкаты.* Корчыцы Кобр.

ТРОНО́ЖКА *ж.* Самаробная скавародка на ножках. *У троножцы пэчэш сало, яйца.* Падкраічы Бяроз.

ТРО́НУТЫСА *зак.* Сапсавацца, растаць (пра зімовую дарогу). *Сонэйко крохі прыгрэло ўжэ, бач, трэба хутней сено прывесте, бо дорога тронутыса можэ — нычым тогде нэ доедэш.* Валішча Пін.

ТРОП *м.* След. *Пошлі з самого ранку по грыбы, думалі, пэршые будэм, аж бач — нечы троп ужэ е, нехто до нас пошоў.* Валішча Пін.

ТРО́ПНУЦЬ *зак.* Ударыць, стукнуць. *Будзяш круціцца за сталом — тропну ложкаю па лобі.* Сасновы Бор Івац.

ТРОСЛІ́ВЫ *прым.* Дрыгвяністы, гразкі. *Гнуткое, трослівое, гразное болото, нэ можна ходыты по ём, нэ можно ступыты.* Горск Бяроз.

ТРОСТЫ́НА I *ж.* Гл. трістка. *Бэрдо новэ, а тростына поломалась.* Папіна Драг.

ТРОСТЫ́НА II *ж.* Буйное жыта. Радзеж Малар.

ТРОХРО́ШКІ *мн.* Гл. тройчакы. *Трохрошкі — до сіна вылкы дэрэвляны.* Радзеж Малар.

ТРОШЧЫ́ТЫ *незак.* 1. Разбураць, ламаць. *Трактором плота почаў трошчыты, ездыты нэ ўмее, а сеў.* Валішча Пін. 2. Рваць. *Улез вэчором у садок і давай трошчыты яблыка.* Валішча Пін. 3. Прагна, хутка есці. *Сеў і почаў трошчыты ўсэ, шчо на стол поставілі.* Валішча Пін.

ТРУБЭ́ *мн.* Вотруб'е. *Ек мэлэш на вальцэ, на пэтэль муку, утходять трубэ.* Радастава Драг.

ТРУДОВІ́К *м.* Працаўнік. *То ж трудовік, завшэ за роботою.* Мачуль Стол.

ТРУСКА́ВКІ, ТРУСКА́ВКЫ *мн.* Клубніцы. *Сітым літом хутко пуспілы трускавкі.* Клейнікі Брэсц. *Уже поспілы трускавкы.* Закозель Драг. *Варэнне з трускавок вэльмі смачнэе.* Гальцы Стол., Боркі Пін. *Сусідка поіхала продаваты трускавкы на базар.* Гошава Драг. *На градзе много трускавак.* Гошчава Івац.

ТРУСКА́ТЫЙ *прым.* Кусцісты (пра лён). *З вэлыколёну то мэнш сэмэна, бо вун нэ такый трускатый.* Радзеж Малар.

ТРУСЫНЯ́ТКО *н.* Трусяня. *Трусынятко любыть грітыся на сонцы.* Шэбрын Брэсц.

ТРУСЫ́ТЫСА *незак.* Дрыжаць. *Вун трусыцца от холоду.* Відзібар Стол.

ТРУСЬ *м.* Трус. *Трусь сыдів у клецці.* Людвінова Драг.

•ТРУ́ТНЫХА *ж.* Трутнёўка. *Трутныха розводыть трутны.* Макраны Малар.

ТРУТО́ВКА *ж.* Тое ж. *Як мы забылы матку і довго нэ пітсаджуем, пчолы самы с сэбэ роблять трутовку.* Спорава Бяроз.

ТРУХМА́Л *м.* Крухмал. *Трухмалом трухмалыты у ночовках марлю.* Ляхаўцы Малар.

ТРЫБ *м.*, ТРЭ́БА *ж.* Прасека, прагал. *На трыбу ставылы мэтры.* Камянец. *Просыклы новый трыб.* Каменка Кобр. *Пуд проводамы вырубвають трэбу.* Хрыса Бяроз.

ТРЫВІ́НКА *ж.* Братавая. *Трывінкі пошлы копаты картоплі.* Рыкавічы Жабін.

ТРЫВУ́ШЧЫЙ *прым.* Вынослівы. *Трывушчый чоловік, такое горэ, а він тылькі счорнів.* Кустын Брэсц. *Кіт самый трывушчый.* Гершоны Брэсц.

ТРЫ́КА *ж.* Драўляная лаўка. *Бацько зробіў трыка.* Шэйпічы Пруж.

ТРЫМ *м.* Падоўжная бэлька, якая падтрымлівае папярочныя. *Трым будэ добрэ дэржэтэ.* Павіцце Кобр.

ТРЫПА́ЧКА, ТРЭПА́ЧКА, ТРЭПА́ШКА *ж.* Гл. трапло. *Трыпала лён дай трыпачку поламала.* Выжлавічы Пін. *Колысь трыпачкамы трыпалы.* Карсынь Іван. *Трэпачка така як ныж.* Макраны Малар. *Лён трэпалы трэпашкамы.* Боркі Бяроз.

ТРЫПУГА́ *ж.* Мянташка. *Трыпугою гострят косу на місці.* Радзеж Малар.

ТРЫСТЁ *н.* Трысцінка. *Пулумылось трыстё в кроснах.* Камароўка Брэсц.

ТРЫСЦЕ́НІК *м.* Трысцен. *Сем'я велікая, трысценік трыба ставіці.* Вялікая Гаць Івац.

ТРЫТЯ́ЧКА *ж.* Цёлка на трэцім годзе. *Твоя трытячка коровы колыть.* Гершоны Брэсц.

ТРЫЦЭ́ПНАЕ *прым.* Тканае льняное палатно. *У яго быў чорны трыцэпны касцюм.* Квасевічы Івац.

ТРЭ́МІЦЬ *незак.* Балбатаць, гаварыць пустое. *Шо ты там трэміш?* Плехава Івац.

ТРЭ́НТІ *мн.* Рваная вопратка. *Трэба вжэ скынуты свої трэнті.* Маціевічы Жабін.

ТРЭПА́ЛЬНЫЦА *ж.* 1. Драўляная падстаўка для трапання лёну. *Прынёс трэпальныцу, думае лён трэпаты.* Валішча Пін. 2. Жанчына, якая трэпле лён. *Трэпальныца помагае трэпаты лён.* Валішча Пін.

ТРЭПА́ННЕ *н.* Трапанне. *После трэпання лён чэшуть.* Лукава Малар.

ТРЭПА́ТЫ *незак.* Трапаць. *Лён трэпаты.* Валішча Пін.

ТРЭПКА́Ч *м.* Ануча. *Возьмы трэпкача да помый подлогу.* Валішча Пін.

ТРЭПУГА́ТЫ *незак.* Мянціць. *Трэба добрэ трэпугаты косу, шоб косыла.* Ляхаўцы Малар.

ТРЭ́ПЫ *мн.* 1. Тапачкі на драўлянай аснове. *У трэпах цяжка хадзіць.* Заліпенне Лях. *Дід ходыть у трэпах.* Вулька Пін. 2. Шлёпанцы. *Зараз модна хадзіць у трэпах.* Казлы Пруж.

ТРЭПЫСНІ́ *мн.* Лахманы. *На ёму вісылы одны трэпысні.* Кулякі Іван.

ТУВА́РЫШКА *ж.* Сяброўка. *У мынэ хурошая туварышка.* Пелішча Кам.

ТУДЭ́МА *прысл.* Там. *Тудэма не хадзі, то ўлезеш у грась.* Зубелевічы Лях.

ТУ́ЗАТЫ, ТУ́РЗАТЫ *незак.* 1. Рытмічна торгаць, пра-

нізваць. *Палец так тузае, нарывае.* Кустын Брэсц. *Нога напухла й турзае.* Валішча Пін. 2. Тузаць каго-н. *Вон зачэпіў його вэроўкою і давай турзаты.* Валішча Пін. 3. Расцягваць што-н. *Турзаты воўну.* Валішча Пін.

ТУКА́РНЯ *ж.* Частка будынка, куды складваюць сталярскія прылады. *Вжэ в тукарню шо й носа ны вопхнэш, скрызь тымы жылізякамы позавалюvав.* Харсы Брэсц.

ТУ́ЛІ *мн.* Цюль. *Тулі навесілі на вокны.* Навасёлкі Бар.

ТУЛІ́КА *ж.* Частка самапрадкі — кавалачак скуры з дзіркай, праз якую праходзіць нітка. *І там туліка е, шо ныткі йдуть.* Олтуш Малар.

ТУМА́НЬ *ж.* Туман. *Тумань такая густа.* Рухча Стол.

ТУ́ПО *прысл.* Вельмі павольна. *От тупо воны йшлы.* Вулька Сіманаўская Драг.

ТУ́РКАТЫ *незак.* Турбаваць, дамагацца. *Туркай хлопця, хай ідэ.* Вулька Сіманаўская Драг.

ТУРНУ́ТЫ *зак.* Прагнаць. *Турнуты трэба такого косара, оно траву портыть.* Валішча Пін.

ТУРЫ́ТЫ *незак.* Гнаць. *Хутко турыты гусі, коровы, коны. Туры свого малого додому, хай спіть.* Валішча Пін.

ТУ́ТАКА, ТУ́ТЫКА *прысл.* Тут. *Тутака болото, нэ ходы.* Рэчкі Івац. *Вось тутака некалі панскі двор быў.* Слабажаны Бар. *Тутыка рос ліс.* Хабы Брэсц.

ТУ́ТАЧКА, ТУ́ТЫЧКА, ТУ́ТЭЧКА *прысл.* Тое ж. *Тутачка недалёка жыла яго родная сястра.* Дзяніскавічы Ганц. *Тутычка була хата муго діда.* Гаравіца Драг. *Куды гэта дзеўся Лявон? — А ён тутэчка.* Арабнікі Пруж.

ТУ́ТЭНЬКІ *прысл.* Тое ж. *Тутэнькі ныкого нэ було.* Моталь Іван.

ТУ́ЧНЫЙ *прым.* Тлусты. *Тяжко юму йты, бо тучный вэльмэ.* Шышова Кам.

ТУЧЫ́ЛО *н.* Тачыла. *Ножа на тучыло погустрыв.* Гершоны Брэсц.

ТУШО́НІКІ, ТУШО́НЦЫ *мн.* Тушаная бульба. *А на сёння тушонікі будуць.* Доўгае Івац. *Цепэр мама такіх смачных тушонцоў наварыла, шчо мы аж пальчыкі облізалі.* Рубель Стол. *Елі тушонцы с капустою.* Валішча Пін.

ТЫ́БЭЛЬ, ТЭ́БЫЛЬ I *м.* Вялікі свярдзёлак. *Купыв два тыблі.* Навасёлкі Кобр. *Возьмы тэбыль, іды додому.* Шэбрын Брэсц.

ТЫ́БЭЛЬ, ТЭ́БЫЛЬ II *м.* Клін. *Майстор зробыв дэрэвляный тыбэль.* Ляхаўцы Малар. *Хучый затышытэ тэбля.* Харсы Брэсц.

ТЫГЭ́ЛІК, ТЫДЁЛЕК *м.* Тыгель. *Постав тыгэлік на прыпэк.* Камянюкі Кам. *У тыдельку жарылось сало.* Ваўкаставец Кам. *Памянш.* т ы г е л і ч о к. *Пах сала, шо жарылось в тыгелічковы, був чуты аж на дворі.* Смолін Брэсц.

ТЫ́ЖДЭНЬ, ТЭ́ЖДЫНЬ *м.* Тыдзень. *Другы тыждэнь садымо картоплі.* Дружба Брэсц. *Прэдымо додому чырыз тэждынь.* Брашэвічы Драг.

ТЫ́КАВКА *ж.* Верашчака. *Там зробляна тыкавка, возьмы поіш.* Ляхаўцы Малар.

ТЫЛУ́ШКА, ТЭЛУ́ШКА *ж.* 1. Карова. *Вчора тылушка вродыла тыле.* Ланская Малар. *Тэлушка с пэршым тэлетом.* Ляхаўцы Малар. *Тэлушке выганеють на пашу рано.* Радастава Драг. 2. Цяля. *Нашу тэлушку зваты Маліна.* Гаравіца Драг. *Тэлушка цэлы дэнь стояла ў хлеве.* Валішча Пін.

ТЫЛЯ́ *н.* Цяля. *Твое тыля в мое жыто бегае.* Гершоны Брэсц.

ТЫНО́ТЫ *мн.* Цянёты. *Ну і попала я ў тыноты.* Карсынь Іван.

ТЫПА́Р, ТЫПЭ́Р, ТЫПЭ́РА, ТЭПЭ́Р *прысл.* Цяпер, сёння. *Тыпар на дворі тыпло.* Брашэвічы Драг. *Тыпэр будэ высілле в нас.* Сулічава Драг. *Тыпэр добра погода.* Дастоева Іван. *Тыпэра дома матэры нэ будэ.* Адвержычы Стол. *Тэпэр трэба ўсэ зробіты.* Валішча Пін.

ТЫПЕ́РЫЧКА, ТЫПІ́РЫЧКО *прысл.* Тое ж. *Тыперычка діты пойшлы на экскурсію.* Пяшкова Іван. *Тыпірычко вітэ ны найдытэ бабів старэх.* Дружба Брэсц.

ТЫПСТЫ́ *незак.* 1. Моцна трэсці. *Тыпэ мынэ за плэчы.* Вулька Сіманаўская Драг. 2. Шукаць. *От дэ вона, а я йійі тыпу, шукаю.* Сіманавічы Драг.

ТЫПЭ́ЦЬ *м.* Сівец. *Тыпэць пуріс, куса ныек його ны бырэ.* Сварынь Драг.

ТЫРНУ́ТЫ, ТЭРНУ́ТЫ *зак.* Церануць. *Тырнув рукою по столу, а там мокро.* Кустын Брэсц. *Тэрнуты запалком об сцірку.* Валішча Пін.

ТЫРПУГА́, ТЭРПУХА́ *ж.* Мянташка. *Батько взев тырпугу і пуйшов кусыты.* Яміца Малар. *Батько гострэв тэрпухою косу.* Перавысь Малар.

ТЫРПУ́ЖЫТЫ *незак.* Мянціць. *Рано батько тырпужыть косу.* Радзеж Малар.

ТЫРТУ́Н *м.*, ТЯРТУ́ХА *ж.* Бульбяная бабка. *Маты пычэ тыртуна.* Дубіца Брэсц. *Тяртуха смачная получылася.* Адрыжын Іван.

ТЫРТУ́ШКА *ж.* Цёрка. *Положы на місцэ тыртушку.* Рыкавічы Жабін. *На полыці е місце 'для тыртушкы.* Агароднікі Кобр.

ТЫРУ́Ю *н.*, ТЫРУЯ́ *ж.* Пілавінне. *Коло цыркуляркы лыжало свіжэ тырую.* Трудавая Іван. *Тыруя получаіцьця пры різанні дэрыва.* Закляценне Драг.

ТЫ́СЕЧНІК *м.* Лекавая расліна. *Тысечнік — лечая трава.* Шэбрын Брэсц.

ТЫСЯЧЭНЫ́ШКА *ж.* Сараканожка. *Нывжэ в тысячэнышкы стылько много ныг.* Ляхавічы Драг.

ТЫТІ́Н, ТЫТІ́НЬ *м.* Тытунь. *Він скурэв пачок тытіну.* Корчыцы Кобр. *А тут ростэ тытін.* Гершоны Брэсц. *Тытінь вырос на городы.* Ляхавічы Драг.

ТЫТЫРУ́К *м.* Цецярук. *Батько на охоты забыв тытырука.* Людвінова Драг.

ТЫ́ЦАТІ *незак.* Шукаць. *Тыцала ў прыпечку, кэб якого запалка найті.* Сакалоўка Пін.

ТЬМЕ́НЫ *прым.* Бардовы. *Я пушела тьменэ плате.* Радастава Драг.

ТЭБЛЁВА́ТЫ *незак.* Свідраваць. *Я дэрэвыну тэблёвав тэбэлем.* Падкраічы Бяроз.

ТЭЖ *прысл.* Таксама. *Я, як і мой брат, тэж люблю іграць на гармоні.* Галоўчыцы Пруж.

ТЭЙГА́НІ *мн.* Пельмені. *Ба, добрые ўдаліса тэйгані.* Любань Лун.

ТЭ́НУТЫ *зак.* Зрушыцца з месца. *Автобус тэнув.* Саха Драг.

ТЭРПЕ́ТЫ *незак.* Цярпець. *Так болiть, шчо нельга й тэрпеты, а тэрпеты мусіш.* Валішча Пін.

ТЭ́РПНУТЫ *незак.* Нямець. *Рука почала тэрпнуты.* Кустын Брэсц.

ТЭ́РТКА *ж.* Цёрка. *Тэрткою натэрты картоплёў.* Валішча Пін.

ТЭ́РТЫ *незак.* Церці, мяць. *Як лён добрэ вылежыцца, до ёго можна тэрты.* Валішча Пін. *Як стане мнекій, ужэ можна тэрты, трэмо в тэрныці.* Олтуш Малар. *Картоплі тэрты на бабку чы на млінцы?* Спорава Бяроз.

ТЭТЭ́РА *ж.* Вясельны гасцінец. *Памянш.* т э т э р о н ь к а. *Вэрнітэса по тэтэроньку, прыданочкам на вэчэроньку.* Гальцы Стол.

ТЭ́ЧКА *ж.* 1. Гаспадарчая сумка. *Возьмы тэчку і сходы в магазін по хліб.* Здзітава І Бяроз. *Тэчка с хлібом стоіть на лавцы.* Дзеткавічы Драг. 2. Школьная сумка. *Як я йшла в пэршый клас, то мні купылы хорошу тэчку.*

Мінянка Кобр. *Кнышкы булы зложаны в тэчку.* Хмелішча Малар. *Тэчка с кнышкамы була важкая.* Бярозавічы Пін. *Діты з тэчкамы ідуть у школу.* Юнішчы Стол.

ТЯГЛІЙ *м.* Працавіты чалавек. *Ныздарма мынэ тяглієм зовуть. Оно знаю тягну, а іншыі одпочываюуть.* Моладава Іван.

ТЯЖ *ж.* Два вяровачныя кольцы або вяроўка на ярме, на канцы якой мацуецца канец дышла. *Яром з тяжэю, бэз тяжэі. Наплетена тяж.* Альманы Стол.

# У

УБКОСОК *м.* Месца, дзе выкасілі траву. *Устався убкосок с краю.* Гершоны Брэсц.

УБЛОВЛІВАТЫ *незак.* Вылоўліваць. *Пучалы убловліваты дычыну.* Казловічы Брэсц.

УБЛЫСЫТЫ *зак.* Зняць кару. Дружба Брэсц.

УБУРІГ, УБУРЫГ *м.* Абарог. *Всё плачэ, шчо сіна ныма, а вжэ убуріг повный.* Харсы Брэсц. *Пут убурігом лыжело сіно.* Дубіца Брэсц. *Батько с сыном складають сіно в убурыг.* Камянюкі Кам.

УБЦЭНЬГІ, УБЦЭНЬКЫ *мн.* Абцугі. *Убцэньгі і гвозді лыжалы на полкі.* Клейнікі Брэсц. *Гвозді выймають убцэнькамы.* Пугачова Брэсц. *Вытягае гвоздя убцэнькамы.* Дружба Брэсц.

УВОБГАТЫ *зак.* Шчыльна скласці, уціснуць. *Усё у чумайдан увобгала.* Корчыцы Кобр.

УВЫВІЧ *м.* Палатно, якое дораць навароджанаму. *Кума накрыла дытя увывічом.* Казловічы Брэсц.

УВЭРЭДА *ж.* Стомленасць, змoранасць. *Од важкоі роботы у моі бабы була увэрэда: права рука вельмы боліла.* Багданаўка Лун.

УГЕ *прысл.* Ужо. *Уге змеркалосо.* Сінкевічы Лун. *Уге всё гатова.* Пузічы Лун.

УГНОЯТЫ *незак.* Угнойваць. *Як шо полэ добрэ угноятыі, то вродыть хорошэ.* Забалацце Малар.

УГНЫРЫТЫСЯ, УГНЭРЫТЫСЯ *зак. неадабр.* Задумацца, засяродзіцца, апусціць галаву ў задуменні. *Шо ты йдаш, голову угнэрыўшэ, ныкого кругом ны бачыш.* Аляксеевічы Драг. *Угнырывся в тую кнігу і ны чуе.* Кустын Брэсц.

УГРАЗЫТЫ, УГРАЗЭТЭ, УГРОЗЫТЫ *зак.* Разверадзіць (рану). *Як угразыла рану, то думала, шо кончу-*

*ся — гэтак боліло.* Старыя Пескі Бяроз. *Знов угразэв буляччу ногу, тыпэр довго булітэ будэ.* Шышова Кам. *Глéды оно, коб раны нэ ўгрозыты.* Валішча Пін.

УГУРТАТЫ *незак.* Абганяць. *Мы пушлы угуртаты картоплы.* Макраны Малар.

УДАВАТЫСЯ *зак.* Здавацца. *Мне удалося, шчо нехто стоіть на дорозі.* Пясчанка Бяроз.

УДАЎШКІ *прысл.* Уздоўж. *Поле цягнулася ўдаўшкі лесу.* Агарэвічы Ганц.

УДОГОН *прысл.* Наўздагон. *Доўго бег удогон за коровою, а завэрнуты так і нэ завэрнуў назад.* Валішча Пін.

УДОПШЧЫНА *ж.* Урадлівае поле. *У нас нэўдопшчыны більш було, чым удопшчыны.* Лапацін Пін.

УДУШЫТЫСА *зак.* Спацець. *Пробегла і вся удушылася.* Вулька II Лун.

УДЫНАК *м.* Адзінае дзіця ў сям'і. *Удынак захвурів.* Макраны Малар.

УДЗЭМОК *м.* Корань. *Трэба сее дэрво вырваты з удзэмком.* Ваўкаставец Кам.

УЖМЫНЫТЫ *зак.* Навярэдзіць. *Ужмыныла руку, як жала.* Гершоны Брэсц.

УЖОВКА *ж.* Рамень, якім злучаюцца дзве асноўныя часткі цэпа. *Цэп звязаны ужовкой.* Здзітава I Бяроз. *Вэльмэ уская ужовка, біяк ны удэржыть.* Дзмітравічы Кам.

УЖЫШЧЭ *н.* Моцная тоўстая вяроўка. *Я закынула ужышчэ на рубля і помогла втягнуты сіно на возовы.* Залессе Кобр. *Возьмы в хліві на дровах ужышчэ.* Корчыцы Кобр. *Прывяжы ўжышчэм, то ўжэ ны одорвэцца.* Мацієвічы Жабін. *Ужышчэм прыцягнулі воз сена.* Осаўцы Бяроз.

УЗВАР *м.* Кампот. *Прышовшы додомы, мы напіліса цёплого ўзвару.* Альшаны Стол.

ЎЗДЭР *м.* Частка снапа ніжэй перавясла (да зрэзу). *Уздэр — то ныз снопа.* Падкраічы Бяроз.

УЗНЁТОК *м.* Ступня. *Узнёток боліт, нога опухла, шо ступаті нельга.* Сакалоўка Пін.

УЗРЫЦЬ *зак.* Убачыць. *Стары чоловек здзівівса, колі ўзрыў новую машыну, схававса ў хату.* Вялікая Гаць Івац.

УКОЎТНУТЫ *зак.* Праглынуць. *А вон укоўтнуў ложэчку.* Рамель Стол. *Укоўтнуў зразу ўсёго куска.* Валішча Пін.

УКРА́СКА *ж.* Масць. *Украска субакі була хорошая.* Казловічы Брэсц.

УКРІ́П *м.* Кіпень. *Стукнув пу куструлі, а укріп мні на гочы, упарылася вся.* Пажэжын Малар.

УКРУНУ́ТЫ *зак.* Адламаць. *Укрунуты хлеба кавалок.* Падкраічы Бяроз.

УКРУ́ТОВАНКА, УКРУ́ЧВАНКА *ж.* Вялікая хустка. *Завяжы укрутованку.* Дзераўная Стол. *На бабулі була укручванка.* Вулька Лун. *Купіла хвайну укручванку.* Дзяніскавічы Ганц.

УЛАМА́ТІ, УЛАМА́ТЫ *зак.* Адламаць. *Трэба уламаті кусок хлеба.* Сінкевічы Лун. *Уламаты скорынку хлеба.* Валішча Пін.

УЛЁЖАТЫ *зак.* Вылежаць. *Полотно добрэ ўлежало на поплаўцу.* Валішча Пін.

УЛІ́Й *м.* Алей. *Пулій уліём картоплі.* Пелішча Кам.

УЛІ́ЙНЫЦЯ *ж.* Посуд на алей. *То колысь улійныці булы, а тэпэр нэма тых улійныць.* Макраны Малар.

УЛЬ *м.* Вулей. *Уль новый поставылы в садку.* Пугачова Брэсц.

УЛУ́МОК *м.* Непаваротлівы чалавек. *Ах, ты, улумок.* Слабажаны Бар.

УЛЯ́К *м.* Спалох. *Захворэло з уляку дытя, мусіть, бо ныяк уночы нэ спіть, крычыть усэ, ускакае.* Валішча Пін.

УМОЧА́НКА *ж.* Яечня. *На сніданне напыклі ўмочанкы.* Лышча Пін.

УМОЧА́ННЕ *н.* Тое ж. *Дай мні умочання.* Ботава Пін.

У́НЬДЕКА, У́НЬДЗЕКА *прысл.* Там. *Уньдека брама, ідзі, зачыні.* Плехава Івац. *Уньдзека паляцелі гусі.* Задуб'е Ганц.

УПОДО́БУ *прысл.* Даспадобы. *Купіла от платте, було мне ўподобу.* Горталь Івац.

УПА́Л *м.* Спёка. *У такі ўпал лепш нэ выходыты з тэньку.* Каўбы Пін.

УПЁРЫЦЬ *зак. экспр.* Моцна ўдарыць. *Уперу я цябе кіем.* Навасёлкі Лях.

УПІ́РЫСТЫ *прым.* Упарты. *Конь упірысты.* Велямічы Стол.

УПОВЫ́ВАЧ *м.* Палатняная лента, якой спавіваюць дзіця. *Возьмы уповывач, сповы дытя.* Кустын Брэсц.

УПОМЫ́ТОК *м.* Успамін. *Хорошэ высілле справыв, будэ всім упомыток.* Сіманавічы Драг.

УПО́Р *м.* Упарты чалавек. *Такі ўпор, ныкого ні слухае.* Падкраічы Бяроз.

УПО́РЫНЫ *мн.* Брусы, якія ўпіраюцца ніжнім канцом у папярочныя бэлькі, а верхнімі падтрымліваюць вільчак. *Упорыны трэба ставіты добрые, моцные.* Лагішын Пін.

УПУ́ХА I *ж.* Пласт сена, які абвісае са стога. *Упуха упустэлася.* Радастава Драг.

УПУ́ХА II *ж.* Абшыўка ў кажусе. *Упуху ду чорнуго кожуха робять білу.* Бабічы Кам. *Памянш.* у п у ш к а. *Я хочу собі зробыты кожух з упушкою.* Кустын Брэсц.

УПЭ́РШ *прысл.* Спачатку. *Шчо ты ўпэрш рабіла?* Роўбіцк Пруж.

УРА́Д *м. абрад.* Сваякі жаніха, якія прыязджаюць да маладой. *Ужэ ўрад поехаў.* Адвержычы Стол.

УРЕ́ЧОК *м.* Паліто ці армяк з саматканага сукна. *Діт зымою носыть свуй старый уречок.* Індычы Кам.

УРУ́Н *м.*, УРУ́НА *ж.* Рунь. *На уруны позно осэнню скотыну пасуть.* Валішча Пін. *Урун — то озімые ўзыйдуць.* Рубель Стол. *З уруны стожка нэ кладуть.* Каўбы Пін.

УСМЫКА́ТЫ *незак.* Уцягваць. *Усмыкаты нытку ў голку. Усмыкаты сено ў хлеў.* Валішча Пін.

УСНІ́ЦА *ж.* Асцюк у жыце. *Усніца ў око ўпала.* Рубель Стол.

УСТЫ́ЛКА, УСЦЕ́ЛЬКА *ж.* Вусцілка. *За місяць устылку згноів.* Кустын Брэсц. *Положы усцельку з сукна в чобот.* Вялікая Гаць Івац.

УСЯДНО́ *прысл.* Усё роўна. *Я ўсядно пярамагу яго.* Агарэвічы Ганц.

УТАЛОВА́ТЫСЯ *зак.* Моцна стаміцца, змарыцца. *Уталовався за дань коло таі роботэ.* Субаты Драг.

УТЁР, УТО́Р *ж.* Жалабок у ніжняй частцы бочкі, у які ўстаўляецца дно. *Шоб уставітэ дно, трэба зробэтэ утёр.* Павіццё Кобр. *Утор — гэто такій вырэз у бочцы.* Камароўка Брэсц.

УТОРІ́К *прысл.* Пазалетась. *Уторік я жэв у сэловэ.* Арэхава Малар.

УТОРО́ПЫТЫСЯ *зак.* Угледзецца, уставіцца поглядам. *Чого він уторопывся на мына?* Субаты Драг.

УТО́ЧНЫЙ *прым.* Папярочны (пра нітку, якая ідзе на ўток). *Попэрок основы — уточная нытка.* Здзітава I Бяроз.

УТРАВЕ́ТЫСЯ, УТРАВЫ́ТЫСЯ *зак.* Унадзіцца, панадзіцца. *Утравевся в гурот, ек вэпрык у бульбу.*

Радастава Драг. *Тхюр як утравыцця.* Радзеж Малар.

УТРОНЧЕ́ТЫСЯ *незак. асудж.* Лезці не ў сваю справу. *Ша й він утрончеіцца в гатэ діло.* Субаты Драг.

УТЭРУСІ́ТЫ *зак.* Укінуць. *Сена коровы на ноч утэрусіты можна того, шчо з роўца, нэхай пэрэбірае.* Валішча Пін.

УТЭРЭБІ́ТЫСА *зак. экспр.* Улезці. *Утэрэбітыса ў суседоў садок. Тэля ўтэрэбілоса ў город.* Валішча Пін.

УТЯГА́ЧКА *ж.* Банка для малака. *Утягачка в нас для мулука стоіть в колодзязі.* Крытышын Іван.

УТЯ́ТЫ *зак.* Скасіць, зжаць. *Ой, нут-кэ, косары, бо нэ рано почалы, хоть нэ рано почалы, а богато утялы* (з песні). Олтуш Малар.

УХНА́ЛЬ *м.* Вухналь. *На поліцы лежат ухналі.* Дабучын Пруж. *Хоть ухналём колка прыбы, як нэма доброго гвоздя, бо куры ў город лазітымуть.* Хваросна Пін.

У́ХО *н.* Жалезнае кольца ў касе. *Забій клінок у ухо, коб косіць лоўчэй було.* Рубель Стол.

УХО́ДЖВАЦЦА *незак.* Упраўляцца з хатняй работай. *Трэба скорэй уходжвацца, а то вечар настане.* Заліпенне Лях.

УХРОМІ́ТЫСА *зак. экспр.* Улезці. *Корова ў город, ну ў самэнькі буракі ўхроміласа. Ухромітыса ў болото.* Валішча Пін.

УХЫ́ЛЯНКА *ж.* Вялікая хустка. *Ішов дошч і я упынулась ухылянкыю.* Макраны Малар.

УЦІ́РАК *м.*, УЦІ́РКА *ж.* 1. Ручнік. *Падай скоранька ўцірак.* Слабажаны Бар. *Збанок з молоком і хлеб на столе былі прыкрытые ўціркой.* Мікашэвічы Лун. 2. Насоўка. *Дзеўчына вышыла ўцірку.* Мікашэвічы Лун.

УЦЯ́ЦЬ *зак.* Укусіць. *Гэтага хлопчыка моцна ўцяў сабака.* Ласасіна Пруж.

УЧВО́РЫЦІ, УЧВЭ́РЫТЫ *зак.* Натварыць, нарабіць чаго-н., выкінуць штуку. *Шо ты там учворыці хочэш?* Доўгае Івац. *Колдуньнік той дэшчо ўчвэрыть.* Радзеж Малар. *Трэба ж було ёму на сэле гэто ўчвэрыты.* Валішча Пін.

УЧЫПУ́РЫТЫ *зак.* Учыніць незвычайнае. *От учыпурыв чоловік.* Рухча Стол.

УШВЫЛЕ́ПЫТЫСЯ, УШВЭЛЯ́ПЫТЫСА *зак.* 1. Унадзіцца. *Шо тэ ушвылепылася кажды дань носэтэ гатэ платте, ек будто в тыба ныма більш шо одетэ.* Аляксеевічы Драг. 2. Закахацца. *Божэ муй, божэ, як ушвэляпыв-*

16. Зак. 3716

*ся в її, то нычого ёму нэ трэба, ны хаты, ны дэтэй.* Каўбы Пін.

УШЧЫ́ННЫЙ *прым.* Цеснаваты, вузкаваты. *Купэла б ужэ тыбі стэ пальто хурошэ на від, алэ ж вэльмо ушчыннэ, пурвеццяхутко.* Дзівін Кобр.

УШЧЭ́ПА *ж.* Прышчэпа. *Посадзів два рады ўшчэпов коло хаты.* Нарутавічы Бяроз. *Ушчэпы добрэ прыняліса, ны одна нэ ўсохла.* Хваросна Пін.

УШЭ́ЙНЫК *м.* Ашыйнік. *Субака мае ушэйныка.* Макраны Малар.

# Ф

ФАЙЁРКА *ж.* Кружок на пліце. *Закрэй на плеті дэрке файеркамэ.* Арэхава Малар. *Піч зробляна на штыры файеркы.* Шэбрын Брэсц.

ФА́ЙКА *ж.* Люлька. *Дід курыв завшэ файку.* Падбела Кам.

ФАЛЬБА́НКА, ФАЛЬБО́НКА *ж.* Фальбона. *Ек одену, бувало, спудныцю з фальбанкыю, то всі хлопцэ мої буле.* Закозель Драг. *Фальбонкы шырокыі прышыла.* Кустын Брэсц.

ФА́РБЫТЫ *незак.* Фарбаваць. *В нас фарблят швэдры, панчохі, хусткы.* Хмелева Жабін.

ФАРФАЛІ́ *мн.* Клёцкі. *Німа лепшой еды, як фарфалі ў молоцэ.* Любань Лун.

ФАСТРЫГОВА́ТЫ *незак.* Фастрыгаваць. *Зразу фастрыговаты трэба, а то потом можэ нэ так буты.* Валішча Пін.

ФЕСТМЁТР *м. экспр.* Здаравяка. *Ты фестметр, у дзверах моїх не пройдзеш, а столю головою достанеш.* В. Малешава Стол.

ФІЛІЖА́НКА *ж.* Талерка. *Я ўчора купіла п'яць філіжанак.* Мазуркі Лях.

ФО́СТЫК *м.* Чаранок. *Фостыкы в стручку вэльмы короткы.* Ляхаўцы Малар.

ФУ́РА *ж.* Фуфайка. *Фуру одзень, а то змерзнеш.* Лыскава Пруж.

ФУТРЫ́НА *ж.* Рама, у якой замацаваны аканіцы. *Футрына зроблена з новуго дэрэва.* Макраны Малар. *Гэта футрына вэліка.* Шэбрын Брэсц.

ФЭДЭР *м.* Паз у дошках падлогі. *Фэдэр трэба подогнаты в дошках.* Радзеж Малар.

ФЭДЭ́РКО *м.* Божая кароўка. *Діты, колы побачать або зловлять, то трэндычуть: «Фэдэрко, фэдэрко, пэнь чы колода, скажы, шчо будэ — дошч чы погода?»* Каўбы Пін.

# X

ХАВІ́Р *м.* Аер. *Поосушувалы всі болота, той хавіру ны стало.* Судзілавічы Бяроз.

ХАДА́К *м.* Скураны лапаць. *Для нас і хадак быў вялікай радасцю.* Малахоўцы Бар.

ХАЛА́КЦІР *м.* Характар. *Плахі ў цебэ, чоловечэ, халакцір.* Давыд-Гарадок Стол.

ХАЛЁВА́ТЫСЯ *незак.* Убірацца, прыхарошвацца. *Став халёватыся на нэділю.* Пескі Кобр.

ХАМЕ́ЛЦЫ *мн.* Чышчаная бульба. *Хамелцы смачные зварылі.* Мачуль Стол.

ХАМІ́ЛЬ *ж.* Прозвішча. *Як твая хаміль?* Мікашэвічы Лун.

ХАМУ́ЛЬ-ХАМУ́ЛЬ *выкл.* Ціха, непрыкметна. *Хамуль-хамуль за вугол і ўтёк.* Валішча Пін.

ХАНАБЭ́РЫСТЫ *прым.* Ганарлівы. *Та дзеўка ханабэрыстая.* Рамель Стол.

ХА́ПКІ *прым.* Хуткі, прагны. *Геты чоловек хапкі до дзела.* Цераблічы Стол.

ХА́ТНЫСКО *н.* Месца, дзе стаіць ці стаяла хата. *Хатныско пана деты булі роскопалі, понаходылі много ўсёго.* Валішча Пін.

ХА́ЎКАЦЬ *незак.* Пазяхаць. *Мусіць, ты сягоння не выспайся, што хаўкаеш?* Роўбіцк Пруж. *Зноў буду хаўкаць.* Чудзін Ганц.

ХА́ХНУТЫ *зак. экспр.* Прапасці. *У одной ямы ўсе картоплі хахнулі, погнылі, а ў тых не, бо воду поспускаў і добрэ, шо так зробіў, бо моглі хахнуты.* Хваросна Пін.

ХА́ЯЦЬ *незак.* Прыбіраць у пакоі. *Ты вжэ хаяв вэліку хату, чы мо сены?* Пасянічы Пін.

ХВА́ЙНО, ФА́ЙНА *прысл.* Добра. *У хаті було хвайно.* Ваўкаставец Кам. *Ой, хвайно пое.* Цераблічы Стол. *Файна было мне ў гасцях.* Заліпенне Лях.

ХВА́ЙНЫ, ХВА́ЙНЫЙ, ФА́ЙНЫ *прым.* Добры. *Коля хлопец хвайны.* Малахоўцы Бар. *Муя пудрушка хвайна.* Радастава Драг. *На хвайным коні ездзіць наш старшыня.* Роўбіцк Пруж. *Якая хвайная хустка.* В. Мале-

шава Стол. *Хвайный будэ зять, ны выпускай ёго з рук.* Кавярдзякі Брэсц. *Файнэ пальто купыла я собі.* Мацієвічы Жабін.

ХВА́ЛДЭ, ХВА́НДЫ *мн.* Зборкі ў ніжняй частцы вопраткі. *Якыі ныхорошы хвалдэ тэ зробыла.* Закозель Драг. *Некалі бабы свое споніцэ ў хванды горнулі, коб було хвайно.* Раздзялавічы Ганц. *Трэба зробэты хванды, схвандоваты.* Ляхаўцы Малар.

ХВАЛЁГО *м. іран.* Хвалько. *Гэты хвалёго ныц нэ зробыть.* Падкраічы Бяроз.

ХВАЛЮ́К *м.* Тое ж. *От дэ вжэ хто хвалюк!* Горск Бяроз.

ХВАНАБЭ́РА *м. і ж.* Фанабэрыстая асоба. *Такая стала хванабэра, шо з фігою до носа ны подступысся.* Хмелева Жабін.

ХВАНТЭ́НА *прысл.* Да твару. *Ото хвантэна, шчыльнынько, хорошэ, ны так, як опанчя.* Цераблічы Стол.

ХВЕ́ЙЧАР *м.* Фельчар. *Мне галава баліць, пайду к хвейчару па лякарства.* Заліпенне Лях.

ХВОІ́НА *ж. зборн.* Сасна, сасоннік. *У нашому лісы много хвоіны.* Юхнавічы Іван.

ХВОСТ I *м.* Корань у расліны. *Нэ покідай буракі с хвостамі, одрэзвай. Гэто ў цукрового бурака доўгі хвост, а ў кормового не.* Валішча Пін.

ХВОСТ II *м.* Апошні дзень вяселля, у які дзеляць каравай. *Як хвост, то коровая делять.* Валішча Пін.

ХВЭ́ЙНІК *м.* Гл. хвоіна. *Зэлёніцы браті трэба в хвэйніку.* Азарычы Пін.

ХВЭСТРО́ТЫ *мн.* Жаночыя чаравікі на высокіх каблуках. *У бабы е шчэ старыі хвэстроты.* Спорава Бяроз.

ХІ́ЖЫ *прым.* Слабы. *Ой, знаеце, ён ужэ саўсім хіжы, доктар сказаў, кап заўтра дадом забралі.* Доўгае Івац.

ХІЗО́К *м.* Гарышча. *Залезь на хізок паглядзі.* Малахоўцы Бар. *Скінь сена з хізка.* Перунова Лун.

ХІТА́ТЫСА, ХІТА́ТІСА *незак.* Хістацца. *Як вэтёр подуе, дак дэрэво зразу хітатыса почынае.* Валішча Пін. *Колок у плоті хітатіса будэ.* Сакалоўка Пін.

ХЛЁХО́НУТЫ *зак. экспр.* Засмяяцца. *Як хлёхонулы всі.* Сіманавічы Драг.

ХЛІБЭ́ЦЬ *м.* Бохан. *Прынэсы хлібэць.* Шэбрын Брэсц.

ХЛО́ПЧЫК *м.* Вінт. *Хлопчыка трэба подкрутыты, да всё.* Ляхавічы Драг.

ХЛО́ПЧЫКІ *мн.* Маленькія драўляныя трысцінкі, якімі мацуюць унізе петлі шнуркоў, што трымаюць ніт.

*Хлопчыкі зачыпаемо і за ныт і за бэрдо.* Сварынь Драг.

ХЛОПЧЯ́К *м.* Хлапчук. *Мій сын жвавый хлопчяк.* Шэбрын Брэсц.

ХЛУСТ *м.* Адыходы пры малацьбе. *Собралы хлуст, коб ны розмыло.* Шэбрын Брэсц.

ХЛЮ́БА *ж.* 1. Тонкі лазовы дубец. *Помню, як маты мэнэ хлюбою з річкы гнала.* Шчытнікі Брэсц. *С хлюбой у руках хлопэц ішоў чэрэз поле.* Хойнікі Бяроз. *Возьмы хлюбу і пасы гусэй.* Камянюкі Кам. 2. Скручаная з тонкай бярозкі прывязка, якой прымацоўваюць саху да валоў. *Скрутять з бэрозы хлюбу, накладають на ярмо, а от ярма накладають на вула.* Радзеж Малар.

ХЛЮГ *м.* Жэрдка. *Тэпэр штахэты, а раньчэ булы хлюгы.* Радзеж Малар.

ХЛЮ́ГА *ж.* Планка, да якой прымацоўвалі снавалку. *Ны мае хлюгы — снувныцю ставыты. А там ныма такых пырэкладув — называюця хлюгы.* Радзеж Малар.

ХЛЯБОВЫ́ТЫЙ *прым.* Худы. *То свыны хлябовыты, на іх сала ны будэ.* Кустын Брэсц.

ХЛЯ́ПА *ж.* Дождж са снегам. *На вуліцы такая хляпа, шчо й носа нельга высунуць.* Цераблічы Стол.

ХЛЯПАНЭ́НА *ж.* Тое ж. *Хляпанэна на дворі, ны вийты.* Радзеж Малар.

ХОВП *м.* Лапіна. *Ховп лісу.* Мельнікі Малар.

ХО́ДІК, ХО́ДНІ́К, ХО́ДНЫК *м.* Палавік. *Вытрясы з ходіка пыл.* В. Якаўчыцы Жабін. *Марыля наслала на пудлогу новые ходнікі.* Здзітава II Бяроз. *На подлозы лыжав самотканый ходнік.* Пугачова Брэсц. *Тэпэр мало ткуть ходніков, а больш купляють у лавцы.* Рудня Івац. *Коло муго лужка лыжыть ходнік.* Бярозавічы Пін. *Ходнік був хорошый.* Высокае Бяроз. *Я выткала новый ходнык.* Рыкавічы Жабін.

ХОДЫ́ТЫ *незак.* Ажыўлена рухацца перад раеннем. *Рій вэсэло ходыть.* Ланская Малар.

ХОЛА́Н, ХОЛО́Н *м.* Капрыз. *От, колы до його холон прыдэ, тоды ныц нэ зробыш, покы вон нэ пройдэ сам. Твое холаны надоелі вжэ.* Падкраічы Бяроз.

ХОЛО́НЫСТЫЙ *прым.* Капрызлівы. *Хлопэц холоныстый, у рукі трэ взяты.* Падкраічы Бяроз.

ХО́МХА *м.* Мямля. *Хомху нэ розобраті, шо кажэ.* Турная Івац.

ХОРО́МЫНА *ж.* Збудаванне. *Выіхалэ мэ з лісу, бачымо некых дві хоромынэ стоіть.* Брашэвічы Драг.

ХОРОСТВО́ *н.* Урадлівае, добрае, якаснае што-н. *Тыпар капуста хороство — такэі вылікэ і густэ головкэ.* Брашэвічы Драг. *Набралі в том вульы трі вэдрэ хороства.* Харомск Стол.

ХОРОШІ́ЦЬ, ХОРОШЫ́ТЫ *незак.* Чысціць (бульбу). *Давай будзем хорошіці бульбу.* Дварэц Лун. *Казалы хорошыты картоплі.* Бярозавічы Пін. *Маты попросыла мынэ хорошыты картоплі.* Трудавая Іван.

ХОРОШМА́НЫЙ *прым.* Прыгожы. *Гэтой хлопэц був хорошманый.* Спорава Бяроз.

ХО́РТКА *ж.* Веснічкі. *Закрый хортку.* Пружаны. *Я вам очыніла хортку.* Давыд-Гарадок Стол.

ХОРУ́ШЧ *прысл.* Прыгажэй. *Так воно було б хорушч.* Скокі Брэсц.

ХРА́ПА *ж.* Груда. *На гэтой храпі і галошы попробівалі.* Цераблічы Стол.

ХРАСТО́К *м.* Расток. *На картоплях высною появляюцца храсткі.* Шэбрын Брэсц.

ХРАСТЫ́ТЫСЬ *незак.* Узыходзіць. *Храстыцца жыто, маленькы храсточкы вылазять.* Спорава Бяроз.

ХРО́МКА *ж.* Гармонік. *Хлопэць грае на хромцы.* Дубіца Брэсц.

ХРО́СНУТЫ *зак. экспр.* Ударыць. *Зарэ я тыбэ хросну.* Сіманавічы Драг.

ХРУЛЕ́ *мн.* Клёцкі з бульбы. *Хруле смачные.* Гарадная Стол.

ХРУЛЬ *м.* Хрушч. *Хруль на лісту сядзіць.* Плехава Івац.

ХРУ́МІТЫ *незак.* Храбусцець. *Йім морквыну, морквына хрумыть.* Сіманавічы Драг.

ХРУ́МКАТЫ *незак.* Есці з хрумстаннем. *Корова хрумкае капусту. Яблыко хрумкаты.* Валішча Пін.

ХРЫСТЫ́ННЫК *м.* Госць, запрошаны на хрысціны. *На хрыстынах було мніго хрыстынныків.* Хмелева Жабін. *Хрыстынныкі почалі субіратыся.* Макраны Малар.

ХРЫШЧО́НКА *ж.* Хросная маці. *Моя хрышчонка пуіхала в госты до брата.* Мастыкі Бяроз. *Хрышчонка прынысла густынця.* Макраны Малар.

ХРЭНДЖ, ХРЭНЧ *м.* Фрэнч. *Я вчора нового хрэнджа порвав.* Гальцы Стол. *Мы ёму купілі новы хрэнч.* Люсіна Ганц.

ХУДКІ́ *мн.* Халадзец. *Учора мы ілы гожы худкі.* Ваўкаставец Кам.

ХУДО́БА *ж.* Буйная рагатая жывёла. *Сённі нам чар-*

*га худобу гнать на пашу.* Церабяжоў Стол. *Мой бацько мей пяць голоў худобы.* Цераблічы Стол.

ХЎРА *ж.* Вялікі воз сена. *Нам прывызлы хуру сіна.* Крытышын Іван. *Батько прывіз хуру сіна.* Лісяцічы Пін.

ХЎРМАН *м.* Фурман. *Які конь, такі й хурман: цэлы дэнь будэм ехаты по такому поганянні.* Хваросна Пін.

ХУРМА́НКА *ж.* Воз. *Налажыў дроў на хурманку і пов'ёз домоў.* В. Малешава Стол.

ХЎСТА, ХЎСТЫ *зб.* Бялізна. *Трэба бэлыты хуста.* Дружба Брэсц. *Маты выпрала хуста в рыці.* Шчытнікі Брэсц. *Цілый дэнь мама мыла хусты.* Кавалікі Кам.

ХЎТКА *ж.* Разведка. *Хуткы ідуть і одыскують місце для жылья.* Радзеж Малар.

ХУТНЕ́Й *прысл.* Хутчэй. *Хутней будэ, як сюдою пойдэш.* Валішча Пін.

ХТО́СЯ *займ.* Нехта, хтосьці. *Ду нас прыйшов хтося.* Радастава Драг.

ХЫБ *м.* Дзве збітыя дошкі, якія кладуць на стык страхі. *Зробыты хыба і положыты на вэрх.* Падкраічы Бяроз.

ХЫ́ЖЫЙ *прым.* Прыгожы. *Такая хыжа корівка.* Сіманавічы Драг.

ХЭНЦ, ХЭНЦЬ *ж.* Ахвота, жаданне. *Хэнц подпала й робота спорыцца.* Ліпнікі Пін. *Даўно адпала хэнць катацца на лыжах.* Ласасіна Пруж.

# Ц

ЦАБАРА́К *выкл.* Цап. *Цабарак мынэ рукою за плычко.* Сіманавічы Драг.

ЦАБАРА́КНУТЫ *зак.* Цапнуць. *Цабаракнув рукою мынэ.* Сіманавічы Драг.

ЦАГА́Н, ЦЫГА́Н *м.* Чыгун. *У цагане варылася бульба.* Кукава Ганц. *Бульба ў вялікім цагане.* Заполле Лях. *Трэба наліць вады ў цаган.* Гарадзішча Лях. *Звары ў цыгану картоплю.* Панкі Івац.

ЦАЛЁЎКА, ЦАЛІ́ВКА *ж.* Тонкая дошка. *На гуліцы лыжалы в кучы цалёвкы.* Казловічы Брэсц. *Порізалы дэрыво на цалівкі.* Шэбрын Брэсц. *Роспустыты гэтэ дэрэво на цалёўкі.* Валішча Пін.

ЦАЛКАВЎХА *ж.* Яечня. *Цалкавуха ў цябе ўдалася смачная.* Востраў Ганц.

ЦАП *м.* Казёл. *Цап ходыв завжды на прывязі.* Залессе Кобр.

ЦА́ПКА *ж.* Лапата для копкі бульбы. *Цапка лежыць на дворэ.* Вічын Лун.

ЦА́ЦКАТЫ *незак.* Лашчыць, пеставаць. *Довго цацкалы сыночка, топіро оддячыв так.* Корчыцы Кобр.

ЦАЦКІ́ *мн.* Клёцкі. *Крупніку наварыла с цацкамі. Цацюк з грэцкой мукі наробіла.* Альманы Стол.

ЦВА́НЫЙ *прым.* Разумны, дасведчаны. *Цваный — гэто як знае ўсэ.* Падкраічы Бяроз.

ЦВЯХ, ЦЕХ *м.* Цвік. *Міша прыбыв цвяхом штахету.* Трыліскі Іван. *У дошчэчку набіты цяхі.* Азарычы Пін.

ЦЕЖ, ЦЭЖ *м.* Раствор з аўсянай мукі, з якога варыцца кісель. *Оўсяны кісель рошчыняем, на сіто процэдзім, вон сстоіцца, зліваюць воду, та вода квасьліны, а остаецца цеж, с цежу варацць кісель.* Альманы Стол. *Процэдыла рошчыну на сыто, а з цэжа зварыла кісіль.* Кустын Брэсц.

ЦЕ́МЫТЫ *незак.* Памятаць. *Я стэ цемлю.* Сварынь Драг.

ЦЕНЕ́ТО *н.* Сець для лоўлі рыбы. *Як порвецца ценето, то трэба ёго построіць.* Альшаны Стол. *Ценето колі порвецца, то зашываюць вілочкамі.* Цераблічы Стол.

ЦЕ́ПАНКА *ж.* Дробна парэзаная трава. *Пурсюк йіст цепанку.* Дубіца Брэсц.

ЦЕ́ПАТЫ, ЦЁПАТЭ, ЦЯПА́ТЫ *незак.* Даіць. *Маты пошла цепаты корову.* Замшаны Малар. *Дівчына пушла цепаты тылушку.* Ласкі Малар. *Трэ цёпатэ картоплі свэням, бо я вжэ зняла чыгунэ.* Харсы Брэсц. *Таня пушла цяпаты курову.* Пажэжын Малар.

ЦЕ́ПЕРСІ, ЦЕ́ПЕРСЬ, ЦЕ́ПЯРСЯ *прысл.* Вельмі даўно. *Ціперсі мая мацi служыла ключніцай у пана Радзівіла.* Гута Лях. *Цеперсі ўзяў лес на хату.* Св. Воля Івац. *Цепярся хату зрабіў.* Слабажаны Бар. *Майго старшога цепярся дома няма: от паехаў перад калядамі і ня піша нічога.* Гарадзішча Бар.

ЦЕПЭ́РАКА, ЦЯПЕ́РАКА, ЦЯПЕ́РАЧЫ *прысл.* Цяпер. *Зробіў роботу, а цепэрака погуляй.* Вялікая Гаць Івац. *Давайце цяперака заспяваем харошую песьню.* Зубелевічы Лях. *Цяперачы ты ў мяне не прасіся.* Там жа.

ЦЕ́ТА, ЦЯ́ТА *ж.* Кропля. *Шэ цета молока е в гладэсцэ.* Брашэвічы Драг. *Влы цяту молока.* Вулька Сіманаўская Драг.

ЦЁГЛЭТЭ *незак.* Піць. *Взев гладэшку дай цёглэть молоко.* Брашэвічы Драг.

ЦЁНГЛЕ, ЦЁНГЛО, ЦЁНГЛЯ *прысл.* Заўсёды. *Цён-*

*гле геты діты замазаны.* Ляскова Кобр. *Ён цёнгле быў весёлы.* Ліпск Лях. *Ты цёнгло шось выдумаіш.* Саха Драг. *Цёнгло трэба буракы пулоты.* Павіцце Кобр. *Цёнгло кіт за мною выходыть.* Гальцы Стол. *Цёнгля я чакаю цябе.* Навасёлкі Бар. *Нашы дзяды цёнгля рабілі ўсё сваімі рукамі.* Ласасіна Пруж.

ЦЁПАВКА *ж.* Гл. цапка. *Пырыбы цёпавкыю зэмлю.* В. Якаўчыцы Жабін.

ЦЁРЛА *ж.* Міска, у якой труць што-н. *А я ўчора цёрла купіла ў анучніка.* Мазуркі Лях.

ЦЁСКА *ж.* Лучына. *Маці запаліла цёску, каб святлей стала ў пакоі, і пачала шукаць мае валенкі.* Дзяніскавічы Ганц. *Брат прынёс у хату цёскі.* В. Чучавічы Лун.

ЦЁТАТЫСЬ *незак.* Сварыцца. *Воны цёталысь і довго ны говорылы потом.* Галоўчыцы Драг.

ЦІБА́РКА *ж.* Драўлянае вядро. *У цібарку налэлі воды.* Цна Лун.

ЦІБА́Х, ЦЫБА́Х, ЦЫМБА́Х, ЦЮБА́Х *м.* 1. Кветканоснае сцябло цыбулі. *Мой хлопэц вытягса за лето, як той цібах.* Валішча Пін. *Вся цыбуля пошла в цымбахы.* Камянюкі Кам. 2. Зялёнае пер'е цыбулі, часнаку. *Нарву цыбахів у городы.* Бурмакі Драг. *Шчоб холоднык був смачніші, цыбахы трэба шчоб булы свіжыі.* Семяховічы Пін. *У нас цыбахы як лоза ростуть.* Гальцы Стол. *Цюбахе крешать, дубавляйуть ду іх смітанэ і ідють.* Радастава Драг.

ЦІВКА, ЦІЎКА *ж.* 1. Цэўка. *Скылько ты цівок насучыла?* Камароўка Брэсц. *Шэ одна цівка з ныткамы, а там трэба будэ знов сукаты.* Ляхавічы Драг. *Трэба ж одрызаты цівку такую, коб улізла в човнык.* Какорыца Драг. *Пока ў сукало ціўку заложыў, то поломаў.* Валішча Пін. 2. *анат.* Частка рукі ад локця да кісці. *Ударыўса ціўкою об камэнь.* Валішча Пін. *У мынэ боліть ціўка.* Церабень Пін.

ЦІВО́СЕ *прысл.* Даўно. *Цівосе гэто было.* Пузічы Лун.

ЦІКА́ВЫ *прым.* Цікаўны. *А цікавы які, дапне ўсюды.* Пачапава Бар.

ЦІ́КНУЦЬ *зак.* Глянуць. *Цікні ў вакно, хто там ідзе.* Паланэчка Бар.

ЦІ́ЛНА *прым.* Цельная. *У нашой чэрэді одна цілна тэлушка.* Сварынь Драг.

ЦІМА́ЛЫ *прым.* Вялікі. *На столі стоіть цімалая кварта.* Міжлессе Бяроз.

ЦІМА́ЛКО *прысл.* Многа. *На лугу рустэ цімалко квыток.* Індычы Кам.

ЦІПАНЯ́ТА, ЦІПУНЯ́ТА, ЦІПЭНЯ́ТА, ЦЮПЫНЕ́ТА *мн. зб.* Кураняты. *Квоктуха вывела двенаццаць ціпанят.* Вулька І Лун. *Ля ганку стояла курыца с ціпунятамі.* Варанілавічы Пруж. *Ціпэнята ўсе маленькіе.* Валішча Пін. *З курою ходять цюпынета.* Юхнавічы Іван.

ЦІ́ХА *ж.* 1. Саматканая дзяруга. *Нывістка выткала вэльмы хурошу ціху.* Галоўчыцы Драг. 2. Вялікі мяшок для мякіны. *Там у кутковы лыжыть ціха, насып еі повну.* Залессе Кобр. 3. Матрац, сяннік. *Батько пошов у клуню набываты ціху.* Воса Кобр.

ЦІЦІВА́ *ж.* Бацвінне. *Ціціва варылася з бульбай.* Ласасіна Пруж.

ЦО́ЎДРА *ж.* Вялікі кавалак чаго-н. *Да ж ўзяў цэлую цоўдру сала.* Валішча Пін.

ЦУКРО́ЎКА, ЦЮКРІ́ВКА *ж.* Сорт салодкіх яблык, груш. *Цукроўка росла, грушэ такіе смачные булі.* Валішча Пін. *Цюкрівка — такыі яблыка, шо вэльмы солодкы.* Літоўск Драг.

ЦУ́НІК *м.* Маленькая калодачка даўжынёй каля 30 см. *Одрэж цуніка.* В. Малешава Стол.

ЦУРБА́ЛКІ *мн.* Трэскі. *Трэба насобіраць хоць цурбалкоў да натопіць у грубе.* Купаўцы Лун.

ЦУ́РКА *ж.* Прылада для вязання снапоў. *Возьмы цурку, а то ны звяжэш снопа.* Ботава Пін.

ЦЫ́БАЛКА *ж.* Гушкалка ў выглядзе бервяна з пакладзенай на ім накрыж дошкай. *Цыбалыса діты на цыбалцы.* Рухча Стол.

ЦЫ́БАЛО *н.* Тое ж. *Пошлы, дывчата, поцыбаемоса на цыбало.* Плотніца Стол.

ЦЫБАНЯ́СТЫЙ *прым.* Цыбаты, даўгавязы. *От цыбанястый бычок.* Вулька Сіманаўская Драг.

ЦЫ́БАТЫСА *незак.* Гушкацца. *Цыбалыса діты.* Рухча Стол.

ЦЫБА́ТЭ *незак.* Збіваць што-н. з чаго-н. *Гатэ еблыка траба цыбатэ. Вася цыбаў два еблыка.* Туляцічы Іван.

ЦЫБЭ́РОК *м.* Кубел. *Гэтой цыбэрок зусім розламався.* Высокае Бяроз.

ЦЫГА́НІК *м.* Сцізорык. *Цыганік здалюк бліщчав, як серэбро.* Навасёлкі Пруж. *Памянш.* ц ы г а н ч ы к. *Даты одрэзаты хлеба цыганчыка?* Падкраічы Бяроз.

ЦЫ́ГНУЦЬ *зак.* Скокнуць. *Як цыгнуў с самахода і*

*нагавіцы падраў.* Варанілавічы Пруж. *Ты на колькі цыгнуў ў даўжыню?* Квасевічы Івац.

ЦЫДЫ́ЛКА *ж.*, ЦЫДЫ́ЛКО *н.* Цадзілка. *Коля прыпыка вісыла цыдылка.* Семяховічы Пін. *Цыдылка сушылася на дворі.* Бярозавічы Пін. *А мы цыдылком завжды пользуімся.* Шэбрын Брэсц.

ЦЫДЫ́ЛНЫК *м.* Тое ж. *Трэба новый цыдылнык, а то гэтой жовтым став.* Ляхавічы Драг.

ЦЫЛУ́Х *м.* Снежная цаліна. *Ішов цылухом до гостынця.* Сіманавічы Драг.

ЦЫЛЫСЫ́ТЫ *незак.* Вельмі хутка гаварыць. *Вона цылысыт, а ны говорыт.* Маціевічы Жабін.

ЦЫ́МБАЛ *м. іран.* Вялікі чалавек. *По дорозі шов цымбал.* Смолін Брэсц.

ЦЫПО́К *м.* 1. Пруток, на якім знаходзяцца петлі нітоў. *Одна клэшня, то кажуть одын цыпок.* Спорава Бяроз. 2. Панажы. *Ходыш ужэ на всіх цыпках, поножы звуцця цыпкамэ.* Сварынь Драг.

ЦЫПЭНЯ́, ЦЮПЫНЕ́ *н.* Кураня. *Кура вывэла однэ цыпэня.* Вялікая Гаць Івац. *Курыцу садять на ейца, шоб высэдыла цюпэнета, а однэ — то цюпыне.* Ляхаўцы Малар.

ЦІ́ТРА, ЦЫ́ТРА *ж. асудж.* Вяртлявая прыгожая жанчына. *У кого оно ўдаласа, гакая цітра, шчо свет нэ бачыў.* Валішча Пін. *Ны віртыся, як цытра.* Залессе Кобр.

ЦЭ́БОР, ЦЭ́БЫР, ЦЭ́БЭР *м.* Цэбар. *Міхась зрабіў новы цэбор.* Гута Ганц. *Цэбор буў новы і крохі оддаваў сырым дзерэвом.* Дзятлавічы Лун. *Мама сказала, шоб я налыла в цэбор воды і напуіла корову.* Смолін Брэсц. *В цэбры була вода.* Крытышын Іван. *Каля калодяза стоев цэбыр з водою.* Радаўня Іван. *Свынячы картоплі высыпала маты в цэбэр.* Макраны Малар. *Цэбэр розваліўса соўсем, трэба гінчого цэбра поставіты.* Валішча Пін.

ЦЭГЛО́ВЫЙ *прым.* Аранжавы. *Я наділа цэгловэ платте.* Сварынь Драг.

ЦЭ́ЛКО *прысл.* Метка. *Як ты цэлко стрыляіш.* Саха Драг. *Цэлко кінуў картопліну — прамо ў кошэль.* Валішча Пін.

ЦЭНТР, ЦЭ́НТЭР *м.* Свердзел. *Дзірку прокруцілі цэнтром.* Струга Стол. *Подай мне цэнтра, тут цэнтэр трэба.* В. Малешава Стол.

ЦЭПО́К *м.* 1. Вертыкальная планка, прымацаваная да гарызантальных доўгіх жэрдак. *Збытые цэпкі ў драпкі, у страмынкі.* Гарадная Стол. 2. Лёстка ў лесвіцы. *Трэ-*

*ба цэпка одного помэняты ў страміны, бо трэснуў і можэ поломатыса.* Валішча Пін.

ЦЮ́ГА *м.* і *ж.* Валацуга. *Кудэ ўжэ павалаклася, цюга, работы хіба дома не стае?* Кукава-Бор Ганц.

ЦЮ́ПА *ж.* Бульбяная каша. *Засмачыла маслом цюпу.* В. Малешава Стол.

ЦЮ́ПАТЫ *незак.* Папракаць. *Цюпаеш іх сынамі, а сама нывядомо якая.* Пескі Кобр.

ЦЮ́ПКА *ж.* Хлеб з вадой і цукрам. *Дай мне цюпкі.* Мікашэвічы Лун.

ЦЮРОВА́ТЫ, ЦЮРУВА́ТЫ *незак.* Цыраваць. *Маты цюровала швэдру.* Макраны Малар. *Трэба цюруваты дырку.* Дзмітравічы Кам.

ЦЮРУ́БАЛО *н.* Костка з абрэзанага свінога кумпяка. *Кынуты цюрубало в кострулю.* Ушкавіца Кобр.

ЦЮХ *м.* Сабака. *На дворі брыхаў цюх.* Замшаны Малар. *Цілу ніч чогось брыхав цюх.* Ланская Малар. *Цюх гнав зайця і гавкав.* Перавысь Малар.

ЦЯ́ЦЬКА *ж.* Цацка. *У нас есця мныго дытячых цяцёк.* Агова Іван.

ЦЯЦЯ *ж. дзіц.* Тое ж. *Дай малому цяцю, хай подэржыть.* Бездзеж Драг.

# Ч

ЧАБА́РКА *ж.* Выдзеўбаная з дрэва пасудзіна для захавання солі. *Я помню шчэ тую старую чабарку.* Радзеж Малар.

ЧАВІ́ТІ, ЧАВІ́ТЫ, ЧАВЫ́ТЫ, ЧАВЭ́ТЫ *незак.* Давіць, цiснуць. *Чавіті рукою в бэк.* Азарычы Пін. *Чавіты добрэ трэба, коб сок увэсь вышоў.* Валішча Пін. *Под ранок так чавыв мороз, шчо сціны трышчалы.* Жоўкіна Пін. *Він чавэв хлопцёвэ рукэ.* Сварынь Драг.

ЧАВУ́Х *м.* Шчаўе. *Посьлі роботы бабы пошлы по чавух.* Астрамечава Брэсц. *Мы сёгодня варылі чавух.* Пугачова Брэсц.

ЧА́ЙКА *ж.* Лодка. *На чайцы мы поіхалы по рогуз.* Марозавічы Пін. *Мы іздылы на чайцэ цілы вачор.* Ладараж Пін.

ЧАЛАВЕ́К, ЧОЛОВІ́К, ЧУЛУВІ́К *м.* Муж. *Мой чалавек ужо даўно памёр.* Рудня Івац. *Мой чоловік просів посаду.* Клятная Пін. *В Марыны вэльме добрый чоловік.* Замшаны Малар. *Ныма в мынэ чоловіка — ныдав-*

*но вмэр.* Бухавічы Кобр. *А ты чулувіка, жынка, шануй.* Макраны Малар.

ЧАЛАВІ́ЧОК, ЧОЛОВІ́ЧО́К *м.* Зрэнка. *У мамі боліть чалавічок.* Церабень Пін. *Чоловічок росшыряны.* Кустын Брэсц.

ЧАЛЮСТЭ́ *мн.* Адтуліна ў печы, праз якую ўстаўляюць чыгуны. *Чалюстэ булэ чорнымэ от сажэ.* Перавысь Малар.

ЧАПЛЕ́ЙКА, ЧАПЛІ́ЙКА, ЧЭПЛЕ́ЙКА *ж.* Чапяла. *Маці даставала з печы блінцы чаплейкой.* Рудня Івац. *У куце стаяла чаплейка.* Скорцы Пруж. *Чаплійка поломалася, трэба другую зробыты.* Ляхавічы Драг. *Чэплейкою достають сковородь.* Валішча Пін.

ЧАПЛЯ́, ЧАПЛЯ́Я, ЧЫПЛІЕ́, ЧЫПЛІЯ́, ЧЭПЛЕЯ́, ЧЭПЛІЯ́ *ж.* Тое ж. *Дзе падзелася мая чапля?* Плехава Івац. *Вазьмі чапляю, адграбі жар далей.* Гарадзішча Бар. *Чыпліе була замазана в саджу.* Туляцічы Іван. *У нас новая чыплія.* Беразляны Іван. *Чэплея недэка пропала.* Валішча Пін. *Сковородь чэпліёю бэры, а то рукы попэчэш.* Гальцы Стол.

ЧАПЫ́ЛЬНЫК *м.* Тое ж. *На прэпыку лыжав чапыльнык.* Трудавая Іван.

ЧАРАБА́ХНУТЫ *зак. экспр.* Моцна ўдарыць. *Гэто ж трэба так чарабахнуты хлопцу — оно шо пошоў.* Валішча Пін.

ЧАРВЭ́КІ, ЧЫРВЫ́КЫ, ЧЭРВЭ́КІ, ЧЭРЭВІ́КІ, ЧЭРЭВЫ́КІ *мн.* Чаравікі. *Гэты чарвэкі вэльмэ міцны.* Кустын Брэсц. *Братовы купылы новы чырвыкы.* Зарэчка Драг. *Чырвыкі почыстыла добрэ.* Козішча Кобр. *Сын обув чэрвэкі.* Мартынюкі Кам. *Чэрэвікі давілі ногу.* Валішча Пін. *Пойду в город і куплю собе чэрэвыкі.* Дружба Брэсц.

ЧАРНЫ́ЦЯ *ж. зб.* Чарніцы. *Чарныця вэльмэ смачна.* Астрамечава Брэсц.

ЧАРЫ́НЬ, ЧАРЭ́Н, ЧЭРЫ́НЬ, ЧЭРЭ́Н *м.* Под печы. *Чарынь був гаречый.* Харсы Брэсц. *У моёй пачэ узбух чарэн.* Рамель Стол. *Я змазваю чэрынь.* Макраны Малар. *Коп то, старэнькі, чэрынь у пэчы загладыв, а то горшкы пэрэкыдаюцца.* Гальцы Стол. *Чэрэн трэбэка пэрэробіты.* Валішча Пін.

ЧАРЭМШЫ́НА *ж.* Чаромха. *Чарэмшына вжэ пырыцвыла.* Ляхавічы Драг.

ЧАСНЫ́К, ЧОСНЫ́К *м.* Часнок. *Часнык вырос вэлікі як ныколі.* Валішча Пін. *На городі посадыла чоснык.* Гершоны Брэсц.

ЧАТОВА́ТЫ *незак.* Сачыць, чакаць. *Чатовала, покыль вын ны выйдэ з лавкы.* Сіманавічы Драг.

ЧАЎКОТЕ́ТЫ *незак.* Хлюпаць. *Ужэ ў чоботях чаўкотеты стало, так многа воды наліло.* Валішча Пін.

ЧАХО́Л *м.* Манжэт. *Одны чахлы порваліса ў кошулі.* Бор-Дубенец Стол.

ЧАЧО́ТКА *ж.* Нарасць. *Навошта ты гэтую бярэзіну зрэзаў, яна ўся ў чачотках, патрэбна было б гладкую якую.* Альхоўцы Лях.

ЧА́ШКА *ж.* 1. Некалькі віткоў нітак на клубку. *Вілі юрком, коб цвердзейшы быў клубок, коб ні осоваліса чашкі.* Бузуны Пруж. 2. Плецены кораб. *Чашка стояла з ягодьмы.* Бездзеж Драг.

ЧА́ШНЫК *м.* Шафер. *На васіллі чашныком буў хлопэц з Мінска.* Спорава Бяроз.

ЧАШЧЭ́ВІК *м.* Падбярозавік. *Хадзіла сягоння ў лес. Цэлую сумку чашчэвікаў прынясла. Няма сёлета баравікоў.* Чэрніхава Бар.

ЧВА́НДЫТЭ *незак.* Дыміць. *Дрова ны гореть, а оно чвандыють.* Брашэвічы Драг.

ЧВЕ́РЫЦЬ, ЧВЭ́РЫТЫ *незак.* 1. Многа гаварыць пра што-н., абгаворваць. *Суседка ў нас ёсць адна. Яна знае адно, чверыць на кожнага, што ёй на язык прыйдзе.* Гарадзішча Бар. 2. Злаваць. *Не трэба чвэрыті собаку.* Бастынь Лун. 3. Рабіць абы-што. *Як почаў вон у той хаты чвэрыты, дак мы потом ныц на мэсці нэ нашлі.* Валішча Пін.

ЧВІ́РТКА, ЧВЭ́РТКА *ж.* Драўляная пасудзіна. *Чвіртка жыта.* Ляхаўцы Малар. *У чвіртцэ була мука.* Перавысь Малар. *Тылушцы заныслы чвэртку січкы.* Хацілаў Малар.

ЧВО́ГНУТЫ *зак. экспр.* Зачапіць, ударыць. *Ногою чвогнуты.* Сіманавічы Драг.

ЧВУ́РКА *ж.* Чацвёрка. *Зося ў школі заробіла чвурку.* Вулька І Лун.

ЧЕД *м.* Чад. *От чеду вельмы болыть голова.* Ляхавічы Драг.

ЧЕ́ШЧА *ж.* Цешча. *Я быў сёння ў чешчы.* Дварэц Лун.

ЧЕ́ШЧЫНА *ж.* Міска. *У чешчыну насыпалы курдуп.* Яміца Малар.

ЧО́БАТ, ЧО́БОТ, ЧО́БУТ *м.* Бот. *На дзеду былі старые чобаты.* Скорцы Пруж. *У лавку прывезлі чобаты.* Сямігосцічы Стол. *Хлопэц ішоў у вэлікіх чоботах.* Пяс-

чанка Бяроз. *Одного разу мій батько надів чоботы і пушов на охоту.* Галоўчыцы Драг. *У його вельмі лоўкіе чоботы.* Дрэбск Лун. *Чобот порваўся.* Валішча Пін. *У кепску погоду порваного чобута нэ обувай.* Смолін Брэсц.

ЧО́ВНЫК, ЧО́ЎНЫК *м.* Чаўнок. *Насукала цывок, шчо ны влазять у човнык.* Папіна Драг. *Ну й ччэ быстро, чоўнык бігае то туды, то сюды.* Гарынь Стол.

ЧО́МХАТЫ *незак. іран.* Цягнуцца, ісці паволі. *Чомхав в старых чоботюх.* Сіманавічы Драг.

ЧО́ЛОПУХЭ *мн. зніж.* Распушчаныя валасы. *Чуго трасэш чолопухамэ?* Радастава Драг.

ЧО́РНОБУСЕ́Л *м.* Бусел чорны. *Чорнобусёл полецеў.* Беражное Стол.

ЧОРНУ́ХА *ж.* Зябліва. *Зоралы чорнуху.* Арэхава Малар.

ЧО́САНКІ, ЧО́СОНКЫ, ЧО́СУНКІ *мн.* Валёнкі з чэсанай воўны. *Сёння нам у чосанках не пролезці — такая завея сходзілася.* Слабажаны Бар. *Чосанкі сушат у пычі.* Кустын Брэсц. *Зымою ліпш за всё ходыты в чосонках.* Дзеткавічы Драг. *У магазін прывызлы чосонкы.* Залессе Драг. *В чосунках ходят зымою.* Бучамля Кам.

ЧО́ХЛЯ *ж.* Малярыя. *Опановала чохля, нэ поздоровею ныяк.* Падкраічы Бяроз.

ЧУГІ́ШКАТЫ *незак.* Гушкаць. *Чугішкай, чугішкай, хутко своє будэ.* Страдзеч Брэсц.

ЧУ́ЙКА *ж.* Чапяла. *Цётка купіла чуйку.* Бакуны Пруж.

ЧУНЬ *м.* 1. Самаробны тапачак. *Баба звязала вжэ одын чунь.* Бучамля Кам. *У чунях добрэ ходыты.* Ляхавічы Драг. *Для малых дэтэй в'яжуть чуні.* Яечкавічы Іван. 2. Лапаць з вяровак. *Топірыка в чунях нэ ходять.* Ляхаўцы Малар.

ЧУ́НКА *ж.* Апона, якой накрываюць каня. *Подай чунку, коня накрыю.* Гарбаха Іван.

ЧУСТРЫ́ТЫ *незак.* Церці бульбу. *На́чустры картоплі!* Ляхаўцы Малар.

ЧУХА́ I *ж.* Тупы канец яйка. *Чуха об чуху будэм бітыса на вэліконне.* Валішча Пін.

ЧУХА́ II *ж.* Пух, які аддзяляецца ў працэсе ткання пры руху бёрда. *Чуху моё бэрдо жэнэ.* Лукава Малар.

ЧУ́ХРАТЫ, ЧУХРА́ТЫ *незак.* Абіраць, чысціць бульбу. *Я встаю рано і чухраю картоплі.* Падышча Іван. *Я люблю натто картоплы молодыі чухраты.* Журавок Іван.

ЧУ́ЧЫРЫПОК *м.* Яйка без шкарлупіны. *Курыця знысла чучырыпка.* Заверша Драг.

ЧУШКО́ *н.* Пятля для вяровак у лапцях. *Порвалос чушко в постоловы.* Гарбаха Іван.

ЧЫБРУ́ШКА *ж.* Божая кароўка. *Чыбрушка пувзла пу лыстковы.* Дубіца Брэсц.

ЧЫКІЛДА́ *м.* і *ж.* Кульгавы чалавек. *Ты, Мар'я, сама схадзі па яго, а то гэты чыкілда пакуль зачыкілдае, то й вечар надыдзе.* Кукава-Бор Ганц.

ЧЫКО́ЛОТКА *ж.* Каленца. *Стэблына мае чыколоткы.* Адрыжын Іван.

ЧЫ́КОЛОТОК *м.*, ЧЫ́КУЛОТКА *ж.* Шчыкалатка. *Чыколоток забыв мыцно.* Перавысь Малар. *Завязала чыкулотку.* Макраны Малар.

ЧЫМА́ЛО *прысл.* Многа. *Вэсною в нас рыбы завсёды чымало.* Гальцы Стол.

ЧЫМЧУ́РА *ж.* Высокая прычоска. *Понароблялы гэты чымчуры, аж гадко дывытысь.* Журавок Іван.

ЧЫНОВА́ТЫ *прым.* Вытканы ў чатыры панажы. *Полотно такое ткут у чэтыры ніты, называют чыноватэ.* Бузуны Пруж.

ЧЫНОВА́ТЫНА *ж.* Тканіна, вытканая асаблівым спосабам. *Чыноватына в косэ і по-суконому і в кружкэ.* Сварынь Драг.

ЧЫНЫ́ *мн.* Планачкі ўнізе каля асноўнага бруска, якія служаць для падліку пасмаў і раздзялення нітак асновы на два рады. *Зробы колочка ля чыныв.* Папіна Драг.

ЧЫПУРЫ́ЧОК *м.* Шампіньён. *Коло нас чыпурычок росце.* Адвержычы Стол.

ЧЫ́РКА *ж.* Чырок. *Вісім чырок було забыто.* Астрамечава Брэсц.

ЧЫРЫМШЫТЫ *незак.* Шкрабаць, пяршыць. *Шось в горлы чырымшыть.* Вавулічы Драг.

ЧЫ́СЛЕНІК *м.* Каляндар. *Коло вокна повісь чысленік.* Вулька І Лун.

ЧЫ́СНЫЦЯ *ж.* Тры ніткі, якія ўваходзяць у пасма. *Чысныця одна дысята доля пасма.* Шэбрын Брэсц. *У пасмовы дэсыть чысныць.* Папіна Драг.

ЧЫТРА́ДЬ *ж.* Сшытак. *Сів на ровэр і поіхав по чытрадь.* Саха Драг.

ЧЫ́ЧКА *ж.* Бацвінне. *Чычок нарвала ля свынэй.* Вялікі Лес Драг.

ЧЭНЭ́ТЭ *незак.* Начыняць чым-н. *Чэняць тонкі кішкэ мнесом.* Сварынь Драг.

ЧЭТВЭРТЫ́НА *ж.* Чацвёртая частка. *У мэнэ двенаццата доля, у тэбэ ж чэтвэртына була, хіба я нажыву на ій.* Радзеж Малар.

# Ш

ШАБАЛДІТЫ, ШАЛДІТЫ *незак. экспр.* Гаварыць абы-што. *Він шабалдів бэз толку.* Перавысь Малар. *Шо воны там шалдять.* Вулька Сіманаўская Драг.

ШАБЕ́ШКА *ж.* Кашалёк. *Він носыв у шабешцы оно копейкы.* Кулякі Іван.

ШАБЭ́ЛЬ *м.*, ШАБЛІ́ *мн.* Фасоля. *Маем куліш с шабэлем вэльмі смашный.* Яміца Малар. *Маты пусадыла шаблі.* Дубіца Брэсц. *Маты наварыла супу з шаблямы.* Пажэжын Малар.

ША́ВЕЛЬ, ШЕ́ВЕЛЬ *м.* Казытанне. *Мой брат боіцца шавелю.* Запроссе Лун. *Вона боіцца шевелю.* Кажан-Гарадок Лун.

ШАДЗЕ́ЛІК *м.* Кручок для вязання. *Купі ў крамі шадзелік.* Падлаззе Лях.

ШАЙНЯ́ *ж.* Сумка з лазовай або бярозавай кары. *Покладзі ў шайню сала.* Альшаны Стол.

ШАЛА́ТА *ж.* Салата. *У городі ростэ шалата.* Дружба Брэсц.

ШАЛЕ́НЕЦ *м.* Шальнік. *Шаленец — лечэбна трава.* Камянюкі Кам.

ШАЛЕ́ПАТЫ, ШЫЛЁПАТЭ *незак.* Казытаць. *Кынь шалепаты, я так боюся стого.* Страдзеч Брэсц. *Шось у мына за пазухыю шылёпае.* Субаты Драг.

ШАЛІ́ВКА, ШАЛІ́ФКА *ж.* Шалёўка. *Завтра будым шалёваты шалівкою хату.* Шэбрын Брэсц. *У його посьля шалювання хаты осталося мныго досок — шалівок.* Хмелева Жабін. *Шаліфкою обіваты хату.* Азяты Жабін.

ШАЛІНЕ́ЎКА, ШАЛІНО́ЎКА, ШАЛІНЫ́ВКА, ШАЛЯНІ́ЎКА, ШАЛЯНЫ́ЎКА, ШЫНЫЛІ́ВКА, ШАЛІ́ФКА *ж.* Шарсцяная квяцістая хустка. *Сын прынёс маці квяцістую шалінеўку.* Баравікі Лун. *Гэта шаліноўка ідзе табе да твару.* Нецеч Бар. *Дівчына була в хорошій шаліныўцы.* Гутава Драг. *Шаліныўку зав'езують тоды, ек холодна погода.* Ляхавічы Драг. *Трэба завязаць шыляніўку.* Панкі Івац. *На свято вона зложыла новэ пальто і*

*зав'язала шаляныўку.* Гошава Драг. *На базары продавалы шаляныўкы.* Сулічава Драг. *Дэ ты дустала такую шынылівку?* Бабічы Кам. *Маты купыла доццы нову шаліфку.* Чвіркі Кам.

ШАЛУПА́ЙКА *ж.* Лупіна. *Звары шалупайкы свынюм.* Ляхавічы Драг.

ША́МАЦЬ *незак.* Гаварыць непатрэбнае, неразумнае. *Не шамай шчо не трэба.* Рамель Стол.

ШАМО́ЛЬКАЦЦА *незак. экспр.* Працаваць марудна. *Якая гэта работніца з яе: шамолькаецца сабе памаленьку.* Гарадзішча Бар.

ШАНДРІ́ТЫ *незак.* Чысціць абутак да бляску. *Чоботы заблышчать тогды, як іх добрэ шандріты.* Закляценне Драг.

ША́НОК, ШЯ́НОК *м.* Драўляная пасудзіна ёмістасцю 6 пудоў. *Я тыпэр россіяв шанок овса.* Дастоева Іван. *Жыта наміралі п'ять шянкув.* Падбела Кам.

ША́НЬКА *ж.* Скураная торбачка. *У мене цэлая шанька цыбулі вырасла.* Цераблічы Стол. *Учора поўну шаньку набрала грыбоў.* Запроссе Лун.

ША́ПА, ША́ХВА *ж.* Шафа. *У кажный хаты е шапа з юстром.* Заверша Драг. *У шапы вісыть святное вбранне.* Моталь Іван. *Марынка положыла шкарпэткі в шахву.* Сушытніца Малар.

ША́ПКА *ж.* 1. Верхні сноп, якім канчаюць стог. *На стошку соломы назбырав да звязав двома пэрэвясламы, да завэршыв стошка шапкою.* Гарадная Стол. 2. Перакладзіна над вушакамі. *На сподок ставят два стоекы, а на стоекы кладэцца шапка.* Горск Бяроз.

ШАРАБА́Н *м.* Воз. *По вуліцы проехаў шарабан.* Лядзец Стол.

ША́РГА, ШЯ́РГА *ж.* Мяцеліца, бура. *От ужэ узнялася шарга, шо світа ны выдно.* Заверша Драг. *Цілый дэнь на дворі шарга.* Пяшкова Іван. *Ох і шярга росходылася.* Пескі Кобр.

ШАРА́КІ *мн.* Порткі. *Бацька адзеў новыя шаракі.* Гута Ганц.

ШАРОВА́ТЫ, ШАРУВА́ТЫ *незак.* Скрэбці. *Шароваты нагавіцы цэгліною.* Валішча Пін. *Пудлогу трэба завтра шаруваты.* Карсынь Іван.

ШАСТУ́Н *м.* Сяннік. *Даўней усё на шастунах спалі, бо лошкі былі дзеравяныя.* Дзяніскавічы Ганц. *Ён уклаўся на шастун.* Баравікі Лун. *Шастун быў короткі.* Запроссе Лун.

ШАСТУ́НЫ *мн.* Бомы, званочкі. *Шастуны под дугою, коны ўбраные стоять, а молодые нэ выходять.* Валішча Пін.

ША́СХАТКА *ж.* Балея. *Замачыла анучы ў шасхаццы.* Мельнікі Ганц.

ШАСЦІ́НЫ *мн. абрад.* Памінкі на шосты дзень. *Вчора булы шасціны по вмэрлому.* Казловічы Брэсц.

ШАТКОВНЫ́ЦА *ж.* Шаткоўня. *Сусідка прыйшла позычыты шатковныцу.* Семяховічы Пін. *Капусту крышылі на шаткоўныцы.* Валішча Пін.

ШАЎПЕ́ЦЬ *незак.* Балбатаць. *Не шаўпе, бога раді!* Пузічы Лун.

ШАЎРЫ́ГЦІ *незак.* Тое ж. *Шчо ты шаўрыгаеш?* Велле Стол.

ША́ФЕР *м.* Сябар жаніха. *Шаферы гуляють на вэсіллі.* Казловічы Брэсц.

ШВА́ЙКА *ж.* 1. Вялікае шыла. *Дзядзька Макар выхваляўся, што яго швайка перакалола ўжо каля ста кабаноў.* Калоднае Стол. 2. Шчупак. *Швайку жарацЬ у салі.* Давыд-Гарадок Стол.

ШВЕ́ДЭР, ШВЭ́ДЭР *м.* 1. Кофта. *Тато купэв мні новуго шведра.* Сварынь Драг. *Я купіла шведра.* Пузічы Лун. 2. Світар. *Маці хорошого швэдра звязала.* Св. Воля Івац. *Я скора мецьму новага швэдра.* Заліпенне Лях. *Хваліўса швэдром пока нэ порваў.* Валішча Пін.

ШВЕ́НДАЦЬ, ШВЭ́НДАТЫ *незак. экспр.* Хадзіць без мэты. *Не швендай ты з хаты ў хату.* Гарадзішча Бар. *Швэндае под ногамы.* Кустын Брэсц.

ШВЕ́РГАЦЬ *незак. экспр.* Шоргаць. *Чаго ты швергаеш гэтымі нагамі?* Гарадзішча Бар.

ШВО́РАБ *м.* Верабей. *До кормушкы прылытів швораб.* Заверша Драг. *Кушка зловыла шворабa.* Хомск Драг.

ШВО́РКА *ж.* Павадок. *Возьме собаку на шворку!* Арэхава Малар.

ШВО́РКІ *прым.* Хуткі. *От шворкі чоловік.* Ботава Пін.

ШВО́РЫНЬ, ШВО́РЭНЬ *м.* 1. Шворан. *Іхалы, іхалы і по дорозы лопнув шворынь.* Дастоева Іван. 2. *перан.* Лгун. *Ох, і шворэнь жэ ты!* Гошава Драг.

ШВУ́ХНУТЫ *зак.* Боўтнуцца, пляснуцца. *Вун швухнув у воду і поплыв пуд вудою.* Радзеж Малар.

ШВЫ́ГА *ж.* Кукіш. *Швыгу скрутыты.* Падкраічы Бяроз.

ШВЫРХА́ТЫ *незак.* Варушыць. *Швырхаты ногамы под столом.* Падкраічы Бяроз.

ШВЫ́ТКЫЙ *прым.* Хуткі, рухавы. *От то швыткый хлопчына.* Белін Драг.

ШВЭ́ДІ, ШВЭ́ДЫ *мн.* Скваркі. *Тітка пожарыла швэдов.* Туляцічы Іван. *От моі діты нэяк швэдюў нэ едять.* Гальцы Стол. *Мамо, напэчы швэдэй на вэчэру.* Сакалоўка Пін.

ШВЭ́ДКА *ж.* Піла. *Швэдка звыніла в ёго руках.* Пажэжын Малар.

ШВЭ́НГАЛО *м. пагард.* Валацуга. *Ходыш гэбы той швэнгало, домы нэ знаеш.* Валішча Пін.

ШЕ, ШЭ *прысл.* Яшчэ. *Ше рано вставатэ.* Гаравіца Драг. *Вын шэ ны прышов.* Моталь Іван.

ШЕЛЕХТА́ЦІ *незак.* Казытаць. *Дуня смяялась й шелехтала малую дзеўчыну.* Баравікі Лун.

ШЕ́НО, ШЧЭ́НО, ШЭ́НО *прысл.* Толькі што. *Я шено прыіхав з болота.* Закляценне Драг. *Ты шэно прыйшла с школы?* Дубраўкі Драг. *Хлопэц шчэно почаў ходыты.* Боркі Пін. *Шэно сонцэ зайшло за ліс. Шэно вчора було тэпло, а тэпэр ідэ дошч.* Моталь Іван.

ШЕ́ПКА *ж.* Шапка. *Свою шепку я згубыв.* Сукачы Драг.

ШЕ́ТКІ *мн.* Вазок. *Госты прыіхалы в шетках.* Чвіркі Кам.

ШЕ́ХЛЯ, ШУ́ХЛЯ *ж.* Ліхаманка. *Вэсною я захворела на шехлю.* Рудня Іваң. *Було гэтак холодно, бы шухля трасла.* Бярозавічы Пін.

ШІ́НКІ *мн.* Некалькі снапоў жыта. *На загоне шінкі стоялі.* Калоднае Стол.

ШІ́ПКА, ШЫ́ПКА *ж.* Дрывотня. *На зыму у нас повна шіпка дров.* Трыліскі Іван. *Стылько мныго було дров, шчо всёю сымнёю пырыносылы іх в шіпку.* Мінянка Кобр. *Граблі в шыпцы возьмы, ны забудься.* Хомск Драг.

ШІРМА́ТЫ *прым.* Шырокі і круглы, пляскаты (пра зерне). *Сачівка шірматая.* Радастава Драг.

ШІХОВА́ТІ, ШЫХОВА́ТЫ *незак.* Гатаваць, рыхтаваць. *Манька шіховала до вісілля свого сына.* Семяховічы Пін. *Мні треба шыховаты обід.* Агова Іван.

ШКА́ЛЫК *м.* Кілішак. *На Новый рік і я выпыв шкалык шампаньского.* Воса Кобр.

ШКАП *м.* Шафа. *Купылы нового шкапа.* Здзітава І Бяроз. *Возьмі у шкапі нового каптана, одэні.* Шылін Бя-

роз. *У хаце стаяў шкап.* Гута Ганц. *Положы молотка на шкап.* Хваросна Пін.

ШКАРАЛЮПА *ж.* Шкарлупіна. *Розбэла шкаралюпу і ійцэ вэтэкло на пудлогу.* Арэхава Малар.

ШКВА́РКА *ж.* Скварка. *Чому ты шкварок нэ ісы?* Ботава Пін.

ШКВАРЧА́ТЫ, ШКВЭРЧА́ТЫ *незак.* 1. Трашчаць, патрэскваць, хрыпець. *В грудюх в мынэ шкварчыть.* Вулька Сіманаўская Драг. 2. Квакаць. *Шквэрчаты жабы сталы.* Падкраічы Бяроз. 3. Паказвацца (пра слёзы). *Слёзы вжэ шкварчеть в його.* Сіманавічы Драг.

ШКЛЁНДРА *ж.* Крывянка. *Мам, дайце мне кусок шклёндры.* Андрыянаўка Пруж.

ШКЛЮД, ШКЛЮК *м.* Склюд. *Шклюдом шклюдуемо дзерэво.* Азярніца Лун. *Шклюком цесалі дрэво.* Мікашэвічы Лун.

ШКЛЮДОВА́ЦЬ *незак.* Склюдаваць. *Буду шклюдоваць на хату.* Азярніца Лун.

ШКОВОРОДА́ *ж.* Скаварада. *Я собі учора шковороду нову купыла.* Карсынь Іван.

ШКОПЭ́ЦЬ *м.* Бурт. *Шкопэць выкупалы на гуроді.* Клейнікі Брэсц.

ШКО́РА *ж.* Скура. *Шкора ек на цыгановэ.* Сварынь Драг.

ШКОРУ́НА *ж.* Снегавая корка. *После одлыгі шкоруна на сніговы.* Дастоева Іван.

ШКРАГНА́ *м.* і *ж. зневаж.* Піскля. *Чого ты плачэш, шкрагна?* Вулька Сіманаўская Драг.

ШКРАГНІ́ТЫ, ШКРАГНІ́ТЭ *незак.* 1. Плакаць. *Чогося шкрагнэть ваш малэй, чы ны хворы.* Субаты Драг. 2. Крычаць. *Шкрагнять гэты гусынята, трэба покормыты.* Вулька Сіманаўская Драг.

ШКРО́БАК *м.* Парваны вялікі бот. *Тогды у іі ныць ны було обуты, оно гэты шкробакы.* Крамно Драг.

ШЛАПА́К *м.* Калаўротак. *Баба зняла з гуры шлапака і стала прясты вовну.* Індычы Кам.

ШЛЁМАТЭ *незак. зніж.* Хадзіць цяжкім крокам. *Шлёмала увась дань в гатых чоботюх.* Субаты Драг.

ШЛО́ЙДА *м.* і *ж. зневаж.* Балбатун. *Нэ слухай гэтого шлойду, говорыть абы-што.* Пескі Кобр.

ШЛЫХТОВА́ЦЬ *незак.* Насычаць аснаваную пражу растворам клейкай вадкасці. *Напарыла сімня шлыхтоваты прежу.* Папіна Драг.

ШЛЯМ *м.* Тарфянішча. *У шляму почалы копаты торф.* Дастоева Іван.

ШЛЯПАНЫ́НА *ж.* Слата. *На гуліці стуіт шляпанына.* Ваўкаставец Кам.

ШМАГЛО́ *прысл.* Метка, хутка, добра. *От шмагло рубае.* Сіманавічы Драг.

ШМА́ЛЫЦ *м.* Тлушч. *В нашуй лавцы прудаецца свынячый шмалыц.* Кустычы Кам.

ШМА́ЛЬНУТЭ *зак.* Разануць, паласнуць. *Ек шмальнув його дубцом.* Субаты Драг. *Шмальнув ножэм по пальцові.* Кустын Брэсц.

ШМА́РА *ж.* Мазь. *У банцы стоіть шмара.* Зарэчка Драг.

ШМА́РНУТЫ *зак. экспр.* Ударыць. *Як шмарну, то одлытыш.* Мацievічы Жабін.

ШМАРОВА́ТЫ *незак.* Мазаць. *Шмароваты воза мазёю.* Валішча Пін.

ШМАРОВЫ́ДЛО, ШМАРОВЭ́ДЛО *н.* Колавая мазь. *Шоб колёса ны скрыпілы, іх треба змазаты шмаровыдлом.* Заверша Драг. *Шмаровэдло прывозять у бочцэ.* Туляцічы Іван.

ШМАРЫНО́ЎКА *ж.* Шарсцяная квяцістая хустка. *На базары не было шмарыноўкі.* Заліпенне Лях.

ШМА́ТЭ, ШМА́ЦЬЕ *мн.* Бялізна. *Я вчора мыла шматэ.* Пажэжын Малар. *Шмацье вісело на стуле.* Альманы Стол.

ШМО́РГАЦЦА *незак.* Хадзіць без справы. *Чуго ты тут шморгаешся?* Адвержычы Стол.

ШМОРГНУ́ТЫ *зак.* 1. Пацягнуць, рвануць. *Зэліну шморгнуты з росады.* Валішча Пін. 2. Пацягнуць носам. *Нэ шморгай носом. Попробуй оно хоть раз шморгнуты носом.* Валішча Пін. 3. Стукнуць. *Доскачэсса ў мэнэ — як шморгну зарэ дубцом по руках.* Валішча Пін.

ШМОРЫГА́ТЫ *незак.* Сашморгваць лісце з галінак. *Шморыгай помалэньку, бо руку можна пораныты.* Корчыцы Кобр.

ШМУЛЬНУ́ЦЬ *зак.* Сцябнуць, агрэць. *Шмульні як ні слухаюць, то полепшаюць.* Сасновы Бор Івац.

ШМУ́ЛЯТЫ *незак.* 1. Церці. *Нэ шмуляй чоботямі.* Валішча Пін. 2. Рэзаць тупым. *Шмуля́еш, шмуляеш ножом, а одрэзаты ныяк. Лепш ужэ одорваты, чым такою тупіцою шмуляты.* Валішча Пін.

ШНУРО́К *м.* Участак зямлі. *Мэжа між робіцца шнуркамі.* Здзітава II Бяроз.

ШНУРО́ЎКА *м.* Шнурок. *Пойбоцінкі то чорные, а шнуройкі рыжые. Хіба ж так хвайно?* Хатынічы Ганц.

ШНЫРОЎКА *ж.* 1. Безрукаўка. *Мая бабулька носіць і летом шныройку.* Мікашэвічы Лун. *Моя шныройка лойко пошыта.* Любань Лун. 2. Блузка. *Баба была ў шныройцы.* Дварэц Лун.

ШНЫ́РЫТЫ *незак. асудж.* Шныпарыць. *Шнырыть по ўсех хатах, чого?* Валішча Пін.

ШО́ВТАТЫ *незак.* Невыразна шаптаць. *Ны говорыла, а оно шовтала.* Сіманавічы Драг.

ШОЛО́ТА *м.* і *ж. зневаж.* Чалавек, які гаворыць многа і абы-што. *Я тыбэ, шолота, і слухаты ны хочу.* Гошава Драг. *Нэ шолоты абы чого, шолота.* Валішча Пін.

ШОЛОТУ́Н *м.* Тое ж. *Ны бай мныго, а то і тыбе прозовуть шолотуном, як і батька.* Выжлавічы Пін.

ШОЛОТЫ́ТЫ, ШОЛО́ХАТЫ *незак. экспр.* Гаварыць абы-што. *Хватыть тобі вжэ шолотыты.* Маладзельчыцы Пін. *Ты шолохаеш, сам ны знаеш шчо.* Мацієвічы Жабін.

ШО́ПА *ж.* 1. Прыбудова для торфу і дроў каля хаты. *У шопе ляжалі на зіму дровы.* Ласасіна Пруж. *У шопы лыжело много торфу.* Радаўня Іван. 2. Збудаванне з чатырох слупоў і страхі для захоўвання сена. *Мо якый віз сіна шчэ й у шопу влізэ?* Гальцы Стол. *Шопа була вэлыка, сіна положылы богато.* Ляхаўцы Малар.

ШО́ПЛЯ, ШО́ХЛЯ, ШУ́ПЛЯ, ШЫ́ПЛЯ *ж.* Шуфель. *Пырысып пысок шоплію.* Корчыцы Кобр. *Маты чэрэз шоплю просіяла жыто.* Замшаны Малар. *Дай свою шохлю.* Яцкавічы Кам. *Шуплямі рошчышчалі снег.* Пясчанка Бяроз. *Быз шыплі ны насыплэш картоплюв.* Дубраўкі Драг. *Жыто шыплію згрібвалы з машыны на тік.* Семяховічы Пін.

ШОС *м.* Шаша. *Коля шосу ростэ голэныстый дуб.* Дастоева Іван. *Я ішла в другое сыло чырыз шос.* Шэбрын Брэсц.

ШПАДЛЮ́ФКА *ж.* Рыдлёўка. *Прынысы шпадлюфку яму выкопаты.* Спорава Бяроз.

ШПА́ДЛЯ *ж.* Тое ж. *Учынікы в садковы дэрва упкопвалы шпадлямы.* Кустычы Кам.

ШПАЛЮ́ГІ *мн.* Козлы. *Шпалюгі нэсы, роспылуем кругляк які на дрова.* Дубай Стол.

ШПАРОВА́ТІ *незак.* Абшываць дошкамі. *Шпароваті столю трэба.* Сакалоўка Пін.

ШПАРУ́ТЫ *мн.* Планкі, якія трымаюць канцы ткані-

ны ў працэсе ткання. *Шпаруты, коб дэржалы, круглы.* Спорава Бяроз.

ШПА́РЫ *мн.* Боль ад холаду. *Шпары в рукы і в ногы позаходылы.* Корчыцы Кобр. *Такі мороз вылыкі, шо аж шпары у рукі зайшлы.* Здзітава І Бяроз.

ШПІ́РКА, ШПЫ́РКА, ШПЭ́РКА *ж.* Сала. *Бульбу зажарують шпіркою.* Радастава Драг. *Він одрізав собі кусок шпіркі і наівся.* М. Шчытнікі Брэсц. *Маты дала сынувы шпыркі.* Дубіца Брэсц. *Він йів шпэрку.* Павіцце Кобр.

ШПЛІНТ *м.* Плінтус. *Шплінт був вжэ прыбытый.* Ляхаўцы Малар.

ШПО́НКА *ж.* Запінка. *Він згубыв англійску шпонку.* Рыкавічы Жабін.

ШПРО́ЦЫ *мн.* Вушак. *На шпроцах вісыв шнур.* Ляхаўцы Малар.

ШПРЫ́ХА *ж.* 1. Вязальная спіца. *Вуна в'язала шкарпэткі на штыры шпрыхі.* Макраны Малар. 2. Спіца ў коле. *У ровэровы була выламана одна шпрыха.* Макраны Малар.

ШПУ́ЛЯ *ж.* Кола. *Шпуля добрэ поддэржуе полотно, коб воно ны стягвалося.* Ляхавічы Драг.

ШПЫ́ЦЯ *ж.* Стрэмка. *Я в палэць загнала шпыцю.* В. Якаўчыцы Жабін.

ШПЫ́ЧКА *ж.* Тое ж. *Я загнала пуд пазюр вылыку шпычку.* Гальцы Стол.

ШТАНДА́РА *ж.* 1. Калодка, на якую кладуцца першыя вянкі хаты. *Зрубілі дуб для штандар.* Азярніца Лун. 2. Калодка, на якую ставіцца печ. *Цепер укопалі штандары на печ.* Талмачова Стол.

ШТОКІ́Л *м.* Паркан. *Старый, поваляный у мынэ штокіл.* Хабы Брэсц.

ШТЫ́БНО *прысл.* Вузка, да стану (пра вопратку). *Штыбно пошыла кофту.* Кустын Брэсц.

ШТЭ́ГАТЫ *незак.* Кульгаць. *Штэгае вжэ давно, ныяк нога ны гоіцця.* Кустын Брэсц.

ШТЭ́МПОЛЬ *м.* Гл. штандара 1. *В яму ставым штэмполі, на іх кладэм пудрубы, або пудвалкы.* Падкраічы Бяроз.

ШТЭРНА́ЦЦЯТКА *ж.* Бёрда на 14 пасмаў асновы. *Штэрнаццятка — бэрдо, пасом у бэрдэ богато, густэ бэрдо.* Сварынь Драг.

ШТЭ́РХАТЭ *незак. неадабр.* Таўчы, калоць. *Штэрхав кэём у солому, шось шукав.* Субаты Драг.

ШУБУ́СЬ *выкл.* Бултых. *Шубусь водою ў вочы. Шубусь у роў.* Валішча Пін.

ШУГА́Й *м.* Мяккі качан капусты. *Гэты год у нас уродзілі шугае.* Лінова Пруж.

ШУГАЛІ́ЙКА *ж.* Невялікая лодка. *Вёсламі ездят, то мэньшынькіе шугалійкі.* Здзітава І Бяроз.

ШУЛЭ́НЬ *м.* Шуляк. *Шулэнь покрав всі цюпынета.* Пажэжын Малар.

ШУЛЯ́К *м.* 1. Гл. шугай. *Капуста гетого літа ны вродыла, одны шулякы позбырала.* Выжлавічы Пін. 2. Нарасць на корані капусты. *Шулякэ пунаросталэ.* Радастава Драг.

ШУ́РКА *ж.*, ШУ́РЫК *м.* Павець. *Коб ны гэта шурка, то дров у зыму ны роспалыв бы ныяк.* Какорыца Драг. *Прынысы з шурыка торфу.* Дарапеевічы Малар. *Памянш.* ш у р ч ы к. *Батько рубае і носыть дрова у шурчык.* Дарапеевічы Малар.

ШУ́СТА *ж.* Асцюк. *Шуста пупала в око.* Радастава Драг.

ШУСТЯ́К *м.* Амецце. *Шше шустяків добрэ нэ зняла.* Макраны Малар.

ШУХЛЯ́ДА *ж.* Частка акна, якая ўстаўляецца ў аконны праём сцяны. *Дзядзько Андрэй штосьці напісаў на шухлядзе.* Азярніца Лун.

ШЧАВЕ́Й, ШЧАВЭ́Й *м.* Шчаўе. *Пашлі па шчавей.* Нецеч Бар. *У горшку варывся шчавэй.* Рагадашч Іван.

ШЧАВІ́ТЫ *зак.* Сціснуць. *Шчавіты обцэнькамі гвоздзя. У грудях шчавіло.* Валішча Пін.

ШЧАВУ́Х *м.* Гл. шчавей. *Шчавуху наварылы молодого.* Астрамечава Брэсц.

ШЧЕРЕ́ЦЬ, ШЧЫРЭ́ЦЬ *м.* Чысты жоўты пясок. *Взев в руку шчерцу.* Арэхава Малар. *На шчерцу добрэ лэжетэ і загоратэ.* Там жа. *Вуда чыста, шчырэць бачыш.* Радзеж Малар.

ШЧО *займ.* Што. *Думай, шчо робітымо там.* Валішча Пін. *Шчо ты хочеш з мене?* Дрэбск Лун.

ШЧО́ЛАК, ШЧО́ЛОК *м.* 1. Рэдкая частка варыва. *Шчолаку не есць.* Вялікая Гаць Івац. 2. Малочны суп. *На вячэру маці зварыла шчолаку.* Варанілавічы Пруж. *Шчолоку навары.* Доўгае Івац.

ШЧО́ЛАЧАК *м.* Гл. шчолак. 1. *Не хочаш есці гушчы, то хоць шчолачку папробуй.* Падгорная Бар.

ШЧО́ТКА, ШЧУ́ТКА, ШЧЭ́ТКА *ж.* Сівец. *Шчотка — гэто белая, сухая, твэрдая трава, якая добрэ горыть.*

Валішча Пін. *Став косіті, а коса нэ косіт, шчэтка одна.* Сакалоўка Пін.

ШЧУР *м.* Пацук. *І шо гэто за лыхо на мою голову: ныяк ны можу од шчурув збавытыся.* Судзілавічы Бяроз. *У гэтой старой хаты було много шчуров.* Макраны Малар. *Шчур вэлікі був.* Хваросна Пін.

ШЧЎХА *ж.* Памылка пры тканні. *Накідаючы ў ніт, я зрабіла шчуху.* Баравікі Лун.

ШЧЫ, ШЧЭ *прысл.* Яшчэ. *Дайтэ мне шчы кілограм цукерков.* Камень Пін. *Шчэ однэ ейцэ ў салат полупі.* Валішча Пін.

ШЧЫ́НКА, ШЧЫНО́К, ШЧЫ́НЫК, ШЧЭНО́К *м.* Пласт сена ці саломы, які можна ўзяць граблямі і панесці. *Прынэсы шчэ шчынку сіна.* Радастава Драг. *Взяв кынув шчынок коровы.* Гершоны Брэсц. *Шчыныкі — то маленька хапка сіна.* Макраны Малар. *Сухое сіно збыраюћь у шчыныкі.* Ляхаўцы Малар. *Трэбо шчэнок шчэнятэ.* Дзмітравічы Кам.

ШЧЫНЕ́ТЫ, ШЧЭНЯ́ТЭ *незак.* Пластаваць, зграбаць. *Ты будэш шчынеты, а я буду подаваты на стожок.* Ляхаўцы Малар. *Ідэма •шчэнятэ сіно.* Дзмітравічы Кам.

ШЧЫПЯРЫ́ *мн.* Пер'е цыбулі, часнаку. *Елі шчыпяры с соллю.* Нецеч Бар.

ШЧЭРЎБІНА *ж.* Дзірка. *Голка ў шчэрубіну ўпала.* Валішча Пін.

ШЫ́БАДА *ж.*, ШЫ́БОД *м.* Ігліца. *Шыбада сыпаласа з голля.* Падкраічы Бяроз. *Колючый шыбод. Шыбоду нагрыблы.* Сялец Кобр.

ШЫ́ВАНКА *ж.* Хустка. *Я собе недаўно шыванку купіла.* Цераблічы Стол.

ШЫВЭ́РЫТЫ *незак.* Гаварыць абы-што. *Той дзедзько шывэрыть нывыдомо шо.* Сварынь Драг.

ШЫДЭ́ЛАК *м.* Кручок для вязання. *Вельмі добры купіла шыдэлак.* Мазуркі Лях.

ШЫКАТА́ *ж.*, ШЫКУТ *м.* Гл. шыбада. *Шыкоты нагрыбсці можна.* Парасляны Пруж. *Ужэ падае шыкут.* Ваўкаставец Кам.

ШЫЛЁХНУТЫ *зак.* Зашамацець, зварухнуцца. *Шось шылёхнуло в соломэ.* Сварынь Драг.

ШЫЛЫСТУНЫ́ *мн.* Бомы, званочкі. *На коны наложылы шылыстуны.* Камянюкі Кам.

ШЫЛЭ́ПНЯК *м.* Густыя кусты. *Дэсь у шылэпняку курыця сыдыть.* Астрамечава Брэсц.

ШЫМОРОДЬДЕ *н.* Драбяза (трэскі, галінкі і інш.). *Шымородьде заваряе пуд ногамы.* Пескі Кобр.

ШЫПОТА́, ШЫПУТА́ *ж.* Ігліца. *Шыпоты нагрыбла.* Кустын Брэсц. *Мурахі тегнуть шыпуту.* Дубіца Брэсц.

ШЫПУ́ЛЬКЫ *мн.* Тое ж. *Я грыбла шыпулькы.* Вавулічы Драг.

ШЫПТУ́НЧЫКЫ *мн. жарт.* Дрожджы. *У магазін прывызлы шыптунчыкы.* Вавулічы Драг.

ШЫРСЯ́НКА *ж.* Вязаная хустка. *Раній у нашому сылі ходылы в шырсянках.* Ляхавічы Драг.

ШЫРЫ́Ш *м.* Тонкая ледзяная скарынка на вадзе, кавалачкі лёду на вадзе. *Шырыш плывэ, рыка замэрзаты будэ.* Гершоны Брэсц.

ШЫРЫШЫ́ТЫ *незак.* Пакрывацца тонкай скарынкай лёду. *Почынае шырышыты, вжэ рыка замэрзне.* Гершоны Брэсц.

ШЫ́ТКІ *мн.* Санкі. *Шыткі стоялі на дварэ.* Сухопаль Пруж.

ШЫХАВА́ЦЬ *незак.* Шанцаваць. *Мне так шыхавала, што я насобірала поўны кош грыбоў.* Галоўчыцы Пруж.

ШЫХЫ́ВНЫЙ *прым.* Удалы. *Шыхывный дэнь вчора був.* Сварынь Драг.

ШЫША́К *м.* 1. Гронка. *У том шышаку аж пять горэхоў було.* Валішча Пін. 2. Гузак. *Такого шышака набіў на голове.* Валішча Пін.

ШЫ́ШКА *ж.* Аздоба на караваі. *Шышкі, калачэ пекуць да на коровай вешаюць.* Велле Стол.

ШЭБУРШЭ́ТЭ *незак.* Рухацца, варушыцца, мітусіцца. *Вото ужэ гэтэ дітэ шэбуршэть.* Радастава Драг.

ШЭ́ЙДА *ж. зневаж.* Неахайная жанчына. *Прыберы ў хаце, а то як у той шэйды.* Люсіна Ганц.

ШЭЙПА́К *м.* Укладка з дзесяці снапоў. *У шэйпаках жыто.* Ляхавічы Драг.

ШЭМЭТНУ́ТЫ *зак.* Кінуць моцна. *Як шэмэтнуў його на зэм. Корова шэмэтнула рогамі тэля.* Валішча Пін.

ШЭ́ПКА *ж.* Ігліца. *Прывэзэтэ шэпкі свэнкі подослатэ.* Дзмітравічы Кам.

ШЯ́ПКА *ж.* Верхавіна дрэва. *Пойшов дошч, і сховалыся пуд шяпкою дуба.* Астрамечава Брэсц.

# Ю

ЮКНА *мн.* Вокны. *Юкна булы одкрыты.* Ботава Пін.

ЮР *м.* Вір. *Глядзі, бо там юр, утопісса.* Азярніца Лун.

ЮРКО *н.* Кіёчак для вязання снапоў. *Возьмы юрко на полэ.* Олтуш Малар.

ЮРЧЫК *м.* Вялікі каравай хлеба, які клалі ў жыта, што ўзыходзіць, каб быў лепшы ўраджай. *Юрчык схавався, то хлеп новы вырос.* Сварынь Драг.

ЮСТРО *н.* Люстэрка. *Я купыла юстро.* Высокае Бяроз. *Вона подывылась у юстро.* Заверша Драг. *Дівчына стоіць каля юстра.* Сулічава Драг. *У хаты на стыні вісыть юстро.* Вавулічы Драг. *Вона тылько і дывылася в юстро.* Замшаны Малар. *Мы купылы шкап з юстром.* Парахонск Пін.

ЮХА *ж.* 1. Бульбяны суп. *Юха вдалася добрая.* Гальцы Стол. 2. Халадзец. *Юха на вяселлі была перасолена.* Востраў Ганц. *Зваріла голову і ногі на юху.* Альшаны Стол. 3. Кампот. *Юха вэльмы смачна з свіжых яблык і вышэнь.* Моталь Іван.

ЮШКА I *ж.* 1. Булён. *Хворому подалі курыную юшку.* Камень Пін. 2. Суп з крыві і перацёртай мукі. *Кроў з паршука збяры, юшку зварым.* Нецеч Бар. 3. Вадкая частка стравы. *Гушчу забрала собе, а мне оно юшку покінула.* Валішча Пін.

ЮШКА II *ж.* Засоўка ў коміне. *Аткрый юшку, а то поўная хата дыму.* Дамашэвічы Бар. *Закрываць юшку рана.* Заполле Лях. *У новую піч поставілы дябэлые юшкі.* Церабяжоў Стол.

ЮШНЫК *м.* Халадзец. *Я пайду в город, куплю голову і навару юшныку.* Ботава Пін.

ЮЦ, ЮЦЬ *м.* 1. *Страўнік. Іжа попадае зразу в юц, а после в кышкэ.* Брашэвічы Драг. *Маты прыбырала кышкы і вымыла юця.* Ялач Драг. 2. Сальцісон. *Маты зробыла юца.* Журавок Іван. *Прыложы камынём юця.* Дарапеевічы Малар.

# Я

ЯВО *часц.* Вось. *Яво лэжэть твуя шепка.* Гаравіца Драг.

ЯВЮРКА *ж.* Вавёрка. *Явюрка скачэ по хвоінах.* Лісяцічы Пін.

ЯГНЮК *м.* Ягня. *Ягнюк побіг за овечкію.* Мерчыцы Пін.

ЯГНЮЧКА *ж.* Авечка. *Купітэ в мынэ ягнючку на мнясо.* М. Шчытнікі Брэсц.

ЯГОДКА *ж.* Кончык пальца. *З ягодкі кроў бэруть.* Валішча Пін.

ЯГОДНІЦА *ж.* Павідла з чарніц з дабаўленнем мукі. *Ягодніца — то чэрніцы да мука, парыцца ў печы.* Велле Стол.

ЯГРЭСТ *м.* Агрэст. *Каля плоту скрозь ягрaстам засадзілі.* Слабажаны Бар.

ЯДОМКА *ж.* Бульба на харчаванне. *Пад мастом ядомкі ёсць пудоў дзесяць.* Слабажаны Бар.

ЯДРАНО *прысл.* Холадна, суха, ясна. *Пад раніцу ядрано стала.* Слабажаны Бар.

ЯДРАНЕЦ *м.* Божая кароўка. *Ядранец сеў на ліст бэзу.* Квасевічы Івац.

ЯДРАНЫ, ЯДРОНЫ *прым.* Ураджайны, урадлівы. *Пшаніца на гумнішчы густая, ядраная.* Слабажаны Бар. *От гарэхі ядроныя, але яшчэ зярнята малыя.* Сасновы Бор Івац. *От ядрына бульба ў тіткі.* Боркі Пін.

ЯДРОСТЬ *ж.* Падзь. *Ядрость напала — така слатка роса.* Лядзец Стол.

ЯДУХА *ж.* Задышка. *В нашого старого вжэ ядуха.* Корчыцы Кобр.

ЯЁЖНЯ *ж.* Яечня. *Мамо, дай мні яежні.* Запроссе Лун.

ЯЗЫЧОК *м.* 1. Выступ у сякеры для захоўвання ручкі ад пашкоджанняў. *Язычок адламаўся.* Клепачы Пруж. 2. Клін у пярэднім навоі. *Язычок отскочыв од воротыльця.* Папіна Драг.

ЯКА, ЯЧКА *ж.* Матыка. *Зробыв коваль гостру яку, аж высікае зілле з корынем.* Дубраўкі Драг. *Люды шлы з ячкамы, бо трэба было полоты картоплю.* Высокае Бяроз.

ЯКАТАЦЬ *незак.* Енчыць. *Так жа якатаў, бедны, што аж у грудзях балела.* Слабажаны Бар.

ЯКЕНЬЦЕ, ЯКЭНЦЫ *займ.* Які-небудзь, які. *Купы*

*якеньцу кныжку.* Лышча Пін. *Якэнцы ліпшы выбырай узор.* Ботава Пін.

ЯКМАНЬ *прысл.* Цяпер, толькі што. *Якмань некуды пойті.* Стрыгінь Бяроз. *Якмань ішоў вон з роботы.* Кабакі Бяроз. *Хлопэц сказав, шо якмань ніхто пробіх коло хаты.* Высокае Бяроз.

ЯЛ *м.* Елка. *Пуд ялом схавався заіць.* Астрамечава Брэсц.

ЯЛАВІНА́, Я́ЛОВІНА, Я́ЛОВЫЧНА *ж.* Поле, якое засяваюць праз два-тры гады. *Цэлы дзень пропасціла коровы на ялавіне.* Дзяніскавічы Ганц. *Тры года яловіна полежыть, потым жыто сеють.* Канатоп Пін. *На яловычні нычого ны ростэ.* Шэбрын Брэсц.

Я́ЛОВЫ *прым.* Непаваротлівы, марудлівы. *Варушыся хутчэй, а то як яловы.* Востраў Ганц.

ЯЛЕ́Ц, ЯЛОВЭ́Ц *м.* Ядловец. *Прынясі заадно яльцу, калі ідзеш у лес.* Агарэвічы Ганц. *На яловцы пойявылыся чорныі ягоды.* Тэўлі Кобр.

ЯЛО́ХА *ж.* Ялаўка. *Наша курова зусталася ялохыю.* Макраны Малар.

ЯЛО́ШКА *ж.* Цялушка. *Тылушка прывыла тыля — стылылася — ялошку чы быка.* Радзеж Малар.

ЯЛЮГА́ *ж.* Балотны зараснік, на ўскраі якога расце ельнік. *У той ялюзе ласі хаваюцца.* Слабажаны Бар.

ЯНАВЫ́ЦЫ *мн.* Порткі. *У хлопца булы новы янавыцы.* Альшэва Бяроз.

Я́РОХЫ *мн.* Кучаравыя валасы. *Стоела дзівчына з ярохамы.* Сварынь Драг.

ЯРАХА́ТЫ *прым.* Кучаравы. *Ярахаты косэ люблять всі дывчета.* Радастава Драг.

ЯРОВЫ́НА *ж.* Яравая культура. *Грэчка, овёс, ячмінь, просо, лён — то всэ яровына, за то, шшё на высні сіюцца.* Гарадная Стол.

ЯРУ́ГА *ж.* 1. Размыты ўчастак дарогі. *Прошлой высною у нас було мныго яругей.* Какорыца Драг. 2. Яма. *Нычого косэтэ, да* ('дзе') *яруга.* Брашэвічы Драг. 3. Лужына. *На дорозы стояла вылыка яруга.* В. Якаўчыцы Жабін.

Я́РУС *м.* Яма, у якую сыплюць на зіму бульбу. *Яруса на зіму тэпло накрывають.* Пясчанка Бяроз. *Пры дарозе быў выкапаны ярус.* Кукава-Бор Ганц.

ЯСЁНКА *ж.* Дэмісезоннае паліто. *В магазін прывэзлы новы ясёнкі.* Аркадзія Брэсц. *Водна була в ясёнцы.* Міжлессе Бяроз. *Ті одразу я пузнала пу ясёнцы.* Ялач Драг.

*Яна ў гэтай ясёнцы выглядала вельмі прыгожа.* Ліпск Лях. *У магазін прывізлі дзіцячыя ясёнкі.* Роўбіцк Пруж. *Одзень ясёнку, бо холодно.* Белавуша Стол.

ЯСІК, ЯСЕК *м.* Маленькая падушка. *Я бачыла вэльмэ хорошэ вэшытого ясіка.* Ласінцы Драг. *Бабуля дала мне ясіка.* Кажан-Гарадок Лун. *З гетого пір'я можна зробыты ясіка.* Маціевічы Жабін. *На ложку было тры ясікі.* Велямічы Стол. *Прышлось ніч пырыспаты на ясеку.* Ялач Драг.

ЯСЛА *мн., рэдка ж.*, ЯСЛО *н.* Дзёсны, дзясна. *Так ясла пыкут, шо говорыты ны могу.* Макраны Малар. *Зубы вырвала, і ясла роспухла і болiт.* Горск Бяроз. *Зуб булэть, гэть ясло руспухло.* Дзівін Кобр.

ЯСНА *мн.* Тое ж. *З яснув тычэ кров.* Азяты Жабін. *Як мні рвалы зубы, то різалы ясна.* Воса Кобр. *В його булілы ясна.* Дубіца Брэсц.

ЯСНЫНА *ж.* Прасвятленне неба перад усходам сонца. *Всю нуч паслі коны і ны хотелося спаты, а як стала яснына пырыд ранком — очы зліпаюцца, так спаты хочэцца.* Малеч Бяроз.

ЯЦЁЛ *м.* Дзяцел. *Чуеш, як яцёл стукае по дерівовы.* М. Шчытнікі Брэсц.

ЯЧМЕННЫСКО, ЯЧНЫСКО *н.* Поле, дзе рос ячмень. *На ячменныско погналі коровы пасьвіты. Ячныско до вэчора згоруть.* Валішча Пін.

ЯЧЫЯ *ж.* Адтуліна ў жорнах, куды засыпаюць зерне. *Ячыя, сыпаты жыто.* Спорава Бяроз.

## З ФРАЗЕАЛОГІІ БРЭСТЧЫНЫ

АБЛЕ́ЗЦІ, БЫ СЕ́МКОЎ СЕ́РЫ. Абняславіцца. *Героем хадзіў. А прышлоса троха парабіць — аблез, бы Семкоў Серы.* Макава Ганц.

АБЫ ДЭНЬ ДО ВЭ́ЧОРА. Абыякава, не стараючыся (працаваць). *Робылы абы дэнь до вэчора.* Нямержа Драг.

АБЫ́ З РУК. Абы-як. *Лужылы вуны сыно на вузы абы з рук.* Ялач Драг. *Ну і пошылы мні платте, абы з рук, навыть ны разу ны наложу.* Крытышын Іван.

АНТО́ШЧЫНА (ПРАКО́ПАВА) РОБО́ТА. Пра дрэнна выкананую працу. *Здалёк відно, шчо Антошчына у цебэ робота.* Цна Лун. *Пракопава работа і то лепш за гэту.* Макава Ганц.

БЕЛЬМО́ НА ВО́ЦЦЫ. БЫЛЬМО́ НА О́ЧАХ. Пра таго, хто замінае, перашкаджае. *Ніякое пользы от цебе нема, торчыш тут, бы бельмо на воццы, і другім мешаеш.* Альшаны Стол. *Пуд боком моя старая, як быльмо на очах.* Ахова Пін.

БО́РУДУ ЗАДЫРА́ТЫ. Паміраць. *Чы ны задумав ты боруду задыраты, шчо лыжыш і ны встаеш.* Ялач Драг.

БРА́ТЫСЬ ЗАГРУДКІ́. Біцца. *Бувало, на вычорках хлопцы выйдуть на двыр і быруцця загрудкі.* Бездзеж Драг.

БУСЬКО́ РЭ́ПЫ (РЭ́ПУ) НАСЕ́Е (ПОСЕ́Е). 1. Пра вельмі бруднага. *По двору бегалі дзеці, а рукі ў іх булі — бусько рэпы насеяў.* Бастынь Лун. 2. Пра чыстага. *Ну ў цебэ і двоур! Бусько рэпу посее. Такая чыстота! Дзеці прыбралі, ці хто?* Бастынь Лун.

БУ́ТЫ ПУД КОНЕ́М І НА КОНЮ́. Многа зведаць у жыцці. *Мій старый буў пуд конём і на коню.* Ахова Пін.

БЫ В ДУРНО́ГО НА ХА́ТЫ. Пра беспарадак. *Прыбыры в комнаты, а то бы в дурного на хаты.* Крамно Драг.

БЫЗ ГО́ДУ НЫДІ́ЛЯ. Кароткі час. *Галя у нас, як кажуть, быз году ныділя.* Ялач Драг.

БЫК МУРАВІ́ЦКОГО. Пра дужага, але неразумнага чалавека. *Усе ў хаці пэрабіў гэты бык Муравіцкого.* Макава Ганц.

БЫ НА ВЫСІ́ЛЛІ. Павольна, марудна (збірацца). *Шо ты чухаішса бы на высіллі, даўно пора ўже буты каля канторы.* Крытышын Іван.

БЫ СВЫ́ННІ В ДОШЧ. Не да твару. *Скынь гэты завушныці, бо тобі в іх так хорошэ, бы свынні в дошч.* Крамно Драг.

БЫ ШЛЁМІН ВОЗ. Пра вельмі нязграбнае, няўдалае. *А гета твоя каляска бы шлёмін воз.* Альшаны Стол.

ВАЛ ВА́ЛОМ. Многа. *С поезда згрузілі вал валом мэшкоў з бульбою, а пшэніцы і ў поміні нема.* Бастынь Лун.

ВАЛЫ́ТЫ В ОДНУ́ КУ́ЧУ. Змешваць розныя рэчы. *Трэба розлічаты горох і сачывыцю, а ны валыты всё в одну кучу.* Уласаўцы Іван.

ВОДЫ НЫ ЗМУТЫ́ТЫ. Не зрабіць нічога дрэннага. *Быры, сынок, кого хочыш у жынкы. Я ўжэ старая і воды ны змучу вам.* Уласаўцы Іван.

ВОЛА́М ХВОСТЫ КРУЦІ́ЦЬ. Не мець сталага занятку. *Не хочэш вучыцца, то после школы пойдзеш волам хвосты круціць.* Цна Лун.

ВОРОНЯКА́ ЗЛОВІ́ТЫ. Не ўбачыць па няўважлівасці. *Зноў вороняка зловіў, як коровы пасьвіў — у школу поўлазілі.* Валішча Пін.

ВОРО́ЧАТЫ ДУ́ШУ. Выклікаць непакой. *Аж душу ворочало, колі од сына весточкі ны було.* Дружылавічы Іван.

ВОРО́ЧАТЫ МОЗГА́МЫ. Думаць. *А ты ворочай мозгамы, чого паны ны хотілы дылыты зэмню.* Бездзеж Драг.

В СВЫННЕ́ЧЫЙ ГО́ЛОС. З вялікім спазненнем. *Прышла на высілле в свыннечый голос і хочэ шось побачыты.* Уласаўцы Іван.

ВСЫ́ПАТЫ В РУ́КАВ ПО́ПЫЛУ. Спаліць, падпаліць што-небудзь. *Всыпав він і ім в рукав попылу — згорілы.* Вялікі Лес Драг.

ВЭРНУ́ЦЬ (ВАРНУ́ЦЬ) ГО́РЫ. 1. Цяжка працаваць. *І вэчэром можна забіць дзірку, то ж не вэрнеш горы на своёй робоці.* Рубель Стол. 2. Крыўдзіць, нагаворваць. *Яе анно пальцом чапі — такіе будзе заўтрэ пры людзех горы варнуць.* Макава Ганц.

ВЭРХ БРА́ТЫ. Пераважаць. *А зарэ жінка вэрх бырэ над мужыком, ны то, шчо колысь.* Уласаўцы Іван.

ГА́ННЫН АРХЫ́В. Надзейная схованка. *Шчо, Костюк, знов жынка сало в Ганнын архыв сховала?* Бездзеж Драг.

ГЛЯДЗЕ́ЦЬ НЕМА́ НА ШЧО́. Пра брыдкага, непрыгожага. *Ну і жонку прывёз, глядзець нема на шчо.* Цна Лун.

ГОЛОВА́ ДУБО́ВАЯ. Пра неразумнага, някемлівага чалавека. *Він хочэ в інстітут поступаты. Сміх одын! Голова дубовая! Він і ў школы ны гучыўся.* Уласаўцы Іван.

ГО́ЛОВУ ПРОДОЎБЦІ́. Вельмі надакучыць. *Зайшла п ты к ему, погомоніла б, а то вон мне ўжэ голову продоўп, пытаючы, чому не заходзім.* Альшаны Стол.

ГО́ЛОСОМ ГОЛОСЫ́ТЫ. Моцна плакаць. *На всэ сыло голосом голосыла, ек батька на фронт забыралы.* Крытышын Іван.

ГО́РЛО ДРАЦЬ. Моцна крычаць. *Ну, ціхо вы, драчы. Калі ні прыйдзеш — усе горло дзеруць.* Макава Ганц.

ГО́СТРЫЙ НА ЯЗЫ́К. Языкасты. *А дівчына попалась гостра на язык.* Пажэжын Малар.

ГРА́ТЫ НА НЕ́РВАХ. Нерваваць, злаваць. *Ны грай мні на нервах.* Пажэжын Малар.

ГРЫШЫ́ТЫ БО́ГУ. Без прычыны скардзіцца на свой лёс. *Стыдно тубі грышыты богу, ны убіжаный нычым.* Ялач Драг.

ГУБУ́ ЗАКОПЫЛІЦЬ. Пакрыўдзіцца. *Раі не ўспееш слово сказаць, як ужэ губу закопыліць, дзень говорыць не будзе.* Рубель Стол.

ДАЙ БОГ НО́ГІ. Пра шпаркія ўцёкі. *Біг так, шо дай бог ногі, дэ і сыла узялася.* Ялач Драг.

ДАСТА́ЦЬ ДУ́ХІ. Моцна пабіць, пакараць. *Хутко духі достане за гэтэ яблыко чэрвівэ.* Макава Ганц.

ДА́ТЫ ЖА́РУ. Нагнаць страху, накрычаць. *Ну й дала ёму жінка жару, довго тырпіла, ны выдыржала.* Дружылавічы Іван.

ДАЦЬ ДУ́ХУ. Паказаць прыклад. *Дае духу заўшэ, як прыдэ помагаці. Хорошэ дзівіцісь.* Шылін Бяроз.

ДАЦЬ ЧА́ДУ. Пагуляць ад душы. *Добрэ далі чаду мы там на вэселлі.* Цна Лун.

ДО НІ́ТКІ (НЫ́ТОЧКІ). Усё без астатку, да апошняга (забраць, панесці). *Забраў жэ ўсе до ніткі, нічого не оставіў.* Альшаны Стол. *Посварыўса, накрычаў на ўсіх і*

*пошоў с хаты, а забраў жэ, понёс усэ — до ныточкі.* Хваросна Пін.

ДРУ́ГІ РО́СЦІК. Пра чалавека, які носіць абутак вялікага памеру. *Другі Росцік знайшоўса: ніяк собе обутку не подберэш.* Альшаны Стол.

ДУ́БА ДАВА́ЦЬ. Заходзіцца ад крыку. *Я его на двор выношу, а вонэ, шчо ні робі, дуба дае, аж заходзіцца.* Рубель Стол.

ДУ́БА ЗАГНУ́ТЫ. Памерці. *Буў на вэселлі дён колька, додому прыехаў і ўраз дуба загнуў — похавалі нэдаўно.* Валішча Пін.

ДУШЫ́ НЫ ЧУ́ТЫ. Моцна кахаць. *Вуны душы уднэ у другуму ны чують.* Ялач Драг.

ЕЗЫ́К НА ПЛЫЧКО́. Нястомна, без стомы. *Езык на плычко і попэр.* Нямержа Драг.

ЕЗЫКО́М ЛЯ́СКАЦЬ. Абгаворваць. *Коб Танька не побачыла: на каждом шагу будзе езыком ляскаць.* Рубель Стол.

ЕК МА́РКО ПУ ПЭ́КЛУ. У разгубленасці. *Рузбігався ек Марко пу пэклу і нычого ны зрубыв.* Ялач Драг.

Е́СЦІ ЧУЖЫ́ ХЛЕБ. Жыць за чужы кошт. *Я роблю сама, а жыць і есці чужы хлеб не могу.* Бастынь Лун.

ЖЕ́БЫ ПО КОЛІ́НО. Вельмі мелка. *Шо там за рыка, чы ж там купатыся, жебы по коліно.* Нямержа Драг.

ЖЫ́ЗНІ НЫ ДАВА́ТЫ. Турбаваць, дабіваючыся свайго. *Жызні ны дасць, покуда свуго ны дуб'еццця.* Ялач Драг.

ЖЫЦЬ НА НОЖА́Х. Сварыцца, варагаваць. *Воны даўно ўжэ жывуць на ножах.* Цна Лун.

ЗАБЛУ́ДНА ОВЭ́ЧКА. Пра чалавека, які збіўся з сапраўднага шляху ў жыцці. *От заблудна овэчка, трэба было не слухаць дзевок, а самой думаць.* Рубель Стол.

ЗАГЛЯДА́ТЫ В РОТ. Уважліва слухаць. *Ек Стыпан говорыть, діты ёму заглядають прамо в рот.* Крытышын Іван.

ЗА ДВІ ШЧОКІ́. Хутка і многа (есці). *Нішо ты з голодного краю, за дві шчокі ўплітаеш?* Дружылавічы Іван.

ЗАЛЫ́ТЫ ГО́ЧЫ. Напіцца, ап'янець. *Залыў гочы, шо світа ны бачыш.* Тышкавічы Іван.

ЗА МАЛІ́НУ. Добра. *Я бачу, жывецца тобе тут за маліну.* Альшаны Стол.

ЗА СВЯТЫ́М ДУ́ХОМ. Нічога не еўшы. *Бэры полу-*

*дзень, бо за святым духом не будзеш дзень робіць.* Рубель Стол.

ЗА ХОЛО́ДНУ ВО́ДУ НЫ БРА́ТЫСЬ. Нічога не рабіць. *Валя, іды хоть гуркы полы, бо ты тыпэр шэ й за холодну воду ны бралась.* Чарнеевічы Драг.

ЗБОР-ДРУЖЫ́НА. Усе, без разбору. *Не розберус я. Шчо гэто вы мне за збор-дружыну прыслалі?* Альшаны Стол.

З ГО́ЛЫМІ РУКА́МЫ. Без нічога. *На высілле ны підыш з голымы рукамы.* Нямержа Драг.

З ГОРА́ЧО У ПОЛЫМЯ́ЧЭ. У больш цяжкае становішча, чым было. *Влецела добрэ моя дочка, з горачо у полымячэ.* Цна Лун.

З ОБУ́ХА ОБУ́Х. Тупы чалавек. *Про Ваську у сылі кажуть, шчо вын з обуха обух.* Бездзеж Драг.

З ТО́РБЫЁ ПУСТЫ́ТЫ. Зрабіць жабраком. *Голька продала хату і пошла до дытэй жыты. Покыль помогатымэ, то добрэ, а там з торбыё пустять.* Уласаўцы Іван.

ЗУ́БЫ СКІ́РЫЦЬ. Смяяцца. *Вон шчэ зубы скірыць.* Амяльная Івац.

І КРЫ́ШЫЧКІ ПОЗБЫ́РАТЫ. Быць вельмі падобным. *Дочка і крышычкі батьковы позбырала.* Бездзеж Драг.

І КУ́РЫ НЫ ШЭ́ПЧУТЬ. 1. Нічога не нагадвае. *Про його тут вжэ і куры ны шэпчуть.* Пажэжын Малар. 2. Нікога не цікавіць. *Да про тыбэ і куры ны шэпчуть.* Дружылавічы Іван.

КАЗУ́ ПА́СВІЦЬ. Адставаць у працы. *Што ты казу пасвіш. Глядзі, як баба робіць.* Коратчын Івац.

КІДА́ЦЦА НАПРАМКІ́. Быць шчырым. *Не думай кідацца напрамкі: гэтым яго не здзівіш.* Мыслабаж Лях.

КІ́ШКІ МА́РША ГРА́ЮТЬ. Моцна хочацца есці. *Вэльмы ісvolты хочу, кішкі давно вжэ марша грають.* Бездзеж Драг.

КОЗ ВОЗ. Вельмі многа (нагаварыць). *Так я і не поняла, чого вон прыходзіў, наговорыў коз воз.* Цна Лун. *Вона ўжэ не малая, коз воз тобе нагомоніць.* Дварэц Лун. *Прыбігла, наговорыла коз воз, шо мы й ны розобралы толком, шо вона хотіла сказаты.* Здзітава І Бяроз.

КО́ЛКА І РЭ́ЗАНА. 1. Невядома хто. *Глянуў — нека колка і рэзана нясе ўжэ яго сюды.* Макава Ганц. 2. Штосьці нішто. *Ходзіць расхрышчаны, бес шапкі. Ніяка колка ды рэзана яго ні озьмэ.* Там жа.

КО́ЛЫСОМ ГРУ́ДЫ ДЫРЖА́ТЫ. Фарсіць. *Наложыў*

*новы нагавыцы, дай колысом груды дыржыть.* Ахова Пін.

КО́СЫ ДЫ́БОМ СТАНО́ЎЛЯЦЦА. Пра пачуццё жаху, вялікага страху. *Ек побачыла я гэтэ всё, то аж косы в мынэ дыбом сталы.* Вялікі Лес Драг. *Глянуў мій дід упырод — і косы дыбом сталы: прамо на його вовк ідэ.* Уласаўцы Іван.

КО́СЫ НА СОБЕ́ РВАЦЬ. КО́СЫ НА СОБІ́ РВА́ТЫ. Моцна перажываць. *Вона аш косы на собе рвала, як сына провожала: одзін вон у ее.* Рубель Стол. *Косы на собі рвала, як дытя в дорогу отправляла.* Дружылавічы Іван.

КОТО́РА ПОРА́. 1. Даўно. *Ужэ котора пора, як ты не прыходзіш до мэне.* Рубель Стол. *Ны пошые сподныцы, вжэ котора пора, ек оддала.* Крытышын Іван. 2. Позна. *Ужэ котора пора, а его ўсе нема, мо нешчо ў дорозі случылос?* Альшаны Стол. *Котора пора на дворэ, а короў шчэ нема.* Цна Лун.

КОШЫЛІ́ ПЛЫСТЫ́. КОШЭЛЕ́ ПЛЕСТЕ́. Гаварыць абы-што. *Вона вам наговорыть, зарэ ек начнэ кошылі плысты, то аж слухаты більш ны захочытэ.* Сычэва Іван. *З тым вэлікдуром лепш нэ бай, бо вон як почнэ тобе кошэле плесте, шчо рады нэ найдэш.* Валішча Пін.

КУДА́ (КУДЫ́) О́ЧЫ ДЫЎЛЯЦЦА. Куды папала, абы-куды. *Выйшла баба з хаты — і дай бог ногы, куда очы дыўляцца.* Ахова Пін. *Іды субі куды очы дывляцца.* Карсынь Іван.

КУСО́К ЛЕ́ЖНЯ (ЛО́ДОРА). Гультай. *У ее усе дзеці спраўные до роботы. Одзін вон ні на шчо не здатны, так, кусок лежня.* Альшаны Стол. *От лодора кусок, як шчо робыты, то вун всё ровно ны чуе.* Выжлавічы Пін.

ЛА́ПІК НА ЛА́ПІКУ. 1. Пра вельмі бедна апранутага. *Добрэ допіўса, лапік на лапіку ходзіць, аж брытко.* Цна Лун. 2. Пра старое, зношанае адзенне. *Лапік на лапіку — другі пабаяўса б адзець, а ён ходзіць.* Макава Ганц.

ЛЕ́ГЦІ ЛО́ГОМ. Зваліцца ад стомленасці. *После гэтой роботы я точно лягу логом.* Бастынь Лун.

ЛЕ́ХКЫЙ НА ЯЗЫ́К. Гаваркі. *Ны тому слава, хто на язык лёхкый, а тому, хто у ділу стойкый.* Паўтаранавічы Пін.

МА́КОВЫІ РОСЫ́НКЫ В РОТУ́ НЫ МІ́ТЫ. Быць галодным. *Возыўса я цілый дэнь, маковыі росынкы ў роту ны міў.* Ахова Пін.

МО́ВУ ОДНЯЛО́. Пра страту здольнасці гава-

рыць. *Од страху у мынэ і мову одняло.* Дружылавічы Іван. *Так спужавса, шчо мову отняло.* Хорск Стол.

МУ́ХА НО́СА НЕ ПОТО́ЧЫЦЬ. Не прыдзярэшся, не падкапаешся. *Я так роблю свою роботу, шчо муха носа не поточыць.* Бастынь Лун.

МЭ́ТЭР (АРШЫ́Н) З ША́ПКОЮ. Пра чалавека вельмі малога росту. *Ну й кавалера собі знайшла — мэтэр з шапкою.* Здзітава І Бяроз. *Сам мэтэр ш шапкою, а петушыцца.* Хорск Стол. *Здэцца, небольшого росту, аршын ш шапкою, а як стане што робіць, то ўсе горыць у руках.* Рубель Стол.

НА ВОЛО́ВУ ШКУ́РУ НЕ СПІ́ШЭШ. Многа. *Я вам столько наговорыла, шо і на волову шкуру не спішэш.* Сігневічы Бяроз.

НА ДВА БО́КЫ. Прагна (есці). *Ны спышы, а то ісы на два бокы, бы тры дні голодный.* Крамно Драг.

НАЛОЖЫ́ТЫ ЛА́ПУ. Прысвоіць чужое. *Гэто було матырынэ, а зарэ зятёк лапу наложыў.* Дружылавічы Іван. *Наложыў лапу на Ганнынэ добро, як у прымы прыйшоў.* Здзітава І Бяроз.

НІ К ТЫ́НУ НІ К ПЛО́ТУ. Нікуды не варты. *Купілі стола ні к тыну ні к плоту, ні есці на ём нельга, ні пісаць.* Рубель Стол.

НІ ПО́РАХУ НІ СІ́НЯГА. Анічога. *Ні пораху ні сіняга ў яе ні дастанеш.* Коратчын Івац.

НІ СЕ́ЛО НІ ПА́ЛО. НЫ СІ́ЛО НЫ ПА́ЛО. Без прычыны, нечакана. *Погулялі п шчэ недзельку, а то ні село ні пало хочэце ехаць.* Цна Лун. *Ны сіло ны пало завіхрыла роботу кідаты да ў город іхаты.* Здзітава І Бяроз.

НІ ТРЭ́СНЕ НІ ЛЯ́СНЕ. НЫ ТРЫ́СНЭ НЫ ЛЯ́СНЭ. 1. Анічога. *Не скоро короў будом пасьціць, а ў хлеве ні трэсне ні лясне.* Азярніца Лун. 2. Яшчэ нічога невядома. *Ны трыснэ ны ляснэ, а вун ужэ панікуе.* Здзітава І Бяроз.

НІ Ў СТРОМ НІ Ў ЛОМ. Неўпапад. *Лепш моўчы, а то говорыш ні ў стром ні ў лом.* Цна Лун.

НО́ГІ Ў РУ́КІ. Вельмі шпарка (бегчы). *Як побачыў, шчо хмара находзіць, то ногі ў рукі і лецеў скорэй дохаты.* Рубель Стол. *Як сказалы, шо сын прыіхаў, то ногі ў рукі — дай бігом дохаты.* Здзітава І Бяроз.

НО́СА НЭ ЎТЫ́СНУТІ. Цесна. *У лаўцы гэтулькі людзей, шчо й носа нэ ўтыснуті.* Амяльная Івац.

НЫ БРАТ НЫ СВАТ. Чужы чалавек. *А шчо ты про Мыколая говорыш, мыні він ны брат ны сват.* Белінок Драг.

НЫ́ЗКІЙ НА ГО́ЧЫ. Блізарукі. *А він одразу ызкій на гочы був, шэ малым за ім біглы хлопцы, всэ очкарыком дражнылы.* Дружылавічы Іван.

НЫ КРУП НЫ МУКЭ́ НЫ ВО́ЗМЭШ. Пра няздольнага чалавека. *Тупэй гэты чоловік, ны круп ны мукэ з його ны возмэш.* Закозель Драг.

НЫ ХА́ТЫ НЫ ЛОПА́ТЫ. Анічога. *Да в його ны хаты ны лопаты, всё будяўся дэсь по світу.* Дружылавічы Іван.

ОД БРЭ́ГУ ДО БРЭ́ГУ. Поўнасцю. *Узялася Ганна за роботу, од брэгу до брэгу попрыбірала, наскладвала.* Шылін Бяроз. *Усю гулыцю водою залыло, од брэгу до брэгу, шчо і пройты ныма дэ.* Кустовічы Кобр.

ОД ВЭ́ЛЯ ДО ВЭ́ЛЯ. Усё, поўнасцю. *На суду роскадала усе од вэля до вэля, нічого не ўтаіла.* Рубель Стол.

ОДНУ́ ДРОБЫ́НУ. Зусім мала, крышачку. *Надоіла молока вчора одну дробыну.* Осаўцы Драг.

ПАВЕ́СІЦЬ ЯРМО́ НА ШЫ́Ю. ПОВІ́СЫТЫ ЯРМО́ НА ШЫ́Ю. Узяць на сябе абузу. *Павесіў гэта ярмо на шыю, а цяпер свету за работаю не бачу.* Ліпск Лях. *Дыржеты зарэ много гусэй — гэто чшо повісыты ярмо на шыю.* Крытышын Іван.

ПЛЕСЦІ́ ВЕРЭ́НЬКУ. Хлусіць. *Ні плеці верэньку, все рэўно я тобе не веру.* Выганашчы Івац.

ПОД ГОРА́ЧЫЙ ЯЗЫ́К. Не падумаўшы (сказаць). *Под горачый язык чого тылько ны скажэ він, стоіт його зачыпыты.* Дружылавічы Іван.

ПОЙТЫ́ В ХВОІНУ́. Памерці. *Хворіла, хворіла, дай пошла в хвоіну.* Осаўцы Драг.

ПОШЧЫТА́ТЫ РЭБРА. Пабіць. *Ны лазь по чужых садках, а то пошчытае ніхто рэбра.* Паўтаранавічы Пін.

ПРАВОТУ́ ПРА́ВІЦЬ. Даказваць сваё. *Васілю моймү хоць у лоб стрэляй, седно свою правоту правіць.* Рубель Стол.

ПУСТЫ́ МЛІН. Пустамеля. *От пусты млін, дай людзям одпочыць, не мэлі лішнёго.* Рубель Стол.

РОЗВІ́СЫТЫ СВОІ́ ЛОКА́ТОРЫ. Слухаць непатрэбнае, забароненае. *Чого розвісылы свої локаторы, шчэ рано вам слухаты гэтэ.* Бездзеж Драг.

СЕ́СЦІ СТРУ́ПОМ. Апынуцца ў непрыемным становішчы. *Радоваліса, радоваліса, а цепэр селі ўсе струпом, не знаюць, кому і як гледзець у вочы.* Бастынь Лун.

СОБА́КЫ ВІ́СЯТЬ НА ШЫ́І. Пра ляноту. *Буракы шы ны дополола, собакы ны шыі вісять.* Зарэчка Драг.

СТАРО́Й ГУ́СЕ ПО КОЛЕ́НА. 1. Мелка. *Нэ бойса*

*пэрэходзіці, тут жэ плытко, старой гусе по колена.* Шылін Бяроз. 2. Пра малога, недарослага. *Бацько маленькі, старой гусе по колена, а сыны ўсе, як дубы, повыросталі.* Рубель Стол.

ТЮ́ТЕЛЬКА Ў ТЮ́ТЕЛЬКУ. Дакладна. *Ек зробыть поножі, то тютелька ў тютельку подходять.* Крытышын Іван.

ХОТЬ ГО́КО ВЫ́КОЛЫ. ХОЦЬ ВО́КО ВЫ́КОЛЬ. Вельмі цёмна. *На дворі такая поночота, хоть гоко выколы.* Уласаўцы Іван. *А цемень была, хоць воко выколь. Еле добраліса.* Альшаны Стол.

ХОТЬ КОЛ НА ГОЛОВІ́ ТЭШЫ́. Пра вельмі ўпартага. *Тобі хоть кол на голові тэшы, а всё ровно свое правэш.* Закозель Драг.

ХОЦЬ РАСПЭРАЖЫ́СА. Вельмі многа. *Цёплыя дажджы прашлі нідаўна, лісіц хоць распэражыса.* Макава Ганц. *І ўдома роботы — хоць роспэражыса.* Рубель Стол.

ХОЦЬ ТЫ З'ЕШ. Вельмі добра. *От копёчку роўненьку положылі, хоць ты з'еш.* Рубель Стол.

ЦА́РСКА ДІ́ВКА. Пра вельмі прыгожую дзяўчыну. *Я була царска дівка.* Новая Папіна Драг.

ЦІ ПОЦЯГНУ́ЦЦА ЦІ НЕ. Вельмі марудна (працаваць). *А шчо ты ее не знаеш, вона ў любой робоце так — ці поцягнуцца ці не.* Альшаны Стол.

ЦЯГНУ́ЦЬ НІ́ТКУ. Адкладваць размову пра самае галоўнае надалей. *Ну, чого ты цягнеш нітку? Ведаеш верш ці не?* Бастынь Лун.

ЧУТЬ ДУХ У ТІ́ЛЫ. Быць вельмі слабым. *Наша баба вэльмы хвора. Чуть дух у тілы.* Бездзеж Драг.

ЧЫ́РВОНЬ ДА ХОРОСТВО́. Пра вельмі здаровага, прыгожага чалавека. *Бапка Надзя — чырвонь да хороство, а от ее дзед за последнее врэм'я зробіўса худым мэшком.* Бастынь Лун.

ШКУ́РА ГОРЫ́ЦЬ. Пра непаседлівага, гарачага чалавека. *Ты ёму не ройня, на ём шкура горыць.* Цна Лун.

ШЧО СЛЕПО́МУ ЗЕ́РКАЛО. Пра нікому непатрэбнае. *Одзінаково мне трэба твоя помоч, шчо слепому зеркало.* Рубель Стол.

ШЧО У БО́ГА ДЗЕНЬ. Кожны дзень. *Сено зогніе, шчо у бога дзень ідзе дошч.* Цна Лун.

ЯК БА́. Вельмі хутка. *Ты сем'ёй гэтого ўчастка як ба выполеш.* Рубель Стол.

ЯК ГАНУ́ЧЫЮ ПО ЗУБА́Х. Не падумаўшы (ска-

заць). *Як скажа, то як ганучыю по зубах.* Дружылавічы Іван.

ЯК МІКІТА З НАСТАХОЮ. Неразлучна. *Мы цепэр с тобою як Мікіта з Настахою.* Цна Лун.

ЯК МЫЛА НАЇВШЫСА. З горыччу на душы. *І пойшов він домов як мыла наівшыса.* Дружылавічы Іван.

ЯК МЫШ НА КРУПУ. Без прычыны пакрыўдзіўшыся. *Надулась, як мыш на крупу, ны хутко одыйдэ — цаца дай божэ.* Красіеўка Іван.

ЯК СКОБЛЯ. Вельмі худы. *Посля хворобы вона стала як скобля.* Новая Папіна Драг.

19. Зак. 3716

# ТЭКСТЫ[1]

## КАЗКА

Бyв батько і мачуха. Була в батько до́чка і в мачухі. І бyв в іх бычок. Пуслала мачуха па́сты бычка батькуву дочку. Дала юй мныго руботы: спрасты, ссукаты, выткаты пулутна. Дочка загнала бычка пасты, сіла і плачэ. А бычок пытае еі, чуго вуна плачэ.

— А як мні, бычок, ны плакаты: мачуха надавала мні стулько руботы, шо я еі і за дэнь ны пурублю.

Бычок кажэ:

— Ны плач, доню, я тубі всё пурублю. Хукны мні в правэ ухо — всё будэ зробляно.

І батькува дочка хукнула бычковы в ухо, а з другуго уха стало выходыты гутовэ пулутно.

На другій дэнь мачуха пуслала пасты бычка свую дочку. Дала юй мало руботы, тулько спрасты. Мачухіна дочка прыгнала бычка, спывае, танцюе, шо маты мало руботы дала, а бычок пытае:

— Чо ты, доню, спываіш, танцюіш?

А вуна юму кажэ:

— Мні маты мало руботы дала.

А бычок кажэ:

— Ты і тэі ны пуробыш.

А дочка сказала:

— Як я ны зрублю, то тэбэ зарыжуть.

І дочка мачухіна нычого ны зрубыла. Прыгнала дудому бычка, а мачуха прыказала зарызаты юго.

Батькува дочка зайшла ду бычка і кажэ:

— Тэбэ хочуть зарызаты, шо ты ны пумуг зрубыты руботы мачухінуй дочкі.

— Ныц-то. Як мэнэ зарыжуть, то суглашайся муі кішычкі мыты на рычкі в садочку. Як будыш мыты, там будэ зулутое яблычко, ны уддавай ёго ныкому.

На другій дэнь зарызалы бычка, і батькува дочка пушла мыты кішкі. І з ею пушла мачухіна дочка. Мые батькува дочка кішычкі, а з кішычок выкутылось зулутое яблычко. Мачухіна дочка хутіла удубраты, а батькова дочка выкінула ёго в гурот...

---

[1] Прыводзяцца тэксты, запісаныя ў розных вёсках Брэсцкай вобласці на працягу 1970—1983 гг. выкладчыкамі кафедры беларускай мовы і студэнтамі Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна. Актыўны ўдзел у зборы матэрыялу прынялі былыя выпускнікі філалагічнага факультэта Давідовіч М. Ф. (Кобрынскі раён), Дульская Н. Л., Супрунчык М. І. (Столінскі), Кананові́ч А. М. (Пінскі), Каравай В. М. (Брэсцкі), Жабрун Л. І. (Бярозаўскі).

Вырусла яблынька, ны прустая, а зулутая. Іхав мулудый красівый паныч і кажэ:

— Хто с сеі яблынькі зурвэ яблычко, я того замуж вузьму.

Мачухіна дочка пялася, пялася вырваты яблычко, а яблыня ны давалася. Тугды паныч сказав:

— Хай мні вырвэ яблычко батькова дочка.

Вуна пудышла ду яблынькі, яблынька нагнулась, і вуна вырвала зулутое яблычко. І тугды паныч взяв еі замуж.

*Я. М. Каравай, 1934 г. н.,*
*в. Клейнікі Брэсцкага раёна.*

## ПРО КОЛЫШНЮ ЖЫЗНЮ

Ко́лыся одывалысь вэльмы бідно, тому шо трудно доставалась тая одэжа. Сіелы лён, обыралы ўручную. Булы тэрныці, на іх тэрлы. На дырыўляных трыпалах трыпалы лён. Потом пралы на потысі. Ныткі накручвалы на вырытёна, сновалы на сныўныцях, потом на вырстатах ткалы. Тогды выходыло полотно. Мы ім одывалысь, окрывалысь.

Сіялы жыто. Полэ оралы кіньмы. Жалы сырпом, молотылы цыпом. Мололы ў жорнах. Просо тоўклы ў ступах.

Свытылы ў хаты лучыныю. Газы було вэльмы мало.

Обувалысь у постолы, якыі плылы з лыка. Так мы тогды жылы.

*Г. П. Быцко, 1898 г. н.,*
*в. Тэўлі Кобрынскага раёна*

Тыпар можна в ліс ходэтэ колэ́ хоч і кому́ хо́н, а колэсь, шоб пуйтэ в ліс, траба було купэтэ білета. Білет стойів одэн злот і дасыть грошый. Ек купыть батько білета, то каждый дань ходэлэ в ліс по егодэ і по грыбэ. А в кого́ ныма білета і гаёвы зловыть в лісэ, то забыра е́годэ або грыбэ і прогоныть з лісу, ша й заплатыш штрап. Во ек було́ пры па́новэ.

*В. М. Грыцук, 1916 г. н.,*
*в. Брашэвічы Драгічынскага раёна*

Ек ша нэ було колхозув, то жылэ одінолічно. Сіялэ лён. Коло́ того льну було мнэго роботэ. Рвалэ ёго, молотэлэ прачом, слалэ, зводылэ, тарлэ рукамэ, трыпалэ, чысалэ на грыбынех і прелэ. Прелэ всю зэму. После ткалэ полотно на кроснах. Навысні полотно тяга́лэ на воду, выбілювалэ. Тоді вжа можна було шэтэ сорочкэ. Вальмэ марудно було робэтэ одажу.

*Н. Д. Нясцюк, 1914 г. н.,*
*в. Брашэвічы Драгічынскага раёна*

Тешко було нам жыты. Вэльмы тешко. Однэ тілько, шо розвііш душу, як дэ вісілле чы родыны. Ідэ усэ сыло пуд вокна до тэі хаты, дэ вісілле. Стають ко́ля хаты і дывляцца. У самым цэнтры сыдыть мо-

лодый з молодухію. Ко́ля іх са́ма родне́. Самым значным місьцем у вісіллі жывэ пырыпыванне. Гэто значыть дарыты подаркы гэтій новій сымні. Усі ожыдають, шо пырып'е батько. Ек богатый батько, то й пырыпывае богато. А ек бідный, то й пырыпываты ныма чым, той покатяться тогді у його гіркы слёзы. Як бы там ны було, но батько екось сёромно выкручовався.

Люды пырыпывалы хто грошмы, хто полотном гыбо́ю, а сама блыська родне хто овэчкію, хто тыле́том. Як кончылы ужэ йты пырыпываты, то друшко пудыходыв до двырэй і крычев:

— Госты званы, сусіды прошаны! Хто руп, хто два, у нас вотка дішова!

Ішлы тогді пырыпываты тыі, хто запоздав і ны успів разом з усімы.

*А. М. Новік, 1895 г. н.,*
*в. Галоўчыцы Драгічынскага раёна*

## ПЕСНІ

Ой, волы мої половэнькії,
Чого́ ны горэтэ?
Ой, літа мої молодэнькії,
Чого марно йдэтэ?
Ой, зашлы літа
Тай на край світа,
Тай за калыновы мосты.
Ой, вырнітэся, літа мої,
Хоть на рочок у госты.

* * *

Ой, у полы тры тополы,
А трэтій дубочок.
Оддай мынэ, мамочко,
Дэ одын сыночок.
Оддай мынэ, мамочко,
Тай до тэі хаты,
Дэ зовыцы, як сэстрыцы,
А свекров, як маты.

## ПРЫПЕЎКІ

Гіля, гусы, до водыцы,
Гіля, гусы, до травы!
Як жэ міні ны гулеты,
Колы літа молоды!

Ой, кеп ны ты, дівчынонько,
Кеп ны твоя маты,
Ны стоев бы мій конычок
Цілу нічку ко́ля хаты.

*А. М. Новік, 1895 г. н.,*
*в. Галоўчыцы Драгічынскага раёна*

Высною і літом у нас вэймы хорошэ. Всё кругом зылёнэ. У нас скрісь ростэ дэрво. Колы́сь тут був ліс. Його́ вы́рубалы, болота́ осушылы, люды насылылыся, і сыло стало. Е і зары ліс ныдалёко. Тут ростэ бырэзына, хвоіна, гарабыны, госына, вульшына, вырба. Ек зайдыш высною в ліс, то й выходыты ны хочыцця. Усё маныть: ландыш, звоночкы, огонёк. А пот конэць літа шэ ны вспіе добры розвідняты, ек усі вжэ на ногах. Коші побыруть — і за грыбамі, егодьмы́. Егоды в нас всякы е: лухачі, ожыны, суныцы, малыны. А госынню і свое всё в садовы спіе. Добры, ек е дома і вышнына, і слывка, і еблына, і навыть горіхы дэ в ко́го ростуть. Зымою е чым літо спомынаты.

*Т. А. Панасюк, 1905 г. н.,*
*в. Вялікі Лес Драгічынскага раёна*

Було гэто літом сорок пэршого року. Тоўді, як мы почулы, шчо на нас напаў німыц, всі люды ў сылі вэльмы пырылякалыся. Чырыс пару дён почалы забыраты нашых мужыкіў, батькіў і сыніў на войну. Ой, як вашко було на душі і на сэрцы! А проз дніў шісьть у сыло прыйшоў німыц.

В сылі німыц буў тры рокы. Скілько слёз мы пролылы! Зразу нас німыц ны чыпыў, а як в лісы почалы збыратыса партызаны, то німыц почаў нашых людэй забываты, вішаты. Бало, прыйдуть чоловік сем чы госім і кажуть, шчоб яйца давала чы сало. Ну, а як ны дасы сала чы йіец, то поб'ють так, шчо і жывого місця ны оста́нэцця. А потом позабырають всэ, шчо можна йісты, с хаты і с хлыва і ідуть в другую хату.

А скількы гора пырыжылы мы тоўді, як почалы всіх нашых людэй отпраўляты на Нымэччыну. Люды ны хотілы туда йіхаты, алэ прыйшлоса. Многы ны вырнулыса стіль, а мы з мужыком і дітьмы булы ў самому Бырліны. Там мы і Победу встрілы.

*Т. І. Калодзіч, 1926 г. н.,*
*в. Пераруб Іванаўскага раёна*

Сым'е в нас була вэлэка. Доброго я нэчо́го нэ згадаю. Було так, шо й нэ досэпалэ й нэ доідалэ. Як тіко пудросла я трохэ, оддале мэна замуж. У чоловіка тожэ була вэлэка сым'е. Так шчо було міні нэ ліпш, а гірш. Вродэвся в нас сэн Стэпан. Нэ доглядалэ мэ його́, бо нэ було колэ. Тяжко було нам. Яко́сь построілэ мэ сяку-таку хату і пэрэбралысь тудэ. Хутко вродэлась дочка Ніна, пото́м сэн Карп. Розжэлэсь мэ трохі, як тут началась вуйна.

*С. І. Луцык, 1916 г. н.,*
*в. Арэхава Маларыцкага раёна*

Раній у нас було ны пройты. Болота́ круго́м булы: Баб'е болото, за сосою — нывылыкэ болото Скара́да. Всё лозою поросло, шэй чоріт ріс. А місто такое було, дай ны однэ, шо ідэш, ідэш, ны бачыш, усту-

пыш на його, тай ек прорвэцца, то на той світ підыш. Звалы іх у нас плавунэ.

Зарэ пообсушвалы болота, сухо стало. Плавуныв ныма.

*П. П. Дзенісюк, 1916 г. н.,*
*в. Рагозна Жабінкаўскага раёна*

Пумынтаю, кончылась вуйна. Пупрыходылы мужыкі дудому, а наш батько ны вырнувся. Уста́лыся мэ з матырыю. Трэба було самэм кусэты, ураты і вузэты. Грошы ны було. От, тугдэ я задумала купэты собі ровыра — дэ кулэ свэннюм зілля мышок прывызтэ, і то добрэ. Ровырыв тугдэ мало було, а як і був, то стоів доруго. Пумынтаю, скілько я рубэла, шоб купэты туго ровыра. Грыбэ збырала, сушэла, а путом прудавала — всё ныяк ны мугла грошы зубраты. А тут хлопці якраз ровыра прудавалы, от я в іх і купэла. То шэ в дуба́вок ду грошы добрый кусок сала удвалела.

Надывэлася я всякуго гора за свуе жэ́тте.

*П. В. Данілюк, 1921 г. н.,*
*в. Алешкавічы Камянецкага раёна*

Грыбуть сіно, спывають. Почынають жеты, спывають:

З-за лісу борового
Чорна хмара выступае,
Чорна хмара выступае,
Дрібный дошчык накрапае.
Ох ты, хмара, хмаронька,
Мыны мою дытыноньку
На чужій сторононьцы.
Бо чужа стороночка
Ны рідна матюнка:
І ны збудыть познэнько,
І ны положыть ранэнько.

А кончеють жеты, спывають дожынкы:

Тыпэр у нас дожынкы,
Нап'емося горілкы.
А я жела, ны лыжела,
Тры снопочкі нажела.

*Г. І. Кацко, 1910 г. н.,*
*в. Журавок Іванаўскага раёна*

Колы́сь діты разом батькамы жылы, робылы на зымлі. Жылы всі разом. Ныхто ныкуды ны іхав, а, жынывшысь, сылылысь на своюй батьковшчыны. А тыпэр зувсім дру́ге: подрослы трохы діты і пошлы своею дорогыю — хто учытысь, хто робыты.

## ПЕСНЯ

Бурачок, бурачок,
Чырвоная гычка.
Любы мынэ, козачок,
Хоть я нывылычка.
Хоть я нывылычка,
На стопчыку стану.
Я до тэбэ, козачок,
Сэрдыньком прыстану.

*В. А. Лагодзіч, 1917 г. н.,*
*в. Пяшкова Іванаўскага раёна*

## СОВЫНЫ́ ДІТЫ

Літыть шуляк, побачыла його сова і пытае:

— Куда ты, шулячок, літыш?

— А от трэба дітям добычы прынысты,— говорыт юй шуляк.

— Я тыбэ, ку́мочку, вэльмы попрошу: ны дыры тулько моіх дытэй,— просыть сова.

— Добрэ. А якыі ш твоі діты?

— Моі діты хорушчы на весь світ.

Літав, літав шуляк, а паскуднішых, чым совыны́ діты, ны знайшов. Подрав іх і літыть назат. Побачыла гэто сова і давай шуляка докораты і плакаты. А шуляк і ны выноватый, бо вун жэ ны знав, шчо всякуй матыры іі діты хорушчы за всіх.

*М. І. Міранюк, 1923 г. н.,*
*в. Цвярдоўка Пінскага раёна*

Добрэ зарэ жывуть люды в нашым сэлі. Хвайно выглядае і самэ сэло. Хаты́ вэлыкі, а в хата́х як хорошэ! В каждуй хаты е телевізор, радівола, стіральна машына. Много людэй ужэ мають лёхковые машыны.

Молодые роблять в софхозы, а старые получають пенсію. Добрые пенсіі выробляють в софхозы, да шчэ свое хозяйство. То кабана вкормлять да здадуть; молоко государству здають, а много ходять шчэ на роботу в софхос, обробляють буракі. Як картоплёв накопають много, то лышне здають. Хто сам нэ можэ сіна заготовыты коровы, то софхос дасць бэсплатно.

А робыты на полі зарэ як лёхко, помогають машыны. В софхозных коровніках тожэ всэ механізірованэ: трахтор подвозыть корма, а там на ленту-транспортёр — і пошло в самый конэц. Дояркам тожэ стало лёхчый робыты: машыны подоять, по трубах молоко поступае в холодільнікі. Там так чысто, хорошэ. Много молодых дэвчат роблять дояркамы, дай заробляють добрэ. Много молодых догляччыков і з нашого сэла, і прыежжых. А вэчэром посля роботы можна сходыты в кіно, на танцы. Часто прыежжають артісты. Ох, добрэ і шчаслыво зарэ жыты, коп толькі войны нэ було! На́шчо тая война.

*В. П. Лаўрэнка, 1936 г. н.,*
*в. Парахонск Пінскага раёна*

## КАЗКА

Жыв собі дід з бабою. Булы воны быздітныі. І договорылыся воны ны вміраты одын быз одного́, а колы вмрэ одын, то коб другый ліз у тру́ну. Жылы воны, жылы, і вмэрла пэрша баба. Тоды дід сказав, коп труну зробылы бабы такую, шоб у еі вдвох влізло. Всі люды дывуюцца с того діда, ну алэ зробылы труну шыроку. Повэзлы бабу на моглыцы, а дід йдэ за ею. Спустылы бабу в яму — і дід лізэ, лажыцца ко́ло е́і. Всі люды дывляцца, бы на чудо, а батюшка кажэ: «Хай полэжыть до завтра, ны закопвайтэ». Лэжав дід, лэжав кай бабы, а тут заповноч. Бачыть: лізэ на труну зьмія. Влізла і дітэй почала родыты. Родыла вона всіх ныжывых. Тоды пошла вона і прынэсла травынку. Одного помазала — вун ожыв, другого помазала — і той ожыв. І так всіх повыжывляла. Тоды дід ухватыв гэту травынку у зьміі і помазав бабу. Баба й ожыла. Пошлы воны дохаты і сталы знов жыты. І зарэ, мусыть, жывуть.

*А. І. Бруйла, 1912 г. н.,*
*в. Спорава Бярозаўскага раёна*

## ДАЖЫНКАВАЯ ПЕСНЯ

Гукну я, гукну по бору,
Подам голосочок додому.
Там моя мацёнка домуе,
Вона мніе вэчэру готуе.
Нэ домуй, мацёнка, нэ домуй,
Ты мніе вэчэроньку нэ готуй:
Мне твоя вэчэра не міла,
Бо панское жніво ўтоміло.
Ох, я напэ́рэдзі стояла,
Шырокы загоны займала,
Шырокы загоны займала,
Вэлыкы снопочкы вязала.
У нашого пана дожынкі,
Нэ шкодуй, пану, кобылкы
Да ець по горыэлку на дожынкы.

## ОЙ, ПРОПАЛА МОЯ ДОЛЯ

Ой, пропала моя доля, пропала,
На госцінцы ў колеінцы запала.
Ой, гадала моя маці, гадала,
За п'яніцу, нэвдаліцу оддáла.
А п'яніца, нэвдаліца ў корчме п'е.
А як прыдэ додомоню, мэнэ́ б'е.
Ой, прывыкай, мое дзіця, прывыкай.
Будэ біці п'янічэнька, то ўтэкай.
Ой, чорць його, моя матко, утэчэ,
Пуойме гіцэль, п'янічэнька з-за плечэй,
То вуон мэнэ ў головэ́ньку натовчэ.

*Л. А. Скробат, 1913 г. н.,*
*в. Сашыца Бярозаўскага раёна*

Война прышла в нашэ сэло як шото страшнэе.

Пуомню як зарэ, як воны вваліліса в сэло на мацыклетах, машынах, аш страшно гледзеці. Всего за войну прышлоса пэрэжыці, але я хочу росказаці про однэ: як катовалі парцізан.

Зранку по хатах почалі лазіці «бобікі» (гэто мы поліцаёв так называлі) і выгоняці людэй на двуор. Мы думалі: конэц вжэ, нэ вэрнэмса жывымі. А то ш прыгналі на кля́штор, бачымо: тры шыбеніцы стоіт, і коло іх крутяцца поліцаі. Бачымо: вэдут трох хлуопчэнятков, молодые все, годов по восімнаццэць. Прывэлі, поставілі, а на шыю ім повесілі некіе досочкі з нечым напісаным. Я грамотный, алэ ж здалёку розобраці, шо там напісанэ, было цяшко. Пото́м став говорыці некі чуорный худый немец. Начав обзываці іх всякімі словамі. Крычав, шо зо всемі зробіт тэе, хто будэ помогаці парцізанам.

Два здоровых поліцая подвэлі гэтых хлуопчэнятков до табурэткі. Помню, шо одзін крыкнув, куоп отомсцілі за ёго смэрць немцам.

Повесілі іх, а мы стоялі і гледзелі і помохчы нічым нэ моглі. Потом нас порозгонялі дохаты, а вуоны осталіса вісеці. Але ш рано іх там нэ было. Говорылі, шо парцізаны іх забралі ноччу. А вжэ як нашы наступалі, мы поймалі того поліцая, шо откідав табурэтку, як іх вешалі. Рострэлялі подлюгу.

*І. М. Мароз, 1898 г. н.,*
*в. Сялец Бярозаўскага раёна*

Даўным-даўно гэтэ було. Йшчэ моя маці мне росказвала, шчо поко́лішнёму нашэ село як бы по родох розбітэ було. Булі Ліхваны́, Оўсее́, Карпы́, Кормі́лцэ, Барысы́, Клубы́, Андрэе́, Кошэ́ўскіе, Козакі, Макады́, Коўбасы́, Стрэльцэ́.

І ось жыў чоловек молоды, але вельмі розумны, хорошы і здоровы. Прозывалі ёго Ліхва́н Ліхваненя́. Ось гэты Ліхван Ліхваненя да забіў шчы́колотком целя і ўсе чысто подзеліў по родох так, як бы даў ім кожному роду халакцерысьціку.

Стрэльцом даў пляхі, шчо до іх заежджаюць ляхі.

Кормільцом — голова, бо там молодзіца молода. Мельніком — кішкі завязваць мешкі. Оўсеём — здор, бо ў іх велікі двор. Андрэём — почкі, бо ў іх хорошые дочкі. Карпом — ныркі, бо ў іх хорошые сынкі. Казаком — вушы, шчо ў іх нема ні хлеба, ні колотушы. Кошэўскім — рогі, бо не ўступаюцца з дорогі. Моўсеём — морда, бо ў іх натура цьвёрда. Борысом — шкура, шчо ў іх дурна натура. Погодом — хвост, бо воны ходзяць у цэркоў у пост. Коўбасом — печо́нкі, шчо воны ходзяць на вечоркі. Ліхваном — серцэ, шчоб ніхто не гледзеў у окенцэ. Клубом — прысы, бо там Еўмен лысы.

А собе оставіў тулобец, бо вон хлопец молодзец.

*П. А. Паўловіч, 1909 г. н.,*
*в. Цераблічы Столінскага раёна*

Богато шчо зменілос в нашом селе. Ко́лісь дзеўкі́ ходзілі ў сподніцках полотняных, шчо са́міе вуткуць да нашыюць галёно́ў тых чырвонезных да ў лапця́х, у кабато́х, сорочкі́ доўгіе з во́дзікамі торчаць с-пот сподніц, а цепер, моўляла баба Сачы́ха, у шоўкох, да ў крэп-

лінах, да бісьцерах ходзяць. Вжэ не ведаюць, в чом ходзіць. Онна йдзе ў доўгой по п'яты, друга зусім толькі ў штанох. А ў якіх чобоцях йдуць, шчо аж рыпляць на ёй! Цепер вельмі добрэ людзі жывуць.

*К. С. Супрунчык, 1913 г. н.,*
*в. Цераблічы Столінскага раёна*

Жылі люды тоўдэ нэ так, як тэпэр. Зарэз нэ знають, шчо одеты да обуты. А бало була одна сорочка льнянá да чэрэвікі, то й натто добрэ було. А ў некоторых навот нэ було ў шчо обутыса, то плелі собе постóлы і ходылі ў іх. А тэпэр по пйать пар обутку мають, да і то мало. Тэпэр гýлі правять дэнь у дэнь, а бало спіны нэ розгіналі од роботы. Зымою роботы крохі мэнч було, а ліетом роботы натто богато було. Спíны з ранку до вэчора нэ розгіналі, а хліеба на гот сэроўно нэ хватало. Вэлікім празніком у хаты було, як на снедáнне пэклі млінцэ з жытнёі мукі да шчэ і сало шкварылі. А тэпэр подывіса, шчо господыня ставіть на стол, чого тут оно нэма! Як кажуть, і хліеп тут е і до хліеба.

*А. Р. Пешка, 1909 г. н.,*
*в. Гарадная Столінскага раёна*

У нашом сэле буў одзін чоловек. Було гэто после войны. І пошоў вон служыць у армію. Пробуў там годоў мо 6, мо 7, нэ знаю точно, бо тоды по багато служылі. Вэрнуўса дохаты. І так ужэ хварсіць, шчо й чэрэз губу нэ плюнэ. Другіе хлопцы прыходзяць з арміі да ўжэ і баюць по-своему, а вон усэ по-російскі. Ні одного слова свого нэ скажэ.

Ось, вышоў вон на двор, а там стоялі грабле. Вон подышоў до іх, подзівіўса дай кажэ: «А что это за палка такая интересная здесь стоит?» Дай нэчаяно наступіў на грабле ногою. А грабовэнне палáсь ёму по лобу! А вон як закрычыць: «Поставілі тут на дорозі гэтые проклятые грабле! Чуць голову нэ розбіў імі».

Ось бачыш, як стукнулі добрэ по лобу дурному, той успомніў, як зовуть гэтую «палку». А то ж бач на ёго, такім ужэ хварсуном зробіўса, шчо куды й твое дзело.

*Н. І. Дроздзік, 1922 г. н.,*
*в. Бухлічы Столінскага раёна*

Ішоў солдат додому з войска. Заходзіць вэн у одну хату поночоваць. Пусцілі ёго. Вот уранцы ўстаюць усе і садзяцца сьнедаць. А коліся строго було з едою: дзелілі по-рэўному. Нажарыла баба сала, поставіла на стэл. Солдат проголодаўса з дорогі і давай по дзве шкваркі лізаць. Баба дзівілас, дзівілас, дэй кажэ: «А чому ты, салдацік, по дзве шкваркі есі?» А вэн дэй кажэ: «А шчо ж ты, бабо, хоч по тры, шчоб удавіўса?»

Продалі баба з дзедом корову, узялі дзве сотні і схавалі за вобразы. Дознаўся про гэтэ салдат дэй задумаўса, як собе грошы добыць. Узяў вэн дзве копейкі дэй пойшоў просіцца к бабі поночоваць. Пусціла баба з дзедом ёго, а салдат і кажэ: «Бабушка, схавай мое дзве копейкі, коб хто не ўкраў». Засьмеялас баба і кажэ: «Положы, салда-

цік, на вокно». Вот ано баба задрэмле, а салдат: «Бабушка, ці лежаць мое дзве копейкі?» Баба кажэ: «Лежаць, лежаць, спі». Зноў баба дрэмле, а салдат пытае: «Бабушка, ці лежаць мое дзве копейкі?» Надоело бабі, а вона зо сну і кажэ: «Ой, спі да не бэйса, у мане за вобразом дзвесьці рублей лежыць, дэй то я не боюс». Аж засмеяўса салдат, узяў грошы, а бабі оставіў на вокне дзве копейкі.

*Л. Ц. Чарнавокая, 1910 г. н.,*
*в. Дзятлавічы Лунінецкага раёна*

Атразу у сваты́ йшлі. Як сваталі, плелі лапці і кідалі ў хату маладое. А яна кажа: «Ні шпурай, ні бурай, свае лапці забірай». Гето ўге значыць, што ні пойдзе дзеўка замуж за гетаго хлопца, а як пойдзе, то прыбірае лапці.

Ну, а веселле рабілі — былі прыданые. Цыганы ходзець і ловець куры па селе і паюць:

Сем-сем — да на вечэру,
Восьма — на печэнне,
Дзев'ята — на сьнеданне,
Дзесята — на абеданне.

Пілі, скакалі, ішлі к калодзезю і абліваліса вадою.

Каравай дзеліць друшко — бацько хрышчоны. Прыданые паюць:

Наш друшко на парох лезе,
То у печ, то на печ гледзіць,
Да ці густа капуста,
Ці велікі гаршчок кашы,
Да ці будзе сватам нашым.

*У. С. Лятчэня, 1914 г. н.,*
*в. Гаўрыльчыцы Лунінецкага раёна*

Лядáйко жылосо пры панах. Кажды дзень ідзеш к пану на работу. Дзеці удома галодные плачуць. А прыдзеш увечар дадому — самому есьці німа чаго. Багато дзяцей памірало з голаду. У мяне самое памерло двое дзяцей.

Адзежа была ва ўсіх бедная, хадзілі ў лахмоццях. Зімою абуваліса ў лапці. На ўсё сяло была адна пара ботаў і адна пара чаравікаў для маладых. У гетым абутку хадзілі вянчацца.

Зімою цэлы дзень робіш, а вечарам запальваеш цеску на камінку і садзісса прасьці. Трэба было напрасьці багато кужалю. Ткала я, бывало, па 12—15 губак палатна і шыла з яго адзежу. Ды шчэ панатыкаю, бывало, радзюшак, настольнікаў, ручнікоў, мяшкоў.

*Т. М. Карпеня, 1911 г. н.,*
*в. Дзяніскавічы Ганцавіцкага раёна*

У нас некалі не так было, як цяпер. Бывала цэлы дзень папаробіш на полі, а вечарам маці у хату і калом не зажане. Бярэм кудзелю — і ў адну хату на вячаркі. На прыпячку лучына гарыць, а мы кудзелю прадзем і песьні сьпяваем. А як прыйдуць хлопцы з гармоняй, мы кудзелю пад лаўку, а самыя гуляць ды яшчэ лепяй песьні спяваць. Найбольш любілі песьню

«Ох, ночанька, ох, цемная,
Пара додому йсьці.
А мілы друг валнуецца,
Не хоча правясьці».

Весяло было. Як заграе гармоня, та й ног пад сабою не чуеш. А у вас цяпер адныя шуры-муры, дажа песьні добрае не пачуеш.

Але ў нас, дзеткі, час не той быў. Мы толькі рабілі і гулялі, а вам цяпер учыцца трэба.

*М. М. Ярмолік, 1917 г. н.,*
*в. Магілёўцы Пружанскага раёна*

Неколі шчэ пры Польшчы мэй бацько буў лесьніком. Одного разу ішоў вэн по лесі, а посьле рэшыў, шчо лепш пойці чэрэз выжор, бо тудою было бліжэй.

На выжо́ры земля покрыласа ўжэ лёдком. Там жэ стояла копіца сена. Вэн і направівса до гэтого сена. Копіца з одного боку була выскублена. Бацько подышоў до копіцы с того боку, з якого вона була выскублена, подумаў, шчо тут нехто ночоваў. Посьлей вэн штырхнуў у копіцу ногою. С копіцы выскочыў дзік і стаў, вочы вытарашчыўшы. Бацько хоцеў застрэліці руж'ём, але оно́ раніў. Дзік тогды кінуўса на ёго́. Бацько злекаўса і схваціў за вушы, а ногі вэн моцно ўпэр у землю. Там нідалеко буў стары Чаплеюк. Бацько злекаўса до поўсьмерці і крычыць: «Чаплеюк, поможы, стрэляй!» Чаплеюк боіцца бліско пыдыці до дзіка́, а здалек боіцца стрэліці, бо заб'е бацька. Але после побачыў, шчо бацько мэцно дзержыць, подышоў бліжэй і стрэліў. Дзік поваліўса. Бацько доўго не мог опэмняціса. Все прошло добрэ, оно на колені дзік порваў бацьку штаны.

*Т. Р. Куцко, 1915 г. н.,*
*в. Соміна Івацэвіцкага раёна*

Я у школу ні хадзіла. Мяне бацько вучыў. Ні было даўней школы, только багатыя сваіх дзяцей вучылі. Бало, задасьць бацько заданнё, скажа мне таквеля і таквеля прачытаць, каб навучылася, пакуль ён прыедзя з лесу. А сам у лес, у зарабаткі некія хадзіў. Карчэ даўней капалі ў лесі на смалу і тарпатыну. У кацёл велькі гетых карчоў нагрузяць і падкладваюць пад яго агонь. І бяжыць с катла смала і тарпатына.

Ну, я ўжэ навучусё чытаць, як харашо ўжо чытаю, задае больш.

І вот патрохо так і навучылася. Трохо ўмею пісаць па-рускі, але вочы мае ўжэ не хочуць бачыць — старая ўжэ.

*Г. Я. Сіліцкая, 1900 г. н.,*
*в. Лугавая Баранавіцкага раёна*

Некалі у Вялікуй Ло́тві быў добры пячнік. Я запрасіў гэтага пячніка зрабіць мне печ. Прышоў Рыгор, пачаў рабіць. Зрабіў да коміна, а пасьля і комін пачаў выводзіць. Але бачыць Рыгор, што класьці цэглу то ён кладзе, а комін ні расьце. Стаў Рыгор крычаць у комін: «Спасайся, хто жывы у хаці!» Толькі усьпеў ён крыкнуць, як печ рухнула. Вот вам і хвалёны пячнік.

*С. С. Піваш, 1916 г. н.,*
*в. Федзюкі Ляхавіцкага раёна*

# ЗМЕСТ

Справочное издание

**ДИАЛЕКТНЫЙ СЛОВАРЬ БРЕСТЧИНЫ**

Составители

Алехнович Николай Николаевич
Борисюк Владимир Владимирович
Емельянович Вера Михайловна и др.

Минск, издательство «Наука и техника»
На белорусском языке

Даведачнае выданне

**ДЫЯЛЕКТНЫ СЛОЎНІК БРЭСТЧЫНЫ**

Складальнікі

Аляхновіч Мікалай Мікалаевіч
Барысюк Уладзімір Уладзіміравіч
Емельяновіч Вера Міхайлаўна і інш.

Рэдактар **Н. А. Дашкевіч**
Мастак **І. Р. Славянін**
Мастацкі рэдактар **А. А. Шупляцоў**
Тэхнічны рэдактар **Л. А. Карнеева**
Карэктар **А. М. Малей**

ІБ № 2746

Здадзена ў набор 09.10.87. Падпісана ў друк 26.10.88. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. з ФПФ. Ум. друк. арк. 15,54. Ум. фарб.-адб. 15,96. Ул.-выд. арк. 16,57. Тыраж 1750. Зак. 3716. Цана 1 р. 30 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю, 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.

Мінская паліграфічная фабрыка «Красная звезда» МВПА імя Я. Коласа. 220079. Мінск, 1-шы Загарадны зав., 3.